З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Вучэбны дапаможнік для **8** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2015

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б15

Р э ц э н з е н т

настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі
«Сярэдняя школа № 45 г. Мінска» *А. С. Макаўчык*

**Умоўныя абазначэнні:**

 — паўтарэнне;

 — асноўны тэарэтычны матэрыял, які неабходна засвоіць;

 — правіла для завучвання;

● — дадатковае заданне;
* — вызначце значэнне слова па слоўніку;
ф — слова для фанетычнага разбору: *аб'ява*[ф];
а — слова для арфаграфічнага разбору: *вясёлы*[а];
л — слова для лексічнага разбору: *знічка*[л];
с — слова для разбору па саставе: *годнасць*[с];
сл — словаўтваральны разбор: *усмешка*[сл];
м — слова для марфалагічнага разбору: *цудоўны*[м];
сн — сказ для сінтаксічнага разбору: *І чужому навучайся, ды свайго не цурайся*[сн];
п — сказ (ці яго частка) для пунктуацыйнага разбору: *Язык не сцяг, а дружыну водзіць*[п].

ISBN 978-985-559-502-2

# Ад аўтараў

Вучэбны дапаможнік, які вы трымаеце ў руках, мае назву, як і ў папярэдніх класах, — «Беларуская мова». Мова — складаная шматузроўневая з’ява. Вы ўжо ведаеце такія яе адзінкі, як гук, што вывучаўся ў раздзеле «Фанетыка», слова, што вывучалася ў раздзелах «Лексіка», «Словаўтварэнне», «Марфалогія».

Вядома вам і тое, што мова — гэта агульназразумелы для ўсіх людзей, якія ёю карыстаюцца, сродак зносін, захавання інфармацыі і перадачы ведаў. Маўленне — вопыт (практыка) ужывання моўных сродкаў (слоў, выказванняў, стыляў) у працэсе зносін, абмену думкамі. Ступень валодання мовай залежыць ад таго, як размаўляюць вакол, ад адносін чалавека да роднай мовы, ад узроўню яго адукаванасці, працоўнай дзейнасці, інтарэсаў і інш.

З самога прызначэння мовы вынікае тое, што галоўным на ўроках яе вывучэння павінна стаць авалоданне багатымі рэсурсамі роднай мовы, уменнямі правільна і камунікатыўна апраўдана выкарыстоўваць іх у разнастайных формах, відах, сферах маўленчай дзейнасці.

Чым гэты вучэбны дапаможнік адрозніваецца ад тых, па якіх вы працавалі раней? У ім пачынае выкладацца новы вялікі раздзел граматыкі — сінтаксіс. У VIII класе разглядаюцца ў сістэме такія моўныя адзінкі, як словазлучэнне, просты сказ, тэкст.

Народны пісьменнік Беларусі Ніл Гілевіч адзначае: *«Не адметнасць лексікі перш за ўсё робіць пагоду: у лексіцы славянскіх народаў агульных слоў тысячы. Пагоду робіць* ***сінтаксіс****. Музыка фразы. Тое, у чым дух мовы. Яе глыбінная сутнасць. Яе мысліцельная прырода. Тое, што ў генах і перадаецца з генамі»*.

На ўзроўні сінтаксісу праяўляюць сябе адзінкі ўсіх іншых моўных ярусаў. Таму вы павінны ўсвядоміць асаблівую важнасць гэтага раздзела для авалодання нацыянальнай мовай беларускага народа.

Тэкст — галоўная адзінка, на аснове якой будуць разглядацца розныя моўныя з'явы, паколькі толькі ў ім можна асэнсаваць іх месца, ролю і значэнне ў маўленні.

У вучэбным дапаможніку раздзел мае назву не проста «Сінтаксіс», а «Сінтаксіс і пунктуацыя». Чаму? Каб навучыцца ставіць знакі прыпынку, трэба ўмець распазнаваць сінтаксічныя з'явы. Гэта бясспрэчна. А яшчэ пунктуацыя з'яўляецца адным са сродкаў вывучэння сінтаксісу, авалодання яго багатымі рэсурсамі, узбагачэння сінтаксічнага ладу маўлення. Да прыкладу: чым адрозніваюцца наступныя сказы: *«Хто, мы?»* і *«Хто мы?»*? Коска поўнасцю мяняе сэнс выказвання, што сведчыць пра тое, што пунктуацыя не проста звод правіл расстаноўкі знакаў прыпынку на пісьме. Гэта сістэма знакаў, якія садзейнічаюць выкананню адной з асноўных функцый пісьмовай формы мовы — быць сродкам камунікацыі, зносін паміж людзьмі. Навучацца сінтаксічным і пунктуацыйным уменням вы і будзеце па гэтым вучэбным дапаможніку. Адначасова ён дапаможа вам адказаць на пытанне *«Хто мы?»*.

*Бедны той, хто, апрача грошай, апрача багацця, каторае пры першым няшчасці счэзне дазвання, не мае скарбаў вечных — скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здолее, — гэта любоў да Бацькаўшчыны, да свайго народа, да роднай мовы...*

Цётка.

## § 1. Роля беларускай мовы ў развіцці нацыянальнай культуры

**1.** Уважліва прачытайце тэкст. Растлумачце значэнне пазначаных зорачкай (*) слоў.

Паўторым звышсціслa і катэхізісна* — у пытаннях і адказах. «Ці ёсць беларускі народ*, беларуская нацыя*?» — «Ну што за пытанне! Вядома, ёсць. Прычым у вялікай сям'і славян народ далёка не з меншых: як-ніяк, а дзесяцімільённы». — «Ці ёсць у гэтага народа свая нацыянальная мова?» — «А як жа! Ды яшчэ якая прыгожая і мілагучная! А як дасканала вусна і пісьмова (за тысячу гадоў кніжнасці*) распрацавана!» — «А ці ёсць у яго свая нацыянальная культура*?» — «Вядома! Багатая і самабытная прычым. І матэрыяльная, і духоўная. Пагляньце адно на фальклор: у сарака аб'ёмістых тамах выйшаў збор беларускай народнай творчасці, не кажучы пра сотні іншых выданняў». — «А ці праўда, што іменна культура (у самым шырокім разуменні слова) вызначае аблічча нацыі?» — «Толькі так! А што ж яшчэ, калі не культура? Нацыянальнае дойлідства*, разнастайная мастацкая творчасць*, народныя рамёствы*, традыцыі* і звычаі*, а перш-наперш — мова». — «А чаму мова наперадзе ўсяго?» — «Таму што мова — першаэлемент нацыянальнай культуры, яна — аснова асноў усёй культурнай творчасці народа, яна — відочна або нябачна — ёсць ва ўсім, што мы называем культурай, яна,

па сутнасці, фарміруе нацыянальную культуру, і, нарэшце, яна арганізоўвае ўсю жыццядзейнасць народа». — «Дык што будзе з народам, нацыяй, калі адамрэ яго мова і, значыць, згіне яго культура?» — «Будзе тое, што ўжо шмат разоў было ў гісторыі чалавецтва: народа як асобнага этнасу не стане, ён сыдзе з гістарычнай арэны ў небыццё. Назаўсёды, на векі вечныя. Адамрэ мова — памрэ і народ. Нездарма ж кажуць: мова — душа народа. Народ — датуль народ, пакуль яго душа жывая» *(Н. Гілевіч)*.

- Прывядзіце прыклады зніклых народаў і культур.
- Арганізуйце гутарку па тэксце, размеркаваўшы рэплікі моўцаў. Па магчымасці, пашырце рэплікі і прадоўжыце дыялог.



Пры словах ***Белая Русь, Беларусь, Рэспубліка Беларусь*** кожны адукаваны чалавек узгадвае, што жывуць на Зямлі ***беларусы*** — славянскі народ з багатай гісторыяй, адметнай культурай, мілагучнай і багатай мовай.

Родная беларуская мова — найвялікшае багацце беларусаў. Яна непадзельна звязана з духоўнай сутнасцю беларусаў, якія яе стварылі і карыстаюцца ёю. Пераважна на грунце мовы, у самой мове, сродкамі мовы выяўляецца ўсё, што напрацавана народам за стагоддзі, а менавіта — гістарычная памяць, этнічная адметнасць, нацыянальная самасвядомасць, сваё светаўспрыманне, фальклор і мастацкая літаратура, багаты слоўнік і ўласна філасофская думка, казкі і песні, алфавіт і пісьменства, буквар і энцыклапедыя, малітва і застолле — увесь духоўны скарб і душэўны лад народа.

Беларуская мова была і застаецца скарбніцай, падмуркам і крыніцай нацыянальнай культуры. Яна з'яўляецца формай існавання і захавання народных традыцый, звычаяў і скарбаў, спосабам і сродкам развіцця нацыянальнай культуры.

Выключная роля беларускай мовы ў развіцці ўсіх відаў слоўнай творчасці, перш за ўсё — мастацкай літаратуры як найгалоўнейшай часткі нацыянальнай культуры. Літара-

тура, прыгожае пісьменства — люстэрка існавання чалавека, школа спазнання сэнсу жыцця, лёсу асобы, яе месца ў свеце. Вуснае і пісьмовае беларускае слова, захаванае ў разнастайных тэкстах (гістарычных, дакументальных, мастацкіх, публіцыстычных, навуковых, фальклорных, рэлігійных, дзённікавых, прыватных і інш.), надае этнічнай культуры беларусаў сусветную каштоўнасць. У перакладах з мовы на мову яна таксама служыць мастком паміж народамі, спалучае іх у адзінае чалавецтва. У гэтым заключаецца не толькі высакароднасць роднай мовы, але і яе вялікая значнасць ва ўзбагачэнні нацыянальнага вопыту беларусаў.

Беларуская мова здольная абслугоўваць усе духоўныя запатрабаванні чалавека і грамадства дзякуючы сваёй незвычайнай гнуткасці. Гэта гнуткасць выяўляецца не толькі ў культурна-стылёвай разгалінаванасці ўнутры мовы. Так, сфера будзённага жыцця патрабуе размоўнага стылю маўлення, сфера працы — афіцыйнага стылю, сфера слоўнай творчасці — мастацкага стылю, сфера ўплыву чалавека на чалавека — публіцыстычнага стылю, сфера навуковага спазнання з'яў — навуковага стылю. Гнуткасць мовы як галоўнага сродку зносін паміж людзьмі выяўляецца і ў тым, што яна служыць базай для вынаходніцтва ў многіх сферах нацыянальнай камунікацыі — народнай гаспадарцы, навуцы, ваеннай справе, навучанні, перадачы і захаванні інфармацыі і г. д.

Мова і маўленне беларусаў змяшчаюць у сабе вельмі выразную характарыстыку асобы, даюць яе «культурны партрэт». Яны сведчаць не толькі аб нацыянальна-этнічнай прыналежнасці моўцы, але і шмат чаго раскажуць пра ўнутраны свет асобы, яе адукаванасць, кола інтарэсаў, здольнасці, кругагляд, культуру мыслення, характар і настроі. Усё гэта прымушае пагадзіцца з думкай аднаго з сучасных філосафаў: ***мова — гэта дом быцця*** чалавека, грамадства, нацыі. І першы абавязак кожнай асобы — добра ўладкавацца ў сваім нацыянальным доме, гэта значыць дасканала авалодаць роднай мовай — неацэнным скарбам, трывалым падмуркам і жыватворнай крыніцай нацыянальнай культуры.

**2.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Падбярыце два загалоўкі, адзін з якіх выражае тэму тэксту, а другі — асноўную думку.

Літаратура — гэта першааснова, хлеб мастацтва.

Вось Янка Купала стварыў геніяльны верш «Спадчына» — Лучанок напісаў музыку, «Песняры» выканалі песню... А не было б верша... Іван Мележ напісаў «Людзі на балоце» — купалаўцы стварылі спектакль, зрабілі тэлефільм, Тураў паставіў выдатную мастацкую стужку. А колькі мастакоў афармлялі кнігу! Бачыце, усім работа: і кампазітарам, і акцёрам, і мастакам... Як кажуць, напачатку было слова. Ма́ю на ўвазе мастацкае *(Л. Левановіч)*.

- Назавіце ўласныя імёны з тэксту. Што вам вядома пра гэтых людзей?
- Хто такія купалаўцы? Якія іх тэатральныя пастаноўкі вам вядомы?

**3.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму, стыль, сваю думку абгрунтуйце.

МОВА ЯК МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КАШТОЎНАСЦЬ

Патэнцыял кожнай дзяржавы ў значнай ступені залежыць ад яе матэрыяльных і інтэлектуальных рэсурсаў. Вядома, што Беларусь не надта багатая на прыродныя рэсурсы. У асноўным гэта лясы, вада і паветра, а таксама карысныя выкапні.

Ёсць у Беларусі яшчэ адзін матэрыяльны рэсурс. Гэты рэсурс — беларуская мова.

Чаму ж яе можна і трэба аднесці да матэрыяльнай каштоўнасці?

У міжнародным праве ёсць такое паняцце, як інтэлектуальная ўласнасць. Да яе адносяцца літаратурныя і навуковыя творы, вынаходніцтвы, друкаваныя выданні, перадачы тэлебачання і радыё, музычная і канцэртная дзейнасць і г. д.

Творцаў гэтай інтэлектуальнай уласнасці абараняюць міжнародныя і дзяржаўныя законы аб аўтарскім праве. А вось на нацыянальным узроўні інтэлектуальную ўласнасць абара-

няе тая мова, на якой яна створана. Гэта як бы своеасаблівы замок да сейфа, дзе захоўваецца інтэлектуальная ўласнасць у адпаведнай матэрыяльнай форме выканання.

І калі нехта захоча ёй карыстацца, то трэба мець адпаведны ключ — менавіта валоданне адпаведнай мовай *(У. Яцкевіч)*.

● Вызначце асноўную думку тэксту. Ці згодны вы з аўтарам? Свой адказ аргументуйце.

**4.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку.

Мае́ адносіны да любой, у тым ліку і да беларускай, мовы вызначаюцца Свяшчэнным Пісаннем і Праваслаўным паданнем. Свяшчэннае Пісанне разглядае страту мовы як самае страшнае пакаранне, якое толькі Бог можа накласці на чалавека. А ў жыцці святога роўнаапостальнага Кірылы каштоўнасць роднай мовы ставіцца вышэй за золата, срэбра і самацветы. Таму лічу, што захаванне і развіццё беларускай мовы з'яўляецца найважнейшай задачай нацыянальнага адраджэння... Не падлягае ніякаму сумненню права любога народа вызначаць статус сваёй мовы на спрадвечнай тэрыторыі пражывання. Падзяляю рашэнне Вярхоўнага Савета рэспублікі аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай. Аднак лічу, што немагчыма толькі заканадаўчым актам далучыць усіх жыхароў нашай рэспублікі, тым болей небеларусаў, да вывучэння беларускай мовы. Такое жаданне патрэбна выклікаць у людзей, пераконваючы іх, падштурхоўваючы да заняткаў і вывучэння беларускай філасофскай думкі, лепшых твораў літаратуры, мастацтва. Трэба, каб сам чалавек адчуў, што вывучэнне роднай мовы садзейнічае пазнанню, спасціжэнню ім вышэйшых каштоўнасцей сапраўднага, добрага і прыгожага на той зямлі, дзе ён жыве і працуе, дзе нарадзіліся яго дзеці...

...Са свайго боку наша Царква ўсяляк заахвочвае вывучэнне беларускай мовы, бо гэта прыводзіць да больш глыбокага разумення вялікай значнасці беларускай культуры, што, у сваю чаргу, безумоўна, спрыяе больш цесным міжнацыянальным зносінам людзей у нашай краіне *(Мітрапаліт Філарэт)*.

**5.** Якія тэарэтычныя палажэнні § 1 можна праілюстраваць прыкладамі з тэкстаў Н. Гілевіча, Л. Левановіча, У. Яцкевіча (гл. практ. 1—3)?

**6.** Прачытайце тэкст.

Аднойчы Расул Гамзатаў сказаў: «Без нацыянальных традыцый рэспубліка падобная на нарыхтоўчую кантору». Так, без той духоўнай культуры, што вырастае з нацыянальных традыцый, наш родны дом такі ж казённа-безаблічны, як нарыхтоўчая кантора, і чалавечай душы ў ім няўтульна. Удумаемся толькі: чалавеку няўтульна ў сваім родным доме! Да чаго дажыліся-дапусціліся!..

<...> трэба наш родны дом зрабіць утульным.

- Як, на вашу думку, гэта можна зрабіць?
- Параўнайце ваш адказ з аўтарскім (яго можна знайсці на с. 173—174, практ. 244).
- Уважліва разгледзьце ў вучэбным дапаможніку ілюстрацыю «У. Крукоўскі. Шануйма родную мову!». Як сродкамі плаката аўтар перадае думкі, сугучныя з разглядаемай тэмай?
- Падрыхтуйце паведамленне на адну з наступных тэм: «Якая мая роля ў развіцці нацыянальнай культуры?», «Што мы можам зрабіць для развіцця нацыянальнай культуры?».

**7.** Прачытайце аўтарскія выслоўі (афарызмы), вызначце іх сэнс. Ці можна сказаць, што беларускія афарызмы даюць магчымасць вывучаць менталітэт, культуру, педагогіку нашага народа?

1. Другу баліць — мне нялёгка, маме баліць — вельмі цяжка, сыну баліць — невыносна, а Радзіме баліць — стыне сэрца ад болю *(Н. Загорская)*. 2. Дом — крэпасць. Бацькі — крылы. Дзяды — падмурак крэпасці *(У. Ліпскі)*. 3. У жанчыны дзве святасці: сям'я і дзецi *(У. Рубанаў)*. 4. Прыемна ў дом зайсці з дарогі, дзе рады вам гаспадары... *(Я. Колас)*.

- Выпішыце па 4 аўтарскія выслоўі на тэмы: «І наша мова — з-пад крыла душы...», «Чалавек — гэта цэлы свет». (Гл. даведнікі: Н. В. Гаўрош, Н. М. Нямковіч. Афарыстычныя выслоўі беларускіх пісьменнікаў. — Мінск, 2012; А. Я. Міхневіч. Якуб Колас разважае, радзіць, смяецца... — Мінск, 2002.)

## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў V—VII КЛАСАХ

### § 2. Тэкст як сэнсава-граматычнае адзінства

**8.** Слова *тэкст* у дадзеных словазлучэннях ужываецца ў некалькіх значэннях. Растлумачце гэтыя значэнні. Ці ёсць сэнсавая сувязь паміж гэтымі значэннямі?

Тэкст рукапісу, пісьмовы тэкст, вусны тэкст, вычытаць тэкст, тэкст песні, зверыць з тэкстам, пераказ тэксту, тэкст выступлення, тэкст аповесці, вершаваны тэкст, тэксты Янкі Купалы, газетны тэкст, незразумелы тэкст, агульнавядомы тэкст, чытаць тэкст.



**Успомніце!** Што вы ведаеце пра тэкст? Якія ёсць разнавіднасці тэкстаў? У чым іх асаблівасці? Прывядзіце прыклады тэкстаў.

> **Тэкст** — гэта твор маўлення, які складаецца з шэрагу сказаў, размешчаных у пэўнай паслядоўнасці і звязаных паміж сабой па сэнсе і з дапамогай розных моўных сродкаў: паўтору адных і тых жа слоў, сінтаксічных канструкцый і інш.



Любы тэкст нясе ў сабе пэўную **інфармацыю.** Стваральнік тэксту зацікаўлены ў тым, каб гэтая інфармацыя была правільна ўспрынята. Каб тэкст быў зразумелы, ён павінен адпавядаць цэламу шэрагу патрабаванняў — **быць звязным, лагічным, паслядоўным** і г. д.

Аўтар імкнецца і да таго, каб яго тэкст уразіў чытача (слухача). Для гэтага ўжываюцца спецыяльныя моўныя сродкі — **сродкі выразнасці.**

Аўтар-стваральнік хоча таксама зацікавіць слухача (чытача), прыцягнуць і ўтрымаць яго ўвагу і прыдумвае для гэтага розныя хады — **нечаканасці ў сюжэце, загадкі, парадоксы** і інш.

Пры складанні тэксту неабходна ўлічваць мноства ўмоў: для якой мэты ствараецца тэкст, хто яго **адрасат**, якую **сферу дзейнасці** чалавека ён будзе абслугоўваць, у якой **сітуацыі** будзе ўспрымацца, у якім **стылі** будзе напісаны і г. д.

**9.** Успомніце прыметы тэксту і пералічыце іх. Прачытайце мініяцюру.

ЛЯСНАЯ ДАРОГА

Іду лесам. Смарагдавыя* сцвалы алешын. І сцвалы елак — ружовыя, разагрэтыя, як з лазні выйшлі.

Лясная дарога — шырокая прасека, зарослая травой. Быццам зялёная рака *(Ф. Абрамаў)*.

● Як вы лічыце, ці ўласцівыя гэтай мініяцюры прыметы тэксту? Адказ аргументуйце.

● Параўнайце свой адказ з прыведзеным ніжэй тэкстам.



Прыметы тэксту — загаловак (ці яго магчымасць), тэма, ідэя; члянімасць — пачатак, асноўная частка, канец; звязнасць, кампазіцыйная завершанасць, стылістычнае адзінства.

Усімі гэтымі прыметамі валодае прыведзеная вышэй мініяцюра.

Яна мае загаловак — *«Лясная дарога»*.

У гэтым загалоўку адлюстравана тэма тэксту, з якой непарыўна звязана ідэя: лясная дарога — прыгожая, маляўнічая, ісці па ёй прыемна, радасна. Нягледзячы на тое што мініяцюра складаецца ўсяго толькі з чатырох простых сказаў, у ёй ёсць усе **кампазіцыйныя часткі** тэксту. Пералічым іх.

1. **Пачатак** тэксту — 1-ы сказ — *Іду лесам*. Калі б аўтар не ішоў лесам, то не бачыў бы лясной дарогі, не апісаў бы яе — не было б і гэтай мініяцюры.

2. **Асноўная частка** — апісанне лясной дарогі — 2, 3 і 4-ы сказы. Гэта частка, у сваю чаргу, дзеліцца на больш дробныя: а) ствалы алешын; б) ствалы елак; в) шырокая прасека.

3. **Канец** тэксту — параўнанне лясной дарогі-прасекі з зялёнай ракой; параўнальны зварот — *Быццам зялёная рака*, які аддзелены ад асноўнай часткі 4-га сказа кропкай. Гэта — **парцэляцыя** (адчляненне).

Усе часткі тэксту звязаны па сэнсе і структурна: яны раскрываюць адну агульную тэму і асноўную думку; у іх адзіны часавы план — цяперашні час. Параўнанне лясной дарогі-прасекі з зялёнай ракой вяртае нас да загалоўка мініяцюры — *«Лясная дарога»*, і тэкст атрымлівае кампазіцыйную завершанасць: па задуме аўтара ў ім сказана ўсё, і нічога ні дапаўняць, ні скарачаць, ні змяняць не патрэбна.

**Стыль** мініяцюры — мастацкі. Незвычайную нагляднасць апісанню надаюць эпітэты і параўнанні: ствалы алешыны — *смарагдавыя*, ствалы елак — *ружовыя, разагрэтыя, як з лазні выйшлі*, дарога-прасека — *быццам зялёная рака*. Аўтар мініяцюры — сапраўдны майстар слова.

Тэкст — гэта непарыўнае адзінства формы і зместу.

Асноўная **мэта** тэксту — данесці пэўную інфармацыю, пэўны змест да адрасата (слухача, чытача). Змест тэксту мы ў стане перадаваць і ўспрымаць толькі тады, калі ў наяўнасці адпаведная **форма**. Абавязковая ўмова зразумеласці, паспяховага ўспрымання тэксту — **сэнсавая цэласнасць.** Яе адсутнасць дакладна перадаюць прымаўкі: *«Я яму пра абразы́, а ён мне пра гарбузы»*, *«Гэты пра воз, а той пра коз»*. У выпадку разбурэння сэнсавай цэласнасці тэкст, правільны з боку формы, распадаецца, становіцца незразумелым і, у рэшце рэшт, губляе сэнс: *Я люблю гуляць у* ***чыжыка. Чыжык*** *— невялікая лясная пеўчая* ***птушка. «Птушка»*** *на палях праверанага сшытка абазначае пунктуацыйную памылку.*

Да распаду тэксту і бяссэнсіцы можа прывесці і парушэнне яго формы, а іменна адсутнасць звязнасці. **Звязнасць тэксту** — складанае цэлае, якое змяшчае некалькі складнікаў. Гэта і граматычнае дапасаванне слоў (нельга сказаць *гнядая конь,* трэба — *гняды конь*), і паўторы, і паслядоўнасць

перадачы падзей, думак *(Быў. Ёсць. Буду)*, і лагічнасць тэксту, і многае іншае. Непаслядоўнасць можа прывесці да парушэння звязнасці. Напрыклад: *З аўтабіяграфіі: Я пайшоў у школу ў 2001 годзе. Я нарадзіўся ў 1995 годзе*.

Такім чынам, асноўнымі прыметамі тэксту з'яўляюцца:

а) сэнсавая цэласнасць;

б) звязнасць, ці структурнае адзінства.

**10.** Прачытайце тэкст, прааналізуйце яго па схеме: загаловак, тэма, асноўная думка тэксту; члянімасць тэксту — пачатак, асноўная частка, канец; звязнасць, кампазіцыйная завершанасць, стылістычнае адзінства тэксту.

ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Перад раніцай прашумела навальніца.

На світанні яна сціхла, дождж сышоў[а] на захад, да Прыпяці. А за ім хутка сплылі хмары. Над вымытымі вадой палямі засінела чыстае неба і зазіхацела яркае жнівеньскае[а] сонца. І неба, і сонца, пераліваючыся вясёлкавымі колерамі, адбіваліся ў незлічоных буйных кроплях, што былі шчодра рассыпаны[с] на пожні. Здавалася, што гэта не кроплі, а крупінкі сонца, якія разам з дажджом асыпаліся на зямлю.

Зноў ярка і ласкава ўсміхалася сонца *(І. Мележ)*.

● Назавіце словы (словаформы), утвораныя суфіксальным спосабам.

**11.** У якім парадку трэба размясціць сказы, каб атрымаўся тэкст? Выберыце адзін з варыянтаў адказу і растлумачце, чаму іменна ў такім парадку трэба размясціць сказы.

1. Дом збудаваны, наступіў час перасялення. 2. Калі певень спяваў, гэта лічылася добрым знакам, калі не — дрэнным. 3. А напярэдадні ў новы дом праз акно запускалі пеўня ці курыцу. 4. За ім хатнія неслі маёмасць. 5. Звычайна першы ішоў гаспадар з гаршком, у якім быў жар з вуголлем.

● **1)** 5, 4, 3, 2, 1; **2)** 4, 3, 1, 2, 5; **3)** 3, 1, 5, 2, 4; **4)** 1, 5, 4, 3, 2.

## § 3. Стылі і тыпы маўлення



Тэксты, у якіх замацоўваюцца культурныя традыцыі народа, яго гісторыя і іншае, па тыпе маўлення падзяляюцца на тэксты-апавяданні (паведамленне пра штонебудзь), тэксты-апісанні (апісанне чаго-небудзь) і тэкстыразважанні (прычынна-выніковыя сувязі паміж кім-небудзь, чым-небудзь).

Кожны тып тэксту мае свае моўныя асаблівасці. Але патрэбна мець на ўвазе, што ў жыцці (у маўленчай практыцы) апавяданне, апісанне, разважанне часцей за ўсё сустракаюцца ў комплексе.

**12.** Пабудуйце тэкст-апавяданне пра якую-небудзь падзею, з'яву, вызначаючы *экспазіцыю (уступ), завязку, развіццё дзеяння, кульмінацыю* і *развязку*. Разгледзьце ў якасці прыкладу наступны тэкст.

ЗАСТУПНІК

Здарылася гэта летнім ранкам. Сонца ўжо стаяла над вершалінамі[а] дрэў. На прырэчнай балацявіне[сл], нібы касец у белай кашулі, паходжваў бусел. Непадалёку[а] ад яго, аднекуль з хмызняку, выпырхнула сарока. Хапатліва[л] махаючы крыламі, яна ляцела да вёскі. І раптам напярэймы ёй з блізкага лесу мільгануў шуляк — так у нашай мясцовасці называюць ястраба-цецяроўніка[а]. Праз імгненне сарока апынулася ў кіпцюрах, адчайна заверашчала[п].

А далей адбылося неверагоднае.

Бусел, які няспешна дыбаў па балоце, адклікнуўся трывожным клёкатам, замахаў крыламі, пачаў набіраць вышыню. Калі ж ён дагнаў ястраба, з ходу кінуўся ў бойку. Рэзка крутнуўшы ўбок, шуляк вывернуўся ад буславай дзюбы[п]. Аднак бусел зноў узняўся ўгору і з клекатаннем спікіраваў другі раз...

Каб застацца самому цэлым, ястраб выпусціў з кіпцюроў спажыву. Затым, трымаючыся як мага ніжэй да зямлі, даў дзёру ў лес.

Бусел жа, здабыўшы перамогу, зрабіў некалькі кругоў над балотам і зноў заступіў на сваю звыклую працу *(У. Ягоўдзік)*.

- Вызначце ролю дзеясловаў у тэксце.

**13.** Прачытайце тэкст. Вызначце, з якіх частак ён складаецца.

Некалі ў Нежынскім ліцэі наш выкладчык рымскага права папрасіў ліцэістаў напісаць кожнаму на сябе характарыстыку. Здзівіліся мы: ці ж праўду будзеш пісаць, які ты, чаго ты варты? Тады выкладчык папярэдзіў, што падпісвацца пад характарыстыкай не трэба, яна павінна быць ананімнай. Мы напісалі, выкладчык сабраў тыя характарыстыкі, паклаў у партфель і панёс. Праз тыдзень на ўроку пачаў іх чытаць і пытаць у нас, ці пазнаём, хто напісаў. Многіх пазнавалі.

Прачытаў і маю характарыстыку, а там вось што я пра сябе напісаў: «З выгляду пануры, маўклівы, педантычна[л] прынцыповы, ганарысты, калі тычыцца маіх перакананняў і асобы, веры і нацыі. У мяне гіпертрафіраванае[л] адчуванне да чужога болю і ўніжэння. Чужое няшчасце ўспрымаю як сваё. Баліць у некага, баліць і ў мяне. <...> З мяне нібыта садрана скура — дужа баліць мне, калі дакранаюся да грубага ў жыцці, жорсткага, злоснага, несправядлівага... Не магу ўявіць сабе, як я буду суддзёй, следчым, пракурорам — тады ж толькі з гэтымі жыццёвымі язвамі і давядзецца сустракацца.

...Люблю марыць аб прыгожым і пра будучыню чалавецтва. Гэту будучыню ствараю ў марах, уяўляю жыццё праз сто гадоў, зусім не падобнае на цяперашняе. Веру ў такое шчаслівае для ўсіх жыццё і гэтай верай жыву і буду рабіць усё, што ў маіх сілах, каб яно хутчэй наблізілася. Яно, тое жыццё, канечне, не будзе раем, але духоўна багатым і справядлівым».

...Часцей за ўсё наш лёс залежыць ад іншых людзей. Дабро зробяць табе людзі — пашанцуе ў жыцці. Крыўду горкую ўчыняць — жыццё горкім стане. Значыць, лепшае жыццё грамадства залежыць ад нас саміх, ад якасці кожнага чалавека. Бацька мой вучыў нас, малых: не рабі, чаго не хочаш, каб рабілі табе. Я і стараюся не рабіць нікому благога.

Дык чаму я павінен прысвяціць сваё жыццё? *(В. Хомчанка).*

● Запішыце частку тэксту, якая з'яўляецца разважаннем. Выдзеліце фразу, якая раскрывае асноўную думку ўсяго тэксту. Ці сугучныя думкі аўтара вашым думкам?

● Ці ведаеце вы, пра якога чалавека ідзе гаворка? Кім стаў па жыцці гэты чалавек? Які тып тэксту ўяўляе сабой характарыстыка Францішка Багушэвіча, героя твора «Пры апазнанні затрымаць»?

● Напішыце ўласную характарыстыку або характарыстыку на свайго сябра (брата, сястру ці інш.).



Назавіце вядомыя вам стылі. У якіх сітуацыях дарэчы выкарыстоўваць кожны са стыляў? У якіх тэкстах выкарыстоўваюцца пералічаныя вамі стылі?



У залежнасці ад мэт і задач зносін адбываецца адбор моўных сродкаў. У выніку ствараюцца своеасаблівыя разнавіднасці адзінай літаратурнай мовы, якія называюцца **стылямі**. Стылі выдзяляюцца на аснове той ролі, якую выконвае мова ў кожным канкрэтным выпадку.

Лічыцца, што існуе два ўзроўні валодання моваЙ. Першы ўзровень — гэта веданне граматыкі, пэўнай колькасці слоў, уменне пабудаваць сказ, выказванне, уменне размаўляць на мове з іншымі яе носьбітамі. Другі падразумявае ўменне ўлічваць стыль маўлення, будаваць тэкст, выбіраючы моўныя сродкі з улікам мэты выказвання, сітуацыі, суразмоўніка, сферы дзейнасці, формы зносін (вуснай, пісьмовай).

Сапраўднае авалоданне стылістычнымі сродкамі нават роднай мовы можа адбывацца толькі **свядома**; пры гэтым вывучаюцца, аналізуюцца моўныя стылістычныя сродкі і рознастылёвыя тэксты з іх асаблівасцямі.

Звычайна выдзяляюць наступныя стылі: **навуковы, афіцыйны, публіцыстычны, мастацкі** і **гутарковы**.

Апісанне стыляў праводзіцца па наступным плане:

1. Сфера ўжывання тэкстаў таго ці іншага стылю.

2. Мэта тэксту, які належыць пэўнаму стылю.

3. Формы маўлення, у якіх рэалізуюцца тэксты аналізуемага стылю.

4. Найбольш агульныя якасці тэкстаў пэўнага стылю.

5. Аналіз асаблівасцей моўных адзінак: на фанетычным, словаўтваральным, марфалагічным, лексічным, сінтаксічным узроўнях.

6. Сродкі сувязі.

**14.** Прывядзіце прыклады тэкстаў навуковага, афіцыйнага, публіцыстычнага, мастацкага стыляў. Свой адказ абгрунтуйце.

## § 4. Самастойныя і службовыя часціны мовы

**15.** Разгледзьце табліцу.

### Часціны мовы

| **Самастойныя** часціны мовы *(назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе)* | **Службовыя** часціны мовы *(прыназоўнік, злучнік, часціца)* | **Выклічнік** |
|---|---|---|
| 1) называюць прадметы, прыметы, дзеянні, колькасць або ўказваюць на іх | 1) служаць для сувязі паміж словамі ці часткамі сказа *(прыназоўнік, злучнік)*, надаюць розныя адценні словам ці сказу *(часціцы)* | 1) выражае розныя пачуцці, эмоцыі, але не называе іх |
| 2) **зменныя** часціны мовы (*назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік* — скланяюцца, *дзеяслоў* — спрагаецца); **нязменная** часціна мовы *(прыслоўе)* | 2) **нязменныя** часціны мовы | 2) **нязменная** часціна мовы |
| 3) з'яўляюцца членамі сказа | 3) не з'яўляюцца членамі сказа | 3) не з'яўляецца членам сказа |

● Адкажыце на пытанні.

1. На якія групы дзеляцца часціны мовы? Назавіце прыметы, паводле якіх словы размяркоўваюцца па часцінах мовы.

2. Якія часціны мовы адносяцца да самастойных, а якія да службовых?

3. Чаму выклічнік не ўваходзіць у групу службовых слоў? Што адрознівае яго ад службовых слоў, а што збліжае?

4. Якія самастойныя часціны мовы з'яўляюцца зменнымі і чаму? Якія з іх скланяльныя, а якія спрагальныя?

5. Якая самастойная часціна мовы з'яўляецца нязменнай і чаму?

**16.** Спішыце, узнаўляючы ў тэксце прапушчаныя фрагменты.

Усе словы беларускай мовы ў залежнасці ад агульнага лексічнага значэння, агульных марфалагічных прымет і сінтаксічнай функцыі дзеляцца на пэўныя граматычныя разрады, якія называюцца … .

Адрозніваюць … і … часціны мовы.

У асобную групу выдзяляюцца … .

Выклічнікі адрозніваюцца і ад самастойных, і ад службовых часцін мовы тым, што служаць для выражэння пэўных … і …, але не называюць іх.

Зменныя часціны мовы ў сваім саставе абавязкова маюць …, у тым ліку і нулявы, і прадстаўлены некалькімі словаформамі, напрыклад: *брат, брата, братам, аб браце, браты; чытаю, чытаеш, чытае, чытаем, чытаеце, чытаюць* і інш.

Прыслоўе і … як форма дзеяслова ў мове прадстаўлены толькі … словаформай, напрыклад: *знізу рос, знізу раслі; прачытаўшы твор, прачытаўшы творы; ішоў стаміўшыся, ішлі стаміўшыся* і інш.

**17.** Выпішыце (на выбар) з тэксту прыклады слоў самастойных часцін мовы. Зрабіце іх марфалагічны разбор.

Расставіўшы па-мужчынску[с] ногі, моцна ўпінаючыся ў грунт, ён [Васіль] размашыста правёў касой, і трава шыркнула, паслухмяна легла злева акуратнай купкай. Ён правёў другі раз, трэці, трава злева стала выцягвацца[с] ў вільготны зялёны* рад. Хутка ногі яго ступілі на пакошу, перад ім быў ужо лапік чыстага, скошанага ім. Хто гэта казаў, што ён яшчэ зялёны* касіць? Што яму, быццам, кашы яшчэ многа трэба! Кашы, можа, каму-небудзь і трэба, толькі — каму іншаму. Але не яму, не Васілю. Праўду кажуць, што касіць — справа не абы-якая[с], мужчынская справа, тут трэба і сіла, і спрыт, умець трэба. Але ў Васіля ўсё гэта ёсць. Глядзіце, як ладна шаркае* ў яго каса́, як кладзецца[с], даўжэе рад! *(І. Мележ).*

● Назавіце ў дадзеным тэксце словы службовых часцін мовы. Якая іх роля ў тэксце?

● Выпішыце з тэксту дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі, разбярыце іх па саставе. Вызначце марфалагічныя прыметы гэтых слоў і іх сінтаксічную ролю ў сказе. Назавіце асновы дзеясловаў, ад якіх яны ўтвораны.

**18.** Першы сказ запішыце знакамі фанетычнай транскрыпцыі, а другі, запісаны ў транскрыпцыі, — па правілах арфаграфіі.

1. Каб галаву штораз не чухаць,
   Часцей людзей патрэбна слухаць.

2. [н’ікóл’і п гóра мы н’а знáл’і, кал’í п раб’íл’і йак казáл’і].

● Абазначце часціны мовы ў кожным сказе. Выберыце са сказаў па адным прыназоўніку, злучніку і адну часціцу. Раскажыце пра службовыя часціны мовы, прыводзячы адпаведныя прыклады.

## § 5. Правапіс *не (ня)*, *ні* з рознымі часцінамі мовы

**19.** Карыстаючыся табліцай, падрыхтуйце паведамленні на тэмы «***Не (ня)*** пішацца разам», «***Не*** пішацца асобна».

### Правапіс *не (ня)* з рознымі часцінамі мовы

| Разам | | |
|---|---|---|
| 1. З любой самастойнай часцінай мовы | калі слова без ***не*** не ўжываецца | *небарака; непахісны; ненавідзець; нельга* |
| 2. З назоўнікамі, прыметнікамі і прыслоўямі | калі ***не- (ня-)*** надае слову новае, супрацьлеглае, значэнне, якое можна замяніць сінонімам без ***не*** | *няшчасце (= гора); няволя (= палон); нешырокі (= вузкі); нялёгкі (= цяжкі); невысока (= нізка); нямала (= многа)* |
| 3. З прыметнікамі, дзеепрыметнікамі і прыслоўямі | калі пры іх ёсць словы *вельмі, зусім, амаль* і іншыя, якія ўзмацняюць прымету, абазначаюць ступень якасці | *вельмі неўраджайны год; зусім непрачытаная кніга; амаль нецікава* |

| | | |
|---|---|---|
| **Р а з а м** | | |
| 4. З поўнымі дзеепрыметнікамі | калі пры іх няма паясняльных слоў | *неўзаранае поле; нявырашанае пытанне* |
| 5. З неазначальнымі займеннікамі і прыслоўямі | | *нехта;*<br>*недзе;*<br>*некалі* |
| 6. У дзеясловах (і іх формах) з прыстаўкай ***неда-*** | якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме, непаўнату дзеяння | *недасаліць (недасолены, недасаліўшы); недаважыць (недаважаны, недаважыўшы); недасмажыць (недасмажаны, недасмажыўшы)* |
| **А с о б н а** | | |
| 1. З дзеясловамі, дзеепрыслоўямі і кароткімі дзеепрыметнікамі | | *не прыйшоў;*<br>*не зрабіўшы;*<br>*луг не скошан;*<br>*падлога не памыта* |
| 2. З назоўнікамі, прыметнікамі і прыслоўямі | калі ёсць ці падразумяваецца супрацьпастаўленне | *не пры́яцель, а проста знаёмы;*<br>*шлях быў не далёкі, а блізкі;*<br>*не лёгка, а цяжка* |
| 3. З поўнымі дзеепрыметнікамі | пры якіх ёсць паясняльныя словы ці супрацьпастаўленне | *яшчэ не прачытаная кніга;*<br>*не закончаная, а толькі пачатая праца* |
| 4. З неазначальнымі займеннікамі | калі пасля ***не*** ўжываецца прыназоўнік | *не ў кім;*<br>*не з чым;*<br>*не ў чым* |

**20.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс прыстаўкі ***не-*** ***(ня-)***. Часціцу ***не*** падкрэсліце.

*(Не/ня)* шчаслівае дзяцінства; напаткала вялікае *(не/ня)* шчасце; *(не/ня)* шчасце, а бяда; *(не/ня)* шчасліўіцца

хлопцу ў жыцці; жылося *(не/ня)* шчасна; *(не/ня)* зачыненыя дзверы; дзверы *(не/ня)* зачынены; *(не/ня)* зачыненыя бацькам дзверы; *(не/ня)* зачыненыя, а прыкрытыя дзверы; *(не/ня)* дагледзець фільм; *(не/ня)* дагледжаны да канца фільм; фільм *(не/ня)* дагледжан; *(не/ня)* дасмажыць рыбу; *(не/ня)* дасмажаная рыба; рыба *(не/ня)* дасмажана; *(не/ня)* дасмажаная бабуляй рыба; пайшоў *(не/ня)* дасмажыўшы рыбы.

***не па-белару́ску***
***не абы-які́***

**21.** Карыстаючыся табліцай, падрыхтуйце паведамленні на тэмы «***Ні*** пішацца разам», «***Ні*** пішацца асобна».

**Правапіс *ні* з рознымі часцінамі мовы**

| Разам | |
|---|---|
| З адмоўнымі займеннікамі і прыслоўямі | *ніхто, нішто, ніякі, нідзе, ніколі* |
| Са словамі, якія без ***ні*** не ўжываюцца | *нішчымны, нікчэмны, ніякавата* |
| **Асобна** | |
| З адмоўнымі займеннікамі, калі пасля ***ні*** ўжываецца прыназоўнік | *ні з кім, ні з чым, ні ў кога, ні ў якай* |

**22.** Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары.

1. Чалавек стварае *(не)* толькі матэры..льныя, але і духоўныя багацці *(А. Міхневіч)*. 2. *(Не)* вялічкая вёска ў адну вуліцу выглядала[а] *(не)* прыветна[сл] і *(не)* прытульна *(Я. Колас)*. 3. *(Не)* было б шчасця — дык *(не/ня)* шчасце дапамагло

*(Прыказка)*. 4. Цягнуліся[а], то сыходзячыся, то разыходзячыся, шнуркі *(не)* глыбокіх, *(не)* замеценых завеяй слядоў *(В. Адамчык)*. 5. *(Не)* хта спяшаецца, камус..ці[сл] *(не/ня)* спіцца, *(не)* кага гоніць радасць адкрыцця, а можа, бяда і трывога *(С. Грахоўскі)*. 6. Гэта *(не)* *(абы)* што, а падарунак маме *(С. Грахоўскі)*.

**23.** Прачытайце выдзеленыя словы, запомніце іх напісанне. Чаму яны пішуцца асобна? Складзіце сказы з наступнымі словамі.

**Не адзін** *(= многа, многія)*;
**ні адзін** *(= ніхто)*;
**не раз** *(= часта)*;
**ні разу** *(= ніколі)*.

**24.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне ***не, ні*** ў словах.

*(Ні)* кчэмны, *(ні)* хто, *(не)* хта, *(ні)* быта, *(не)* дзе, *(ні)* дзе, *(ні)* як, *(не)* як, *(ні)* рыба *(ні)* мяса, *(ні)* жывы *(ні)* мёртвы, *(ні)* тое *(ні)* сёе, *(не)* здаровіцца, *(не)* пакоіць, *(не)* дамагаць, *(ня)* воліць, *(ні)* кудышні, *(ні)* за што, *(ні)* з чым.

**25.** Прачытайце. Вызначце сэнсавае значэнне часціц ***не*** і ***ні***. Запішыце сказы, растлумачце напісанне ***не*** і ***ні***.

1. Я *(не/ні)* магу *(не/ні)* сказаць вам праўды *(Я. Колас)*. 2. І куды *(не/ні)* кінеш вокам, колькі тут красы навокал *(А. Русак)*. 3. Мой бацька, як кажуць, быў майстар[м] на ўсе рукі. Што *(не/ні)* возьме — змайструе *(І. Грамовіч)*. 4. На вуліцы *(не/ні)* душы *(не/ні)* было *(Э. Самуйлёнак)*. 5. Відаць, *(не/ні)* колі *(не/ні)* забыцца *(не/ні)* сціплых хат, *(не/ні)* шэрых ніў. Усё часцей дзяцінства сніцца[с], дзе б у дарозе я *(не/ні)* быў *(П. Броўка)*. 6. *(Не/ні)* адзін я, пісалі мы ўсе… ліст любімым сваім, ліст радзіме сваёй *(П. Броўка)*.

# СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ

**Сінтаксіс** (ад грэч. *syntaxis* — пабудова, спалучэнне, парадак) — гэта раздзел навукі аб мове, у якім вывучаюцца словазлучэнне і сказ: іх будова, значэнне, роля ў маўленні. Асноўныя адзінкі сінтаксісу — с л о в а з л у ч э н н е, с к а з і т э к с т.



Вывучэнне сінтаксісу садзейнічае развіццю маўлення, таму што дапамагае правільна будаваць сказы, выбіраць выразныя віды словазлучэнняў і сказаў, якія найбольш адпавядаюць патрэбнаму ў дадзенай сітуацыі стылю маўлення.

Веданне будовы і значэння сінтаксічных адзінак служыць асновай для фарміравання ўмення лагічна выражаць думкі, а таксама правільна расстаўляць знакі прыпынку.

З сінтаксісам цесна звязана **пунктуацыя** — раздзел навукі аб мове, у якім вывучаецца сістэма знакаў прыпынку і іх ужыванне ў пісьмовым тэксце.

Знакі прыпынку дапамагаюць дакладна перадаць на пісьме свае думкі і пачуцці, а пры чытанні — зразумець тэкст і выразна прачытаць яго.

**Паслухайце мовазнаўцу!**

Сінтаксіс цесна звязаны з марфалогіяй — другой састаўной часткай граматыкі. Марфалагічная форма слова абумоўлівае яго сінтаксічную функцыю, вызначае характар адносін слова з іншымі словамі ў межах словазлучэння і сказа. Сувязь паміж сінтаксісам і марфалогіяй праяўляецца і ў тым, што часціны мовы выконваюць функцыю пэўных членаў сказа: назоўнік найчасцей ужываецца ў ролі дзейніка і дапаўнення, прыметнік — у ролі азначэння і г. д. *(Т. Трыпуціна)*.

**26.** Вучоныя-лінгвісты кажуць пра наяўнасць у сучасным пісьме пунктуацыйнага алфавіта:

1) кропка (.);
2) двукроп'е (:);
3) шматкроп'е (...);
4) кропка з коскай (;);
5) коска (,);
6) коскі (,,);
7) двукоссе: лапкі (“ ”); елачкі («»);
8) пытальнік (?);
9) клічнік (!);
10) працяжнік (—);
11) двайны працяжнік (— —);
12) дужкі ( );
13) зноска, ці астэры́ск (*);
14) абзац, ці абзацны водступ.

● Калі, на вашу думку, з'явіліся знакі прыпынку? Тады, калі толькі з'явілася пісьменнасць?

**27.** Прачытайце тэкст. Выпішыце ключавыя словы. Вусна перакажыце тэкст.

У старажытнасці тэксты запісвалі без прабелаў паміж словамі і сказамі, без знакаў прыпынку. Чытанне такіх запісаў было марудным і складаным. Каб палегчыць яго, трэба было перш за ўсё адзначыць межы сказаў. Так з'явілася кропка — першы і асноўны знак члянення тэксту. На аснове кропкі паўсталі іншыя знакі: пытальнік і клічнік, коскі.

У «Граматыцы славенскай» Мялеція Сматрыцкага (1619) з'явіліся круглыя дужкі, якія называлі «вместным» знакам.

Увайшлі ва ўжыванне таксама дужкі, працяжнік, двукоссе. Дарэчы, працяжнік увёў Карамзін і назваў яго «рысай». Барсаў, вучань Ламаносава, называў гэты знак «маўчанка» і казаў, што яна «распачатую гаворку перапыняе альбо зусім, альбо на малы час для выражэння жарсці, альбо для падрыхтоўкі чытача да якога-небудзь надзвычайнага, нечаканага слова ці наступнага дзеяння. Але больш за ўсё яна служыць да падзелу асоб, якія размаўляюць, каб не

мецъ патрэбы называць іх пры кожнай змене ў працяглай гутарцы».

У пачатку сказа стала абавязковай загалоўная літара, а ў пачатку абзаца — чырвоны радок.

Да канца XVIII стагоддзя сфарміраваўся асноўны склад знакаў прыпынку, якія — ад лацінскай назвы кропкі «пунктум» — прынята называць знакамі пунктуацыі.

Знакі прыпынку раней мелі іншыя назвы: кропку з коскай называлі «полуточием», клічнік — «удивным», двукоссе — «пресекательным» ці «отменительным» знакам і перанос — «единительным» *(Паводле М. В. Панова)*.

● Вызначце і паразважайце, якія з сучасных знакаў прыпынку раней так называліся і чаму: удивный знак, рыса, знак спыняльны і отменительный, сумесны знак, полуточие, маўчанка.

**28.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль.

Знакі прыпынку і асноўныя правілы іх ужывання **ўзніклі** вельмі даўно, але асабліва пашырылася іх выкарыстанне пры вынаходстве[c] кнігадрукавання[c] і яго далейшым **развіцці**. Сёння нельга **абысціся** на пісьме ці пры друкаванні кніг без знакаў прыпынку, бо яны, падзяляючы тэкст на пэўныя часткі і словы, дапамагаюць хутчэй і лягчэй прачытаць напісаны або надрукаваны тэкст, правільна ўспрыняць, зразумець і перадаць яго іншым людзям. Важнае значэнне пунктуацыі відаць пры параўнанні сказа спачатку з апушчанымі, а потым з пастаўленымі знакамі прыпынку: *У хаце заставаўся дзед Купрыян Васілёў бацька і дзеці*. Без пастаноўкі знакаў прыпынку невядома, колькі дарослых было ў хаце — двое, трое ці чацвёра? У Якуба Коласа чытаем: *У хаце заставаўся дзед Купрыян, Васілёў бацька і дзеці*. Сказ са знакамі прыпынку стаў зразумелым *(Л. Акаловіч)*.

● Якая агульная арфаэпічная з’ява назіраецца ў вымаўленні выдзеленых слоў?

● Запішыце прыклады сказаў, у якіх сэнс мяняецца ў залежнасці ад месца пастаноўкі знакаў прыпынку.

**29.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку і падбярыце загаловак.

Чалавек згубіў коску, стаў баяцца складаных сказаў. Шукаў больш простую фразу. За нескладанымі фразамі прыйшлі нескладаныя думкі. Потым ён згубіў клічнік і пачаў размаўляць ціха, з адной інтанацыяй. Яго ўжо нішто не радавала і не абурала, ён да ўсяго ставіўся без эмоцый. Потым ён згубіў пытальнік і перастаў задаваць усякія пытанні. Ніякія падзеі не выклікалі ў яго цікавасці, дзе б яны ні адбываліся — у космасе, на Зямлі ці нават ва ўласнай кватэры. Яшчэ праз пару гадоў ён страціў двукроп'е і перастаў тлумачыць людзям свае ўчынкі. У канцы жыцця ў яго засталося толькі двукоссе. Ён не выказваў ні адной уласнай думкі, ён увесь час каго-небудзь цытаваў — так ён зусім развучыўся думаць і дайшоў да кропкі. Беражыце знакі прыпынку! *(А. Канеўскі)*.

● Растлумачце правапіс ***не (ня)***, ***ні*** ў тэксце.

**30.** Прачытайце тэкст. Выпішыце назвы знакаў прыпынку. Прааналізуйце, як змяняліся іх назвы.

З ГІСТОРЫІ ЗНАКАЎ ПРЫПЫНКУ

Сучасны раздзел «Пунктуацыя», у якім разглядаюцца[с] знакі прыпынку і правілы іх ужывання ў тэксце, у даўніх навучальных кнігах і граматыках меў іншыя назвы: «О точкахъ» у «Граматыцы» (1596) Лаўрэнція Зізанія; *«Прасодія строчная»*, або *«Строчные препінанія»* ў букварах Сімяона Полацкага (1679) і Фёдара Палікарпава (1701); «О знакахъ» у «Россійской грамматике» (1755) Міхаіла Ламаносава.

Сукупнасць пунктуацыйных знакаў у рускіх навучальных выданнях атрымала сучасную дэфініцыю* *знаки препинания* толькі ў XIX ст. (працы Яўхіма Карскага і Якава Грота), а Міхаіл Ламаносаў называў іх *строчнымі знакамі* ў супрацьлегласць шырока распаўсюджаным у старажытнай мове надрадковым[сл] знакам для абазначэння націску[м], прыдыханняў і інш. У «Граматыцы» Лаўрэнція Зізанія агульная назва знакаў прыпынку — *точкі*.

У новай беларускай мове тэрмін *знакі прыпынку* ўведзены Браніславам Тарашкевічам, а, напрыклад, у «Беларускім лемантары» (1906) фігуруе тэрміналагічнае найменне[а] *застановачныя знакі*.

Назвы асобных знакаў на працягу стагоддзяў змяняліся ў залежнасці ад таго, якая прымета знака (функцыянальная, візуальная ці іншая) клалася ў аснову тэрміна. Тэрміналагічная эвалюцыя[ф] паказана ў табліцы (напісанні тэрмінаў падаюцца паводле тых выданняў — арыгінальных ці адаптаваных, — з якіх яны выбіраліся[м]) *(І. Гапоненка)*.

● Якімі знакамі прыпынку карыстаемся мы цяпер? Падрыхтуйце праект «З гісторыі знакаў прыпынку», выкарыстаўшы дадатковую літаратуру:


1. *Батвіннік, М.* Азбука на ўсе часы / М. Батвіннік. — Мінск : Бел. навука, 2003. — 288 с.

2. *Бурак, Л. І.* Сучасная беларуская мова : Сінтаксіс. Пунктуацыя / Л. І. Бурак. — Мінск : Універсітэцкае, 1987. — С. 304—316.

3. *Гапоненка, І.* Беларуская пунктуацыя / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 3. — С. 70—72.

4. *Гапоненка, І.* Двукроп'е : з гісторыі знакаў прыпынку / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 6. — С. 67—68.

5. *Гапоненка, І.* Дужкі. Двукоссе : з гісторыі знакаў прыпынку / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 10. — С. 62—64.

6. *Гапоненка, І.* Камбінаваныя знакі прыпынку : з гісторыі станаўлення пунктуацыйных тэрмінаў / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 12. — С. 50—51.

7. *Гапоненка, І.* Кропка : з гісторыі знакаў прыпынку / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 4. — С. 71—72.

8. *Гапоненка, І.* Працяжнік. Шматкроп'е : з гісторыі знакаў прыпынку / І. Гапоненка // Роднае слова. — 2004. — № 11. — С. 67—69.

9. *Каляда, А. А.* Гукавое выражэнне знакаў прыпынку / А. А. Каляда // Выразнае чытанне : IV—VII кл. — Мінск : Народная асвета, 1982. — 160 с.

10. *Клюсаў, Г. Н.* Асновы і нормы сучаснай беларускай пунктуацыі / Г. Н. Клюсаў. — Гродна : ГрДУ, 1993. — 268 с.

## СЛОВАЗЛУЧЭННЕ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ



**31.** Разгледзьце табліцу. Раскажыце, у чым падабенства і адрозненне словазлучэнняў і сказаў як сінтаксічных адзінак. Пракаменціруйце прыведзеныя прыклады. Падбярыце свае прыклады.

| Крытэрыі параўнання | Словазлучэнне | Сказ |
|---|---|---|
| Асаблівасці будовы | Наяўнасць галоўнага і залежнага слоў:<br>*роднае слова;*<br>*вымавіць гук;*<br>*гучна размаўляць* | Наяўнасць граматычнай асновы:<br>*На роднай мове размаўляе мой слаўны, працавіты люд* (В. Шымук). |
| Асаблівасці значэння | Называе прадметы, дзеянні, прыметы больш дакладна, чым словы:<br>*слова — **важнае** слова;*<br>*слухаў — слухаў **прамоўцу;***<br>*гаварыў — гаварыў **ціха*** | Выражае паведамленне (інфармацыю), пытанне ці пабуджэнне да чаго-небудзь:<br>*1. Восень. На вуліцы цёмна...*<br>*2. Ці плачу я, ці пяю?..*<br>*3. Пакіньце мне мову маю, // Пакіньце жыццё мне!* (П. Панчанка). |
| Прызначэнне | Для спалучэння слоў і формаў слоў у сказе | З'яўляецца сродкам зносін |
| Інтанацыя (для вуснага маўлення) | Не мае інтанацыйнай завершанасці | Мае інтанацыйную завершанасць |
| Пунктуацыя (для пісьмовага маўлення) | Не мае пунктуацыйнага афармлення | Мае пунктуацыйнае афармленне |

## § 6. Словазлучэнне як сінтаксічная адзінка



**Словазлучэнне** — гэта спалучэнне двух і больш самастойных слоў, звязаных паміж сабой па сэнсе і граматычна (падпарадкавальнай сувяззю).

Словазлучэнні фарміруюцца ў сказе і выдзяляюцца з яго. Так, у сказе *Белыя воблакі павольна плывуць над зямлёй* выдзяляем спачатку граматычную аснову, а затым словазлучэнні.

Граматычная аснова: *воблакі плывуць*.

Словазлучэнні: 1) *воблакі* (я к і я?) *белыя*; 2) *плывуць* (я к?) *павольна*; 3) *плывуць* (н а д ч ы м?) *над зямлёй*.

Падпарадкавальныя словазлучэнні складаюцца з г а л о ў н а г а і з а л е ж н а г а слоў. **Сэнсавая сувязь** слоў у словазлучэннях устанаўліваецца па пытаннях. Іх ставяць ад галоўнага слова да залежнага: ***падарунак*** (к а м у?) *брату*, *падарунак* (ч ы й?) *братаў*, ***паехаць*** (д а к а г о?) *да брата*, ***сустрэць*** (я к?) *па-брацку*.

**Граматычная сувязь** слоў у словазлучэннях выражаецца з дапамогай канчаткаў і прыназоўнікаў, напрыклад: *духмян**ыя** кветкі, пакласці **на** парт**у***.



У залежнасці ад таго, якой часцінай мовы выражана галоўнае слова, словазлучэнні дзеляцца на іменныя, дзеяслоўныя і прыслоўныя.

У **іменных** словазлучэннях галоўнае слова выражаецца назоўнікам, прыметнікам, лічэбнікам, займеннікам:

***праект*** *дома*, ***дарагі*** *сэрцу*, ***пяць*** *лыжак*, ***чымсьці*** *вострым*.

У **дзеяслоўных** словазлучэннях галоўнае слова выражаецца дзеясловам, дзеепрыметнікам, дзеепрыслоўем:

***расказаць*** *казку*, ***пацямнелы*** *ад загару*, ***баючыся*** *холаду*.

У **прыслоўных** словазлучэннях галоўнае слова выражаецца прыслоўем:

***сумесна*** *з аўтарам*, *позна* ***вечарам***, *утрая* ***болей***.

Паводле сваёй будовы словазлучэнні могуць быць п р о с т ы м і і с к л а д а н ы м і.

**Простыя** словазлучэнні складаюцца з двух самастойных слоў: *шолах лісця, зялёная трава, пісаць алоўкам, шмат снегу.*

**Складаныя** словазлучэнні ўключаюць у свой склад больш за два самастойныя словы: *жанчына нізкага росту, дасягненні беларускага народа.*

З а ў в а г а. Не з'яўляюцца словазлучэннямі:

1) дзейнік і выказнік: *Вучань чытае*;

2) складаныя формы будучага часу: *буду чытаць, будзем рабіць*;

3) складаныя формы вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання якасных прыметнікаў і прыслоўяў: *больш хуткі, найбольш цікавы, больш рашуча, найбольш старанна*;

4) састаўныя лічэбнікі: *сто дзевяноста чатыры*;

5) спалучэнні службовых слоў з самастойнымі: *нягледзячы на мароз, пасля таго як сказаў, праз палі і лясы, сказаў бы, няхай (хай) чытае;*

6) фразеалагізмы: *ахілесава пята, даць слова, адбіцца ад рук.*

**32.** Выпішыце словазлучэнні. Вусна растлумачце свой выбар. Чаму астатнія прыклады не з'яўляюцца словазлучэннямі?

Збірацца разам; хлопчык малюе; вельмі захоплена; сямнаццаты наведвальнік; яна прыгожая; недалёка ад метро; паглядзець відэафільм; граматычная аснова; слова без канчатка; у словазлучэнні; у непралазнай багне; будзе паступаць; абзацаў дапамагчы; на працягу дня; будзе рыхтавацца да экзамену; самы лепшы; сорак першы; першы званок; у залежнасці ад складанасці; таму што веру.

**33.** Прачытайце тэкст. Назавіце словазлучэнні. Выпішыце прыклады іменных і дзеяслоўных словазлучэнняў.

Буслы, буслы, ляціце дарогай прамою
На зарослыя пальмамі берагі,
Раскажыце, што над вялікай ракою
Ёсць народ, што ніколі не крыўдзіў другіх.
*У. Караткевіч.*

● Дапішыце сказ: «Услед за У. Караткевічам мы з гонарам і з пачуццём уласнай годнасці называем наш дарагі беларускі край...». Ці ёсць у гэтым сказе складаныя словазлучэнні? Выпішыце іх.

**34.** Выпішыце словазлучэнні ў тры слупкі: а) іменныя; б) дзеяслоўныя; в) прыслоўныя.

Уважлівы вучань, сустрэцца выпадкова, сямнаццаць[а] дзён, працягваць працаваць, зусім спакойна, Купалава[а] спадчына, нехта з прысутных, радасна на душы, мокры ад дажджу, першы ў чарзе, каманды карабля, вялікі пачак[м], адчыніць дзверы, рукаў рэглан, справа ад дарогі.

**35.** Складзіце і запішыце 2—3 словазлучэнні на кожную схему.

1) прыметнік + $\overset{\times}{\text{назоўнік}}$
2) $\overset{\times}{\text{дзеяслоў}}$ + назоўнік
3) $\overset{\times}{\text{лічэбнік}}$ + назоўнік
4) $\overset{\times}{\text{займеннік}}$ + прыметнік
5) $\overset{\times}{\text{дзеепрыслоўе}}$ + назоўнік
6) $\overset{\times}{\text{прыслоўе}}$ + прыслоўе
7) прыслоўе + $\overset{\times}{\text{прыслоўе}}$
8) $\overset{\times}{\text{прыметнік}}$ + назоўнік

## Паслухайце моваznaўцу!

Кандрат Крапіва пісаў: «Непаразуменнем з’яўляецца тое, што прыназоўнік ***к*** ва ўсіх выпадках імкнуцца замяніць прыназоўнікам ***да*** на той падставе, што канструкцыі з гэтымі прыназоўнікамі нібыта сінанімічныя, але прыназоўнік ***к*** не ўласцівы беларускай мове. На самай жа справе гэты прыназоўнік таксама ўласцівы беларускай мове, як і ***да***. Апрача таго, у пэўных выпадках кожны

з гэтых прыназоўнікаў надае словазлучэнню асаблівы сэнс. Напрыклад, *спячы пірог да свята* не тое самае, што *спячы пірог к святу. Да свята* можна спячы ды з'есці, а *к святу* — гэта значыць, што ў свята ён павінен быць на стале. Такое ж рознае значэнне маюць тэрміны і выразы *скончыць працу к тэрміну* і *скончыць працу да тэрміну*; *галлё звісала к зямлі* і *галлё звісала да зямлі*; *прыйсці к абеду* і *прыйсці да абеду*» *(І. Лепешаў).*

● Выпішыце словазлучэнні са спалучэнняў, выдзеленых курсівам. Удумліва і правільна стаўце сэнсавыя і марфалагічныя пытанні.

## § 7. Граматычнае значэнне словазлучэння

**36.** Разгледзьце табліцу. Якія граматычныя значэнні могуць выражаць словазлучэнні?

| Граматычнае значэнне | Словазлучэнні |
|---|---|
| Прадмет і яго прымета | *сырая бульба* (якая?), *варэнне са сліў* (якое?)<br>*сукенка ў кветачкі* (якая?) |
| Дзеянне і прадмет, з якім яно звязана | *прыехаць да сябра* (да каго?), *маляваць алоўкам* (чым?)<br>*імкнуцца да ведаў* (да чаго?) |
| Дзеянне і яго прымета | *размаўляць шэптам* (як?)<br>*вучыцца старанна* (як?)<br>*жыць на ўзлеску* (дзе?) |
| Прымета і яе ступень | *вельмі смачны* (як?), *надзвычай тонка* (як?)<br>*позна вечарам* (калі?) |



Словазлучэнне можа мець living рознае **граматычнае значэнне:**

а) абазначаць **прадмет** і **яго прымету:** *зялёная трава, трэці дзень, мой выбар*. У ролі галоўнага слова выкарыстоўваецца заўсёды назоўнік, а ў ролі залежных слоў выступаюць прыметнікі *(прыемная навіна)*, поўныя дзеепрыметнікі *(загарэлы твар)*, парадкавыя лічэбнікі *(сёмы паверх)*, займеннікі *(мая кніга, тыя мясціны)*, назоўнікі *(пісьмо брата)*, інфінітывы *(жаданне падарожнічаць)*, прыслоўі *(размова па-беларуску)*;

б) **дзеянне** і **прадмет**, з якім яно звязана: *секчы дровы, расказаць верш*. Залежнымі словамі пры дзеяслове выступаюць назоўнікі *(садзіць кветкі)*, займеннікі *(дамовіцца з ім)*, лічэбнікі *(памножыць на пяць)*, радзей інфінітывы *(прасіць праспяваць)*;

в) **дзеянне** і **яго прымету:** *друкаваць хутка, прыйсці пехатой*. Залежнымі словамі пры дзеяслове выступаюць прыслоўі *(працаваць лепш, глядзець пільна)*, дзеепрыслоўі *(ісці спяшаючыся, бегчы не аглядваючыся)*;

г) **прымету** і **яе ступень:** *надзвычай цёпла, вельмі прыцягальны*. У ролі галоўных слоў выступаюць прыслоўі *(надта холадна)*, прыметнікі *(зусім нецікавы)*, дзеепрыметнікі *(сцёрты начыста)*, а ў ролі залежных — прыслоўі *(дастаткова складана, надзвычай павольна)* ці назоўнікі *(павольней за чарапаху)*.

**37.** Спішыце словазлучэнні. У дужках укажыце граматычнае значэнне словазлучэнняў.

У з о р: *цікавая кніга* (прадмет і яго прымета).

Вядомы публіцыст, імчацца віхрам, бязмерна шчаслівы, шаўковая тканіна, перасадзіць увосень, складаць расклад, па-дамашняму смачны, расчуліць да слёз, жыць у дастатку, цёплыя адносіны, сшытак у клетку, спаднічка ў гарошак.

**38.** Выпішыце словазлучэнні, пабудуйце іх схемы. Дакажыце, што, абазначаючы адносіны паміж прадметамі, дзеяннямі, прыметамі, словазлучэнні развіваюць сказ, узбагачаючы яго значэнне і канкрэтны сэнс.

1. І моўкне ў лесе спеў птушыны. 2. У небе зорачка нясмела над гэтым лесам цемраністым зірнула вокам прамяністым. 3. На ніцях белай павуціны прывозяць восень павучкі *(Я. Колас).*

**39.** Параўнайце наступныя словазлучэнні па лексічным значэнні слоў, якія ўваходзяць у яго склад, а затым, супаставіўшы схемы словазлучэнняў, знайдзіце, што ў іх агульнае.

У з о р: *складаная задача* — прым. + наз. (я к а я? ×, ×);

*цікавы ўрок* — прым. + наз. (я к і? ×, ×).

Цукровы пеўнік — шакаладная манетка; цікаўны хлопчык — прыгожая дзяўчынка; расплаўлены метал — замарожаная рыба, восеньская цішыня — зімовая сцюжа, сівы туман — празрыстая вада, буйныя кроплі — дробны дождж, крамяная капуста — гнілы яблык.

● В ы в а д. Словы, якія ўваходзяць у прааналізаваныя словазлучэнні, маюць рознае лексічнае значэнне. Але словазлучэнні выражаюць абсалютна аднолькавае граматычнае значэнне — называюць прадмет (галоўнае слова — назоўнік) і яго прымету (залежнае слова — прыметнік).

**40.** Падбярыце да словазлучэнняў антонімы, пабудуйце схемы прапанаваных і атрыманых словазлучэнняў і параўнайце іх.

× к а г о? ×
У з о р: *любіць сяброў* — дзеясл. + наз. у В. скл.;

× к а г о? ×
*ненавідзець ворагаў* — дзеясл. + наз. у В. скл.

Шанаваць старэйшых — … .
Браць чужое — … .
Купляць сваё — … .

● В ы в а д. Словы, з якіх складзены антанімічныя словазлучэнні, маюць супрацьлеглае лексічнае значэнне. Аднак граматычнае значэнне словазлучэнняў аднолькавае: яны называюць дзеянне (галоўнае слова — дзеяслоў) і прадмет, на які яно скіравана (залежнае слова — назоўнік у вінавальным склоне).

**41.** Параўнайце граматычнае значэнне наступных словазлучэнняў. Вызначце, якой часцінай мовы з'яўляецца і што абазначае галоўнае слова (прадмет, дзеянне, прымета). Як можна назваць гэтыя словазлучэнні?

× я к а я? я к а я? ×
У з о р: *лесвіца з мармуру* — *мармуровая лесвіца.*

Драўляны дом, дом з цэглы; аднапавярховы дом, дом на восем паверхаў; дом з ганкам, дом з балконам; дом злева, дом справа; стары дом, старасвецкі дом.

● В ы в а д. Калі галоўнае слова ў словазлучэнні — назоўнік, то залежнае слова, абазначаючы якую-небудзь прымету, названую назоўнікам, выступае ў ролі азначэння, якой бы часцінай мовы яно ні было выражана.

**42.** Запішыце словазлучэнні і пабудуйце іх схемы. Дакажыце, што запісаныя вамі словазлучэнні згрупаваны па будове. Для гэтага параўнайце схемы ў кожным радзе: што паміж імі агульнае?

Як можна згрупаваць гэтыя словазлучэнні па значэнні? Каб атрымаць адказ, знайдзіце словазлучэнні, у схемах якіх утрымліваецца адно і тое ж пытанне.

1. Прыйсці пад раніцу, схавацца пад стол, спяваць пад гітару.

2. Выступаць з настроем, размаўляць з суседам, прачнуцца з пеўнямі.

3. Кіравацца сумленнем, знікнуць маланкай, ісці сцяжынкай.

## Паслухайце мовазнаўцу!

Аднолькавая будова словазлучэння — істотная, але недастатковая падстава для вызначэння яго граматычнага значэння. Каб вызначыць граматычнае значэнне словазлучэння, патрэбна ўдумацца ў значэнне не толькі галоўнага, але і залежнага слова, асэнсаваць адносіны, якія паміж імі ўзнікаюць *(А. Купалава).*

**43.** Разгледзьце схемы наступных словазлучэнняў: якія пытанні ў іх з'яўляюцца марфалагічнымі (ставяцца для вызначэння часціны мовы ці склонавай формы назоўніка), а якія сінтаксічнымі (высвятляюць граматычнае значэнне адзінкі сінтаксісу — словазлучэння)?




**44.** Вызначце граматычнае значэнне словазлучэнняў. Чым адрозніваюцца словазлучэнні ў парах? Ці можна іх назваць сінанімічнымі? Спішыце, абазначце галоўныя словы, ад іх пастаўце пытанні да залежных.

Тэатральная сцэна — сцэна тэатра, ільняная[м] сукенка — сукенка з **лёну**[а], дзядулеў сад — сад дзядулі, чытальная зала — зала для чытання, Алесін[м] сшытак — сшытак Алесі, жалезныя вароты — вароты з **жалеза**[а].

● З трыма парамі словазлучэнняў складзіце сказы.

● Вызначце, якім членам сказа будуць залежныя словы, выражаныя склонавай формай назоўніка.

**45.** Утварыце свае словазлучэнні з галоўнымі словамі: а) *размаўляць*; б) *гаварыць*. Якімі часцінамі мовы, на вашу думку, можна развіць словазлучэнні, у якіх галоўным словам з'яўляецца дзеяслоў?

У з о р: *размаўляць (па-беларуску)* — валодаць нейкай мовай;
*размаўляць (з трэнерам)* — гутарыць;
*гаварыць (праўду)* — выказваць думкі, пачуцці;
*гаварыць (рашуча)* — якасная характарыстыка.

● Вызначце граматычнае значэнне словазлучэнняў.

**46.** Развіце словазлучэнні словамі, якія абазначаюць прыметы назоўнікаў.

У з о р: *новы (... ...) касцюм — новы братаў спартыўны касцюм.*

*Пратаптаная (... ...)* сцежка, *другі (... ...)* тайм, кава *па-турэцку (... ...),* жаданне *вучыцца (... ...)*, сукенка *з паяском (... ...), офісны (... ...)* камп'ютар, *драўляны (... ...)* куфэрак, цацка *(... ...) з гліны*, паркет *(... ...) з дубу, летні (... ...)* дзень, *сукенка з (... ...)* рукаўчыкамі, *працавітыя (... ...)* рукі, *дэмісезоннае (... ...)* паліто, *выразнае (... ...)* маўленне, *аматар (... ...)* чытаць, *новы (... ...)* дэльфінарый.

**47.** Складзіце і запішыце словазлучэнні са словам *дарога*. Развіце іх так, каб чытач па вашым апісанні мог уявіць сабе: а) дарогу ў асеннім лесе; б) дарогу ў аграгарадку; в) дарогу ў мікрараёне, які будуецца. Пабудуйце схемы атрыманых словазлучэнняў. Прыдумайце з імі сказы.

**48.** Ахарактарызуйце адзін з прадметаў, які прадстаўлены на рэпрадукцыі «Інтэр'ер» У. Сулкоўскага: а) па адносінах да матэрыялу, з якога ён зроблены; б) па размяшчэнні яго ў прасторы; в) па памеры; г) па прызначэнні; д) па тым, што з ім можна зрабіць, і інш.

У з о р: *гліняны кубак, кубак на палічцы, вялікі кубак, кубак для малака, наліць у кубак, разбіць кубак, кубак на памяць.*

● Утвораныя словазлучэнні размяркуйце ў групы са значэннем: а) прадмет і прымета; б) дзеянне і прымета; в) дзеянне і прадмет.

**49.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце паведамленне пра граматычнае значэнне словазлучэнняў.

## Тыпы словазлучэнняў

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Асноўныя групы словазлучэнняў па граматычным значэнні | Прадмет і прымета | Дзеянне і прадмет | Дзеянне і прымета |
| 2. Разнавіднасці словазлучэнняў па спосабе іх выражэння | наз. + наз.<br><br>наз. + прысл.<br><br>прым. + наз.<br><br>займ. + наз. | дзеясл. + наз. ва ўскосных склонах<br><br>дзеясл. + займ. | дзеясл. + дзеясл.<br><br>дзеясл. + прысл. |

Падказка.

1. Успомніце значэнні назоўніка, прыметніка, дзеяслова і прыслоўя. Якія часціны мовы галоўным чынам удзельнічаюць ва ўтварэнні словазлучэнняў, значэнні якіх адлюстраваны ў 1-й частцы табліцы? Чаму?

2. Падбярыце словазлучэнні да 1-й часткі табліцы; абазначце будову словазлучэнняў са значэннем прадмета і яго прыметы (прым. + наз.), дзеяння і прадмета (дзеясл. + наз.), дзеяння і яго прыметы (дзеясл. + прысл.). Складзіце па два словазлучэнні на кожнае значэнне з той жа марфалагічнай будовай.

3. Сярод наступных словазлучэнняў знайдзіце словазлучэнні, якія адпавядаюць схемам, прадстаўленым у 2-й частцы табліцы.

Маляваць фламастарам, кава па-ўсходняму, лодка з маторам, вязаны шалік, кніга сябра, прысвячаю яму, барсукова нара, шыць убор, дасягнуць славы, справядліва вырашыць, спачуваць хвораму, пакласці спаць, супярэчыць прынцыпам, матчына радня, гнуцца к долу, пераскочыць цераз ручай, прыехаць апоўначы, пайсці служыць, рашуча адказаць, працягваць размаўляць, дапамагчы яму, жытняе поле, зайцавы сляды, іншае жыццё.

## § 8. Віды сінтаксічнай сувязі слоў у словазлучэнні: дапасаванне, кіраванне, прымыканне



Адрозніваюць тры віды сінтаксічнай сувязі слоў у словазлучэннях: д а п а с а в а н н е, к і р а в а н н е, п р ы м ы к а н н е.

**Дапасаванне** — такі від сувязі, пры якім залежнае слова ставіцца ў тым жа родзе, ліку і склоне, што і галоўнае: *родн**ы** кут*□ (м. р., адз. л., Н. скл.), *родн**ая** вёск**а*** (ж. р., адз. л., Н. скл.), *родн**ае** паселішч**а*** (н. р., адз. л., Н. скл.), *родн**ыя** мясцін**ы*** (мн. л., Н. скл.).



У гэтым выпадку пры змяненні формы галоўнага слова змяняецца і форма залежнага слова: *роднага кута, роднаму куту...; роднай вёскі, роднай вёсцы...* .

Пры дапасаванні ў ролі галоўнага слова звычайна выступаюць назоўнікі, а ў ролі залежнага слова: прыметнікі *(ціхі вечар, сіняе неба)*, дзеепрыметнікі *(вымытая падлога, прачытаная кніга)*, лічэбнікі *(першая сустрэча)*, займеннікі *(наш клас, кожны дзень)*, назоўнікі *(горад Мінск, рака Няміга)*.

У сказе часцей дапасоўваюцца азначэнні: *Па небе плывуць лёгкія белыя аблачынкі*.

**Кіраванне** — такі від сувязі, пры якім галоўнае слова патрабуе, каб залежнае слова стаяла ў пэўным ускосным склоне (з прыназоўнікам або без прыназоўніка): *звярнуцца* (д а к а г о?) *да сябра, віншаваць* (к а г о?) *юбіляра, багаты* (н а ш т о ?) *на ідэі, устойлівы* (д а ч а г о?) *да захворвання.*



Пры змяненні формы галоўнага слова форма залежнага слова не змяняецца: *звярнуся (звярнуўся, звярнулася, звярнуліся...) да сябра, віншую (віншаваў, віншавалі...) юбіляра, устойлівага (устойлівая, устойлівых...) да захворвання.*

У сказе часцей кіруюцца дапаўненні: *Вецер замятае снегам палі.*

**Прымыканне** — такі від сувязі, пры якім залежнае нязменнае слова спалучаецца з галоўным толькі па сэнсе: *ісці* (я к?) *хутка, чытаць* (я к?) *седзячы, жаданне* (я к о е?) *вучыцца.*



Галоўнае слова ў словазлучэннях з прымыканнем можа быць выражана дзеясловам *(гаварыць хутка)*, назоўнікам *(размова па-беларуску)*, прыметнікам *(надзвычай цікавы)*, прыслоўем *(дастаткова проста).*

Прымыкаюць прыслоўі, інфінітывы і дзеепрыслоўі.

У сказе прыслоўі і дзеепрыслоўі выконваюць ролю акалічнасцей:

*Непадалёку рос малады клён.*

*Хлопец ішоў не спяшаючыся.*

**50.** Прачытайце. Якая асноўная думка верша? Назавіце словазлучэнні, у якіх залежныя словы: а) стаяць у тым жа ліку, родзе, склоне, што і галоўнае; б) спалучаюцца з галоўным ва ўскосным склоне; в) спалучаюцца з галоўным толькі па сэнсе.

Мы трацім[м] слова,
Мы нямеем
І хвалімся,
Што ўжо не ўмеем[а]
Так гаварыць,
Як наша маці,

І дарагую песню
Трацім,
А з ёю цяжка[ф]
Разлучыцца[с] —
Лягчэй забыць,
Як навучыцца.

*С. Грахоўскі.*

**51.** Вызначце від сінтаксічнай сувязі, пабудуйце схему словазлучэння.

У з о р: *увайсці ў клас* — кіраванне (дзеясл. + наз.).

Прафесійны поспех, усім вядомы, аб'яднаныя намаганні, аб'яднаныя па-сапраўднаму, збіраўся займацца, займацца ўсур'ёз, раман у вершах, працаваць бесперапынна.

**52.** Спішыце словазлучэнні. Устанавіце, чым выражаны галоўнае і залежнае словы. Вызначце від сінтаксічнай сувязі залежнага слова з галоўным.

Рознаспрагальныя дзеясловы, на цёмным небе, камандаваць ротай, стыль маўлення, жаданне падарожнічаць, далёка за вёскай, безліч зорак, пяты варыянт, з кожным годам, ісці нетаропка, сказаць маламу, чытаць седзячы, пісаць на адрас.

- Назавіце словазлучэнні, якія ўжываюцца ў навуковым стылі.

---

**Лінгвістычная загадка.** Чаму па-рознаму (разам і праз злучок) пішуцца складаныя прыметнікі ў наступных словазлучэннях?

*Бела-ружовы мармур. Беламармуровы палац.*



**Падказка** (паўтарэнне вядомага для разумення новага).

Складаны прыметнік пішацца разам, калі ўтвораны ад словазлучэння з падпарадкавальнай сувяззю, і праз злучок, калі ўтвораны ад раўнапраўных слоў.

---

**53.** Ад словазлучэнняў і спалучэнняў слоў утварыце і запішыце складаныя прыметнікі. Чым вызначаецца і як паказваецца іх злітнае ці дэфіснае напісанне? Абазначце гэта графічна.

У з о р: *чалавек, які любіць жыццё — жыццелюбівы* (падпарадкаванне).

Чалавек, які зычыць дабра — ...
Заходняя Еўропа — ...
Непранікальны для вады — ...
Водны і паветраны — ...
Паўднёвы і заходні (напрамак) — ...
Белая грыва — ...
Плаваць па вадзе — ...
Сем гадоў — ...

***старэ́йшы за мяне***
***кро́каў за пяць***

**54.** Спішыце словазлучэнні, дапісваючы патрэбныя канчаткі. Назавіце, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца залежныя і галоўныя словы. Які від сувязі ў словазлучэннях? Якое граматычнае значэнне? Ад чаго залежыць выбар канчаткаў?

Сін.. Нарач, малад.. жэньшэнь, сін.. чарніла, прыгож.. цюль, тонк.. вуаль, разборлів.. подпіс, малад.. гусь, залат.. медаль, дзесятков.. дроб, снегав.. коўдра, балюч.. мазоль, шэр.. сабака, кветкав.. шампунь, бел.. лебедзь.

● Назавіце назоўнікі, у якіх формы роду і ліку ў беларускай і рускай мовах не супадаюць. Як гэта ўплывае на маўленчую норму? Прывядзіце свае прыклады.

**55.** Уважліва прачытайце тэкст. Падрыхтуйцеся да яго пераказу, склаўшы план. Па магчымасці праілюструйце тэарэтычныя палажэнні свайго тэксту прыкладамі, падабранымі з дапамогай даведнікаў, інтэрнэту.

### АСАБЛІВАСЦІ КІРАВАННЯ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

У словазлучэннях выразна выяўляецца нацыянальная спецыфіка мовы. Так, у беларускай мове **дзеясловы са значэннем ветлівасці** тыпу ***дзякаваць, выбачаць, дараваць*** утвараюць словазлучэнні з назоўнікамі (займеннікамі) у форме **давальнага** склону: *выбачайце мне, дараваць сябру*.

**Дзеясловы са значэннем руху** тыпу ***ісці, бегчы, плыць***, а таксама **волевыяўленчыя** ***(паслаць, адправіць, выправіць)*** спалучаюцца з назоўнікамі (займеннікамі) у форме **віна-**

**вальнага** склону з прыназоўнікамі ***па, у*** (з назвамі грыбоў і ягад): *пайсці ў грыбы, паслаць па доктара*.

**Дзеясловы са значэннем думкі, маўлення, пачуцця** тыпу ***гаварыць, казаць, распытваць, развражаць, думаць, клапаціцца*** спалучаюцца з назоўнікамі (займеннікамі) у форме **вінавальнага** склону з прыназоўнікам ***пра***: *думаць пра будучае, разважаць пра твор, клапаціцца пра дзяцей*.

**Дзеясловы** тыпу ***смяяцца, жартаваць, рагатаць, насміхацца, здзекавацца, кпіць*** кіруюць назоўнікамі (займеннікамі) **роднага** склону з прыназоўнікам ***з***: *жартаваць з сябра, здзекавацца з палоннага*.

**Дзеясловы *хварэць, захварэць*** ужываюцца з назоўнікамі **вінавальнага** склону з прыназоўнікам ***на***: *хварэць на грып, захварэць на адзёр*.

**Дзеясловы *ажаніць, ажаніцца*** ўжываюцца з назоўнікамі (займеннікамі) **творнага** склону з прыназоўнікам ***з(са)***: *ажаніў сына з суседкай, ажаніцца з Вольгай*.

**Дзеясловы** і **аддзеяслоўныя назоўнікі са значэннем пачуцця жалю, смутку, тугі** кіруюць назоўнікамі ў форме **меснага** склону з прыназоўнікам ***па***: *сумаваць па школе, туга па радзіме*.

**Дзеясловы** і **назоўнікі са значэннем дзеяння** ўжываюцца з назоўнікамі **меснага** склону з прыназоўнікам ***па***: *хадзіць па пакоі, вандроўка па гістарычных мясцінах*.

У беларускай мове шмат іншых спецыфічных словазлучэнняў: *пісаць* ***на*** *адрас, вызначыць* ***на*** *смак, смуткаваць* ***з*** *прычыны, адрозніваццца значэннем, малы памерам, паводле закона, паехаць* ***да*** *брата, дом* ***на*** *два паверхі, стаяць* ***ля (каля)*** *акна, некалькі разоў* ***на*** *тыдзень,* ***на*** *карысць каму, падобны* ***да*** *каго, не выканаць* ***праз*** *лянoту, загадчык аддзела, заляцацца да дзяўчыны, ехаць* ***у*** *млын, узяць шлюб, скасаваць шлюб, даглядаць дзіця* і інш.

● З дапамогай даведнікаў па беларускай мове ці інтэрнэту падрыхтуйце паведамленне «Асаблівасці дапасавання ў беларускай мове (у параўнанні з рускай)».

**56.** Складзіце словазлучэнні. Вызначце склон залежных слоў. Запішыце.

Смяяцца (з к а г о?) ..., пайсці (п а ш т о?) ..., захварэць (н а ш т о?) ..., мост (ц е р а з ш т о?) ..., сумка (ц е р а з ш т о?) ..., прайсці (п р а з ш т о?) ..., прабівацца (п р а з ш т о?) ..., сумаваць (п а к і м?) ..., смялейшы (з а к а г о?) ..., здзекавацца (з к а г о?) ..., ісці (п а ч ы м?) ..., падобны (д а к а г о?) ..., паехаць (д а к а г о?) ... .

● Складзіце 2—3 сказы з утворанымі словазлучэннямі.

**57.** Прачытайце тэкст Анатоля Клышкі і выпішыце з яго адметныя беларускія словазлучэнні. Дапоўніце спіс адметных беларускіх словазлучэнняў сваімі прыкладамі.

Беларусы хлеб рэжуць, ці крояць, атрымліваюцца **скібкі**[ф]. Сала — толькі **рэжуць** і на талерку кладуць **скрылікі**.

Масла — толькі каровіна, сметанковае масла, топленае масла. З расліны — алей, аліўкавы, ільняны[а], канапляны, праванскі, сланечнікавы.

З мясных[сл] страў адзначым хоць бы такія беларускія[сл] назвы: ялавічына (рус. говядина), смажаніна (рус. жаркое), смажонка (рус. поджарка), шынка (рус. ветчина), сальцісон (рус. зельц), кіндзюк (рус. рубец). Астатняе ўсё, як адзначалася, у слоўніках.

Прыпомнім яшчэ, што бульбу ў нас **абіраюць**, а маладую, з якой лёгка[с] здымаецца[с] лупінка, **скрабуць**.

Не лішне, відаць, тут будзе зазначыць, што «кипяток» мае тры адпаведнікі **кіпень, кіпецень, вар**. Якое слова з дзяцінства вам бліжэйшае, тое і ўжывайце.

Хоць «вскипятить» па-беларуску **закіпяціць**, аднак пра ваду часцей кажуць **згатаваць вады**, пра малако — **спарыць малака**. І адпаведна — **гатаваная** вада, **паранае** малако. А «парное молоко» — па-беларуску **сырадой**[с].

Варачы, вам, пэўна ж, спатрэбяцца словы **прыгаршчы, жменя, шчопці, тры пальцы**, каб што ўзяць і ўкінуць у чыгун ці гаршчок — ад круп да солі.

Заўважце[м] адметнасць граматычнага роду такіх слоў: **пара** (ж. р.) — рус. **пар** (м. р.), **селядзец** (м. р.) — рус. **селёдка** (ж. р.), **яблык** (м. р.) — рус. **яблоко** (н. р.).

Тым часам, заслаўшы настольнік, абрус, можна **сабраць стол** (рус. накрыть на стол). «Кушайте!» — ешце! Або: піце! «Пожалуйте кушать!» — просім (прашу) да стала! Або: калі ласка, да стала!

Тут ужо можна што **ўзяць у рот, паесці, падмацавацца, падсілкавацца, пажывіцца, прагнаць голад і смагу, закусіць, перакусіць, адведаць (чаго), паспытаць, пакаштаваць, чым добрым паласавацца**.

Чым хата багата, тым і рада!

**58.** Перакладзіце словазлучэнні і сказы на беларускую мову. Запішыце.

а) Пойти за ягодами, гулять по вечерам, заведующий библиотекой, три книги, два стола, четыре новых дома, ходить за водой, заботиться о родителях, старше всех нас, в тридцати шагах, читать про себя, стоять у окна, шутить над братом, болеть ангиной, жениться на однокласснице, несколько раз в месяц.

б) 1. Более ста книг передали шефы детскому дому. 2. Квартира из трёх комнат — это нам подходит. 3. Автобус заехал за учащимися позже обычного. 4. Приглашения отправили уже по новому адресу. 5. Остатки прошлогоднего зерна повезли на мельницу. 6. Два пятиэтажных дома будет выделено молодым специалистам.

● Параўнайце асаблівасці будовы словазлучэнняў у беларускай і рускай мовах.

**59.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Ці згодны вы з аўтарам? Выпішыце адметныя беларускія словазлучэнні і вызначце спосабы сінтаксічнай сувязі.

**Шарая гадзіна** — гэта змрок увечары пасля захаду сонца, калі яшчэ не цёмна, але ўжо і не дзень. Для мяне,

напрыклад, з дзяцінства гэта час, калі людзі вяртаюцца з поля, уходжваюцца каля дому, маці доіць карову. Прыбег знадворку і кот, сеў каля каровы, чакаючы свае порцыі сырадою...

У кожнай мовы, дакладней, у кожнага народа, апроч гадзіннікавага абазначэння часу, ёсць і іншы адметны падзел. Пры перакладзе на іншую мову часам нават нельга знайсці дакладны адпаведнік такому пэўнаму прамежку і часта даводзіцца рабіць апісальны пераклад.

Не знаходжу і я такога адпаведніка нашай **шарай гадзіне** ў рускай мове. Можа, «сумерки»? Але ж па-нашаму гэта змярканне, прыцемак.

У некаторых мовах побач з такімі слоўнікамі, як тлумачальныя, фразеалагічныя, сінанімічныя і іншыя, ёсць і такія, дзе апісваецца, скажам, уся градацыя пераходу ад хады да бегу, часу праз цэлы дзень — ад цёмнага да цёмнага. У такім беларускім слоўніку (давайце памарым!), пэўна, знайшліся б гэтакія словы для вызначэння часу пасля полудня: *схіліла (сышло) з поўдня, пад вечар, надвечар (бралася надвечар), на захадзе сонца, пасля захаду, на змярканні, на прыцемку, на шарай гадзіне, увечары* і г. д.

Такога слоўніка ў нас яшчэ няма, але ў вас павінны быць хоць асобныя старонкі такога вашага слоўніка, каб ваша мова была яскравая і паслухмяная, каб яна «сказала» ўсё, што вам хацелася б выказаць.

Нярэдка ў нашым друку можна сустрэць і такое напісанне: **шэрая гадзіна**. Мне здаецца, карэктары тут перастараліся. Бо **шарая гадзіна** сваёй назвай напамінае не так пра шэры колер, як пра вячэрнюю пару, калі **шарэе**. Ад гэтага слова і **шарая гадзіна** *(Паводле А. Клышкі)*.

● Выпішыце з тэксту прыслоўі, растлумачце іх правапіс.

**60.** Папрацуйце карэктарам. Запішыце выпраўлены тэкст.

Міхалка — ён быў меншы сваёй сястры — хварэў ангінай. Але хвароба прайшла, і хлопчык пачаў выходзіць на двор, гуляць у саду. А яшчэ праз некалькі дзён ён зайшоў за та-

варышам, і яны разам пайшлі за грыбамі. Хлопчыкі ішлі і спявалі. Далёка чуваць было песню. Сустрэў хлопчыкаў стары дзядуля і сказаў ласкава: «Дзякую вас за песню».

● Чым абумоўлены характар памылак у тэксце? Сваю думку абгрунтуйце.

**61.** Запішыце сказы, выбраўшы з дужак патрэбнае слова. Абазначце склон залежнага слова.

1. Мы да гэтага не *(дадумаліся, дагадаліся)*.
2. Да заўвагі патрэбна *(услухацца, прыслухацца)*.
3. Вось да чаго няўважлівасць *(даводзіць, прыводзіць)*.

**62.** Утварыце як мага больш словазлучэнняў, выкарыстаўшы прапанаваныя словы ў ролі галоўных.

У з о р: *вучыцца — вучыцца ў школе, вучыцца ў бацькі, вучыцца на медсястру, вучыцца рашэнню крыжаванак, вучыцца з задавальненнем, вучыцца плаваць, вучыцца на «дзясяткі»*.

Працаваць, спрачацца, няёмка, сямнаццаць, спяшаючыся, свята, праца, шчасце, захапленне, хутка.

**63.** Наступныя сказы зрабіце развітымі, выкарыстаўшы залежныя словы спачатку да групы дзейніка, затым да групы выказніка. Свае сказы запішыце.

У з о р. *Адгукнулася рэха.*
*Рэха* — дзейнік. *Рэха* (я к о е?) *гучнае, лясное, звонкае...* .
*Адгукнулася* — выказнік.
*Адгукнулася* (д з е?) *недзе, збоку, удалечыні, за возерам...;*
(я к?) *гучна, імгненна, палахліва...;*
(н а ш т о ?) *на голас, на песню, на гром...* .
*Лясное рэха палахліва адгукнулася на голас.*
*Адгукнулася* (н а ш т о?) *на голас* (я к і?) *звонкі, птушкі, чалавека...* .
*Лясное рэха палахліва адгукнулася на голас птушкі.*

Выбліснула сонца. Заспяваў салавей. Паліў дождж.

## § 9. Непадзельныя словазлучэнні



Звычайна кожнае слова, якое ўваходзіць у словазлучэнне, з'яўляецца асобным членам сказа. Такія словазлучэнні з'яўляюцца **свабоднымі**. Аднак ёсць і такія словазлучэнні, якія захоўваюць сваю цэласнасць і ў сказе выконваюць ролю аднаго члена сказа. Такія словазлучэнні называюцца **непадзельнымі**. Галоўнае слова ў такіх словазлучэннях не мае дастатковай для члена сказа сэнсавай паўнаты. Параўн.: *Здалёк віднееецца мора. — Здалёк віднееецца Чорнае мора.*

Найбольш ужывальнымі з'яўляюцца наступныя непадзельныя словазлучэнні:

1) словазлучэнні з галоўным словам лічэбнікам: *двое чалавек, пяць баброў, сотні дарог* і інш.: *Абодва яны не спяшаліся ісці дадому* (А. Пальчэўскі);

2) словазлучэнні, у склад якіх уваходзіць прыназоўнік ***з*** з агульным значэннем выбарнасці: *хтосьці з вучняў, адзін з гарадоў, кожны з нас* і інш.: *Кожны з нас адчуваў трывогу* (К. Кірэенка);

3) словазлучэнні, у склад якіх уваходзіць прыназоўнік ***з*** з агульным значэннем сумеснасці: *бацька з сынам, нітка з іголкай, мы з табой* і інш.: *Рэдка сонца з месяцам страчаюцца* (П. Панчанка).

З а ў в а г а. Калі ў сказе выказнік ужываецца ў форме адзіночнага ліку, то такога тыпу словазлучэнні становяцца члянімымі, а назоўнік з прыназоўнікам выконваюць ролю дапаўнення. Параўн.: *Бацька з сынам пайшоў у тэатр. — Бацька з сынам пайшлі ў тэатр*;

4) словазлучэнні тыпу *з блакітнымі вачыма, з кірпатым носам, з круглым тварам, чалавек высокага росту* і да таго падобныя: *Клоўн з чырвоным носам выбег на арэну*;

5) састаўныя непадзельныя ўласныя назвы тыпу *Адам Міцкевіч, Мірскі замак, Вялікае Княства Літоўскае: Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч з'яўляецца аўтарам першай*

*граматыкі беларускай мовы для школы. Паэма «Новая зямля» напісана Якубам Коласам.*

Веданне непадзельных словазлучэнняў робіць больш лёгкім і асэнсаваным разбор па членах сказа: *Многа снегу намяло, бо снег ішоў два тыдні запар.*

**64.** Са словамі *галава, мора, вочы, бант* складзіце падзельныя (свабодныя) і непадзельныя словазлучэнні.

Узор: *выдзяляцца* (чым?) *ростам* (св.);
*хлопец* (які?) *высокага росту* (непадз.).

***сíвы конь***
***сівы́ плашч***

**65.** Спішыце, падкрэсліваючы граматычныя асновы, а таксама непадзельныя словазлучэнні як члены сказа.

1. Бацька з сынам даўно ўжо працуюць на заводзе разам *(У. Мароз)*. 2. Насустрач нам выйшла дзяўчынка з чорнымі вачыма *(К. Чорны)*. 3. У адным класе сядзелі дзеці вельмі markрознага ўзросту *(Н. Гілевіч)*. 4. Некалі на Замкавай гары ўзвышаўся велічны шматвежавы замак *(А. Трусаў)*. 5. Хлопец прынёс у рэдакцыю часопіса два запоўненыя вершамі сшыткі *(У. Мароз)*. 6. У такі ранні час ні адна жывая душа не прыйшла купацца *(І. Навуменка)*.

## § 10. Навуковы стыль маўлення (паглыбленне)



**Навуковы стыль** — гэта стыль навуковых артыкулаў, дакладаў, падручнікаў і інш.

**Задача** навуковага стылю — па магчымасці **дакладна** і **поўна** растлумачыць факты рэчаіснасці, паказаць прычынна-выніковыя сувязі паміж з’явамі, высветліць заканамернасці гістарычнага развіцця, абагульніць інфармацыю і інш.

Асноўныя **рысы стылю**:

● падкрэсленая лагічнасць (паслядоўнасць, звязнасць) выкладу;

● адназначнасць, дакладнасць, сціласць пры інфармацыйнай насычанасці зместу;

● канкрэтнасць, аб'ектыўнасць выказвання.

Характэрныя **асаблівасці** навуковага стылю:

● насычанасць тэрмінамі, якія, па словах навукоўцаў, складаюць 15—20 % усёй лексікі;

● навуковая фразеалогія (*прамы вугал*, *від разбору, корань слова* і інш.);

● пераважнасць абстрактнай лексікі (*адметнасць, самасвядомасць, дзейнасць, развіццё* і інш.);

● ужыванне формы адзіночнага ліку ў значэнні множнага (*Воўк — драпежная жывёла з роду сабак*);

● пераважнае ўжыванне назоўнікаў замест дзеясловаў (*мае месца павышэнне тэмпературы* — замест *павышаецца тэмпература*);

● у пачатку сказа звычайна стаіць не дзейнік (з дзейнікаў могуць пачынацца першыя сказы абзацаў), а даданыя члены сказа (акалічнасці, дапаўненні): *Падобныя прыклады разглядаліся з пункта погляду семантычнага аналізу* (Г. Вярштат); пабочныя канструкцыі: *Такім чынам, вялікае значэнне набываюць меры па ахове чысціні ўнутранага асяроддзя арганізма чалавека* (акадэмік А. Пакроўскі); дзеепрыслоўныя словазлучэнні: *Распачынаючы даследаванне абранай тэмы, неабходна вызначыцца са спісам літаратуры* (Р. Матульскі); даданыя часткі сказа: *Калі грамадства здолее перамагчы слоўнае хамства, тым самым будуць павялічаны духоўныя сілы і знешнія праявы ўзаемнай павагі людзей* (Б. Галавін) і інш.

**66.** Пазнаёмцеся з артыкулам «Лексічная спалучальнасць» з «Энцыклапедычнага слоўніка юнага філолага». Падрыхтуйцеся да пераказу тэксту, вызначыўшы апорныя словазлучэнні. Тэарэтычныя палажэнні можна ілюстраваць уласнымі прыкладамі.

Словы ў сказе звязаны адно з адным **граматычна і па сэнсе. Граматычныя сувязі** забяспечваюць граматычную

правільнасць маўлення. Прыклады граматычных сувязей: дапасаванне прыметніка-азначэння да паяснёнага назоўніка ў родзе, ліку, склоне *(спелы колас — спелая вішня — спелы яблык — спелыя плады)*, дзеяслоўнае кіраванне назоўнікамі *(забіваю цвік, выйшаў на вуліцу, займаліся спортам)*.

**Сэнсавыя сувязі** забяспечваюць правільнасць выказвання па сэнсе.

Ужываючы слова ў маўленні, мы павінны дапасоўваць яго па сэнсе да іншых слоў. Гэта сэнсавае дапасаванне выражаецца ў двух тыпах славеснай спалучальнасці — с е м а н т ы ч н а й і л е к с і ч н а й.

**Семантычная спалучальнасць слова** — гэта здольнасць слова спалучацца з цэлымі класамі слоў, якія аб'ядноўваюцца агульнасцю сэнсу. Напрыклад, дзеясловы *думаць, меркаваць, радавацца, смяяцца, сумаваць* і іншыя адлюстроўваюць розны стан чалавека (гэта і ёсць адзін з семантычных класаў): *хлопчык, дзядуля, прахожы, доктар, настаўніца* і інш. Толькі ў казцы ці ў фантастычным апавяданні можна выкарыстаць выразы тыпу *Каза задумалася. Шафа засмяялася.*

**Лексічная спалучальнасць слова** — гэта яго здольнасць уступаць у спалучэнні не з любым словам якога-небудзь семантычнага класа, а толькі з некаторымі. Напрыклад, існуе клас слоў, аб'яднаных агульным сэнсам ***'мноства, сукупнасць'***: *статак, табун, чарада, рой, касяк* і інш.

Пры патрэбе абазначыць мноства пэўнай жывёлы мы выберам толькі адно з гэтых слоў, іншыя будуць неспалучальнымі. Кажуць: *статак кароў, табун коней, чарада птушак, рой пчол, касяк рыбы* (але не «статак рыбы», «чарада пчол», «рой коней» і інш.).

Пішуць: *здзейсніць напад, правесці агляд, даць параду*. Відавочна, дзеясловы *здзейсніць, правесці, даць* у гэтых спалучэннях маюць адну і тую ж ролю — «адзеяслоўліваюць» назоўнік, які пры неабходнасці лёгка ператварыць у дзеяслоў, роўны па сэнсе ўсяму словазлучэнню: *напасці, агледзець, параіць*. Аднак мова дакладна размяжоўвае спалучальнасць гэтых дзеясловаў (і назоўнікаў з дзеясловамі), і ні адзін чалавек не скажа і не напіша *«здзейсніць параду»* ці *«выконвалі супраціўленне»*.

Уражвае тая выбіральная сіла, якой надзелена моўная свядомасць чалавека, які гаворыць на роднай для яго мове: ён не памыліцца, не зблытае звароты *страціць цярпенне* і *патраціць грошы*. Але якім складаным павінен быць той маўленчы апарат, які кіруе лексічнай спалучальнасцю!

Выбіральнасць мовы ў слоўных спалучэннях спараджае яе нацыянальную самабытнасць і выразнасць. Гэтыя якасці фарміруюцца вякамі, у працэсе працяглага ўжывання слова. Яны адрозніваюць адну мову ад другой і складаюць галоўную цяжкасць пры аваладанні кожнай мовай.

**67.** Падбярыце да слова *тэма* словы-спадарожнікі і афарміце запісы ў сшытку, вызначаючы склон слова *тэма*.

*Тэма* можа быць...; *ад тэмы* можна...; *да тэмы* можна...; *на тэму* можна...; *тэму* можна...; *па тэме* можна...; *тэмаю* можна... .

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *выбраць, закрануць, адхіліцца, цікавая, гаварыць, вяртацца, шырокі, вузкі, развіваць, удакладніць, арыгінальны, зацікавіцца, перайсці, зададзены, сфармуляваць, новы, пісаць, вечны, разважаць, знайсці.*

**68.** Складзіце і запішыце словазлучэнні з улікам лексічнай спалучальнасці прыметнікаў (1) і дзеясловаў (2) з назоўнікамі, што дадзены ў дужках.

1. Шаўкавісты[м], шаўковы[м] *(валасы, сукенка)*; пясчаны, пясочны *(бераг, гадзіннік, дно)*; лясны, лясісты *(мясцовасць, ягада, звер)*; дробны, дробавы *(гандаль, пясок, лічэбнік)*; даходлівы, даходны *(месца, мова, тлумачэнне)*; класны, класічны, класавы *(мова, сход, барацьба, журнал, прыклад, спадчына)*.

2. Абагульніць, абагуліць *(факты, гаспадаркі, жывёла)*; даказаць, абгрунтаваць *(тэарэма, тэорыя)*; выявіць, адкрыць *(закон, заканамернасць)*; раздрабіць, раздрабніць *(корм, шкло)*.

● Назавіце від сувязі слоў у словазлучэннях і іх граматычнае значэнне.

## § 11. Афіцыйны стыль маўлення (паглыбленне)



**Успомніце!** У чым асаблівасці афіцыйнага стылю? У якіх сітуацыях дарэчы ўжыванне афіцыйнага стылю.

**69.** Удакладніце значэнне слова *канцылярызм* па слоўніку.



**Сфера** функцыянавання афіцыйнага стылю — гэта кіраванне, права, справаводства.

**Мэта** тэкстаў афіцыйнага стылю — рэгуляванне дзяржаўных, сацыяльных, службовых, дзелавых і асобасных стасункаў людзей.

Большасць тэкстаў афіцыйнага стылю існуе ў **пісьмовай форме** — міжнародныя дамовы, дзяржаўныя акты, законы, пастановы, інструкцыі, характарыстыкі, загады, даверанасці, аб'явы, заявы, дакладныя, накладныя і інш.

Найбольш агульнымі якасцямі тэкстаў афіцыйнага стылю лічацца дакладнасць, адназначнасць фармулёвак, інфарматыўнасць, прадпісальна-абавязковы, неасобасны характар выкладу («з вамі гаворыць не чалавек, а закон»), стандартнасць, кампактнасць структуры тэксту, аднастайнасць моўных сродкаў, адсутнасць эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці.

**Лексіка** тэкстаў афіцыйнага стылю характарызуецца выкарыстаннем экспрэсіўна не афарбаваных слоў *(заканадаўства, ісцец, сведка, канстытуцыя)*, стандартызаваных выразаў і штампаў *(аказанне дапамогі, пасведчанне аб нараджэнні, зыходзячы з абставін, прыцягненне да адказнасці, давесці да ведама, з мэтай забеспячэння)*, канцылярызмаў *(вышэйзгада́ны, ніжэйпададзены, ануліраваць)*, тэрмінаў *(правадзейнасць, кватэранаймальнік)*, абрэвіятур і складанаскарочаных слоў *(БДУ, Дзяржкантроль, выканкам)*, шматлікія графічныя скарачэнні (*вул.* — вуліца, *пр.* — праспект, *праф.* — прафесар).

На **марфалагічным** узроўні спецыфіку тэкстаў афіцыйнага стылю ўтвараюць такія рысы: перавага аддзеяслоўных назоўнікаў *(рэгуляванне, раздзяржаўленне, выданне, размеркаванне абавязкаў)*, ужыванне дзеясловаў 3-й асобы, інфінітываў, ужыванне складаных адыменных прыназоўнікаў *(з мэтай, у адпаведнасці, у сувязі)*, састаўных злучнікаў *(у выніку чаго; з прычыны таго, што; для таго каб)*. Назоўнікі, якія абазначаюць пасаду ці званне, выкарыстоўваюцца ў форме мужчынскага роду *(супрацоўнік міліцыі Пятроўская Т. М., доктар Кавалёва Т. П.)*.

Для **сінтаксісу** тэкстаў афіцыйнага стылю характэрна выкарыстанне сказаў, ускладненых адасобленымі зваротамі і радамі аднародных членаў, прамы парадак слоў у сказе, ужыванне ўмоўных канструкцый. Сродкі сувязі адрозніваюцца складанасцю *(у выніку таго што; з прычыны таго што)*, а паўторы ключавых слоў і тэрмінаў лічацца нормай.

На **тэкставым узроўні** афіцыйны стыль таксама мае некаторыя асаблівасці: пераважаюць такія спецыфічныя тэксты, як канстатацыя (устанаўленне наяўнасці чаго-небудзь), а ў некаторых тэкстах (напрыклад, пратаколах) сустракаецца апісанне; стэрэатыпная кампазіцыя; дакладнасць інфармацыі; лексічных (паўтораў) і граматычных сродкаў сувязі; дырэктыўныя сродкі ўздзеяння на адрасата з мэтай успрымання і дзеяння; памер тэкстаў значна вар'іруецца (заява і канстытуцыя); большасць тэкстаў мае форму маналогу, дыялог сустракаецца радзей (рэзалюцыя на заяве); у афіцыйным стылі пераважаюць графічныя сродкі афармлення (загады, хадайніцтвы, дагаворы і інш.).

**70.** Разгледзьце папярэдне прынесеныя бланкі афіцыйнай дакументацыі (бланкі тэлеграм, квіткі аплаты камунальных і іншых паслуг), узоры загадаў і пастаноў, дзяржаўныя дакументы (іх можна знайсці ў выданнях перыядычнага друку) ці іншыя афіцыйныя дакументы, якія ёсць у вас дома.

Ахарактарызуйце некалькі дакументаў, абапіраючыся на тэарэтычныя палажэнні § 11.

**71.** Спачатку разгледзьце тэкст, а затым прачытайце пастанову.

## АБ ПРАВІЛАХ
## БЕЛАРУСКАЙ АРФАГРАФІІ І ПУНКТУАЦЫІ

Закон Рэспублікі Беларусь
23 ліпеня 2008 г. № 420-З

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў* *24 чэрвеня 2008 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі* *28 чэрвеня 2008 года*

**Артыкул 1.** Зацвердзіць Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі (прыкладаюцца).

**Артыкул 2.** Дзяржаўныя органы, іншыя арганізацыі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна ці часова пражываюць або часова знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, павінны кіравацца Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, зацверджанымі гэтым Законам, ва ўсіх сферах і выпадках выкарыстання пісьмовай беларускай мовы.

**Артыкул 3.** Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 верасня 2010 года:

забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Законам;

прыняць іншыя меры, неабходныя для рэалізацыі палажэнняў гэтага Закона.

**Артыкул 4.** Гэты Закон уступае ў сілу з 1 верасня 2010 года, за выключэннем гэтага артыкула і артыкула 3 дадзенага Закона, якія ўступаюць у сілу з дня афіцыйнага апублікавання гэтага Закона.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь** **А. Р. Лукашэнка**

- Назавіце спецыфічныя рысы афіцыйнага стылю гэтага дакумента.
- Растлумачце ўжыванне вялікай літары ў тэксце.

**72.** Уважліва разгледзьце графічнае афармленне ліста-адказу. У чым яго спецыфіка?

| Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь | Министерство внутренних дел Республики Беларусь |
|---|---|
| Гарадскі Вал, 2<br>220050, г. Мінск | Городской Вал, 2<br>220050, г. Минск |
| Тэл. (017) 218-79-62,<br>факс 203-99-18 | Тел. (017) 218-79-62,<br>факс 203-99-18 |

---

*15.01.07* № *22/вх 2497*

---

На № *155* ад *10.12.2006*

ул. Румянцева, 13
220034, г. Минск
«Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны»

**Паважаны спадар Трусаў!**

Міністэрствам унутраных спраў Рэспублікі Беларусь разгледжаны Ваш зварот адносна выдання на беларускай мове Правілаў дарожнага руху. Па закранутым пытанні МУС Рэспублікі Беларусь накіраваны запыт у выдавецтва.

Аб выніках запыту мы паведамім Вам пазней.

Намеснік міністра — В. Л. Палякоў

● Напішыце два лісты: 1) ліст-запыт у афіцыйную ўстанову з якой-небудзь прапановай, напрыклад аб небходнасці пабудовы стадыёна ў вашым раёне, установуцы дарожнага знака на небяспечным пераходзе ці па іншых важных праблемах; 2) ліст-падзяку за якаснае выкананне абавязкаў урачу паліклінікі, дворніку, супрацоўніку службы бытавых паслуг і інш.

**73.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль.

Судовы следчы п. Багушэвіч валодае высокім узроўнем сваёй прафесіі, у выніку чаго мае вельмі нязначную коль-

касць нераскрытых злачынстваў па справах, яму даручаных... Па шэрагу следчых спраў ён не заўсёды прымаў мае ўказанні, праяўляў пры гэтым упартасць і без належных падстаў, зыходзячы з так званай гуманнай мэтазгоднасці, адмаўляў у прыцягненні да крымінальнай адказнасці асоб, якіх трэба было прыцягнуць...

*З атэстацыйнага матэрыялу таварыша пракурора на судовага следчага Ф. К. Багушэвіча.*

● Параўнайце характарыстыкі, дадзеныя Францішку Багушэвічу ім самім (гл. тэкст практ. 13) і «таварышам пракурорам». Назавіце моўныя асаблівасці тэкстаў.

**74.** Падумайце, ці правільна напісана аб'ява.

**Аб'ява**

Увага! Магазін «Залаты пеўнік» прымае яйкі ад курэй.

Адміністрацыя.

● Растлумачце, чым выклікана граматычная памылка. Запішыце змест аб'явы правільна.

**75.** Адкажыце на пытанні так, каб ваш адказ з'яўляўся фрагментам якога-небудзь афіцыйнага дакумента: аб'явы, інструкцыі, даведкі.

1. Якія дакументы трэба здаць у прыёмную камісію, каб паступіць у каледж? 2. Ці заверыць натарыус копію дакумента, калі ў вас няма з сабой пашпарта? 3. Ці можна ездзіць у аўтобусах і тралейбусах у спецвопратцы? 4. Ці могуць вам памяняць пасведчанне, калі няма новай фатаграфіі?

С л о в ы д л я д а в е д к і.

Арыгінал дакумента аб адукацыі; арыгіналы сертыфікатаў цэнтралізаванага тэсціравання, праведзенага ў Рэспубліцы Беларусь у год прыёму; медыцынская даведка аб стане здароўя па форме, устаноўленай Міністэрствам аховы здароўя; пашпарт; парушэнне прадугледжвае штраф.

## Сінтаксічны разбор словазлучэння

П а р а д а к р а з б о р у

1. Выдзеліце словазлучэнне са сказа.

2. Вызначце будову словазлучэння: знайдзіце галоўнае і залежнае словы; укажыце, якімі часцінамі мовы яны выражаны; устанавіце від сінтаксічнай сувязі паміж галоўным і залежным словамі.

3. Укажыце граматычнае значэнне словазлучэння. Падбярыце, калі гэта магчыма, сінанімічныя словазлучэнні.

*Пушыста ўсцілае дол густая дзераза* (А. Жук).

### *Вусны разбор*

*Густая дзераза* — словазлучэнне.

Будова: галоўнае слова — *дзераза*, выражана назоўнікам; залежнае слова — *густая*, выражана прыметнікам, які дапасуецца да слова *дзераза* ў назоўным склоне, жаночым родзе, адзіночным ліку. Від сінтаксічнай сувязі — дапасаванне. Граматычнае значэнне: прадмет і яго прымета.

*Усцілае дол* — словазлучэнне.

Будова: галоўнае слова — *усцілае*, выражана дзеясловам; залежнае слова — *дол*, выражана назоўнікам у форме вінавальнага склону. Від сінтаксічнай сувязі — кіраванне. Граматычнае значэнне: дзеянне і прадмет, на які яно пераходзіць.

*Усцілае пушыста* — словазлучэнне.

Будова: галоўнае слова — *усцілае*, выражана дзеясловам; залежнае слова — *пушыста*, выражана прыслоўем. Від сінтаксічнай сувязі — прымыканне. Граматычнае значэнне: дзеянне і яго прымета.

### *Пісьмовы разбор*

прым. ← я к а я? × наз.
*густая дзераза* (дапасаванне; прадмет і яго прымета);

дзеясл. × ш т о? → наз.
*усцілае дол* (кіраванне; дзеянне і прадмет);

дзеясл. × я к? → наз.
*усцілае пушыста* (прымыканне; дзеянне і яго прымета).

## Праверце сябе

1. Што называецца словазлучэннем?
2. Якія словазлучэнні з'яўляюцца: а) іменнымі; б) дзеяслоўнымі; в) прыслоўнымі?
3. Якія граматычныя значэнні могуць мець словазлучэнні?
4. Якія віды сінтаксічнай сувязі вы ведаеце?
5. Словы якіх часцін мовы дапасуюцца да галоўнага слова? Словы якіх часцін мовы патрабуюць кіравання? Якія часціны мовы патрабуюць прымыкання?
6. У чым асаблівасць непадзельных словазлучэнняў? Чым яны адрозніваюцца ад свабодных словазлучэнняў?
7. Раскажыце пра асаблівасці кіравання і дапасавання ў беларускай мове.

# ПРОСТЫ СКАЗ

## ДВУХСАСТАЎНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ



**76.** Якія бываюць сказы па колькасці граматычных асноў? Запішыце прыклады простых і складаных сказаў і падкрэсліце ў кожным граматычную аснову.

**77.** Дакажыце, што наступныя выказванні з'яўляюцца сказамі. Якія прыметы сказаў яны маюць?

1. Маладзік да бярэзінкі туліцца, маладзенькія зоркі пасе. 2. І калі ж мы самімі сабою будзем крочыць узнёсла і жыць? 3. Святло ў сабе не патушы: дбай аб душы! *(М. Пазнякоў).*

### § 12. Сказ як асноўная камунікатыўная адзінка

**Сказ** — гэта асноўная адзінка сінтаксісу, сродак фарміравання, выражэння і паведамлення думкі, перадачы эмоцый і волевыяўлення.



Асноўнае прызначэнне сказа — паведамленне аб фактах рэчаіснасці.

Сказ мае свае **характэрныя прыметы**, якія адрозніваюць яго ад словазлучэння:

1) сказ з'яўляецца выказваннем аб прадмеце маўлення. Паведамленне, пытанне і пабуджэнне — гэта разнавіднасці выказвання;

2) сказ служыць адзінкай маўленчых зносін;

3) сказ мае граматычную аснову;

4) сказ характарызуецца інтанацыйнай завершанасцю.

Напрыклад: *Хто не бачыў вялікага, той з малога дзівіцца* (Прыказка). *І хіба можна ўстрымацца, у час касьбы не пакупацца?* (Я. Колас). *Эх, лес! Колькі чаго давялося бачыць яму на сваім вяку!* (Я. Колас).

Каб правільна вызначыць межы сказаў, неабходна ўмець знаходзіць граматычную аснову і адрозніваць інтанацыю сказа.

**78.** Уважліва разгледзьце і прачытайце наступны матэрыял. Ці зразумела тое, што напісана? Чаму? Што патрэбна зрабіць, каб атрымаўся тэкст? Вызначце межы сказаў, расстаўляючы знакі прыпынку. Не забывайцеся пра абзацы: новая мікратэма запісваецца з чырвонага радка.

На Беларусі жывуць не толькі беларусы дзеці розных народаў знаходзілі тут свой прытулак і спакон веку павялося што ўсе жылі мірна паважалі адзін аднаго разам баранілі гэтую зямлю ад нападнікаў многія вёскі на нашай зямлі маюць назвы Татары або Татарскія беларускія татары змагаліся разам з беларусамі пад Грунвальдам супраць крыжакоў старажытныя кнігі нашых татараў кітабы напісаны арабскімі літарамі але на беларускай мове славіліся людзі з гэтага народа як добрыя майстры працавітыя і сумленныя было такое паселішча і ў нашых мясцінах побач аддзеленыя невялікай паласой лесу стаялі дзве вёскі — беларуская і татарская жыхары іх сябравалі размаўлялі на адной мове бралі ваду з адной ракі моладзь разам ладзіла пагулянкі адзінае раней не было такога каб браліся шлюбам хто звяртаецца да Бога па-рознаму *(Л. Рублеўская).*

***аб'і́нец***
***ву́сы***
***а́тлас*** *(геаграфічны)*
***атла́с*** *(тканіна)*



**79.** Прачытайце сказы. Ахарактарызуйце іх па мэце выказвання.

1. Ці чыталі вы філасофскія казкі Алены Масла — загадчыцы дзіцячай рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура[а]»?

2. Казка «Меч у магіле, альбо Кадзіла сармацкае[a]» раскрывае тэму патрыятызму, годнасці роду, цвёрдасці духу, адказнасці за свае ўчынкі.

3. Абавязкова прачытайце кнігу Людмілы Рублеўскай «Карона на дне віра, альбо Казкі з хутара Юстыны[a]».



Пытальныя сказы неабходна адрозніваць ад пытальна-пабуджальных (рытарычных) сказаў, якія змяшчаюць адкрытае сцверджанне ці адмаўленне і не патрабуюць адказу. Яны з'яўляюцца выразным стылістычным сродкам эмацыянальнай афарбаванасці маўлення. Пытальна-пабуджальная інтанацыя абазначаецца на пісьме пытальнікам або пытальнікам і клічнікам: *Хто не любіць спякотным днём пасядзець на беразе возера?!* (А. Асіпенка).

**80.** Прачытайце тэкст. Ахарактарызуйце сказы па эмацыянальнай афарбоўцы.

Пан яшчэ ўдзень[a] паслаў ганцоў ва ўсю аколіцу шукаць Сымона.

Цяпер абдумваў вельмі важную справу: як пакараць хама[a]?

У канцы вырашыў: усыпаць добрых бізуноў і аддаць у салдаты!

Пасля гэтага думкі яго зноў накіраваліся, нібы хмары ветрам, у другі бок — да тэатра *(З. Бядуля)*.



Яркая эмацыянальная афарбоўка клічных сказаў спрыяе актыўнаму выкарыстанню іх у мове мастацкай і публіцыстычнай літаратуры. Гэтыя сказы характэрныя таксама і для гутарковай мовы.

**81.** Прачытайце тэкст. Назавіце пабуджальныя сказы, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

У аэрапорце[a], ідучы на багажны дагляд[сл] і рэгістрацыю, Анжэла на пытанне Лізы: «Што табе пажадаць на развітанне?» — весела адказала:

— Дык ні пуху ні пер'я!

— К чорту!

— Чакай мяне... Праз год на летнія канікулы прылячу ў госці... — выгукнула[с] наўздагон Анжэле Ліза *(Я. Хвалей)*.

● Назавіце фразеалагізмы, растлумачце іх значэнне і ролю ў тэксце.

**82.** Прачытайце тэкст. Ахарактарызуйце сказы па мэце выказвання і інтанацыі. Падрыхтуйцеся да чытання тэксту па ролях.

Здалёк ужо быў чутны тупат каня, што бег праз лес.

— Пароль?

— З надзеяй альбо насуперак надзеі!

На паляне з'явіўся малады яздок на загнаным кані, а ў самога пот каціўся па твары. Поўдзень смажыў яго спякотай. Некалькі галасоў прыязна выгукнулі:

— Каліс! Пан Калікст! Як маешся?

Але ён не меў часу на павітанні. Саскочыў з каня.

— Дзе кіраўнік? Вядзіце да яго! Хутчэй!

Па паляне паспешна ішоў, не зважаючы на ганца, стройны юнак у сіняй шапцы на залацістых валасах *(А. Ажэшка. Пераклад А. Бутэвіча)*.

● Спішыце, абазначаючы дзвюма рыскамі (//) межы вядомага і новага (сэнсавага цэнтра сказа).

● Падкрэсліце граматычныя асновы. У якіх членах сказа заключаецца вядомае і новае?

**83.** Прачытайце верш Л. Дранько-Майсюка. Вызначце і запішыце сказ, у якім выражаецца асноўная думка. Назавіце тыя сказы, якія паясняюць, развіваюць гэты сказ. Вызначце ролю клічных сказаў у тэксце.

ХВАЛЕБНАЯ ПЕСНЯ НАВАСЛОВАМ

Давайма зноў і зноў
З упартасцю лагоднаю[м]
Замест няродных слоў
Уводзіць словы родныя!

Калі ж няма такіх,
То згодна мовы нашае,

Прыдумаць трэба іх
З павольнасцю разважнаю…

(Без самапахвальбы
І радасці залішняе
Купала так рабіў,
Рабілі так узвышанцы!..)

Каб наш квітнеў загон,
То ў чэрвені[а] і ў ліпені[а]
Ганіце з хаты вон
Чужыншчыну прыліплую!

Во — гора: інтэрнэт…
Заміж такой няўклюдзіны
Кажыце: *словасвет*
І ў травені[а], і ў студзені[а].

Кажыце[с] круглы год,
Калі і стамляцца станеце,
Не прынтар, а *выход* —
І застанецца ў памяці!

І не камп'ютар[а], не!
*Асветар* — слова лепшае.
Бо ў нашай старане
Асветай свет завершаны[с].

І хай па-над[а] гарой
Мабільнікаў з мабіламі
Жыве *далькажык* мой —
Такое слова мілае!

*Далькажык* — *даль* і *каж*…
Кажы далёка, сонейка,
Мяне прасвечвай аж
Да самага да донейка!

● Выпішыце папарна запазычаныя словы і іх беларускія адпаведнікі. Зрабіце разбор па саставе беларускіх аўтарскіх неалагізмаў. Як вы ставіцеся да іх ужывання?

**84.** Прачытайце тэкст. Выпішыце апавядальны, пытальны, пабуджальны сказы; клічны сказ. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канцы сказаў.

ЗДРАДА

Метро.
Падземны пераход[сл]...
Каля падсобкі нейчы кот...
Не, памыліўся, мабыць, трошкі:
Тры колеры — прыкмета кошкі...
Даўно, шмат дзён яна сядзіць
Каля прачыненых[л] дзвярэй
І ўсё прыжмурана[л] глядзіць
На ногі тысячаў[а] людзей,
Нібы чакае ўсё кагосьці[а],
Нібы ва ўсіх, ва ўсіх пытае:
Дзе дзелася жанчына тая,
Што да ката насіла «ў госці»?
Назад, дадому ж, не занесла,
Бо дома, бачыце, так цесна,
Пусціла кошку ў пераходзе,
    Дзе тлуму больш, дзе людзі ходзяць.
    Сама ж як хвосцікам накрылася,
    У момант знікла, растварылася...
А кошка тоўстая сядзіць,
І на людзей глядзіць, глядзіць,
За тварамі людскімі[а] сочыць,
Сустрэць жанчыну тую хоча,
    Каб зазірнуць пытальна ў вочы:
«Ну хіба ёсць мая віна,
Што скора буду не адна?»
З дзвярэй выглядвае кабета:
    — Ты плюнь, гарушка[л], на заразу!
Во гэткія ў раддоме зразу
Зракаюцца і сваіх дзетак.
Скарае Бог яе за гэта.
Хадзі хоць душу пажыві[л],
Дам хлеба, дам і малачка,
А як захочаш — пажыві,

Мо будзеш лепшай, чым дачка,
Але нікому ні мур-мур,
Што я тут днюю і начую…
Акна няма… Бетон, мармур…
Труна каменная…
Не чую,
Што ў пераходзе, хоць з гармат
Страляй ці бі ў якія звоны… —
Сцягла з сябе камзол-халат,
Што быў мо некалі чырвоны,
І кошку гэткаю апраткай
Захутала, нібы дзіцятка.
Як несла — да грудзей туліла,
Шаптала штосьці ёй чулліва,
А потым і слязу пусціла:
— Выгнанніца ж і я таксама…
Не трэба дзеткам ужо мама…
А заўтра сяду я з табою
З працягнутай[с] рукою…

*П. Місько.*

● Ахарактарызуйце стыль тэксту. Выпішыце апорныя словы і словазлучэнні.

● Вызначце сказ, які выражае галоўны сэнс у тэксце.

● Вызначце тэму і асноўную думку верша.

**85.** Падрыхтуйцеся да паведамлення на маральна-этычную тэму, выкарыстоўваючы матэрыялы вучэбнага дапаможніка з практ. 13, 78, 186.

## § 13. Парадак слоў у сказе

**86.** Праблемная задача.

У працах вучняў сустрэліся такія сказы:
*Сонца засланіла воблака. Лес асвятліў агеньчык.*

● Ці адразу вы зразумелі сэнс гэтага сказа? У чым прычына часовага непаразумення?

**Парадак слоў** — гэта размяшчэнне членаў сказа ў моўным выказванні.



У беларускай мове кожны член сказа мае сваё пэўнае месца. Уяўленне аб парадку членаў сказа можа даць схема:




Дзейнік звычайна ставіцца перад выказнікам, дапасаванае азначэнне — перад паяснёным словам, недапасаванае азначэнне — пасля паяснёнага слова, акалічнасць спосабу дзеяння — перад выказнікам, а іншыя акалічнасці і дапаўненне — пасля выказніка. Такі парадак слоў называецца **прамым.**

У маўленні прамы парадак слоў можа парушацца. Змяненне прамога парадку слоў называецца **інверсіяй**, ці **адваротным парадкам** слоў.

Член сказа, які стаіць на нязвыклым месцы, атрымлівае дадатковую сэнсавую і выяўленчую нагрузку. Параўн.: *Дачка не магла так сказаць* — *Не магла дачка так сказаць* (узмацняецца сэнсавая роля выказніка ў другім сказе).

**87.** Перабудуйце сказы так, каб сэнсавым цэнтрам былі розныя члены сказа. Ці мяняецца пры гэтым сэнс сказаў? Калі мяняецца, то як?

Узор. *Гэта правіла ведаюць* ***нават*** *першакласнікі.*

***Нават*** *гэта правіла ведаюць першакласнікі.*

1. Нават ён яшчэ не пачынаў сеяць. 2. Я прачытаў толькі гэты верш. 3. Гэта задача складаная нават для адзінаццацікласніка.

**88.** З дапамогай часціц зрабіце сэнсавымі цэнтрамі розныя члены сказа.

1. Мы не гулялі ў нядзелю ў валейбол.
2. Мы будзем гуляць у баскетбол на наступным тыдні.

**89.** Дайце 7 варыянтаў адказу на пытанне *Мінулай восенню ваш клас праводзіў віктарыну «Люблю мой край»?*

Вымавіце іх з правільным лагічным націскам.



Прамы парадак слоў часцей уласцівы для навуковага і афіцыйнага стыляў, а адваротны парадак — для мастацкага стылю: *Прыляцела мушка дахаты, — аж у яе камарык насаты* (М. Багдановіч).

Інверсія дазваляе: 1) выдзеліць найбольш важныя па сэнсе члены сказа; 2) перадаць пытанне і ўзмацніць эмацыянальную афарбоўку маўлення. Так, у сказе *Плыве, гудзе шум гулкі, будаўнічы...* (Я. Купала) інверсія дазваляе ўзмацніць сэнс галоўных членаў сказа і азначэння (параўнаем прамы парадак слоў: *Будаўнічы шум плыве, гудзе...*).

Асабліва часта інверсія сустракаецца ў паэтычным маўленні, дзе яна не толькі ўзмацняе яго сэнс, але і служыць сродкам стварэння меладычнасці, напеўнасці:

Нікла жыццё ў шумным лесе,
Агаляўся твар зямлі,
І ляцелі ў паднябессі
З звонкім крыкам жураўлі.

*Я. Колас.*

Ад парадку слоў можа залежаць сэнс выказвання (параўн.: *Лес акружае балота* і *Балота акружае лес*) і сінтаксічнае значэнне членаў сказа (параўн: *Ціхі, ясны дзень* — сказ аднасастаўны, назыўны, развіты дапасаванымі азначэннямі. — *Дзень ціхі, ясны* — сказ двухсастаўны, неразвіты).

**90.** Прачытайце. Абазначце члены сказаў. Назавіце выпадкі адваротнага парадку членаў сказа.

Ішла над ціхім лесам поўня,
Расы чакалі верасы,
Пад вербамі ў нагрэтым чоўне
Дзяўчына мыла валасы.
*Р. Барадулін.*

**91.** Прачытайце. Прасачыце, як змяняецца сэнсавая роля слоў у залежнасці ад іх месца ў сказе. Спішыце. Падкрэсліце члены сказа.

1. «Ждановічы» — вялікі гандлёвы цэнтр. — Вялікі гандлёвы цэнтр «Ждановічы». 2. Вясло закранула плячо. — Плячо закранула вясло. 3. Аксамітны летні вечар. — Вечар летні, аксамітны. 4. Вёска знаходзілася за два кіламетры ад горада. — Вёска знаходзілася кіламетры за два ад горада. 5. Ты мая лепшая сяброўка. — Мая лепшая сяброўка — ты. 6. Ранены баец вярнуўся. — Баец вярнуўся ранены.

**92.** Знайдзіце і выпраўце памылкі, выкліканыя парушэннем парадку слоў у сказе.

1. У вялікім асартыменце на рынку ёсць біжутэрыя для жанчын замежнай вытворчасці. 2. Хлопчык азірнуўся назад і ўбачыў на галаву вышэйшага за яго крыўдзіцеля. 3. Брат пасадзіў каліну разам з дзядулем. 4. Ты толькі можаш дапамагчы мне ў гэтай справе. 5. У гэты перыяд у рэках і вадаёмах краіны лоўля рыбы забаронена ўсімі спосабамі. 6. Што гэтыя мастацкія прыёмы дапамагаюць перадаць аўтару? 7. Прашу прабачыць слухачоў за якасць трансляцыі.

**93.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып. Назавіце, з якіх частак ён складаецца.

Піліп зарабляў тым, што перавозіў людзей праз Нёман на сваім уласным пароме. Паром гэты, яшчэ перад тым як ажаніцца, ён зрабіў сам з добрых дошак, прымацаваных да дзвюх вялікіх лодак. На ім чатыры кані з вазамі

маглі размясціцца, але Піліп быў такі дужы, што ўдвух з шаснаццацігадовым братам лёгка перапраўляў паром пры дапамозе доўгага шаста. Даўней тут парома не было, і цяпер ім карысталася многа людзей. Ідэя гэта сведчыла аб прадпрымальнасці і разважлівасці маладога Казлюка, і таму, нягледзячы на малую колькасць зямлі, у хаце яго не было беднасці. У абсталяванні яе адчувалася нават імкненне гаспадароў да ўтульнасці і прыгажосці. На чыста пабеленых сценах віселі яскравыя абразы святых і чорны крыж у вянку сухацвету. На стале стаяла лямпа. На тапчанах, што замянялі ложкі, ляжалі падушкі, набітыя сенам, а не пухам. У куце на чырвонай шафцы стаяў да бляску начышчаны самавар. Апрача тапчаноў, у хаце стаялі лаўкі і сталы *(А. Ажэшка. Пераклад Я. Бяганскай)*.

● Выпішыце граматычныя асновы простых сказаў і частак складаных сказаў. Вызначце парадак слоў у сказах адносна граматычнай асновы. Зрабіце вывад, ці аднолькавы парадак слоў у апісанні і апавяданні. Чым гэта тлумачыцца?

## § 14. Лагічны націск. Інтанаванне сказаў

**94.** Раскажыце, што вы ведаеце пра інтанацыю. Для ілюстрацыі прывядзіце прыклады простых апавядальных, пытальных і пабуджальных сказаў.



**Лагічны націск** — асобае ўзмацненне голасу на самым значымым слове ці спалучэнні слоў у межах сказа (абазначым знакам ‖). Напрыклад: 1) *Дзядзька едзе ў Вільню.* 2) *Дзядзька едзе ў Вільню.* 3) *Дзядзька едзе ў Вільню.* У першым сказе паведамляецца, што *дзядзька* едзе, а не хто іншы; у другім — што дзядзька *едзе*, а не ідзе пехатой, у трэцім — што едзе *ў Вільню*, а не куды-небудзь у іншае месца.

Калі лагічны націск падае на слова, якое стаіць у пачатку ці сярэдзіне сказа, то інтанацыя становіцца больш напружанай, а сам лагічны націск — больш моцным.

Уменне выдзяляць голасам найбольш значымае ў сказе — неабходная ўмова выразнага вуснага маўлення.

**Інтанацыя** (ад лац. *intonare* — гучна вымаўляць) — сродак вуснага маўлення, які служыць для перадачы сэнсу выказвання, а таксама пачуццяў і настрою моўцы.

Асноўнымі элементамі інтанацыі з'яўляюцца: п а ў з а, л а г і ч н ы н а ц і с к, м е л о д ы к а (павышэнне ↗ і паніжэнне голасу ↘): ↗ *Чалавек без дабрыні* // — ↘ *без вады калодзеж* (М. Пазнякоў).

**Апавядальныя** сказы характарызуюцца спакойнай апавядальнай інтанацыяй: састаў дзейніка вымаўляецца з павышэннем тону, паміж дзейнікам і выказнікам робіцца паўза, састаў выказніка вымаўляецца з паніжэннем голасу. Напрыклад: ↗ *Лёгкі вецер* /*нясе пах* ↘ *спелай збажыны* (Я. Сіпакоў).

**Пытальныя** сказы характарызуюцца павышэннем тону на слове, у якім заключаецца пытанне: *Вы едзеце **ў вёску?** Вы **едзеце** ў вёску? **Вы** едзеце ў вёску*?

**Пабуджальныя** сказы, у якіх змяшчаецца загад, вымаўляюцца высокім тонам, з вялікім напружаннем: *Слухаць маю каманду! Без каманды не страляць!* (І. Шамякін). Сказы, у якіх змяшчаецца парада, просьба, пажаданне, вымаўляюцца больш нізкім тонам, з меншым напружаннем: *Ну, а цяпер, дзеткі, ідзіце абедаць. Па абедзе збярыцеся і прынясіце свае кнігі* (Я. Колас).

**95.** Падрыхтуйцеся да чытання прыказкі ў адпаведнасці з паметамі, якія абазначаюць: а) паўзы; б) лагічны націск; в) інтанацыю.

↗ ‖ ↘ ‖ ↗ ‖

*Як «дай»* // — *то недачувае,* // *як «на»* // — *то абе-*

↘ ‖

*дзве рукі* / *працягвае* (Прыказка).

**96.** Па ўзоры папярэдняга практыкавання абазначце: а) паўзы; б) лагічны націск; в) інтанацыю. Прачытайце прыказку ў адпаведнасці з паметамі.

Драбок[л] золата можна знайсці[с], драбок страчанага[с] часу — ніколі[м] *(Прыказка)*.

**97.** Вусна задайце пытанне так, каб сказ служыў адказам на яго. Словы, на якія падае лагічны націск, выдзелены.

...? **Яна** гэтае практыкаванне выканала хутка.
...? Яна **гэтае** практыкаванне выканала хутка.
...? Яна гэтае **практыкаванне** выканала хутка.
...? Яна гэтае практыкаванне **выканала** хутка.
...? Яна гэтае практыкаванне выканала **хутка.**

**98.** Вусна апішыце сітуацыі, у якіх адзін і той жа сказ будзе вымаўляцца з розным лагічным націскам.

1. **Кацяня** прапала. 2. Кацяня **прапала.**

## Праверце сябе

1. Што называецца сказам?
2. Чым адрозніваецца сказ ад словазлучэння?
3. Якія віды сказаў па мэце выказвання вы ведаеце? Як яны афармляюцца на пісьме?
4. Якія віды сказаў бываюць па эмацыянальнай афарбоўцы? У чым іх адметнасць?
5. Чым характарызуецца лагічны націск?
6. Якую ролю ва ўзмацненні выразнасці маўлення можа мець прамы і адваротны парадак слоў?

## § 15. Будова двухсастаўных сказаў



У кожным сказе ёсць граматычны цэнтр — граматычная аснова, ролю якой выконваюць галоўныя члены сказа: дзейнік і выказнік. Напрыклад: *Над зямлёю распасцёрся ясны купал бяздоннага неба* (Я. Колас).

Сказы, граматычная аснова якіх складаецца з дзейніка і выказніка, называюцца **двухсастаўнымі:** *Прыляцела вясна-чараўніца, напаіла вадою крыніцы* (Я. Журба).



Двухсастаўны сказ, які складаецца толькі з дзейніка і выказніка, называецца **неразвітым:** *Птушкі шчабечуць. Сонца прыгравае.*

Двухсастаўны сказ, у склад якога, апрача дзейніка і выказніка, уваходзяць даданыя члены сказа, называецца **развітым:** *Зазірае ў вокны месячык двурогі* (Я. Колас).

Двухсастаўныя развітыя сказы маюць два саставы — састаў дзейніка (дзейнік з даданымі членамі сказа пры ім) і састаў выказніка (выказнік з даданымі членамі сказа пры ім).

Залежнасць паміж галоўнымі і даданымі членамі сказа можна бачыць з наступнай схемы:




З а ў в а г а. Двухсастаўныя сказы, у склад якіх уваходзяць аднародныя дзейнікі і выказнікі, а даданыя члены сказа адсутнічаюць, з'яўляюцца неразвітымі: *Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы* (Я. Купала). *Жыццё віруе і гудзе* (А. Грачанікаў).

**99.** Прачытайце тэкст. Выпішыце граматычныя асновы сказаў. Параўнайце атрыманы тэкст з зыходным.

Зрабіце вывад, чым адрозніваюцца зыходны і атрыманы вамі тэкст.

Сонца яшчэ не ўзышло. Начны туман, чапляючыся за пушыстыя елкі, ціха спаўзаў на зямлю. Лес прытаіўся, заціх.

Прадчуванне незразумелай трывогі глыбока закралася ў душу лесніка. Ён выйшаў на ганак, прыслухаўся. Здалёк пачуўся ціхі, нарастаючы грукат капытоў. <...> Дзіўна. У гэтых далёкіх глухіх мясцінах усё радзей з'яўляліся людзі. Стары даўно ўжо нікога не бачыў *(С. Тарасаў)*.

***разві́ты сказ***
***развітáя культура***
***развіты́ чалавек***

**100.** Прачытайце. Вызначце, якімі па будове з'яўляюцца сказы ў тэксце. Ці ёсць у ім неразвітыя сказы? Вызначце парадак слоў у першых трох сказах.

Вечара Валера ледзь дачакаўся. Вельмі ж марудна апускалася сонца. Нарэшце яно схавалася за далёкія лясы на прыпяцкіх паплавах. Пяшчотлівы помарак* атуліў рэчышча Прыпяці. У чорнай, як моцная кава, вадзе гуляла, гучна плёхкала рыба. Кручкамі лёталі вакол цеплахода белыя чаплі... У густой рачной цеплыні душна пахла сырым пяском, аерам, гнілымі, выкінутымі на бераг водарасцямі *(А. Наварыч)*.

**101.** Прачытайце аўтарскія рэмаркі з п'есы-казкі «Усміхніся, прынцэса!» У. Ягоўдзіка. Спішыце сказы. Вызначце іх структуру, падкрэсліўшы граматычныя асновы.

Вартавыя бяруць з рук Музы́кі крапіву і падбягаюць да Злыдня, Злыдуха, Ягіні і Барабура і давай частаваць ахвотнікаў салодкага жыцця жыгучкаю. Што тут усчалося! Лямант! Гармідар! А тым часам Музы́ка выйшаў наперад, узяў у рукі скрыпачку, паднёс яе да пляча...

● Калі апраўдана выкарыстанне простых двухсастаўных сказаў у драматычным творы?

**102.** Прачытайце нататку. Вызначце структуру сказаў, падкрэсліўшы іх граматычную аснову.

БАТЛЕЙКУ ЎБАЧЫЛІ НА АНТ

Тэлеканал АНТ у навагоднюю ноч — 2009 паказаў музычны фільм «Батлейка». Гэта гісторыя кахання беднага рамантыка-паэта і заможнай княжны. Княжну ўсімі сіламі спрабавалі выдаць замуж за багатага. Галоўныя героі — стары князь і яго дачка. Вакол іх і разгортваюцца падзеі. Мюзікл створаны на аснове баек Кандрата Крапівы. Музычную аснову склалі песні з рэпертуару ансамбля «Песняры». Цэнтральны аб'ект мюзікла — батлейка (вандроўны тэатр на

колах). Батлейшчык паказвае лялечныя сцэнкі. Ролю князя выканаў дэпутат і тэлевядучы Генадзь Давыдзька. Ролю княжны — Вольга Хіжынкова, першая прыгажуня краіны, міс Беларусь — 2008. Удзельнічалі ў пастаноўцы Сяргей Журавель, Георгій Калдун, Максім Сокал, Люся Лушчык, Яўген Булка, зоркі беларускай эстрады Іна Афанасьева, Ларыса Грыбалёва і інш.

● Якую ролю выконваюць простыя сказы ў стварэнні тэксту?

● Каго яшчэ з неназваных выканаўцаў роляў у фільме вы можаце адзначыць?

● Раскажыце пра свае ўражанні ад беларускіх мюзіклаў. Запішыце іх двума-трыма сказамі.

**103.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль, адказ аргументуйце, указаўшы жанр, задачу тэксту, стылёвыя рысы і асаблівасці.

### АДМЕТНАСЦІ СІНТАКСІЧНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ПРОЗЫ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА

Простыя сказы могуць актуалізаваць дынаміку дзеяння, экспрэсіўна характарызуючы яго. Так, у апавяданні «Пастушок» аўтар расказвае, як сусед прапанаваў падлетку пачастунак, але зрабіў гэта не зусім па-людску:

*І кінуў адзін яблык. Ён апісаў над Кастуськом дугу (пералёт!) і мякка ўпаў на пясок. Кастусёк павярнуўся на кліч. Паляцеў другі яблык. Хлопец не крануўся. Сусед кінуў трэці яблык у тую секунду, калі пастушок ступіў з месца.*

*У пяску сярод вуліцы ляжалі тры спелыя, з чырвонымі і жоўтымі бакамі яблыкі. А Кастусёк ішоў за статкам туды, на выган. Ні разу не азірнуўся. Не глянуў набок.*

*Сусед пастаяў крышку, сам сабе нешта сказаў і, угнуўшыся, знік.*

У прыведзеным урыўку з 11 сказаў — 9 простых. Яны выразна перадаюць дынамічны малюнак аповеду, падаючы змену дзеянняў у кантэксце. Узнікае амаль кінематаграфічная дакладнасць жэстаў, рухаў, што красамоўна высвечваюць характар і эмацыянальны падтэкст учынкаў. Экспрэсія дзеяння, створаная за кошт ужывання простых сказаў, якія

акцэнтуюць асобна кожны рух, замяняе неабходную ў такой сітуацыі ацэнку. Выразна пададзеныя тут жэсты герояў самі па сабе акрэсліваюць зневажальную самаўпэўненасць дарослага і падкрэслена высакародную годнасць падлетка *(Л. Яўдошына)*.

● Якую інфармацыю вы атрымалі з тэксту? Вызначце сказ (сказы), якія выражаюць галоўны сэнс у тэксце, і тыя, якія яго паясняюць.

● Што вам яшчэ вядома пра функцыю (ролю) простых сказаў у маўленні?

**104.** Падрыхтуйцеся да пераказу вашага любімага фільма, запісаўшы яго змест з дапамогай простых неразвітых сказаў у якасці ключавых.

Перакажыце змест кінафільма (ці тэлеперадачы), выкарыстоўваючы двухсастаўныя развітыя сказы.

## Цікава ведаць

Кропка, коска, клічнік, іншыя знакі прыпынку... Такія простыя, такія звыклыя сёння. А ці кожны з нас ведае, што, напрыклад, кропка не адразу знайшла сваё пэўнае месца? Калісьці яе маглі ставіць у сярэдзіне сказа і нават у сярэдзіне слова. Ды яшчэ і на розных узроўнях радка — не толькі побач з ніжняй часткай літары, але і пасярэдзіне, і ўверсе *(І. Гапоненка)*.

## ГАЛОЎНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

**105.** Спішыце сказы. Падкрэсліце граматычныя асновы. У дужках укажыце, чым выражаны дзейнікі. Якую пазіцыю (месца) у сказе звычайна займае дзейнік? Чаму? Што ён часцей за ўсё абазначае: вядомае ці новае? Пабудуйце вертыкальную схему 3-га сказа.

У з о р. *Пад абрывістым берагам ціха булькала вада* (наз.).



1. Рыжая восень ходзіць між сосен, дорыць каралі рабінам *(А. Аўрынская)*. 2. Шрыфтам Брайля на калядным снезе птушкі вершы пішуць *(А. Сыс)*. 3. І свеціць блізкім аганьком пад лёдам ягадка каліны *(А. Пысін)*. 4. Выпаў ноччу першы снег, белы, белы, белы. З дому выйшаў чалавек, шэры, шэры, шэры *(І. Рубін)*. 5. Сакавік наступае, з плеч кажух свой скідае *(М. Танк)*. 6. Усё сціхае над зямлёй зялёнай *(М. Дукса)*.

- Чаму дзейнік і выказнік спалучаюцца рознанакіраванымі стрэлкамі, а даданыя члены — аднанакіраванымі?
- Назавіце саставы дзейніка і выказніка ў кожным сказе.
- Растлумачце парадак слоў у сказах.

## § 16. Дзейнік і спосабы яго выражэння

**Дзейнік** — галоўны член сказа, які абазначае прадмет маўлення і адказвае на пытанні назоўнага склону к т о? або ш т о?



Дзейнік адказвае на агульнае пытанне: а б к і м? (а б ч ы м?) гаворыцца ў сказе? Напрыклад: *Чайка над хваляй сівой закрычала* (А. Вялюгін). А б к і м гаворыцца ў сказе? — *Аб чайцы. Чайка* — дзейнік, называе прадмет маўлення.

Дзейнік можа выражацца рознымі часцінамі мовы, а таксама непадзельнымі словазлучэннямі.

**Спосабы выражэння дзейніка**

| Спосаб выражэння | Прыклады |
|---|---|
| 1. Назоўнікам у Н. скл. (або іншай часцінай мовы, якая ўжываецца ў значэнні назоўніка ў Н. скл.) | *Над лугам слаўся густы туман.*<br>*Паляўнічы сядзеў каля вогнішча* (прыметнік).<br>*Добра завучанае ніколі не забудзецца* (дзеепрыметнік).<br>*Сем не дзеліцца на два без астачы* (лічэбнік).<br>*Прыйшло і паслязаўтра* (прыслоўе). |

| Спосаб выражэння | Прыклады |
|---|---|
| | *Аднекуль данеслася гучнае «ау»* (выклічнік). *Над — прыназоўнік, а ці — злучнік.* |
| 2. Займеннікам у Н. скл. | *Люблю я падарожнічаць па родным краі.* |
| 3. Неазначальнай формай дзеяслова | *Займацца спортам вельмі карысна.* |
| 4. Фразеалагізмам | *Стаяла цёплае бабіна лета.* |
| 5. Сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі<br>З а ў в а г а. Адно са слоў у такіх словазлучэннях звычайна мае форму Н. скл. | *Кожны з нас добра ведаў сваю справу. Міхась з Алесем пайшлі ў грыбы. Белавежская пушча размешчана недалёка ад Брэста.* |

**106.** Спішыце сказы, дапісваючы канчаткі слоў. Падкрэсліце дзейнікі. У дужках укажыце, чым яны выражаны.

1. Снежн.. пыл, падхоплен.. ветрам, узнімаўся над зямлёй *(Б. Мікуліч)*. 2. Вопытн.. хірург[м] Кавалёва паспяхова зрабіла аперацыю на сэрцы. 3. На акуратна падстрыжаны куст бэзу падае густ.. цень *(І. Шамякін)*. 4. Карпенка на хаду[а] апранаў у рукавы салдацк.. шынель *(В. Быкаў)*. 5. Але ў тую хвіліну ранены пачуў рэзк.. боль у назе *(К. Чорны)*.

**107.** Утварыце з наступнымі словамі словазлучэнні па схеме *лічэбнік + назоўнік*. Прыдумайце з імі сказы так, каб дадзеныя словазлучэнні былі дзейнікамі. (Помніце, што не ўсе назоўнікі спалучаюцца са зборнымі лічэбнікамі.)

Двое, трое, два, дзве (дзяўчаты, кураняты, боты, вучні, шахматысты, сыны, нажніцы, жанчыны, дзеці, сяброўкі).

● У якім стылі маўлення ўжываюцца словазлучэнні са зборнымі лічэбнікамі?

## § 17. Выказнік і спосабы яго выражэння (азнаямленне). Просты дзеяслоўны выказнік

**Выказнік** — гэта галоўны член двухсастаўнага сказа, які абазначае тое, што гаворыцца аб прадмеце маўлення (дзейніку): *Расце на высокім кургане сасна* (М. Танк).



Пры выражэнні дзеяння прадмета выказнік адказвае на пытанні што робіць прадмет? што робіцца з прадметам?: *У лесе кукуе зязюля. Песня выконваецца артыстамі.*

Пры выражэнні якасці, стану прадмета выказнік адказвае на пытанні які ён? хто ён такі? што такое прадмет? *Народ наш таленавіты. Уладзімір Караткевіч — пісьменнік. Песня — душа народа.*

Віды выказнікаў паводле будовы і спосабу выражэння прадставім наступнай схемай:




Выказнік, выражаны асабовай формай дзеяслова ў абвесным, умоўным або загадным ладзе ці інфінітывам, называецца **простым дзеяслоўным**: *Усе балотныя палянкі цвітуць агнямі журавін* (П. Глебка). *Без компаса мы не знайшлі б дарогі. Сёння мы будзем пісаць сачыненне. Няхай наша дружба мацнее. Жыць — радзіме служыць* (Прыказка).



**У простым дзеяслоўным выказніку лексічнае і граматычнае значэнні выражаюцца адной дзеяслоўнай формай.**

Просты дзеяслоўны выказнік дапасуецца да дзейніка:

- у ліку і асобе, калі мае форму цяперашняга і будучага часу абвеснага ладу або форму загаднага ладу: *Мы ідзём па вузкай лясной сцяжынцы* (А. Пальчэўскі). *Хай жыве і красуе мая Радзіма-маці* (У. Караткевіч);

- у ліку (а ў адзіночным ліку — і ў родзе), калі мае форму прошлага часу абвеснага ладу або форму ўмоўнага ладу: *Загуў у хвойніку гуллівы ветрык* (В. Бялоў). *Хутчэй бы прыйшла вясна з сонечнымі вадападамі* (А. Пальчэўскі). *Неба ззяла тысячамі рознакаляровых агеньчыкаў-зорак* (Я. Колас). *Расцвілі на ўзлеску першыя вясновыя кветкі* (Р. Ігнаценка).

**108.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Падкрэсліце выказнікі, вызначце іх лексічнае і граматычнае значэнні.

1. Шчасце нідзе *(не)* спыняецца ў даро..е *(С. Грахоўскі)*. 2. Пра славу былую шуміць Белаве..ская пушча, на братніх магілах чырвоныя кветкі гараць *(А. Звонак)*. 3. Люблю гарачую спёку лета і буру летнюю з дажджом *(К. Буйло)*. 4. Аддаў[с] *(бы)* я край самы райскі і дзіўны за цень ад сасны на далёкай Радзіме *(П. Панчанка)*. 5. Буду пець сваю я песню ўзімку[а], улетку[а], напрадвесні[а] *(А. Гурло)*. 6. Жыццё пражыць — не поле перайсці *(Прыказка)*. 7. Кожная сасна свайму бору песню спявае[м] *(Прыказка)*. 8. Шырокая[м] палявая раўніна горбіцца[с] *(не)*вялікімі ўзгоркамі, перас..каецца[с] доламі і рачулкамі *(І. Шамякін)*. 9. *(Не)*будзем шкадаваць мы *(не)* пройдзеных дзён і гадоў, засохлых[м] кветак і нязбытых мар *(В. Быкаў)*. 10. Век звекаваць — усяго пазнаць *(Прыказка)*. 11. Навокал сцішана, стоена радавалася[м] цеплыні і сонцу асенняе поле *(Б. Сачанка)*.

**109.** Спішыце. Падкрэсліце галоўныя члены сказа. Запішыце ў дужках, чым выражаны простыя дзеяслоўныя выказнікі і ў чым яны дапасаваны да дзейнікаў.

1. У полі бязмежным[сл] гудуць трактары, на працу заводы завуць на зары. І дзеці спяшаюцца[м] ранкам у школу. Усё прыгажэе, квітнее наўкола *(А. Вольскі)*. 2. Народы нарадзілі мову, адшліфавалі[с], як крышталь *(П. Панчанка)*. 3. Паляцеў бы я птушкаю ў той далёкі край *(А. Пальчэўскі)*. 4. Чалавецтва[м] будзе жыць! Чалавецтва[а] будзе дружыць! *(А. Вярцінскі)*. 5. Хай звініць серабрыстым смехам залатога маленства пара *(П. Глебка)*.

● Выпішыце з 5-га сказа словазлучэнні, зрабіце іх сінтаксічны разбор.



1. У простым дзеяслоўным выказніку лексічнае значэнне можа выражацца некалькімі словамі, калі дзеяслоў мае аслабленае значэнне. Параўн.: *Бацька даў параду сыну (= параіў). Бацька даў кнігу сыну.*

2. Выказнік з'яўляецца простым, калі ён выражаны фразеалагізмам, які сваім значэннем адпавядае асобнаму слову-дзеяслову, паўторам слоў ці спалучэннямі тыпу *пайду і (ды) прынясу, вазьму і (ды) скажу*. Напрыклад: *Хто ўмее трымаць язык за зубамі? Чакае не дачакаецца маці сына свайго. Дзяўчынка ўзяла ды расплакалася.*

**110.** Прачытайце. Вызначце, чым выражаны простыя дзеяслоўныя выказнікі.

1. Птушачка[сл] ўзяла ды зляцела з галінкі. 2. Дзяўчынка чакае не дачакаецца маці з работы. 3. Сяброўка[сл] пайшла і купіла часопіс «Бярозка»[а]. 4. Мы ўзялі і пасадзілі вакол школы маладыя дрэўцы.

● У якім стылі маўлення часцей за ўсё ўжываюцца такога тыпу выказнікі?

**111.** Спішыце, падкрэсліце выказнікі. Дакажыце, што яны з'яўляюцца простымі дзеяслоўнымі.

1. Маці тупала каля стала і не зводзіла з сына вачэй *(С. Грахоўскі)*. 2. Тут Віктар убачыў, што даў маху *(Я. Майр)*. 3. Цэлымі днямі Саўка прападаў і нікому не паказваўся на вочы *(П. Кавалёў)*. 4. З галавы не выходзілі ўсе гэтыя думкі *(Я. Колас)*.

● Выпішыце з фразеалагічнага слоўніка 5—7 устойлівых спалучэнняў, якія могуць ужывацца ў ролі простага дзеяслоўнага выказніка. Складзіце сказы, падкрэсліце граматычныя асновы.

## § 18. Састаўны дзеяслоўны выказнік



Састаўны выказнік уяўляе сабой сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне.

Частка састаўнога выказніка, якая выражае яго граматычнае значэнне, называецца **дапаможнай.**

Частка састаўнога выказніка, якая выражае яго лексічнае значэнне, называецца **асноўнай.**

Па спосабе выражэння асноўнай часткі састаўныя выказнікі падзяляюцца на д з е я с л о ў н ы я і і м е н н ы я: *Чалавек **павінен** чалавеку радасці **прыносіць** кожны дзень* (С. Грахоўскі). *Раніца **выдалася сонечная, марозная*** (А. Асіпенка).

**112.** Прачытайце сказы. У якіх сказах граматычнае і лексічнае значэнні выказніка выражаюцца адным словам, а ў якіх — двума?

| | |
|---|---|
| 1. Музыкант іграў на скрыпцы. | 1. Музыкант пачаў іграць на скрыпцы. |
| 2. Музыкант іграе на скрыпцы. | 2. Музыкант закончыў іграць на скрыпцы. |
| 3. Музыкант будзе іграць на скрыпцы. | 3. Музыкант хацеў іграць на скрыпцы. |

● Чым адрозніваюцца простыя дзеяслоўныя выказнікі?

● Якую дадатковую інфармацыю нясуць выказнікі ў сказах, дадзеных справа, у параўнанні са сказамі, дадзенымі злева?

**Састаўным дзеяслоўным** называецца выказнік, у якім лексічнае значэнне выражана інфінітывам, а граматычнае значэнне — дапаможным дзеясловам: *Нашу працу і нашых сяброў мы ўмелі любіць* (У. Дубоўка). *Задушэўная песня Рэчыцы можа кожнага заваражыць* (П. Панчанка).



**Дапаможныя дзеясловы** ў састаўным дзеяслоўным выказніку абазначаюць:

1) **пачатак, працяг, канец дзеяння** *(пачаць, стаць, працягваць, скончыць, перастаць, кінуць, кончыць):* ***Пачаў** ліць густы дождж* (І. Навуменка). *Брат **працягваў** займацца спортам*;

2) **магчымасць** ці **пажаданасць дзеяння** (*магчы, хацець, марыць, старацца, дазволіць, рашыць, жадаць, спрабаваць* і інш.): *У гэты ранні час Арцём заўсёды **любіў** глядзець на далёкія горы* (Э. Самуйлёнак). *Я **жадаў бы** чытаць свае вершы Дзвіне і Бярозе* (П. Панчанка). *Маці **хацела** працаваць у бібліятэцы.*

Дапаможная частка можа ўключаць кароткія прыметнікі *рад, павінен, гатоў* і інш., *Я **рад** паслухаць лесу шум* (З. Бядуля), а таксама словы катэгорыі стану (*трэба, нельга, можна, шкада, добра, прыемна, хораша* і інш.): *Трэба вучыцца мове, трэба пашыраць свой лексікон* (Н. Гілевіч). *Добра хадзіць па лесе ў летнюю спёку* (У. Караткевіч).

**113.** Спішыце сказы. Падкрэсліце састаўныя дзеяслоўныя выказнікі. У якіх словах выражаецца граматычнае значэнне выказніка, а ў якіх — лексічнае?

1. Нават ворагі не маглі не дзівіцца мужнасці і геразму[а] абаронцаў Брэсцкай[а] крэпасці *(В. Вольскі)*. 2. У другой палове чэрвеня[а] ў Парэччы збіраліся выйсці[л] на касьбу[ф] *(Т. Хадкевіч)*. 3. Гатоў я нізка[с] пакланіцца травінцы кожнай,

каласку, і Нёману, і ўсім крыніцам, і нават ветраку[л] *(А. Астрэйка)*. 4. На ўсходзе неба пачало ружавець *(К. Чорны)*.

**114.** Выкарыстоўваючы ў якасці дапаможнага кампанента словы з рамкі, складзіце сказы на адну з тэм («Мая будучая прафесія», «У школьнай майстэрні»), каб атрымаўся тэкст.

| | | | |
|---|---|---|---|
| *пачаць* | *рыхтавацца* | *працягваць* | *спыніць* |
| *спрабаваць* | *стаць* | *застацца* | *кінуць* |
| *сабрацца* | | *закончыць* | *узяць* |

**115.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце выказнікі і вызначце віды дзеяслоўнага выказніка.

1. Свой радок на паперы не чакаў я спаткаць, проста[сл] сэрца без меры захацела спяваць *(П. Броўка)*. 2. **Будуць** свежым **лісцем шалясцець** б..розы, будзе рунь кусціцца пышна[с] па в..сне *(М. Васілёнак)*. 3. Будучыня! Ці не для цябе нам так хораша хочацца марыць? *(Я. Скрыган)*. 4. Няхай узнімаюцца[с] дзеці і ярка[сл] юнацтва цвіце, хай шчасце красуе на свеце і вечная дружба расце *(П. Броўка)*. 5. Лета ў Кур'янаўшчыне[а] пачынала зацвітаць ліпавым цветам *(І. Пташнікаў)*. 6. Народ павінен ведаць **сваю гісторыю** *(М. Ермаловіч)*.

- Зрабіце разбор выдзеленых словазлучэнняў.
- Ці супадае вымаўленне спалучэнняў слоў *колас і хлеб, шчасце і дружба* з напісаннем? Чаму?

## § 19. Састаўны іменны выказнік

**116.** Прачытайце. Назавіце простыя дзеяслоўныя выказнікі, састаўныя дзеяслоўныя выказнікі і выказнікі, у якіх граматычнае значэнне выражаецца дзеясловам-звязкай, а лексічнае значэнне — назоўнікам ці прыметнікам.

1. Гусцее малады лес. — Малады лес пачаў гусцець. — Малады лес быў густы. 2. Падае лёгкі сняжок. — Стаў падаць лёгкі сняжок. — Сняжок быў лёгкі, чысты і пушысты. 3. Рабочыя будуюць метро. — Рабочыя пачалі будаваць метро. — Рабочыя сталі будаўнікамі метро.



Састаўны іменны выказнік складаецца з дапаможнай часткі і іменнай, якая з'яўляецца асноўнай. Іменная частка выражае асноўнае лексічнае значэнне, а дапаможная — граматычнае значэнне часу, ладу і дадатковыя лексічныя значэнні.

Дапаможная частка выражаецца:

1) дзеясловам-звязкай *быць*, які ў цяперашнім часе звычайна адсутнічае (нулявая звязка): *Зіма была снежная, халодная. Зіма снежная, халодная*;

2) дзеясловамі-звязкамі *стаць, называцца, станавіцца, з'яўляцца, лічыцца, здавацца* і інш.: *З наступленнем восені ночы сталі даўжэйшыя* (Р. Няхай). *Туман здаваўся нерухомым і сонным* (В. Вольскі).

У ролі дапаможнай часткі могуць выступаць дзеясловы руху і стану (*прыйсці, прыбегчы, вярнуцца, стаць, сядзець* і інш.): *Дадому маці прыйшла маркотная. Алеся сядзела маркотная.*

Састаўны іменны выказнік абазначае прымету прадмета або яго кваліфікацыю (азначэнне) і адказвае на пытанні я к і п р а д м е т? ш т о т а к о е п р а д м е т?

**117.** Дапішыце сказы, падкрэсліце граматычныя асновы.

***ім́енны выказнік***
***імянны́ гадзіннік***

1. Прыстаўка — гэта службовая марфема, якая... 2. Корань — гэта абавязковая частка... 3. Дзейнік — гэта галоўны член сказа, які... 4. Сінтаксіс — гэта раздзел... 5. Сказ — гэта адзінка...

**118.** Прачытайце матэрыял табліцы. Чым можа быць выражана асноўная частка састаўнога іменнага выказніка?

| Спосаб выражэння іменнай часткі выказніка | Сказы |
|---|---|
| 1. Назоўнікам | *Мая краіна — партызанка, мая радзіма — Беларусь* (М. Лужанін). *Горад як сад.* |

| Спосаб выражэння іменнай часткі выказніка | Сказы |
|---|---|
| 2. Прыметнікам | *Лес быў густы, вільготны* (М. Лынькоў). *Ты яшчэ молад і дуж* (М. Танк). |
| 3. Лічэбнікам | *Чатыры і пяць — дзевяць.* *Ён застаўся дома адзін.* |
| 4. Займеннікам | *Бацькоўскі дом цяпер мой.* |
| 5. Дзеепрыметнікам | *Тутэйшая прырода не кранута нікім.* |
| 6. Прыслоўем | *Сосны былі ўперамешку з елкамі.* |
| 7. Сінтаксічна непадзельным словазлучэннем | *Жанчына была гадоў пад сорак.* |

**119.** Спішыце і абазначце граматычныя асновы сказаў. Укажыце ў дужках, чым выражана іменная частка састаўнога іменнага выказніка.

1. Белы пясок паблізу вады быў затканы[с] зялёнымі верасамі *(П. Броўка)*. 2. Інструкцыя ёсць інструкцыя, правіла ёсць правіла, і мы ім падпарадкуемся[с] *(М. Лынькоў)*. 3. Твой бацька быў герой *(Я. Брыль)*. 4. Ён быў старэйшы[м] за мяне на адзін год і вышэйшы ростам *(А. Чарнышэвіч)*. 5. Услед за імі я ішоў трэці *(І. Навуменка)*. 6. Тры і шэсць будзе дзевяць. 7. Зямля напаіла[ф] зерне. Зерне стала хлебам. Хлеб стаў песняй *(М. Танк)*.

● Растлумачце значэнне прыметнікаў *старэйшы* і *старшы*. У залежнасці ад значэння прыметнікаў спалучыце іх са словамі *лейтэнант, супрацоўнік, выкладчык, сястра, школа, класы, людзі*. З атрыманымі словазлучэннямі складзіце і запішыце сказы.

***дазіме́тр***
***сантыме́тр***

**120.** Спішыце. Падкрэсліце граматычныя асновы. Вызначце, чым выражаны граматычнае і лексічнае значэнні выказнікаў.

1. Будзе сатканы абрус мой узорам, стол засцялю я святочным[а] уборам *(А. Русак)*. 2. Раніца была яркая, ціхая *(А. Які-*

*мовіч).* 3. Малюнак ужо ёсць мастацтва[a] *(З. Бядуля).* 4. Дзень абяцаўся быць сонечны, цёплы *(В. Хомчанка).* 5. Мне ў атаках кароткія крокі кіламетрамі былі *(П. Прыходзька).* 6. Мой дзед быў знатным кавалём, кавальскай справы каралём *(М. Рудкоўскі).* 7. З поўначы палавіна неба зрабілася барвовай *(М. Лынькоў).*

## § 20. Сувязь выказніка і дзейніка, выражанага колькасна-іменным спалучэннем



Дзеясловны выказнік дапасуецца да дзейніка ў ліку *(Вучань чытае. — Вучні чытаюць.)*, у ліку і родзе *(Вучань чытае. — Вучаніца чытае.)*, у ліку і асобе *(Я чытаю. — Мы чытаем.)*.

Выказнік ставіцца ў множным ліку, калі:

1) у склад дзейніка ўваходзяць колькасныя лічэбнікі ў спалучэнні з адушаўлёнымі назоўнікамі. Пры гэтым захоўваецца прамы парадак слоў. Напрыклад: *Сем вучняў з класа ўдзельнічалі ў алімпіядзе па беларускай мове. Шэсць пераможцаў прывезлі граматы і прызы. Тры пасажыры сышлі на прыпынку*;

2) у склад дзейніка ўваходзяць словы *некалькі, большасць* у спалучэнні з адушаўлёнымі назоўнікамі. Напрыклад: *Некалькі вучняў з класа адпачывалі ў Італіі. Большасць пасажыраў ужо селі на свае месцы*;

3) выказнік абазначае актыўнае дзеянне: *Дзевяноста шэсць дэпутатаў прагаласавалі за прыняцце закона.*

Выказнік ставіцца ў адзіночным ліку, калі:

1) дзейнік, выражаны колькасным лічэбнікам у спалучэнні з адушаўлёным назоўнікам, стаіць пасля выказніка (адваротны парадак слоў): *Дапамагчы ветэранам пагадзілася сямнаццаць вучняў*;

2) у складзе дзейніка ёсць неадушаўлёны назоўнік: *Пяць кніг ляжала на стале*;

3) выказнік абазначае пасіўнае дзеянне: *Вадой было затоплена сем гектараў пасеваў*;

4) у складзе дзейніка ёсць словы *многа, мала, нямнога, столькі, шмат* і інш.: *Шмат людзей было выратавана з палону*;

5) у складзе дзейніка ёсць словы *большасць, меншасць, рад, шэраг, мноства, большая (меншая) частка* ў спалучэнні з неадушаўлёнымі назоўнікамі: *Большасць дрэў ужо вырасла. Меншая частка трактароў патрабавала рамонту*;

6) у склад дзейніка ўваходзіць зборны лічэбнік, а таксама словы *дзясятак, тысяча, мільён, мільярд, безліч, група, маса: Двое чалавек сядзела на лаўцы. Трое коней пасвілася на лузе. Тысяча камароў мітусілася ў вячэрнім паветры*;

7) у складзе дзейніка ёсць словы *гадоў, месяцаў, тыдняў, дзён, гадзін, зім, вёснаў* і г. д.: *Мінула пяць дзён. Хутка прайшло шэсць тыдняў.*

**121.** Спішыце сказы, падкрэсліце галоўныя члены. Абазначце канчаткі дзеясловаў-выказнікаў. Абгрунтуйце правільнасць ужывання формы дзеяслова-выказніка.

1. Многа качак плавала ў затоцы *(В. Вольскі)*. 2. Дзед з Сымонам пад вярбою селі буру пераждаць *(Я. Колас)*. 3. У нашым класе некалькі хлопцаў пісалі вершы *(А. Русак)*. 4. З-за[а] павароткі дарогі паказалася[с] два чалавекі *(М. Лынькоў)*. 5. Са мной у атрад прыйшло[а] сямёра[с] хлопцаў і тры дзяўчыны *(Л. Дайнека)*. 6. Многа людзей сабралася на плошчы Перамогі[а] *(В. Вітка)*. 7. Сто чатыры дэпутаты прагаласавалі за прыняцце пастановы.

з **і́**мі [з **й́**ім’і]
сын **і** дачка́ [сын **ы** дачка́]
дачка́ **і** сын [дачка́ **й** сын]
смех і грэх [с’мех’ і грэх]

**122.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі. Аргументуйце выбар той ці іншай граматычнай формы выказніка.

1. Шумна *(прайшл..)* каля ўзлесся жніўныя два караблі *(А. Астрэйка)*. 2. На самым беразе, ля вады, двое рабочых *(абчэсвал..)* свежае бярвенне *(А. Асіпенка)*. 3. Калі-нікалі на зямлю *(спадал..)* некалькі кропелек дажджу *(Я. Колас)*. 4. Аднекуль *(наляце..)* мільярд матылёў *(М. Лынькоў)*. 5. Група мужчын *(прысел..)* ля стога *(Я. Брыль)*. 6. З маленства ў сэрца *(запал..)* нямала мудрых слоў *(П. Прыходзька)*.

**123.** Разгледзьце табліцу. Падбярыце са свайго любімага мастацкага твора прыклады для яе ілюстрацыі. Запішыце сказы, падкрэсліце граматычныя асновы.

| Выказнікі | | |
|---|---|---|
| простыя дзеяслоўныя | састаўныя | |
| | дзеяслоўныя | іменныя |
| ... | ... | ... |

● Чым адрозніваюцца простыя выказнікі ад састаўных? Колькі слоў можа ўваходзіць у састаўны выказнік? Па якой частцы вы адрозніваеце састаўны дзеяслоўны выказнік ад састаўнога іменнага?

● Складзіце сказ з найбольшай колькасцю слоў у складзе выказніка.

## Праверце сябе

1. З чаго складаецца граматычная аснова двухсастаўнага сказа? Што называецца дзейнікам? Што называецца выказнікам?
2. Чым выражаецца дзейнік?
3. Якія віды выказніка вы ведаеце? Як у кожным з іх выражаецца граматычнае і лексічнае значэнні?

## § 21. Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам

**Працяжнік** паміж дзейнікам і выказнікам з нулявой звязкай **ставіцца:**

1) калі дзейнік і выказнік выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне: *Юравічы — паселішча вельмі старажытнае* (В. Вольскі). *Наша хата — мая калыска і прытулак* (А. Казлоў);

2) калі дзейнік і выказнік выражаны колькаснымі лічэбнікамі ў назоўным склоне ці адзін з іх выражаны назоўнікам, а другі — лічэбнікам у назоўным склоне: *Тры і пяць — восем. Плошча поля — два гектары*;

3) калі абодва галоўныя члены сказа выражаны інфінітывам або адзін з іх — інфінітывам, а другі — назоўнікам у назоўным склоне: *Хадзіць босым па траве — загартоўваць сябе* (Прыказка). *Вучыцца ў народа — задача кожнага пісьменніка* (К. Чорны).

Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца і тады, калі пры выказніку-інфінітыве стаіць адмоўная часціца ***не***: *Поле араць — не рукамі махаць* (Прыказка);

4) калі выказнік выражаны фразеалагізмам або сінтаксічна непадзельным словазлучэннем: *Возера — рукою падаць* (Я. Скрыган). *Нівы — вокам не абняць* (А. Русак). *А дом у суседа — дай Бог кожнаму* (Я. Брыль);

5) калі перад выказнікам ёсць указальныя словы *гэта, вось, значыць, гэта значыць*: *Мова — гэта гісторыя народа* (А. Лісіцкі). *Ахоўваць прыроду — значыць любіць усё жывое* (У. Ягоўдзік);

6) калі выказнік выражаны ўсечанымі формамі дзеясловаў: *Уладзік зараз — шмыг у дзверы* (Я. Колас).

**Працяжнік** паміж дзейнікам і выказнікам з нулявой звязкай **не ставіцца:**

1) калі дзейнік выражаны асабовым займеннікам: *Ён артыст. Мы вучні*;

2) калі пры выказніку, выражаным назоўнікам, ёсць адмоўная часціца ***не*** або параўнальныя злучнікі *як, нібы, нібыта, быццам* і інш.: *Сэрца не камень. Зімовы лес нібы казка. Госць як госць, а валакіты дасць* (Прыказка);

3) калі выказнік выражаны прыметнікам, займеннікам, прыназоўнікава-іменным спалучэннем: *Дарога чыстая і гладкая. Такія вынікі экзамену. Ён тут за старшага*;

4) калі паміж дзейнікам і выказнікам стаіць пабочнае слова або недапасаваны да выказніка дадаены член сказа: *Хлопцы, відаць, добрыя рыбакі* (Я. Сіпакоў). *Дзяўчаты ў нас красуні* (І. Мележ);

5) калі абодва галоўныя члены выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне, але выказнік стаіць перад дзейнікам (так званы адваротны парадак слоў): *Адвечнае дрэва дуб* (І. Шамякін). *Весялуха наша Таня.*

**124.** Выразна прачытайце сказы, захоўваючы правільную інтанацыю: павышэнне голасу ў першай частцы сказа, паўза, паніжэнне — у другой.

1. Душа маці — вось тое роднае сонца, якое свеціць нам усё жыццё *(В. Вітка)*. 2. Знайсці падкову[ф] — шчасце *(М. Танк)*. 3. Сымон Будны — наступнік Скарыны ў справе друкавання[сл] кніг і пашырэння асветы сярод народных мас *(В. Вольскі)*. 4. Дойлід — тое самае, што і архітэктар *(У. Арлоў)*. 5. Вёска Магільна — адно з самых старажытных, вядомых па пісьмовых крыніцах, беларускіх паселішчаў[с] *(У. Кісялёў)*. 6. Умець — за плячыма не насіць *(Прыказка)*. 7. Цудоўныя спевакі лясныя жаваранкі *(І. Грамовіч)*.

- Спішыце. Падкрэсліце галоўныя члены сказа, укажыце, чым яны выражаны.
- Растлумачце пастаноўку ці адсутнасць працяжніка ў сказах.
- Назавіце сінонімы ў 4-м сказе.

**125.** Спішыце сказы. Пастаўце, дзе трэба, працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам. Растлумачце яго пастаноўку.

1. Мова гэта той асяродак, у якім душа чалавечая жыве не менш натуральна, чым птушка ў паветры ці ў вадзе рыба *(А. Лісіцкі)*. 2. Пацерыкі зборнікі **кароткіх** апавяданняў пра людзей, слаўных сваёй **вераю** *(У. Арлоў)*. 3. Лотас адна з самых старажытных раслін на свеце, ёй болей за сто мільёнаў[ф] гадоў *(З. Дудзюк)*. 4. Іаан самы вядомы са старажытных дойлідаў *(У. Арлоў)*. 5. Асаблівы чалавек яго бацька *(І. Навуменка)*. 6. Надвор'е[а] хоць з хаты не вылазь *(Я. Колас)*. 7. **Сляпы** сляпому не павадыр *(Прыказка)*. 8. А дзядзька раптам гоп налева *(Я. Колас)*.

● Да выдзеленых слоў падбярыце антонімы. Запішыце іх.

● Знайдзіце простыя колькасныя лічэбнікі, запішыце іх разам з залежнымі словамі ў форме творнага склону.

**126.** Спішыце, ставячы, дзе трэба, працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам і запісваючы ўмову яго пастаноўкі ці адсутнасці.

У з о р. *Два і два — чатыры (ліч. — ліч.)*.

1. Мова гэта нацыянальная душа народа *(Ядвігін Ш.)*. 2. Дзеці радасць і прыгажосць усіх народаў свету *(Я. Брыль)*. 3. Моладзь гэта надзея, світанне[с], каласы нашы і васількі *(Л. Геніюш)*. 4. Дзедава[м] скрыпка мост пакаленняў, вечнасці кладка, вякоў талісман* *(Н. Загорская)*. 5. Асноўная, глабальная, пастаянная задача пісьменніка[с] будзіць чалавека ў чалавеку *(Я. Сіпакоў)*. 6. Вочы маці вечнасці акно *(Л. Галубовіч)*. 7. Адлегласць не перашкода для сяброў *(Я. Брыль)*. 8. Імкнуцца наперад вось мэта жыцця *(Я. Колас)*. 9. Сінія вочкі што васілёчкі. 10. Мая мара сустрэцца з табою *(Я. Брыль)*. 11. Найлепшы для чалавека лекар лес *(Я. Сіпакоў)*.

● Назавіце словы, у якіх падвоенае напісанне літар адпавядае падаўжэнню гукаў у межах адной марфемы, а ў якіх — на стыку дзвюх марфем.

**127.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з працяжнікам паміж дзейнікам і выказнікам, абазначце ўмовы яго пастаноўкі. Чаму нельга паставіць працяжнік у 3-м сказе?

У з о р. *Капірайтар* (наз. у Н. скл.) — *дастаткова новая і цікавая прафесія* (наз. у Н. скл.).

Капірайтар — дастаткова новая і цікавая прафесія. Якаснае выкладанне небходнай інфармацыі на электронных рэсурсах, уменне вытрымаць стыль і перадаць неабходную аўтарскую думку — гэта толькі палова якасцей, якімі павінен валодаць капірайтар. Сёння капірайтар ужо не проста высакакласны журналіст. У яго дзейнасць таксама ўваходзіць ужыванне сучасных тэхналогій падрыхтоўкі тэкстаў да размяшчэння ў інтэрнэце, іх карэкціроўка ў адпаведнасці з алгарытмамі пошукавых сістэм. Іншымі словамі, капірайтар сёння — гэта вопытны журналіст і адукаваны тэхнар. Яго мэта — даставіць якасную інфармацыю пэўнай аўдыторыі *(Часопіс «Бярозка»)*.

● Назавіце запазычаныя словы. Ці ведаеце вы іх значэнні? Ці можна падабраць да іх беларускія адпаведнікі?

● Якія яшчэ сучасныя прафесіі вы ведаеце? Падрыхтуйце паведамленне пра іх.

## Праверце сябе

**128.** Дапоўніце, дзе патрэбна, табліцу. Пакажыце ў ёй, калі працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам ставіцца, а калі — не ставіцца. Кожную пазіцыю праілюструйце сваімі прыкладамі. На аснове табліцы падрыхтуйце вучэбнае паведамленне.

| Працяжнік ставіцца | Працяжнік не ставіцца |
|---|---|
| 1) Наз. + наз. | 1) наз. + ***не*** наз. |
| 2) ... + інф. | 2) наз. + ***як, нібы...*** |
| 3) Наз. + інф. | 3) займ. + наз. |
| 4) Інф. + ... | 4) ... + пабочн. сл. ... |
| 5) Ліч. + ... | 5) ... + дад. чл. ск. ... |
| 6) ... + ліч. | 6) наз. + наз. |
| 7) Наз. + гэта... | |
| 8) Інф. + гэта значыць... | |
| 9) ... + фразеалагізм | |

**129.** Спішыце верш Т. Мушынскай.

Клён гайдае
Галавой.
Ён мне родны.
Ён мне свой.
<...>
На яго
Духмяным лісці
Людзі хлеб
Пяклі калісьці.

Я люблю
Разное лісце,
Тонкіх ліній
Сілуэт.

У лісцёвай завірусе
Ліст разгладзіш даланёй —
Нібы воблік Беларусі,
Роднай, вечнай, залатой.

- Падкрэсліце граматычныя асновы сказаў.
- Запішыце загаловак да тэксту. Назавіце ключавыя словы.
- Вызначце тып тэксту, улічваючы трыванне і час дзеясловаў. Адказ абгрунтуйце.
- Які спосаб сувязі сказаў (паслядоўны ці паралельны) назіраецца ў 1-й страфе?
- Вызначце стыль тэксту. Дакажыце.
- Якія тыпы сказаў ёсць у гэтым тэксце? Як яны звязаны са стылем верша?
- Выпішыце падпарадкавальныя словазлучэнні з прыназоўнікамі. Пабудуйце іх схемы. Не забудзьцеся запісаць пытанні. Якімі членамі сказа з'яўляюцца залежныя словы гэтых словазлучэнняў?

**130.** Выканайце заданні: выберыце з прапанаваных варыянтаў адказу самы правільны, поўны, дакладны.

1. Сказы па мэце выказвання бываюць:
   а) апавядальныя, пытальныя, клічныя;
   б) апавядальныя, пытальныя, пабуджальныя;
   в) апавядальныя, пытальныя, загадныя.
2. Клічныя і няклічныя сказы адрозніваюцца:
   а) па інтанацыі;
   б) па наяўнасці клічнага знака;
   в) па эмацыянальнай афарбоўцы.
3. Каб адрозніць просты сказ ад складанага, патрэбна:
   а) знайсці дзейнік і выказнік;
   б) знайсці галоўныя члены сказа;

в) знайсці галоўныя члены сказа і вызначыць, колькі граматычных асноў яны ўтвараюць.

4. Дзейнік і выказнік называюць галоўнымі членамі сказа, таму што:

а) без дзейніка і выказніка сказ не можа існаваць;

б) галоўныя члены сказа выражаюць граматычнае значэнне сказа, без якога сказ не можа існаваць, — значэнне ладу, а ў абвесным ладзе і значэнне часу;

в) у галоўных членах сказа заключаны галоўны сэнс выказвання.

5. Выказнік адносяць да простых ці састаўных:

а) калі лексічнае і граматычнае значэнні выказніка выражаны адным словам, ён з'яўляецца простым;

б) калі лексічнае значэнне выказніка выражана адным словам, а граматычнае — іншым словам, то выказнік састаўны;

в) калі выказнік выражаны адным словам, ён просты; калі двума словамі ці больш, ён састаўны;

г) калі лексічнае і граматычнае значэнні выказніка выражаны формай аднаго слова (асабовай формай дзеяслова) — гэта просты выказнік; калі лексічнае значэнне выказніка выражана формай аднаго слова, а граматычнае значэнне — формай іншага слова, гэта састаўны выказнік.

## ДАДАНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА



**131.** Пабудуйце вертыкальную схему сказа.

Я з дзяцінства марыла аб прафесіі ўрача.

● Якія члены сказа называюцца даданымі? Якія даданыя члены ёсць у гэтым сказе?

● Выдзеліце з гэтага сказа словазлучэнні. Запішыце іх, паставіўшы галоўныя словы ў пачатковай форме. Пабудуйце схемы словазлучэнняў.

● Што агульнае ў словазлучэнняў і даданых членаў сказа? Як змяніліся словазлучэнні ў складзе сказа?



**Пашырэнне граматычнай асновы сказа даданымі членамі звычайна адбываецца па наступнай схеме: азначэнне адносіцца да дзейніка (гэта састаў дзейніка), а дапаўненне і акалічнасць — да выказніка (састаў выказніка). (Гл. схему на с. 74.)**

## § 22. Азначэнне

**Азначэнне** — гэта даданы член сказа, які абазначае прымету прадмета, яго якасць, уласцівасць і адказвае на пытанні я к і? ч ы й?: *Першае пажоўклае лісце ападала з ліпавых прысад* (Т. Хадкевіч). *Нотка дакору і строгасці пачулася ў бабчыным голасе* (Я. Колас).



У залежнасці ад спосабу выражэння азначэнні падзяляюцца на д а п а с а в а н ы я і н е д а п а с а в а н ы я. **Дапасаваныя азначэнні** выражаюцца прыметнікамі, займеннікамі, дзеепрыметнікамі, лічэбнікамі і дапасуюцца да паяснёнага слова (часцей назоўніка) у родзе, ліку і склоне: *Звоніць аб камень* (я к і?) ***сталёвы*** *нарог* (П. Трус). (Ч ы й?) ***Чыйсьці*** *голас пачуўся на вуліцы* (Ц. Гартны). *Схіляецца долу* (я к о е?) ***даспелае*** *жыта* (К. Буйло). (Я к у ю?) ***Другую*** *ноч байцы не спалі* (В. Быкаў).

Дапасаваныя азначэнні звычайна стаяць перад паяснёным словам і звязваюцца з ім спосабам дапасавання.

**132.** Спішыце. Падкрэсліце граматычныя асновы і дапасаваныя азначэнні, укажыце, якой часцінай мовы яны выражаны.

1. Ніякае[а] багацце людзей не бывае даражэйшым[м] за іх родную мову *(Я. Колас)*. 2. На зязюлін выклік тэлеграму дзяцел адбівае на кары *(М. Аўрамчык)*. 3. Мітуслівa праляцелі спалоханыя[с] качкі *(А. Макаёнак)*. 4. На вялізным[сл] дубе стаяў на адной назе задуменны[с] бусел *(М. Лынькоў)*. 5. Цераз вуліцу іхняя хата стаяла *(В. Быкаў)*.

**133.** Прачытайце. У якіх сказах прыметнікі і парадкавыя лічэбнікі з'яўляюцца азначэннямі, а ў якіх уваходзяць у іменную частку выказніка? Спішыце, падкрэсліце галоўныя члены сказа і азначэнні.

1. Вострых кос восем[а] штук леснікова хавае застрэшша *(А. Куляшоў)*. 2. Наш рэйс быў другі *(У. Караткевіч)*. 3. Хата была першая[м] з канца *(І. Навуменка)*. 4. Першыя зоры ўжо замігацелі ў бяздонным[с] небе *(Я. Сіпакоў)*. 5. На дне пясочак жоўты, чысты, вадой загладжаны[с], зярністы *(Я. Колас)*. 6. Лес стаяў ціхі і задуменны *(М. Лынькоў)*. 7. Голас у маці быў мяккі, пявучы, добры *(К. Чорны)*.



**Недапасаваныя азначэнні** звязваюцца з паяснёным словам спосабам кіравання або прымыкання: *Сшыткі* (ч ы е?) *вучняў ляжалі на стале. Нечаканае запрашэнне* (я к о е?) *зайсці да яго мяне вельмі здзівіла.*

Недапасаваныя азначэнні выражаюць прымету не прама, непасрэдна, а праз адносіны да іншых прадметаў. Таму яны маюць дадатковыя дапаўняльныя і акалічнасныя значэнні. Напрыклад: *Спевы* (ч ы е? к а г о?) *птушак напоўнілі гай* (М. Паслядовіч). *Ліпы* (я к і я? д з е?) *на плошчы ўсыпаны жоўтым цветам* (У. Ягоўдзік).

Недапасаваныя азначэнні багацейшыя за дапасаваныя сваім значэннем, паколькі яны могуць сумяшчаць значэнне азначэння са значэннем дапаўнення і акалічнасці: *Дрэвы* (я к і я? д з е?) *у садзе стаяць нерухомыя і велічныя. Сустрэча* (я к а я? з к і м?) *з сябрамі адбудзецца ў нядзелю.*

**Спосабы выражэння недапасаваных азначэнняў**

| Часціны мовы | Прыклады | Від сувязі |
|---|---|---|
| 1. Назоўнікам ва ўскосным склоне:<br>а) без прыназоўніка;<br>б) з прыназоўнікам | *Я ўважліва слухаў апавяданні дзеда.*<br><br>*Вада ў рэчцы адлюстроўвала пахілыя вербы.* | *апавяданні* (ч ы е?) ***дзеда*** (кіраванне);<br><br>*вада* (я к а я?) ***у рэчцы*** (кіраванне) |

| Часціны мовы | Прыклады | Від сувязі |
|---|---|---|
| 2. Інфінітывам (неазначальнай формай дзеяслова) | *Здольнасць развважаць хутка вярнулася да хлопца.* | *здольнасць* (я к а я?) ***развважаць*** (прымыканне) |
| 3. Прыслоўем | *Дарога дадому была цяжэйшай.* | *дарога* (я к а я?) ***дадому*** (прымыканне) |
| 4. Дзеепрыслоўем | *Чытанне лежачы шкодзіць здароўю.* | *чытанне* (я к о е?) ***лежачы*** (прымыканне) |
| 5. Прыналежнымі займеннікамі ***яго, яе, іх*** | *Адказы яго заўсёды былі змястоўнымі.* | *адказы* (ч ы е?) ***яго*** (кіраванне) |
| 6. Нескланяльным прыметнікам | *Мова хіндзі цяжкая для вывучэння.* | *мова* (я к а я?) ***хіндзі*** (прымыканне) |
| 7. Спалучэннем слоў | *Палёт Мінск—Масква праходзіў на вышыні 6 кіламетраў.* | *палёт* (я к і?) ***Мінск — Масква*** (прымыканне); *на вышыні* (я к о й?) ***6 кіламетраў*** (прымыканне) |

**134.** Спішыце сказы. Ад паяснёнага слова пастаўце пытанне да азначэння. Дапасаваным ці недапасаваным яно з'яўляецца, чым выражана?

У з о р. *Мне кожны колас* (я к і?) *Прыдняпроўя* (наз., недап.) *жадае* (я к о г а?) *добрага* (прым., дап.) *здароўя* (А. Пысін).

1. З гушчару выйшаў чалавек з кошычкам у руках *(А. Якімовіч)*. 2. Яго ўвагу займаў то каранасты дуб пры дарозе, то палянка[с] бяроз *(П. Пестрак)*. 3. За дарогу дамоў, за дарогу да маці шчаслівейшай няма дарогі *(У. Нядзведскі)*. 4. Слёзы радасці стаялі ў вачах дзеда *(М. Лынькоў)*. 5. Вясна вядзе на

луг і нараджае жаданне гарэзліва[с] весяліцца, бегаць і скакаць *(І. Шамякін)*. 6. Прыглушаны шэпт змяніўся размовай уголас *(П. Галавач)*.

**135.** Замяніце дапасаваныя азначэнні недапасаванымі. Складзіце сказы з атрыманымі словазлучэннямі. Якія з гэтых азначэнняў выражаюць больш канкрэтную прымету? У тэкстах якіх стыляў маўлення яны будуць больш да месца?

Дзіцячы гоман, пяцігадовы хлопчык, ластаўчына гняздо, **Купалавы** творы, **Коласаўская** прэмія, беларуская зямля, леснікова хата, скарынаўскія выданні, **Скарынаўскія** чытанні, **Шырмава** капэла.

● Растлумачце напісанне вялікай літары ў выдзеленых словазлучэннях.

***садавіна́***
***крапіва́***

**136.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Вызначце стыль і тып тэксту. Знайдзіце мастацкія азначэнні. З якой мэтай яны ўведзены ў гэта апісанне?

Ах, гэтая мележаўская ўсмешка!

Прыязная, іранічная, загадкавая[а], сарамлівая, кплівая[л], цёплая, хітраватая, задумлівая і шматзначная[сл], але заўсёды чалавечная, неабразлівая.

Такой усмешкі ні ў кога не было — адразу і так многа тонаў, паўтонаў, адценняў[а], як у той вясёлцы, што **летнім днём** перакідваецца[а] цераз ціхую, задуменную Прыпяць[м].

Усмешка водбліск душы. Пустая душа пустая ўсмешка. У Мележа ўсмешка была таленавітая, шчырая. Яна **сагравала** прыязнасцю і **тады**, калі **азмрочвалася самотай**, а бывала і так, што абодва пачуцці адразу афарбоўвалі яе — твар іскрыўся шчаснасцю, у вачах таілася туга.

Смех разрадка. Ён адключае чалавека хоць на імгненне ад напружанай працы мозгу[ф]. Ды нават і тады, калі Мележ смяяўся ад усяе душы, з ягонага твару[а] — во дзіва! — не знікала **напружанасць думкі** *(А. Асіпенка)*.

● Спішыце тэкст, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце прыметнікі-азначэнні і прыметнікі-выказнікі.

● Зрабіце сінтаксічны разбор выдзеленых словазлучэнняў.

## Праверце сябе

1. Які член сказа называецца азначэннем?
2. Якімі бываюць азначэнні па віду сінтаксічнай сувязі з паяснёным словам?
3. Чым могуць выражацца дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні?
4. Якія вы ведаеце разнавіднасці недапасаваных азначэнняў па значэнні? Чаму значэнне недапасаваных азначэнняў багацейшае за значэнне дапасаваных? Праілюструйце адказ прыкладамі.
5. Якая роля азначэнняў у тэксце?

## § 23. Прыдатак

Разнавіднасцю азначэння з'яўляецца прыдатак.
**Прыдатак** — гэта азначэнне, выражанае назоўнікам і дапасаванае да паяснёнага слова звычайна ў склоне.



Прыдатак характарызуе прадмет і дае яму другую назву. Напрыклад: *І плыве, плыве імклівы светлы Нёман-**чарадзей*** (Я. Пушча). (*Чарадзей* — дапасаваны прыдатак; сваімі граматычнымі формамі супадае з паяснёным словам у адзіночным ліку, мужчынскім родзе і назоўным склоне.)

Прыдатак, які з'яўляецца ўласнай назвай, іншы раз можа не супадаць з паяснёным словам у родзе *(возера **Нарач**)*, ліку *(горад **Баранавічы**)* і склоне *(выпісваем газету **«Звязда»**)*. Такога тыпу прыдаткі з'яўляюцца недапасаванымі, паколькі паяснёныя словы і прыдаткі выражаны рознымі граматычнымі формамі.

Прыдатак можа абазначаць прымету прадмета, ступень роднасці, нацыянальнасць, прафесію: *машына-**малютка**, **сястра** Жанна, воін-**беларус**, мужчына-**ўрач***.

Прыдаткамі з'яўляюцца аднаслоўныя і неаднаслоўныя назвы кніг, газет, часопісаў, фільмаў, карцін, прадпрыем-

стваў, калгасаў, фірмаў і г. д. Усе гэтыя прыдаткі захоўваюць форму назоўнага склону, пішуцца з вялікай літары і бяруцца ў двукоссе: *у часопісе **«Полымя»**, выступілі з танцам **«Лявоніха»**, на фабрыцы **«Слодыч»**, пры вытворчым аб'яднанні **«Прамень»**.*

Пры спалучэнні агульнага назоўніка з уласным (назвай асобы ці прозвішчам) прыдаткам звычайна з'яўляецца назоўнік агульны: ***прафесар** Л. І. Бурак, **дзядзька** Мартын, **дзед** Талаш*. У іншых спалучэннях агульнага назоўніка з уласным прыдаткам з'яўляецца ўласны назоўнік: *горад **Брэст**, рака **Сож**, возера **Свіцязь**.*

**137.** Разгледзьце табліцу. Раскажыце аб значэннях прыдатка. Прывядзіце свае прыклады на кожнае палажэнне табліцы.

| Разнавіднасці прымет | Прыклады |
|---|---|
| 1. Уласцівасць і якасць прадметаў, іх характарыстыка | *зіма-**чарадзейка**, салавей-**пяюн**, завод-**гігант*** |
| 2. Назвы геаграфічных аб'ектаў | *рака **Няміга**, горад **Віцебск**, востраў **Святой Алены*** |
| 3. Астранамічныя назвы | *сузор'е **Млечны Шлях**, зорка **Венера*** |
| 4. Назвы кандытарскіх і парфумерных вырабаў | *цукеркі **«Свіцязянка»**, торт **«Гамяльчанка»**, шампунь **«Шыпшына»**, крэм **«Знічка»*** |
| 5. Назвы транспартных сродкаў | *экспрэс **«Страла»**, трактар **«Беларус»*** |
| 6. Назвы твораў мастацтва, літаратурных твораў | *карціна **«Полацкія званы»**, паэма **«Новая зямля»**, кінафільм **«Людзі на балоце»*** |
| 7. Род заняткаў, прафесія, узрост, сацыяльная і нацыянальная прыналежнасць | *студэнты-**філолагі**, жанчына-**інжынер**, **васьмікласнік** Белавусаў, дзеці-**падлеткі**, хлопец-**беларус*** |

**138**. Спішыце сказы. Хвалістай лініяй падкрэсліце прыдаткі. Скажыце, што яны абазначаюць і ў чым дапасуюцца да паяснёных назоўнікаў. Раскажыце, як вы адрознівалі прыдаткі ад паяснёных слоў.

1. Над яблыняй-лясушкай уецца матылёк, а птушкі-весялушкі схаваліся ў цянёк *(М. Калачынскі)*. 2. Спевам-гоманам і звонам поўніцца ўвесь луг *(Я. Колас)*. 3. Дзе арэшнік развесіў гронкі вочак-арэшкаў, заблудзілася ў лесе зялёнае рэха *(К. Кірэенка)*. 4. Рупны Мінск-гаспадар працай славіцца плённай *(Р. Барадулін)*. 5. Выдатная праца настаўніка Васіля Сухамлінскага «Сэрца аддаю дзецям» — гэта сапраўды яго песня песень *(В. Вітка)*. 6. Нясе свае воды ў Балтыйскае мора рака Заходняя Дзвіна *(Н. Гальпяровіч)*.

**139.** Падбярыце да кожнага назоўніка прыдатак. Падкрэсліце яго як член сказа.

У з о р: *горад-герой, рака Вілія*.

Вучань, юнак, дзяўчына, студэнт, жанчына, рабочы, завод, фабрыка, аграгарадок, вёска, часопіс, аповесць, кінафільм.

**140.** Словы, што ў дужках, запішыце перад уласнымі назвамі, змяняючы, дзе трэба, канчаткі. Падкрэсліце прыдаткі як члены сказа.

У з о р. *Я люблю «Камунарку». — Я люблю цукеркі «Камунарка».*

1. Мы прачыталі «Спадчыну» (верш). 2. Я хаджу ў «Ракету» (кінатэатр). 3. Мае бацькі выпісваюць «Звязду» (газету), а я — «Бярозку» (часопіс). 4. Па просьбе слухачоў радыёстанцыя трансліравала «Пінскую шляхту» (спектакль).

**141**. Дакажыце, што ў словазлучэннях *рака Буг, горад Полацк* прыдаткамі будуць уласныя імёны, а ў словазлучэннях *аграном Ярмолаў, інжынер Міхайлава, доктар Красноўская*, наадварот, прыдаткамі з’яўляюцца агульныя назоўнікі. З апошнімі словазлучэннямі складзіце сказы, дзеясловы-выказнікі пастаўце ў форме прошлага часу.



Адзіночны прыдатак з паяснёным назоўнікам пішацца **праз дэфіс**:

1) калі абодва словы — агульныя назоўнікі: *дзяўчына-**фельчар**, горад-**герой**, муляр-**мастак**, Радзіма-**маці**, бацька-**франтавік**, нявеста-**красуня**, лось-**прыгажун***.

З а ў в а г а. Калі адзіночны прыдатак стаіць перад паяснёным словам і сваім значэннем адпавядае азначэнню-прыметніку, то дэфіс не пішацца: ***прыгажун** лось (= прыгожы лось), **чараўніца** зіма (= чароўная зіма), **красуня** дзяўчына (= прыгожая дзяўчына)*;

2) калі ўласны назоўнік стаіць перад агульным: ***Дзвіна**-рака, **Купала**-паэт, **Мінск**-горад, **Зямля**-планета, **Іван**-царэвіч*.

Дэфіс **не ставіцца:**

1) калі ўласны назоўнік стаіць пасля агульнага: ***кампазітар** Лучанок, горад **Мінск**, планета **Венера*** і г. д.;

2) калі паміж прыдаткам і паяснёным словам складваюцца рода-відавыя адносіны: *грыб **баравік**, кветка **званочак**, дрэва **дуб**, рыба **шчупак***;

3) пасля слоў *пан, панове, спадар (спадарыня), таварыш, грамадзянін, наш брат*: *Спадар пасол, мы рады вітаць Вас у нашай краіне*.

**142.** Спішыце сказы, пастаўце, дзе трэба, дэфіс ці двукоссе. Падкрэсліце прыдаткі. Раскажыце пра асаблівасці іх выражэння і афармлення на пісьме. Якія з прыдаткаў ужываюцца ў пераносным значэнні?

1. Песні грае дудар, стары дзед паляшук *(З. Бядуля)*. 2. Ляж, дачушка мая, адпачні, вочкі зоры на хвілю самкні *(К. Буйло)*. 3. Пяюць[с] дзяўчаты Рэчаньку, і аж да небакраю мільёны сонц сланечнікаў на полі расцвітаюць *(М. Танк)*. 4. Назаўтра[а] студэнт этнограф выехаў з вёскі *(З. Бядуля)*. 5. Вальс Амурскія хвалі ўсіх расчуліў[ф, с] да слёз *(А. Бачыла)*.

6. Камандзірам касмічнага карабля Саюз-13 быў наш зямляк[а] Пятро Клімук *(Р. Барадулін)*. 7. Маштабы велічных перамен добра відаць на абліччы сталіцы нашай дзяржавы — горада героя Мінска *(М. Мятліцкі)*.

**143.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Вызначце прыдаткі, у дужках пасля прыдаткаў укажыце: а) у якіх формах яны дапасуюцца да паяснёнага слова; б) згодна з якім правілам пішацца або не пішацца дэфіс.

1. Францыск Скарына, што зоры, ра..сыпаў па роднай краіне крыштальныя[м] словы навукі святла *(П. Броўка)*. 2. Далёка ты, мая зямля матуля. І цяжка жыць не бач..чы цябе *(Я. Колас)*. 3. Страшная бура завыла над цёмнаю пушчай. Застагналі, загулі магутныя дубы волаты *(В. Карамазаў)*. 4. Слё..ка крыўда заблішчала на яе вачах *(А. Вярцінскі)*. 5. Возера Нарач ніколі не зарастае[с] расліннасцю[м] *(В. Вольскі)*. 6. Над Бярозаю ракою ўзыходзіла зара *(П. Панчанка)*. 7. Не цвіце трава чабор *(Я. Купала)*. 8. Над Бугам узнімаецца[с] крэпасць цвярдыня, як помнік г..ройства нашых воінаў барацьбітоў *(В. Вольскі)*.

● Звярніце ўвагу на асобую выразнасць некаторых азначэнняў-прыдаткаў. Дзякуючы чаму яна дасягаецца?

## Праверце сябе

1. Што такое прыдатак? Якую ролю ён выконвае ў сказе?
2. Калі прыдатак пішацца праз дэфіс?
3. У якіх выпадках дэфіс пры прыдатках не ставіцца?
4. Калі ўласнае імя не з’яўляецца прыдаткам?
5. Калі прыдаткі бяруцца ў двукоссе і пішуцца з вялікай літары?

## § 24. Дапаўненне

**Дапаўненне** — даданы член сказа, які абазначае прадмет і адказвае на пытанні ўскосных склонаў.
Дапаўненні звычайна залежаць ад членаў сказа, якія выражаны дзеясловамі, дзеепрыметнікамі, дзеепрыслоўямі: *сябрую* (з к і м?) *з аднакласніцай, прачытаная* (к і м?) *аднакласніцай, спяваючы* (з к і м?) *з аднакласніцай*.



Ад аднаго і таго ж дзеяслова-выказніка могуць залежаць розныя па значэнні дапаўненні:

*Я пішу*
- ш т о? *пісьмо* (прадмет, на які накіравана дзеянне);
- к а м у? *брату* (адрасат дзеяння);
- ч ы м? *ручкай* (сродак дзеяння);
- а б ч ы м? *аб вучобе* (прадмет паведамлення);
- н а ч ы м? *на паперы* (прадмет, на якім ажыццяўляецца дзеянне).

Дапаўненні могуць таксама залежаць ад членаў сказа, выражаных назоўнікамі і прыметнікамі: *Чытанне* (ч а г о?) *кніг карыснае ўсім*. *Мы былі гатовы* (д а ч а г о?) *да ад'езду*.

У залежнасці ад формы выражэння дапаўнення і ад таго, пераходны ці непераходны дзеяслоў паясняецца ім, дапаўненні падзяляюцца на п р а м ы я і ў с к о с н ы я.

**Прамое дапаўненне** адносіцца да пераходных дзеясловаў і абазначае прадмет, на які накіравана дзеянне.

Прамыя дапаўненні выражаюцца:

1) назоўнікам або займеннікам у форме вінавальнага склону без прыназоўніка: *Расчасалі вішні шоўкавыя косы* (П. Трус). *Я бачу вас упершыню*;

2) назоўнікам у форме роднага склону без прыназоўніка, калі пры пераходным дзеяслове ёсць адмоўная часціца ***не***:

Параўн.: *Аленка напісала пісьмо Сцёпку* (Я. Колас). — *Аленка не напісала пісьма Сцёпку*;

3) назоўнікам у форме роднага склону, калі дзеянне пераходзіць не на ўвесь прадмет, а толькі на яго частку: *Мікіта папрасіў вады і хлеба.*

Дапаўненні, выражаныя ўсімі іншымі ўскоснымі склонамі з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў, называюцца **ўскоснымі:** *У лесе дзеці натрапілі* (н а к а г о?) *на вожыка. Зямля пакрываецца* (ч ы м?) *снегам.*

**144.** Спішыце, падкрэсліце граматычныя асновы сказаў і дапаўненні. Вызначце склон назоўнікаў, якія з'яўляюцца дапаўненнямі. Назавіце прамыя і ўскосныя дапаўненні.

1. Над імглой[а] балотнаю зноў, як год назад, ваяваць з лістотаю будзе лістапад *(А. Куляшоў)*. 2. Дзед ідзе з Міколкам да дэпо і павучае ўнука *(М. Лынькоў)*. 3. Добрая справа не любіць адкладу[ф] *(У. Краўчанка)*. 4. Восень[а] агаліла ўсе дрэвы і кусты *(Я. Колас)*. 5. Да гусей з кустоў падкралася хітрая ліса *(В. Вітка)*. 6. Залаты пажар сонца залівае верхавіны лесу *(Я. Колас)*. 7. Я выходжу рана-рана[а] слухаць лесу галасы. Ветрам ён раскалыханы[с], звоніць кроплямі расы *(П. Прануза)*. 8. Добры сняжок ураджай зберажэ *(Прыказка)*.

**145.** Перабудуйце сцвярджальныя выказванні ў адмоўныя, замяняючы вінавальны склон родным. Запішыце сказы, падкрэсліце прамыя дапаўненні.

1. Пах мяты выклікае алергію. 2. Усе вучні адразу зразумелі рашэнне задачы. 3. Суд устанавіў вінаватасць падсуднага. 4. Усе праявілі ініцыятыву ў падрыхтоўцы навагодняга вечара. 5. У яго было жаданне паглядзець дакументальны фільм. 6. Вучні адразу ўзнавілі прачытанае. 7. Алесь выканаў дамашняе заданне. 8. Вечарам сям'я глядзела фільм. 9. У цемры лесу мы знайшлі хату лесніка.

**146.** Прачытайце матэрыял табліцы. Падрыхтуйце паведамленне «Спосабы выражэння дапаўнення», праілюстраваўшы яго ўласнымі прыкладамі.

| Спосаб выражэння дапаўнення | Прыклады | Спосаб сувязі з дзеясловам-выказнікам |
|---|---|---|
| 1. Назоўнік | *З маленства я люблю лясы.* | *люблю* (ш т о?) ***лясы*** (кіраванне) |
| 2. Займеннік | *Мы жывём з табой у новы час.* | *жывём* (з к і м?) ***з табой*** (кіраванне) |
| 3. Лічэбнік | *Падзяліць два на дзесяць.* | *падзяліць* (ш т о?) ***два*** (кіраванне); *падзяліць* (н а ш т о?) ***на дзесяць*** (кіраванне) |
| 4. Інфінітыў | *Я папрасіў брата ехаць хутчэй.* | *папрасіў* (а б ч ы м?) ***ехаць*** (прымыканне) |
| 5. Прыслоўе | *Мы самі пабудуем наша заўтра.* | *пабудуем* (ш т о?) ***заўтра*** (прымыканне) |
| 6. Прыметнік, дзеепрыметнік у значэнні назоўніка | *Смелага куля не бярэ.*<br><br>*Неабходна сістэматычна паўтараць пройдзенае.* | *не бярэ* (к а г о?) ***смелага*** (кіраванне); *паўтараць* (ш т о?) ***пройдзенае*** (кіраванне) |
| 7. Выклічнікі ў значэнні назоўніка | *Усе крычалі «ўра».*<br><br>*Прымі шчырае «бывай!».* | *крычалі* (ш т о?) ***«ура»*** (прымыканне); *прымі* (ш т о?) ***«бывай!»*** (прымыканне) |
| 8. Сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне, фразеалагізм | *Хлопчыкі падрыхтавалі пяць плакатаў.*<br><br>*Мы далі яго вершам зялёную вуліцу.* | *падрыхтавалі* (ш т о?) ***пяць плакатаў*** (кіраванне); *далі* (ш т о?) ***зялёную вуліцу*** (кіраванне) |

**147.** Выпішыце сказы, у якіх неазначальная форма дзеяслова з’яўляецца дапаўненнем.

1. Вучні пачалі **збіраць** лекавыя расліны. — Настаўнік прапанаваў вучням **збіраць** лекавыя расліны. 2. Госць хацеў **пасадзіць** на памяць дрэўца. — Мы папрасілі госця **пасадзіць** на памяць дрэўца. 3. Мы хацелі сур’ёзна **займацца** спортам. — Доктар параіў нам сур’ёзна **займацца** спортам.

**148.** Спішыце. Падкрэсліце граматычную аснову і дапаўненні. У дужках укажыце, чым выражаны дапаўненні, іх віды (прамое ці ўскоснае) і спосаб сувязі з паяснёным словам.

У з о р. *Нізкае сонца асвятляла поле* (наз. В. скл. без прыназ., прам., кіраванне).

1. Жадаў я планеце ўсёй вёснаў зялёных, святла, сонца, росаў, дажджу[м] *(П. Прыходзька)*. 2. Юны бор убраўся ў верас і чабор *(А. Русак)*. 3. Вада з прыдарожнага[сл] ручая была саладзейшая за мёд нам *(П. Панчанка)*. 4. **Ночка нават не гайдала ні галінкі, ні кусточка, ні былінкі, ні лісточка, ні на ніве каласочка** *(Я. Колас)*. 5. Гром для хмар загады піша вогненным[а] пяром *(К. Кірэенка)*. 6. Сонца промні зыркія варушыць, ніткі залацістыя[с] прадзе *(П. Панчанка)*.

● Растлумачце ўжыванне ***не, ні*** ў выдзеленым сказе.

***му́зыка***
***музы́ка***

## Праверце сябе

1. Які член сказа называецца дапаўненнем?
2. Якія дапаўненні называюцца прамымі? ускоснымі?
3. Чым выражаюцца дапаўненні?

## § 25. Акалічнасць

**Акалічнасць** — даданы член сказа, які абазначае характар дзеяння ці розныя абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне, і адказвае на пытанні д з е? к у д ы? к а л і? а д к у л ь? ч а м у? я к? к о л ь к і? і інш.: *Ноччу, цёмнай, восеньскай, дождж халодны ліў* (П. Броўка). (*Ліў* (к а л і?) *ноччу*.) *Цячэ Прыпяць шырока, велічна* (В. Вольскі). (*Цячэ* (я к?) *шырока, велічна*.)



Звычайна акалічнасці адносяцца да выказніка, радзей — да іншых членаў сказа: *Месяц **маўкліва** плыве над маёй галавой* (Э. Агняцвет). ***У час** прачытаная кніга — вялікая ўдача* (Я. Брыль).

Паводле значэння акалічнасці падзяляюцца на наступныя віды:

| Від акалічнасці па значэнні | Пытанні | Прыклады |
|---|---|---|
| 1. Месца | д з е?<br>к у д ы?<br>а д к у л ь? | ***Унізе** струменіў Нёман* (Я. Колас).<br>*Збіраліся **ў вырай** буслы* (Я. Колас).<br>*Даносіцца спеў калыханкі **здалёк*** (М. Танк). |
| 2. Часу | к а л і?<br>з я к о г а ч а с у?<br>д а я к о г а ч а с у?<br>з а я к і ч а с?<br>я к д о ў г а? | *Першы гром быў **сёння ўночы*** (Н. Гілевіч).<br>***З рання да змяркання** пчолка залатая лётае па кветках ды мядок збірае* (Я. Журба).<br>***За ноч** выпала многа снегу* (Я. Брыль).<br>*Падарожжа працягвалася **два тыдні**.* |
| 3. Прычыны | ч а м у?<br>п а я к о й п р ы ч ы н е? | ***Штось** на сэрцы горка* (Я. Колас).<br>*А мяцеліца **ад злосці** белай грываю трасе* (З. Бядуля). |

| Від акалічнасці па значэнні | Пытанні | Прыклады |
|---|---|---|
| 4. Мэты | для чаго? навошта? з якой мэтай? | *Часта збіраліся палешукі* ***пагутарыць*** *аб сваіх справах* (Я. Колас). *Сыноў бацька сваіх кліча* ***на нараду*** *ў хату* (Я. Купала). |
| 5. Умовы | пры якой умове? | *Праца спорыцца* ***пры песні*** (К. Буйло). |
| 6. Спосабу дзеяння | як? якім чынам? | *Будуюць мурашкі сваё жыллё* ***разумна, з толкам*** (А. Якімовіч). *Свінцовае, мокрае неба,* ***цямнеючы,*** *апускалася над ракою* (М. Гамолка). |
| 7. Меры і ступені | колькі? як многа? у якой меры і ступені? | ***Тройчы*** *прабіў гадзіннік* (В. Хомчанка). *Песня* ***дужа*** *ўстрывожыла сэрца маці* (Я. Брыль). |
| 8. Уступкі | нягледзячы на што? | ***Нягледзячы на позні час,*** *спаць не хацелася* (М. Лынькоў). |

Заўвага. Акалічнасці могуць сумяшчаць у сабе некалькі пытанняў. Напрыклад: *Вада была чыстая і празрыстая* (у чым? дзе?) *у рэчцы* (М. Ваданосаў). Пры пастаноўцы да слова пытання дапаўнення (пытанне ўскоснага склону) і акалічнасці (сэнсавае пытанне) перавага аддаецца сэнсаваму пытанню.

**149.** Спішыце сказы, падкрэсліце выказнікі і акалічнасці. Пастаўце да акалічнасцей пытанні, укажыце іх від.

1. Бярыце[с] з роднага парога і хлеб, і песню ў шлях з сабой *(П. Прыходзька)*. 2. За гарамі, за даламі, за сыпучымі

пяскамі[a] жыў раней адзін хлапчына з **васільковымі вачыма** *(У. Дубоўка)*. 3. Лагодна[сл] і роўна[сл] **падае зверху** сняжок *(З. Бядуля)*. 4. Смачныя без меры тут раслі калісьці[a] бэры *(К. Крапіва)*. 5. Ад плачу птушкі невядомай я прачнуўся раніцай *(З. Бядуля)*. 6. У вёсцы, нягледзячы на позні[м] час, чуваць былі песні дзяўчат *(У. Крайчанка)*. 7. Для жыцця, для любві сонца зноў **абдымае зямлю** *(А. Куляшоў)*. 8. Прадзе паціху восень залатую ніць *(Э. Агняцвет)*. 9. Дождж ліў як з вядра *(М. Лынькоў)*.

● Зрабіце сінтаксічны разбор выдзеленых словазлучэнняў.

**150.** Утварыце словазлучэнні, складзіце і запішыце з імі сказы. Акалічнасці падкрэсліце.

Падысці (д а ч а г о? к у д ы?), сесці (д з е?), размаўляць (я к?), хадзіць (п а ч ы м? д з е?), прысесці (д з е? к а л я ч а г о?), заспяваць (а д ч а г о?), выбегчы (а д к у л ь?), ехаць (д л я ч а г о? з я к о й м э т а й?).

**151.** Спішыце, устаўляючы замест пытанняў прапушчаныя акалічнасці. Падкрэсліце словы, да якіх гэтыя акалічнасці адносяцца.

1. Паляўнічыя (к а л і?) ... накіраваліся (к у д ы?) ... . 2. (Д з е?) ... стаяла цішыня. 3. (К а л і?) ... асабліва хораша бывае (д з е?) ... . 4. Мой бацька працуе (д з е?) ... . 5. (Д з е?) ... высокая пшаніца пачала ўжо каласіцца.

**152.** Выберыце адзін з варыянтаў працягу сказа. Раскрыйце яго сэнс.

1. Алесь паводзіць сябе *(прыстойна; выхавана; па-хамску; як яго вучылі; як выхаваны чалавек)*...

2. Дамашняе заданне Алеся выканала *(акуратна; абы-як; як патрабаваў настаўнік)*...

● Разгарніце адзін са сказаў у тэкст.

**153.** Прачытайце пары супрацьлеглых па значэнні фразеалагізмаў, растлумачце іх значэнні. Складзіце і запішыце з імі сказы, падкрэсліце фразеалагізмы як члены сказа.

Куры не клююць — як кот наплакаў; ні канца ні краю — як бабе сесці; цэлы мех — ні каліва; рукой падаць — за трыдзевяць зямель; нага за нагу — з усіх ног.

**154.** Разгледзьце табліцу. Раскажыце пра спосабы выражэння акалічнасці і спосабы сувязі яе з паяснёным словам.

| Спосабы выражэння акалічнасці | Прыклады | Від сінтаксічнай сувязі |
|---|---|---|
| 1. Прыслоўем | *Вакол ляжыць травяністы луг* (Я. Колас). | *ляжыць* (д з е?) ***вакол*** (прымыканне) |
| 2. Спалучэннем прыназоўніка з назоўнікам | *Перад акном расцвіла яблыня* (А. Кулакоўскі). | *расцвіла* (д з е? п е р а д ч ы м?) ***перад акном*** (кіраванне) |
| 3. Дзеепрыслоўем, дзеепрыслоўем у спалучэнні з залежнымі словамі | *Жанкі падыходзілі гамонячы* (І. Мележ).<br>*Рэдкія буйныя кроплі дажджу скочваюцца разпораз з дому, бязгучна знікаючы ў чорнай зямлі* (В. Адамчык). | *падыходзілі* (я к?) ***гамонячы*** (прымыканне);<br>*скочваюцца* (я к?) ***бязгучна знікаючы ў чорнай зямлі*** (прымыканне) |
| 4. Інфінітывам | *Калгаснікі выехалі ў поле сеяць пшаніцу.* | *выехалі* (д л я ч а г о? з я к о й м э т а й?) ***сеяць*** (прымыканне) |
| 5. Фразеалагізмам | *Васіль і Яўхім сустрэліся тварам у твар* (І. Мележ). | *сустрэліся* (я к?) ***тварам у твар*** (прымыканне) |

**155.** Спішыце. Падкрэсліце акалічнасці і вызначце, да якога разраду яны адносяцца, чым выражаны і як звязаны з паяснёнымі словамі.

1. Мяне сцяжынка ўжо вяла дадому[а], у бацькаў двор аселіцай вяла *(Н. Гілевіч)*. 2. Молада[сл], хораша, звонка спяваў[с] гарманіст *(Я. Брыль)*. 3. Мы на той на дарозе назаўжды падружылі, адны думы і мары нас навек параднілі *(А. Русак)*. 4. Вось птушкі ў лясным гушчары спрасонку ў званочкі задзінькалі *(У. Ляпёшкін)*. 5. Чалавек наўмысна падбадзёрваў[а] сам сябе *(А. Чарнышэвіч)*. 6. Пры разумнай[м] справе і галава ў пашане *(Прыказка)*. 7. Гаворыць дзядзька, бровы хмурыць і бальшуноў ён злёгку журыць *(Я. Колас)*.

● З апошняга сказа выпішыце словы: а) у якіх літар больш, чым гукаў; б) гукаў больш, чым літар; в) у якіх вымаўленне не супадае з напісаннем.

**156.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Назавіце акалічнасці і спосабы іх выражэння.

Словы **зараз** і **цяпер**. Калі нікому не трэба тлумачыць, што такое **цяпер**, бо ўсе яго ведаюць, то слова **зараз**, думаецца, якраз мае патрэбу ў вытлумачэнні. Яго цяпер трэба проста ратаваць. І зараз скажу чаму. Апошнімі дзесяцігоддзямі ў гэтага слова вельмі часта адбіраюць яго ўласнае значэнне і выдаюць яго за слова **цяпер**.

А між тым у слова **зараз** здаўна ёсць свая адметная моўная служба — казаць пра тое, што мае адбыцца вось-вось, неўзабаве, праз хай сабе і няпэўны (секунда, хвіліна, квадранец — успомнім: паводле І. Насовіча гэта 15 хвілін, паўгадзіны), але нейкі вельмі блізкі час.

Запомнім назаўсёды. Слова **зараз** абавязкова мае на ўвазе будучы час. Таму і ўжываецца яно звычайна **з дзеясловамі будучага часу**: зараз скажу, прачытаю, напішу...

А стаць пры дзеясловах цяперашняга часу яно можа толькі тады, калі гэтыя дзеясловы ўжытыя ў значэнні будучага: зараз іду, гэта значыць, калі падразумяваецца:

зараз пайду. Але ўжо ў часе самой хады нельга сказаць: я зараз іду, трэба: я цяпер іду *(А. Клышка)*.

● Складзіце і запішыце сказы са словамі **зараз, цяпер.** Разбярыце іх па членах сказа.

**157.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып. Назавіце акалічнасці і адкажыце, якую ролю ў стварэнні тэксту яны выконваюць.

СЯБРОЎКІ

Увайшоў у змрочны бор. Доўга хадзіў і слухаў. Ага, нехта стукае, варакузіцца*.

Іду на стук. Убачыў — сядзіць у камлі яліны чорная птушка ў акуратным чырвоным берэціку і дзяўбе кару.

Жаўна! Лапатая*, кіпцюрастая, дзюба на краёчках светлая, у кутках жаўтлявая, а шапачка чырвоная-чырвоная. Вока ў белай аблямоўцы.

Прайшоў далей, пад двухпутку*, па якой падвозяць да ТЭЦ паліва. Выйшаў на святло, па снезе, зноў трапіў у глухі, запаветны бор. Убачыў сойку. Скакала па яловым шыгаллі, дзяўбла нешта. Вунь яшчэ птушка мільганула. Села на пень паміж мной і сойкай. Жаўна! Старая знаёмая?!

Жаўна як села на пень, дык адразу ў работу — толькі трэскі ляцяць. Падышоў бліжэй. Сойка не спудзілася, не заверашчала. Бо чорны дзяцел ёй як вартаўнік. Раз завіхаецца каля пня, значыць, усё спакойна. Яны побач, за два-тры метры. І не сварацца, не замінаюць адна адной. Быццам добрыя сяброўкі — жаўна і сойка. «Розныя харчовыя базы», — патлумачаць арнітолагі. Дзве сяброўкі... Ну а я — трэці лішні. Завярнуўся і пайшоў у іншы бок *(Паводле А. Наварыча)*.

***інду́стрыя***
***металу́ргія***
***куліна́рыя***
***фарту́х***

## § 26. Паслядоўная і паралельная сувязь сказаў у тэксце (паглыбленне)



У сказе звычайна выдзяляюць дзве часткі: першая — гэта тое, што нам вядома з папярэдняга тэксту ці з самой маўленчай сітуацыі, другая — гэта тое, дзеля чаго будуецца сказ.

Першая частка называецца **вядомым**, а другая — **новым.** Напрыклад:

в. н. н. в.

*Рэчка Ружанка — тонкі блакітны паясок. Вельмі няспешная роўная яе вадзіца* (А. Бензярук).

У першым сказе вядомае — *Рэчка Ружанка,* новае — *тонкі блакітны паясок.* У другім сказе вядомае — *яе вадзіца,* усё астатняе новае.

**158.** Абазначце вядомае і новае ў наступным сказе.

У старадаўнія часы Ружанка, як змейка-вужык, абвівала ўзвышша *(А. Бензярук)*.

У тэксце сказы могуць быць звязаны паслядоўнай і паралельнай сувяззю.
**Паслядоўнай** сувяззю называецца такая сувязь, калі другі сказ звязаны з першым, трэці — з другім і г. д.






Паслядоўная сувязь сказаў тэксту абумоўлена чаргаваннем вядомага і новага. Думка аўтара развіваецца паслядоўна. Тое, што ў першым сказе было новым, у другім становіцца вядомым і г. д.

**159.** Правядзіце дыялог з тэкстам; вызначце вядомае і новае ў кожным сказе.

Тут калісь быў мураваны палацык. Вакол яго множыліся драўляныя хаткі. Тутэйшы гаспадар надаў новаму паселішчу

імёны сваіх любых дачок — Ружы і Ганны. Дзяўчынкі, кажуць, былі блізняткамі, падобнымі, як кропелькі. Таму і злучыліся ў адной назве. Пачалі навакольцы[л] клікаць селішча Ружанай, часам ласкава — Ружаначкай, а цяпер — Ружанамі *(А. Бензярук)*.

● Далучыце да тэксту папярэднія сказы-прыклады. Запішыце легенду поўнасцю. Вызначце тып і стыль тэксту.

**160.** Разгледзьце схему будовы тэксту. Растлумачце, чаму такі спосаб сувязі сказаў у тэксце называецца паслядоўным. Як развіваецца думка ў тэкстах з паслядоўнай сувяззю сказаў?






У тэкстах з **паслядоўнай** сувяззю сказаў думка развіваецца па ланцужку: новае ў першым сказе становіцца вядомым у другім, новае ў другім сказе становіцца вядомым у трэцім і г. д.

**Паралельнай** сувяззю называецца падпарадкаванне другога, трэцяга і г. д. сказаў першаму. Першы сказ задае тэму, дае як бы агульны план карціны, а ўсе наступныя сказы і па сэнсе, і граматычна з ім звязаны. Яны дэталізуюць агульны малюнак, канкрэтызуюць тэму тэксту. Напрыклад:

*1. Паглядзіце, якая прыгажосць навокал. 2. Над рэчкаю і лугам пухнатаю цёплаю коўдрай ляжыць туман. 3. А на ўсходзе, проста на вачах у нас, неба хтосьці размалёўвае дзівоснымі яркімі фарбамі — чырвонаю, малінаваю, барвоваю. 4. Прачнуўся ветрык. 5. А вось і першы званочак з прыдарожнага бухматага вербалозу. 6. Гэта берасцянка.*

Схема паралельнай сувязі ў тэксце:





У арганізацыі тэксту вялікае значэнне мае яго пачатак і канец (пачатковыя і заключныя сказы). Часта пачатак тэксту, як і загаловак, раскрывае (называе) яго тэму (гл. прыклад на с. 117).

Асноўнымі сродкамі, якія ствараюць сэнсавую і граматычную цэласнасць тэксту, з'яўляюцца адзіная тэма, спосаб спалучэння сказаў, характар сінтаксічных канструкцый, парадак слоў, націск, тэматычная лексіка, паўтор слоў (лексічны паўтор), аднакаранёвыя словы, займеннікі, злучнікі і інш.

Сэнсавую цэласнасць тэксту забяспечвае **тэма.** Яна абумоўлівае ўжыванне адпаведнай лексікі, гэта значыць слоў, якія могуць быць аб'яднаны ў тэматычныя групы: назвы прадметаў ці з'яў, якія звязаны паміж сабой у рэальным жыцці. Прыклады тэматычных груп — імёны сваяцтва: *дзядуля, бабуля, маці, бацька, сын, дачка, братавая**, *швагер**, *залоўка**, *свякроў* і інш.; назвы дрэў і кустоў: *алешына, ляшчына**, *ядловец, шыпшына*; лекавыя расліны: *румянак, зязюліны слёзкі, падбел, воўчае лыка* і інш. Напрыклад, пры апісанні сям'і, лесу, лугу і іншага адпаведныя тэматычныя групы ствараюць сэнсавае адзінства тэксту, а часта з'яўляюцца і **ключавымі** словамі.

Сродкамі, якія забяспечваюць тэматычную сувязь, таксама з'яўляюцца: словы-«намеснікі» — займеннікі *(палацык — ён)*, прыслоўі *(узвышша — тут)*, сінонімы *(марудна — няспешна)*, метанімії *(жыхары горада — гараджане)*, метафары *(палахлівец — заяц)*, рода-відавыя словы *(кветкі — валошкі)*, агульны назоўнік — уласны назоўнік *(настаўнік — Васіль Юльянавіч)* і інш.

Узмацняе сэнсавую і граматычную сувязь частак тэксту **лексічны паўтор** (могуць быць розныя формы слоў, што паўтараюцца).

**161.** Прачытайце тэкст. Ахарактарызуйце ў ім сродкі, што забяспечваюць тэматычную сувязь.

Ад усяго слаўнага роду Гарэшкаў засталося толькі трое — стары пан Ладзіслаў, яго жонка Магдуля ды надзея роду, сын Канстанцін Гарэшка. З маленства Кастусіка песцілі ды ўводзілі ў вушы, што ён — самы высакародны, самы разум-

ны, самы прыгожы, самы дужы… І, зразумела, ажэніцца ён няйнакш як з князёўнай і стане не менш чым ваяводам або маршалкам*. Вядома, гэткая важная асоба не мусіла пэцкаць рукі сялянскай працай — і Кастусік бавіў час, высакародна збіваючы палкай галовы дзядоўніка або седзячы з вудай над рэчкай *(Л. Рублеўская)*.



Сродкамі, якія забяспечваюць **граматычную** сувязь, з'яўляюцца:

а) адпаведнасць трывальна-часавых формаў дзеясловаў у тэксце;

б) прыназоўнікі;

в) адпаведнасць паміж граматычнымі формамі ў сказе.

Сродкі, што забяспечваюць **сінтаксічную** сувязь:

а) аднолькавы пачатак і канец;

б) паралелізм;

в) супрацьпастаўленне;

г) парадак слоў у сказе;

д) пытальныя сказы (*Ці любіце вы чытаць?* — патрабуецца адказ);

е) злучнікі, часціцы.

Сродкі, што забяспечваюць **лагічную** сувязь:

а) паслядоўнасць у выкладзе думак, фактаў, падзей, дзеянняў *(Прыйшоў, убачыў, перамог)*;

б) правільнасць прычынна-выніковых сувязей (параўн.: *Лісты ападаюць, таму што наступіла восень* і *Восень наступіла, таму што лісты ападаюць*);

в) загаловак;

г) словы — арганізатары лагічных сувязей: *вось чаму, з гэтага вынікае…*;

д) пабочныя словы, якія арганізуюць парадак выказвання: *па-першае, па-другое, нарэшце…*;

е) «сашчэпкі» — сказы, абзацы, што ўказваюць на парадак пераказу;

ж) падагульняльныя словы: *такім чынам, падвядзём вынік*.

Агульная тэма можа аб'ядноўваць шэраг больш дробных тэм (мікратэм). Іменна тэма вызначае некаторыя сінтаксічныя асаблівасці тэксту.

**162.** Падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу тэксту. З гэтай мэтай вызначце: а) тып і стыль тэксту; б) сродкі сувязі сказаў і частак тэксту; в) моўныя асаблівасці тэксту.

## МАЛЯВАНКІ ЦЁТКІ АЛЕНЫ

Калісьці гэтую вандроўніцу добра ведалі на Случчыне. Звалі яе — Алена Кіш. Позняй восенню і зімою цётка Алена хадзіла ад хаты да хаты і за невялікую плату, мех бульбы ці кавалачак сала, малявала на даматканым палатне карціны, разам з якімі пад саламяныя стрэхі нібы завітвала свята.

Нарадзілася Алена Кіш у 1889 годзе ў мнагадзетнай сям'і. Яна з маленства любіла маляваць. Пераступíць жа парог мастацкай школы не давялося: перашкодзіла нястача. Адзіным настаўнікам здольнай дзяўчынкі стала наша цудоўная беларуская прырода, а таксама народныя казкі і песні.

Аднавяскоўцы называлі Алену дзівачкай, летуценніцай. Як зачараваная, глядзела яна на прыдарожныя бярозы і сосны, на простыя палявыя краскі, падоўгу слухала паднебныя званочкі жаўрукоў. Ну а жыццё тады было вельмі цяжкае, галоднае і халоднае. То рэвалюцыя, то вайна, то калектывізацыя, калі не шкадавалі ні малых, ні старых. Гарадскія плошчы і вуліцы запаланілі партрэты новых правадыроў, крыклівыя плакаты.

Цётка Алена не ўмела дый не хацела маляваць падобных «твораў». Нават назвы яе дываноў не адпавядалі тагачасным запатрабаванням: «У райскім садзе», «Дзева на водах», «Ліст да каханага»... Мастачка запрашала гледачоў не на заводы і фабрыкі, а ў дзівосную краіну сваіх мрояў і сноў, самых дарагіх дзявочых спадзяванняў. Пойдзем туды і мы. У госці да казачнага трохрагавага аленя і зусім не страшных ільвоў, да нікім не бачаных дзіў-птахаў і беласнежных лебедзяў. Давайце сабе ўявім, што менавіта нас чакаюць у лодках святочна апранутыя паненкі. Каб далей сумесна вандраваць у пошуках шчасця. А шчасце, паверце, ёсць на свеце! Адно не сядзі склаўшы рукі, калі не хочаш з ім размінуцца.

Нікому не цесна на Аленіных насценніках[л]. Усім хапае месца: і людзям, і птушкам, і звярам. На кожным палатне пануе суладдзе. Разам з фарбамі свецяцца Дабро і Хараство. Гэта найпершая адзнака сапраўднага мастацтва.

Дываны Алены Кіш упрыгожвалі сялянскія хаты некалькі дзесяцігоддзяў, пасля іх замянілі модныя фабрычныя вырабы. Да сённяшніх дзён уцалела невялікая часцінка творчай спадчыны слуцкай майстрыхі. Аднак і гэтага аказалася дастаткова, каб імя Алены Кіш трапіла ў сусветную энцыклапедыю наіўнага[л] мастацтва, выдадзеную дваццаць гадоў таму ў Будапешце. Значыць, створанае нашай зямлячкай узбагаціла не толькі скарбонку беларускай культуры.

Памерла Алена Кіш у 1949 годзе, пахавана на могілках у мястэчку Грозаў, што ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці. Амаль усе вядомыя цяпер дываны мастачкі захоўваюцца ў музеі Заслаўскага гісторыка-культурнага запаведніка *(Часопіс «Бярозка»)*.

- Як вы ўяўляеце свой жыццёвы і прафесійны шлях?
- Ці хацелі б вы стаць такім прафесіяналам, як Алена Кіш?

## Сінтаксічны разбор двухсастаўнага сказа

### *Пісьмовы разбор*

*Хмаркі белыя марудна за лясы плывуць* (Я. Колас).

### *Вусны разбор*

Сказ просты, двухсастаўны, развіты, поўны.

(Ш т о?) *хмаркі* — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме Н. скл., мн. л.;

*хмаркі* (ш т о  р о б я ц ь?) *плывуць* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны дзеясловам у форме абв. ладу, цяп. ч., 3-й ас., мн. л.;

*хмаркі* (я к і я?) *белыя* — дапасаванае азначэнне, выражана прыметнікам у форме Н. скл., мн. л.;

*плывуць* (я к?) *марудна* — акалічнасць спосабу дзеяння, выражана прыслоўем;

*плывуць* (к у д ы?) *за лясы* — акалічнасць месца, выражана назоўнікам у спалучэнні з прыназоўнікам ***за*** ў форме В. скл., мн. л.

Сказ апавядальны, няклічны.

**163.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце паведамленне «Сінтаксічная функцыя інфінітыва», праілюстраваўшы яго ўласнымі прыкладамі.

| Член сказа | Прыклады |
|---|---|
| Дзейнік | *Жыць добра ў згодзе.* |
| Выказнік | *Сястра закончыла чытаць кнігу.* |
| Дапаўненне | *Прырода вучыць чалавека разумець прыгожае.* |
| Азначэнне | *У пакупніка з'явілася жаданне выказаць падзяку прадаўцу.* |
| Акалічнасць | *На поўдзень ён прыехаў працаваць над кнігай.* |

## Праверце сябе

1. Які член сказа называецца акалічнасцю?
2. Якія па значэнні бываюць акалічнасці?
3. Чым выражаюцца акалічнасці?
4. Якую ролю ў стварэнні тэксту выконваюць акалічнасці?

# АДНАСАСТАЎНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

## § 27. Віды аднасастаўных сказаў

**164.** Прачытайце. Назавіце граматычную аснову сказаў. Якія з іх маюць два галоўныя члены (дзейнік і выказнік), а якія — адзін (або дзейнік, або выказнік)?

1. Люблю хадзіць па асеннім лесе. — Я люблю хадзіць па асеннім лесе. 2. Сіняя смуга, далі. — У сіняй смузе песцяцца далі. 3. Ніколі не трэба спыняцца на дасягнутым. — Мы ніколі не спыняемся на дасягнутым. 4. Прынеслі ў кошыку грыбы. — Дзеці прынеслі ў кошыку грыбы.

Сказы, граматычная аснова якіх складаецца з аднаго галоўнага члена, называюцца **аднасастаўнымі**.



У аднасастаўных сказах можа быць або толькі дзейнік і яго састаў (азначэнне): *Светлая ноч. Ускраіна лесу* (К. Крапіва), або толькі выказнік і яго састаў (акалічнасць і дапаўненне): *Рыхтуй улетку сані, а зімой калёсы* (Прыказка).

У аднасастаўных сказах другі галоўны член або не патрэбны для разумення сэнсу сказа: *Раніца. Нарач. Пішу табе пісьмо* (значэнне 1-й асобы адзіночнага ліку перадаецца канчаткам дзеяслова-выказніка *піш-**у***), або яго наогул не можа быць: *Мне не спіцца* (безасабовая форма выказніка не дапускае ўжывання назоўнага склону).

Аднасастаўныя сказы, як і двухсастаўныя, могуць быць развітымі і неразвітымі. Параўнайце: 1. *Вечарэе.* — *Позна вечарэе.* 2. *Вечар.* — *Цёплы летні вечар.*

У залежнасці ад значэння і формы выражэння галоўнага члена сказа адрозніваюць пэўна-асабовыя, няпэўна-асабовыя, абагульнена-асабовыя, безасабовыя і назыўныя сказы.

**165.** Разгледзьце схему. Раскажыце, на якія віды падзяляюцца аднасастаўныя сказы ў залежнасці ад віду галоўнага члена.



**166.** Прачытайце сказы. Дакажыце, што яны аднасастаўныя. У развітых сказах назавіце даданыя члены.

1. Бяздонную бочку вадой не нальеш *(Прыказка)*. 2. У вокнах зусім развіднела *(Т. Хадкевіч)*. 3. Па нітачцы клубок знаходзяць *(Прыказка)*. 4. Чым жа боль душы развею, сэрца ўтаймую? *(М. Багдановіч)*. 5. Чэрвень. Раніца. Росы і цішыня *(П. Панчанка)*. 6. Давайце прысядзем і адпачнём крыху *(М. Лынькоў)*. 7. Цішыня. Спакой. А мне не спіцца *(А. Бачыла)*. 8. Са мною заўсёды вітаюцца ветліва *(Р. Барадулін)*.

## § 28. Пэўна-асабовыя сказы

**167.** Прачытайце. Знайдзіце граматычныя асновы сказаў. Хто ўтварае дзеянне, абазначанае дзеясловам-выказнікам? Як вы гэта вызначылі?

1. Люблю лугі квяцістыя, за полем шумны гай... *(А. Русак)*. 2. Глядзі ж чакай мяне *(І. Пташнікаў)*. 3. Зробім перапынак на трыццаць хвілін *(У. Шахавец)*. 4. Даруйце мне за гэту прыкрасць *(Н. Гілевіч)*.

**Пэўна-асабовымі** называюцца аднасастаўныя сказы, у якіх утваральнік дзеяння не названы, але ўяўляецца як пэўная дзейная асоба: моўца або яго суразмоўца: *Ад роднай мовы, ад роднай нацыі не адцураюся, не адракуся!* (П. Панчанка). *Не спяшайся. Ідзі сабе памалу* (Я. Колас).



Выказнік у пэўна-асабовых сказах выражаецца дзеясловамі ў форме 1-й і 2-й асобы адзіночнага або множнага ліку абвеснага ці загаднага ладу:

*Піш**у** (**-ам**) многа.* — Форма 1-й асобы адзіночнага (множнага) ліку абвеснага ладу цяперашняга часу.

*Многа піш**аш** (**-аце**)*. — Форма 2-й асобы адзіночнага (множнага) ліку абвеснага ладу цяперашняга часу.

*Піш**ы** (**-це**) больш!* — Форма 2-й асобы адзіночнага (множнага) ліку загаднага ладу.

Выказнік можа выражацца формамі будучага часу:

*Буду чытаць (будзем чытаць; прачытаю, прачытаем) кнігу.*

*Будзеш чытаць (будзеце чытаць; прачытаеш, прачытаеце) кнігу?*

Пэўна-асабовыя сказы даволі ўжывальныя ў гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры. Яны робяць выказванне лаканічным, даюць магчымасць пазбегнуць паўтору асабовых займеннікаў: *Ну, што стаіш, Вераніка? Не бойся! Бліжэй падыдзі!* (Н. Гілевіч).

Без займеннікаў-дзейнікаў маўленне больш дынамічнае: *Вучыцеся ж добра, старанна заўсёды* (А. Астрэйка). *Развагаю, стаю над ракою* (С. Дзяргай).

**168.** Спішыце. Падкрэсліце галоўны член пэўна-асабовых сказаў. Якой формай дзеяслова ён выражаны? Вызначце тып сказа па мэце выказвання.

1. Хачу паведаць пра людзей адданых[с] *(П. Броўка)*. 2. Давай пасядзім[с] перад дарогай *(У. Дубоўка)*. 3. Сядайце, госці, за стол наш багаты адзначыць святочны[ф] час *(А. Астрэйка)*. 4. Зямлю беражом, нібы родны свой дом, не пусцім агонь да парога! *(Ю. Свірка)*. 5. З затоеным дыханнем слухаем музыку ляснога ручайка[сл] *(Е. Лось)*. 6. Будзьце[м] больш уважлівымі[сл] да вучняў *(В. Вітка)*. 7. А што ж не частуеце[с] нас? *(І. Шамякін)*. 8. Не плач жа, бярозка, не лі свае слёзы, красуня, над люстрам ракі запляці свае косы, красуня *(А. Куляшоў)*. 9. Прыеду ў той куток зялёны, аддам паклон сунічнай старане, дзе на сядзібах маладыя клёны шумяць аб нечым дарагім мне *(Р. Баравікова)*.

**169.** Якія з прыведзеных формаў дзеяслова могуць ужывацца ў ролі галоўнага члена пэўна-асабовага сказа? Складзіце з імі сказы і запішыце. Падкрэсліце галоўны член пэўна-асабовых сказаў. Якой граматычнай формай выражаны дзеяслоў-выказнік?

1. Пішу, будзем пісаць, пішуць, пішам, пішаце, пісалі.

2. Прачытаю, прачытаем, прачытаеш, прачытаеце, прачытаюць.

3. Ідзём, ідзяце, ідуць, будуць ісці, ідзеш, іду.

4. Бягуць, бяжым, бяжыш, бежыце, будуць бегчы, бягу.

● Назавіце рознаспрагальныя дзеясловы. Прывядзіце свае прыклады рознаспрагальных дзеясловаў.

**170.** Спішыце, размяркоўваючы сказы па групах: а) двухсастаўныя; б) пэўна-асабовыя. Падкрэсліце граматычныя асновы сказаў.

1. Табе складаю шчыры свой санет[л], прапрадзедаў[с] маіх жывая мова... *(Е. Лось).* 2. Паўзе ў лагчыны летні змрок *(М. Машара).* 3. Неба доўга заставалася ясным і светлым *(Я. Колас).* 4. Хачу быць добрым садоўнікам[сл] *(В. Хомчанка).* 5. Стаю над возерам вясной, усё спавіта цішынёй *(П. Броўка).* 6. Выходзім на трап і заўважаем людзей з кветкамі *(С. Грахоўскі).* 7. Адцвіло[ф], адшапацела лета, калабком скацілася[с] з гары *(Хв. Жычка).* 8. Ты адыходзіш? Спяшайся[с]. Ідзі *(П. Броўка).*

**171.** Перабудуйце пэўна-асабовыя сказы ў двухсастаўныя. Які з гэтых відаў сказаў будзе вызначацца лаканічнасцю, жывасцю і большай яснасцю?

1. Люблю восень наперакор дажджу і снегу.

2. Цэлы дзень магу хадзіць па вузенькіх лясных сцежках, усцеленых залатым лісцем.

3. Нахадзіўшыся за дзень, ледзь іду дадому.

**172.** Дапішыце сказы. У якім стылі да месца будзе ўжыванне такога тыпу сказаў?

1. Звяртаю Вашу ўвагу...
2. Просім выдаць нам...
3. Даводжу да Вашага ведама...
4. Прашу выдаць мне...
5. Разгледзьце маю просьбу...

пе́**н**сія [н’с’]
кама**н**дзі́р [н’дз’]
бе**н**зі́н [н]
тра**н**зі́т [н]

**173.** Прачытайце. Вызначце стыль маўлення. Назавіце пэўна-асабовыя сказы. З якой мэтай яны выкарыстаны ў тэксце?

Вось пастукалі ў дзверы. Да вас прыйшлі[м] сябры. Гэта вашы госці. З першай жа хвіліны яны павінны адчуць[ф] павагу да сябе, гасціннасць[сл] гаспадароў.

Памажыце госцю зняць і павесіць на вешалку паліто. Затым запрасіце яго ў пакой. У дзверы першымі не заходзьце[а], прапусціце ўперад госця.

Прымаючы гасцей, старайцеся[с] весці сябе так, каб ім было ў вас утульна. Думайце аб іх, а не аб сабе. Не прымушайце гасцей сумаваць, прыдумайце які-небудзь[а] цікавы занятак *(Паводле А. Дорахава)*.

● Падрыхтуйце паведамленне пра тое, як вы прымаеце гасцей.

## § 29. Няпэўна-асабовыя сказы

**174.** Параўнайце сказы. Ці адрозніваюцца яны сваім сэнсам? Што з’яўляецца галоўным у сказах з правага слупка?

| | |
|---|---|
| 1. Недалёка ад школы будаўнікі ўзводзяць новы дом.<br>2. Дачнікі пабялілі сады.<br>3. У Беларусі людзі ведаюць цану хлебу. | 1. Недалёка ад школы ўзводзяць новы дом.<br>2. На дачах пабялілі сады.<br>3. У Беларусі ведаюць цану хлебу. |

**Няпэўна-асабовыя сказы** — гэта аднасастаўныя сказы, у якіх дзейнік адсутнічае, а дзеяслоў-выказнік мае форму 3-й асобы множнага ліку ці форму прошлага часу множнага ліку: *По радыё абʼяўляюць пасадку. Ужо грузяць багаж. Падалі грузападʼёмнікі.*



У такіх сказах важна само дзеянне, а не яго ўтваральнікі.

З а ў в а г а. Сказы, у якіх выказнік мае форму прошлага часу адзіночнага ліку (пры гэтым магчыма

«ўставіць» дзейнік), адносяцца да няпоўных двухсастаўных сказаў. *Учора паглядзеў фільм. Выйшаў на вуліцу, стаяў і глядзеў на зоркі. Сказала ціха і невыразна.*

Няпэўна-асабовыя сказы пашыраны ў гутарковым маўленні, ужываюцца ў аб'явах: *1. Як цябе завуць? 2. Мяне завуць Аленкай. 3. Просяць захоўваць цішыню. 4. Тут прадаюць часопісы.*

**175.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Падкрэсліце галоўны член няпэўна-асабовых сказаў. Якой формай дзеяслова ён выражаны?

1. Колькі разоў цябе нішчылі, Крычаў, не пакідалі на кам..ні кам..ня *(У. Дубоўка)*. 2. З крынічнай студнечкі бяруць ваду паліваць расліны ў цяпліцы *(П. Пестрак)*. 3. Чапцова накармілі і далі яму спакой *(І. Мележ)*. 4. Жанчына доўга[сл] стукала ў дзверы, пакуль ёй а..чынілі *(І. Навуменка)*. 5. **Паўночную частку Беларусі нездарма называюць краем блакітных азёр** *(В. Вольскі)*. 6. Нам даручаюць праектаваць атамную электрастанцыю[а] *(Газета «Звязда»)*. 7. У дзверы асцярожна пастукалі *(А. Якімовіч)*.

● Зрабіце разбор словазлучэнняў у выдзеленым сказе.

**176.** Якія з прыведзеных формаў дзеяслова могуць ужывацца ў ролі галоўнага члена няпэўна-асабовага сказа? Складзіце з імі сказы і запішыце. Падкрэсліце галоўны член няпэўна-асабовых сказаў. Якой граматычнай формай выражаны дзеяслоў-выказнік?

1. Паведаміць, паведаміў, паведамілі, паведамляю, паведамляюць.

2. Друкуеш, друкаваў, друкавалі, друкуем, друкуюць, друкуе.

**177.** Прачытайце. Знайдзіце «чацвёртае лішняе» паводле выражэння дзеяслова-выказніка. Вызначце тып сказаў.

1. Нам загадалі садзіць дрэўцы.
2. Часнок размнажаюць зубкамі.
3. У полі барануюць бульбу.
4. Капусту квасяць у бочках.

**178.** Прачытайце. Вызначце стыль маўлення. З якой мэтай ужываюцца ў тэкстах няпэўна-асабовыя сказы?

1. Знатнага бульбавода А. У. Саўчанку добра ведаюць у вобласці[а] і нават у краіне. Да яго едуць па вопыт, у яго вучацца[с] майстэрству, з ім раяцца *(Газета «Звязда»)*.

2. — Хутка тут пачнуць уборку каласавых, — выгукнуў Карэцкі.

3. — Няхай пачынаюць. Хутчэй[ф] пачнуць, раней закончаць *(У. Шахавец)*.

● Назавіце, чым выражаны выказнік у няпэўна-асабовых сказах.

## § 30. Абагульнена-асабовыя сказы

**Абагульнена-асабовымі** называюцца аднасастаўныя сказы, у якіх дзеянне, абазначанае выказнікам, адносіцца да абагульненай асобы, да кожнага: *Рэшатам вады не наносіш* (Прыказка). *Вясновым паветрам дыхаеш і ніяк не можаш надыхацца* (Я. Брыль).



Выказнік абагульнена-асабовых сказаў часцей выражаецца дзеясловам у форме 2-й асобы абвеснага і загаднага ладу, радзей — іншымі асабовымі формамі: *Адным рукамі нямнога зробіш* (Прыказка). *Не шукай ветру ў полі* (Прыказка). *Увосень за стол просім* (Прыказка). *У лес дроў не возяць* (Прыказка).

У абагульнена-асабовых сказах выражаюцца агульныя вывады, павучанні, заключэнні. Таму яны часта ўжываюцца ў мове прыказак і прымавак: ***Вучыся** змоладу, то на старасці як **знойдзеш**. Сябра за грошы **не купіш**.*

Абагульнена-асабовыя сказы — зручная форма перадачы ўласных назіранняў, успамінаў, перажыванняў, пра якія паведамляе моўца ад імя 2-й асобы: ***Выбежыш**, бывала, з двара за паркан, **акінеш** вокам неабсяжна шырокае неба... **зірнеш** на лес, і ногі самі нясуць цябе на зялёную роўнядзь лужка* (Б. Сачанка).

**179.** Спішыце, падкрэсліце галоўны член сказа. Дакажыце, што гэтыя сказы з'яўляюцца абагульнена-асабовымі. Чым выражаны ў іх выказнік?

1. Будзь спярша выслуха́чым, а пасля апавяда́чым *(Прыказка)*. 2. Не за сваю справу не бярыся *(Прыказка)*. 3. З незабітага[с] ліса шубы не шыюць *(Прыказка)*. 4. Куляй пацэліш[м] у аднаго, у двух, а трапным словам у тысячу[а] *(Прыказка)*.

● Растлумачце сэнс прыказак. У якіх маўленчых сітуацыях іх можна ўжыць?

**180.** Дапішыце сказы. Якія гэта сказы паводле значэння і граматычнага выражэння выказніка? Чаму?

1. Не рабі ліхога і не бойся ... . 2. Глыбей узарэш — болей ... . 3. Клін клінам ... . 4. Думай звечара, а рабі ... . 5. Век жыві — век ... . 6. Са сваёю цаною на кірмаш ... .

Словы для даведкі: *збярэш, нікога, зранння, выганяюць, не едуць, вучыся.*

**181.** Спішыце, вызначце форму выражэння выказніка і тыпы аднасастаўных сказаў.

1. Пашану і славу па кроплях збіраюць[с] *(Е. Лось)*. 2. Буду верыць: для шчасця жыве чалавек *(С. Грахоўскі)*. 3. Адгукніся, вясна, мне зязюляй з-за рэчкі, дай яшчэ раз прыпасці да любай зямлі *(А. Куляшоў)*. 4. Лабановіча прымалі і спатыкалі* прыветна, з ахвотай падтрымлівалі[с] гутарку аб розных справах *(Я. Колас)*. 5. Згодаю дом збудуеш, а нязгодаю — разбурыш[м] *(Прыказка)*. 6. Да белага ў даўніну ставіліся крыху недаверліва. Але пірагі заўсёды любілі *(У. Караткевіч)*. 7. Не ганарыся званнем, а ганарыся ведамі *(Прыказка)*. 8. Лета прагуляўшы[м], восенню нічога не збярэш *(Я. Колас)*. 9. Ці помніш жніў, касьбы дзень шчыры? *(Я. Купала)*. 10. Любімых не забываюць у радасці, а ў горы любяць яшчэ мацней *(С. Грахоўскі)*.

● Растлумачце сэнс прыказак. У чым іх павучальнасць? У якіх сітуацыях іх будзе да месца ўжыць?

## § 31. Безасабовыя сказы

**182.** Параўнайце сказы. У якіх з іх няма дзейніка? У якіх сказах яго не можа быць?

1. Дактары дазволілі хвораму падняцца. 2. Хвораму дазволена падняцца. 3. Хвораму дазволілі падняцца. 4. Хвораму можна падняцца. 5. Хворы можа падняцца.

**Безасабовымі** называюцца аднасастаўныя сказы, у якіх дзеянне і стан не ўтвараюцца дзейнай асобай: *Адразу запахла сырой адталай зямлёй* (І. Шамякін). *Вечарэла. На вуліцы ціха* (Я. Колас). *Страшна тут было ўначы* (Я. Колас). Дзеянне ў безасабовых сказах утвараецца, само па сабе, а таму ў іх не можа быць дзейніка.

**183.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Выражэнне выказніка ў безасабовым сказе», выкарыстоўваючы ўласныя прыклады ці прыклады з практ. 186.

| Спосабы выражэння выказніка | Прыклады |
|---|---|
| 1. Безасабовы дзеяслоў | *Змяркаецца.* |
| 2. Асабовы дзеяслоў у безасабовым значэнні | *На лузе пахне скошанай травой.* |
| 3. Зваротны дзеяслоў у безасабовым значэнні | *Маці не спіцца.* |
| 4. Інфінітыў | *Быць навальніцы!* |
| 5. Прыслоўе са значэннем стану | *Сёння холадна. У лесе ціха.* |
| 6. Дзеепрыметнік залежнага стану | *У пакоі вымыта, прыбрана.* |
| 7. Адмоўнае слова *няма (не было, не будзе)* | *З агнём жартаў няма.* |

| Спосабы выражэння выказніка | Прыклады |
|---|---|
| 8. Безасабовы дзеяслоў + інфінітыў | *Спаць доўга не хацелася.* |
| 9. Прыслоўе са значэннем стану (прэдыкатыўнае прыслоўе) + інфінітыў | *Цяжка жыць без сяброў.* *Нельга браць чужое.* |
| 10. Асабовы дзеяслоў у безасабовым значэнні + дзеепрыметнік залежнага стану | *Многа было сказана добрых слоў і пажаданняў.* |

**184.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце галоўны член безасабовых сказаў. Укажыце, чым ён выражаны.

1. Не быць Радзіме без..меннай, зямлі бацькоў не анямець *(Н. Гілевіч)*. 2. Вечарэе. Дзень даўно павесіў[с] на сасне сваю касу зары *(М. Танк)*. 3. Світала. Пад ботамі скрыпеў марозны снег *(Я. Брыль)*. 4. Цямнее ў лесе. Ноч надыходзіць, марозік злё..ку націскае *(Я. Колас)*. 5. Вакол было ціха. На небе свяціліся зоркі *(Я. Колас)*. 6. Марозна. Хмурнавата[сл]. Сняжок па..кідвае заўзята[м] *(Я. Колас)*.

**185.** Перабудуйце сказы па ўзоры. Разбярыце іх па членах сказа. Чым яны адрозніваюцца?

1. Узор. *Моцны вецер паваліў дрэва. — Дрэва паваленa моцным ветрам. — Дрэва паваліла моцным ветрам.*

1. Град пабіў пасевы. 2. Навальніца запаліла дрэва. 3. Снежная лавіна пашкодзіла лініі электраперадач.

2. Узор. *Я радуюся. — Мне радасна.*

1. Пахне мята. 2. Бабуля не спіць. 3. У добрае надвор'е дзеці не сядзяць дома. 4. Набліжаецца вечар. 5. Бок баліць.

***без жа́лю*** [б'ажжа́л'у]
***без шу́му*** [б'ашшу́му]



Безасабовыя сказы часта ўжываюцца ў мастацкай літаратуры пры апісанні пачуццяў, адчуванняў чалавека, малюнкаў прыроды, навакольнага асяроддзя, перадаюць непазбежнасць або адсутнасць чаго-небудзь (каго-небудзь): *У душы — **прасторна**, **лёгка**, **весела**: май ідзе праз нівы і бары* (Н. Гілевіч). *І **люба** мне **глядзець** на поле, дзе колас гнецца да зямлі* (А. Гурло). ***Пераваліла** за поўнач. Знікла палоска вячэрняй зары на небасхіле... **Пацямнела*** (Т. Хадкевіч).

Ужываюцца безасабовыя сказы таксама ў афіцыйных паведамленнях: *Забараняецца выносіць кнігі з чытальнай залы. Бюлетэні неабходна пералічыць. Прапануецца прагаласаваць.*

**186.** Прачытайце верш. Вызначце, чым дасягаецца катэгарычнасць і лаканізм выказвання. У чым павучальнасць верша? Запішыце безасабовыя сказы. Чым выражаны ў іх галоўны член?

Не трэба жыць, як набяжыць.
Так жыць на свеце трэба,
Каб да апошніх дзён любіць
Людзей, зямлю і неба.
Не падаць у сляпы адчай,
Як затрашчаць падпоркі[л],
Знаць, што жыццёвы каравай
Бывае часам горкі.
Якім ні будзеш малайцом, —
Старайся не забыцца,
Што лепей плакаць з малайцом,
Чым з дурнем весяліцца.
Хто многа вынес на вяку,
Загартаваўшы[с] волю,
Табе на раны ў час пакут
Ён не падсыпле солі.
Пад знакам шчасця і бяды
Так жыць на свеце трэба,
Нічым каб не зняславіў ты
Людзей, зямлю і неба.

*А. Грачанікаў.*

## § 32. Назыўныя сказы

**187.** Прачытайце. Вызначце, якія з гэтых сказаў маюць дзейнік і выказнік, а якія толькі дзейнік. Чым яны адрозніваюцца?

1. Ноч ціхая, бязросная і духмяная *(І. Шамякін)*. 2. Белае, марознае поле. Дарога гладкая, слізкая, бліскучая *(М. Лужанін)*. 3. Родная вёска. Сасновыя хаты *(П. Панчанка)*. 4. Ціхі посвіст, лёгкі шорах *(У. Краўчанка)*. 5. Гарачы летні дзень. Жніво *(З. Бядуля)*. 6. Стары, закінуты сад, скалечаны вайною *(К. Чорны)*.

**Назыўныя сказы** — гэта аднасастаўныя сказы, у якіх галоўны член мае форму дзейніка, выражанага назоўнікам у назоўным склоне: *Полудзень. Вар. Цішыня. Дожджыку просіць зялёнае жыта* (Я. Колас). *Чэрвень. Раніца. Росы і цішыня* (П. Панчанка).



У назыўных сказах сцвярджаецца наяўнасць прадметаў або з'яў у цяперашнім часе: ***Цемра. Ноч.*** *У стэпе цёмна, бы ў сасновым гушчары* (П. Прыходзька). *Позняя* ***восень****. Дробны* ***дождж*** (А. Чарнышэвіч).

У назыўных сказах дзейнік можа развівацца толькі дапасаванымі і недапасаванымі азначэннямі: *Снежная пустыня. Цішыня* (І. Шамякін). *Восень. Шорах лісця* (Я. Брыль). *Вось пісьмо. Пісьмо сына.*

Заўвага. Сказы, у якіх ёсць дзейнік і дапаўненне, дзейнік і акалічнасць, з'яўляюцца двухсастаўнымі няпоўнымі, хоць у іх і адсутнічае выказнік: *Моц наша — у адзінстве. Каля акна — пісьмовы стол, на ім — стос кніг і сшыткаў.*

Назыўныя сказы звычайна пачынаюць тэкст, уводзячы чытача (слухача) у абстаноўку, у падзеі: *Цаліна. Маладая пара. Сябры... Цікавыя людзі, гутаркі, сустрэчы* (Р. Барадулін).

Назыўныя сказы вымаўляюцца запаволеным тэмпам, паміж імі робіцца працяглая паўза, лагічны націск прыпадае на дзейнік.

**188.** Прачытайце выразна, звяртаючы ўвагу на інтанацыю назыўных сказаў. Дакажыце, што ў якасці галоўнага члена назыўных сказаў выступаюць назоўнікі з прасторавым, часавым ці падзейным значэннем. Якія дадзеныя члены сказа могуць развіваць галоўны член назыўнога сказа?

1. Рэчка Лазянка. Запруда. Бальніца. Хаты і хаты наўкруг[м] *(П. Броўка)*. 2. Разбітая, пакалечаная вайною дарога *(Б. Сачанка)*. 3. Вясна! У яркай квецені палеткі і сады *(А. Астрэйка)*. 4. Дзікае месца! Лясы і балоты, купін мільёны, кусты лазняку *(Я. Колас)*. 5. Завіруха. Навагодняя ноч. Ніхто не хоча спаць *(І. Мележ)*. 6. Вось і ноч. Нада мною сінія нябёсы *(М. Багдановіч)*.

**189.** Развіце назыўныя сказы дапасаванымі і недапасаванымі азначэннямі ці ўказальнымі часціцамі ***вось, вунь***.

1. Раніца. То дождж, то сонца. Вецер.
2. Стадыён. Чаканне. Шум.
3. Раўніна. Месяц. Снег. Цішыня.

***рэ́мень***
***ту́фель***
***тру́фель***

**190.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Знайдзіце аднасастаўныя сказы з галоўным членам дзейнікам.

Кастрычнік.

Пагодлівая раніца. Пахне марозікам. Цішыня. Спакой. На ўсходзе — сінь, хмары фіялетавыя або шэрыя. І агнявая, распаленая чырвань сонца, якое ўзыходзіць.

Туманнае ранне на ўзлессі. Лес мяшаны. Гледзячы на жоўты вяршняк бярэзніку, здаецца, што гэта з-за туману ўзыходзіць сонца.

Сыры, халодны ранак. Рунь — хоць выціскай яе ад вільгаці *(Я. Брыль)*.

● Якую ролю выконваюць назыўныя сказы ў тэксце?

**191.** Прачытайце сказы. Зрабіце сінтаксічны разбор трох аднасастаўных сказаў (на выбар).

1. Нельга жыць без веры ў людзей *(А. Бажко)*. 2. З песні[ф] слова не выкінеш *(Прыказка)*. 3. Холадна. Сакавіцкае[а]

сонца **яшчэ** дрэнна[сл] грэе *(М. Гамолка)*. 4. Бор канчаецца[с]. Чыгунка. Паравоз азваўся недзе *(М. Калачынскі)*. 5. Бераг ракі. **Жоўтая** палоска пяску *(Я. Брыль)*. 6. Перш за ўсё пачалі перапраўляць[с] **раненых** *(І. Мележ)*. 7. Не злічыш дароў **тваіх**, верасень, сёлета *(А. Вялюгін)*.

- Да якіх часцін мовы адносяцца выдзеленыя словы?

## Сінтаксічны разбор аднасастаўнага сказа

### *Пісьмовы разбор*

*Пахла скошанаю травою* (Я. Сіпакоў).

### *Вусны разбор*

Сказ просты, аднасастаўны з галоўным членам выказнікам, безасабовы, развіты, поўны.

(Што рабілася?) *пахла* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны асабовым дзеясловам у безасабовай форме;

*пахла* (чым?) *травою* — ускоснае дапаўненне, выражана назоўнікам у форме Т. скл., адз. л.;

*травою* (якою?) *скошанаю* — дапасаванае азначэнне, выражана дзеепрыметнікам у форме Т. скл., адз. л.

Сказ апавядальны, няклічны.

**192.** Прачытайце тэкст. Вызначце, якім настроем ён прасякнуты. Выдзеліце ў тэксце ключавыя словы, падзяліце яго на абзацы. Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Осень... По утрам теперь темно. Бежишь к остановке и тебе наплевать, что чулки забрызганы. Всё равно никто ничего не видит. А в трамвае столько народу! Все одинаковые, все мокрые: идёт дождь. После работы тоже темно. И опять никто ни на кого не смотрит. Всем некогда. Бегут, тащат тяжёлые сумки, толпятся у автобусов. В скверах по вечерам теперь пусто... А звуки? Даже звуки осенью другие. Летом открой ночью окно и не заснёшь... У кого-то музыка играет, кто-то мимо идёт, смеётся. Стук каблуков по асфальту...

А сейчас окна закрыты. На улице только дождь и ветер, дождь и ветер... *(Н. Катерли).*

● Дакажыце, што аўтар выкарыстоўвае не толькі двухсастаўныя сказы, але і ўсе тыпы аднасастаўных. Якія якасці гэта надае тэксту? Знайдзіце ў ім элементы гутарковага стылю.

● Якая дэталь апісання падалася вам цікавай? Як пабудавана гэта фраза?

**193.** Тэкст зробленага вамі перакладу з папярэдняга практыкавання ўяўляе сабой адчуванні дарослага чалавека, заклапочанага сваёй працай, домам... Паспрабуйце апісаць, уключыўшы ў тэкст элементы разважання, свой погляд на тую ж самую ці іншую пару года. Выкарыстайце, па магчымасці, аднасастаўныя сказы.

**194.** Разгледзьце ілюстрацыю з карціны У. Сулкоўскага «Елка ў пары з хваіною». Апішыце агульнае ўражанне ад карціны. Выкарыстоўваючы розныя віды аднасастаўных сказаў, назавіце месца, адлюстраванае на карціне, апішыце стан прыроды, розныя дэталі карціны.

## § 33. Паглыбленне паняцця пра публіцыстычны стыль

**195.** Выпішыце з кніг, газет, часопісаў і іншых крыніц пяць невялікіх тэкстаў рознага стылю, у якіх ёсць аднасастаўныя сказы. Ахарактарызуйце тэксты, карыстаючыся планам адказу і захоўваючы паслядоўнасць у разважанні.

1. У якой маўленчай сітуацыі можа прагучаць дадзены тэкст?
2. У чым заключаецца задача маўлення (абмяняцца ўражаннямі; даць дакладную інфармацыю, растлумачыць якоенебудзь паняцце; стварыць вобраз, карціну; выказаць свае адносіны да прадмета маўлення; заклікаць слухача, чытача да дзеяння)?
3. Якім з'яўляецца выказванне (нязмушаным ці афіцыйным, эмацыянальным ці нейтральным, канкрэтным ці абагульнена-адцягненым)?
4. Якія моўныя сродкі, уласцівыя гэтаму стылю, выкарыстаны ў тэксце?



**Публіцыстычны стыль** — гэта стыль перыядычнага друку, прамоўніцкага маўлення і інш. У ім рэалізуюцца інфармацыйная і пабуджальная функцыі мовы. Гэта набліжае публіцыстычны стыль да навуковага і мастацкага. Аднак у публіцыстычным стылі інфармацыйная і пабуджальная функцыі маюць сваю спецыфіку. Інфармацыя, па-першае, прызначаецца не для вузкага кола спецыялістаў, а для ўсёй грамадскасці, па-другое, павінна даводзіцца да адрасата хутка, аператыўна. Уздзеянне скіравана не толькі на розум, але і на пачуцці адрасата. У публіцыстычным стылі могуць выкарыстоўвацца элементы навуковага, афіцыйна-дзелавога, гутарковага стыляў; часта выкарыстоўваюцца мастацкія сродкі (у прыватнасці, вобразнасць). Нягледзячы на наяўнасць стандарту, у публіцыстычным стылі можа праяўляцца аўтарская індывідуальнасць.

**Задачы** публіцыстычнага стылю — паведаміць інфармацыю і ўздзейнічаць на чытача, выклікаючы пэўны водгук.

**Асноўныя рысы** публіцыстычнага стылю:

- надзённасць;
- лаканічнасць падачы матэрыялу пры інфармацыйнай насычанасці;
- даходлівасць выкладу матэрыялу (газета — найбольш распаўсюджаны сродак масавай інфармацыі);
- яркасць, эмацыянальнасць, абагульненасць, а часта нязмушанасць выказвання.

Характэрныя **асаблівасці** публіцыстычнага стылю: выкарыстанне моўных штампаў, клішэ *(працаўнікі палёў, сяброўская атмасфера)*; выкарыстанне перыфразы *(другі хлеб — бульба, блакітныя дарогі — водныя шляхі)*.

**Сінтаксіс** тэкстаў публіцыстычнага стылю мае свае асаблівасці:

- пераважнае выкарыстанне простых сказаў;
- няпоўныя, без дзеясловаў, сказы *(Мы — у рэдакцыю)*;
- аднасастаўныя сказы розных відаў, асабліва ў якасці загалоўкаў *(«Міражы і рэальнасць», «Не палепшылі, а пагоршылі»)*;
- градацыя — аднародныя члены сказа, размешчаны ў парадку ўзрастання ці ўбывання, змяншэння *(Было ў ім нешта **сонечнае, яснае, залатое**)*;

● рытарычныя пытанні *(Ну як не любавацца родным краем?)*;

● рытарычныя звароткі *(**Радзіма мая**, на долю тваю выпалі неймаверныя выпрабаванні)*;

● пытальныя, клічныя сказы;

● антытэзы *(Вайна — і мір)*, інверсіі *(Законы патрэбна ведаць)*, анафары *(Кніга — крыніца ведаў. Кніга — скарбонка вопыту)*, паралелізм у будове сказаў;

● чляненне сказа, пры якім змест рэалізуецца ў некалькіх адрэзках, аддзеленых адзін ад аднаго знакамі прыпынку і паўзамі.

На тэкставым узроўні таксама праяўляецца неаднароднасць, супярэчлівасць публіцыстычнага стылю. Разважанне, апавяданне, апісанне — усе гэтыя тыпы маўлення сустракаюцца не толькі ў межах стылю ўвогуле, але і ў межах аднаго тэксту.

Публіцыстычны тэкст часта мае вольную кампазіцыю (дарожныя нататкі, дзённікі і інш.); у некаторых жанрах (нататка, інфармацыйнае паведамленне) пераважаюць тэксты стэрэатыпнай* будовы.

**196.** Прачытайце тэкст. З якіх частак ён складаецца? Вызначце жанр і стыль тэксту. Пералічыце асноўныя прыметы, якія дапамаглі вам вызначыць стыль.

НАТХНЁНЫ ВОДАРАМ РАДЗІМЫ

2009 год названы Годам роднай зямлі. Газета «Пераходны ўзрост» не збіраецца быць простым летапісцам. І сапраўды: стаяць убаку ад агульнай справы — не ў правілах тых, каму да 16 і больш! А ў гонар ТАКОГА года газета запускае асобы праект з паэтычнай назвай «Натхнёны водарам Радзімы» і накіроўваецца ў... круіз! Не палохайцеся, сваю любімую газету атрымаеце своечасова: наша падарожжа ў асноўным будзе завочным (хоць ад цікавых паездак не адмовімся). А прэс-круіз разгорнецца на старонках «ПУ» паведамленнямі аб выніках вашых прыгод у падарожжах па родным краі. Гэта значыць, што кожны, «натхнёны водарам Радзімы», атрымлівае магчымасць расказаць пра любімы куточак сва-

ёй малой радзімы, яе выдатныя мясціны ў нашай газеце і за гэта... атрымаць прыз. Хвіліну славы (а больш дакладна, старонку славы)! І не толькі для сябе любімага, але і для цудоўнага месца свайго нараджэння. Зрабі славутым свой гарадок, вёску, мястэчка на ўсю краіну! Акрамя таго, лепшыя публікацыі (тыя, што трапяць у брэнд-топ па выніках SMS-галасавання) плануецца ўключыць у зборнік, які будзе ўручацца замежным гасцям, а таксама пераможцам нашага праекта. А што тычыцца прызоў, таксама намячаюцца! І ганаровыя дыпломы ў прыдачу. Дух ужо захапіла? Тады ручку, нататнік, фоцік пад паху — і ў дарогу!

Прэс-круіз пачынаецца! А свае нарысы, замалёўкі, вершы пра выдатныя мясціны і славутасці малой радзімы (аб'ём 1—2 старонкі А4), аўтарскія фотаздымкі (да 1 Мб) дасылайце на CD-дыску на адрас: 200013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, рэдакцыя газеты «Пераходны ўзрост» ці па e-mail: p_vosrast@tut.by *(А. Новікава)*.

● Падрыхтуйце матэрыял да ўдзелу ў конкурсе «Натхнёны водарам Радзімы».

## § 34. Рэпартаж

**197.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і жанр, сваю думку абгрунтуйце.

У МІНСКІМ ЗААПАРКУ НАРАДЗІЛАСЯ ЛАМА

Вось ужо некалькі дзён наведвальнікаў Мінскага гарадскога заапарка радуе новы жыхар.

У мясцовай сям'і лам, Кузьмы і Машы, нарадзілася дачка Кума (імя складаецца з першых складоў імёнаў бацькоў).

Лама, як вядома, амаль з нараджэння становіцца на ножкі. Кума таксама праз паўгадзіны навучылася бегаць, а цяпер ужо вельмі лёгка скача. Нованароджаную Куму ўжо можна ўбачыць у вальеры. Маленькая лама — жывёліна вельмі ласкавая, дзеці спакойна могуць яе пакарміць з рукі, пагладзіць.

● Пералічыце асаблівасці нататкі як жанру публіцыстычнага стылю.



Адным з жанраў публіцыстыкі з'яўляецца рэпартаж. **Рэпартаж** — гэта жывое апавяданне відавочцы пра якую-небудзь падзею з грамадскага жыцця. Задача аўтара рэпартажу — расказаць пра падзею так, каб слухачы ці чытачы быццам бы ўбачылі яе наяву.

Рэпартаж і інфармацыйная нататка маюць агульны змест: паведамленне пра якую-небудзь значную грамадскую падзею. Аднак паміж імі ёсць і істотнае адрозненне: нататка толькі паведамляе пра падзею як пра факт, што адбыўся, рэпартаж — адлюстроўвае падзею як працэс.

У інфармацыйнай нататцы аўтар свядома «застаецца ўбаку», не раскрываючы сваіх адносін да падзеі. У рэпартажы, наадварот, асоба аўтара заўсёды прысутнічае, праяўляюцца яго адносіны да падзеі.

**198.** Вызначце стыль і жанр тэксту. Сваю думку абгрунтуйце, абапіраючыся на тэарэтычныя палажэнні параграфа.

НЕ ПРАХОДЗЬЦЕ МІМА

Пра што вы падумаеце ў першую чаргу, калі пачуеце слова «профіль»? Хутчэй за ўсё, успомняцца элегантныя выявы антычных герояў на карцінах, гравюрах і манетах.

Вось і мне, калі я збіралася на фотавыставу[a] «Профілі Беларусі», якая размясцілася ў сталічнай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, здавалася, што я ўбачу нашых суайчыннікаў у вобразе велічных цэзараў і непрыступных клеапатр. Аднак, як аказалася, на выставе не было ніякага намёку на антычнасць...

Так, не было багінь і багоў, цароў і царыц, затое былі афіцэры, фотажурналіст[a], манахіня, мастачка і шмат-шмат іншых, не менш каларытных асоб. Не было царскай фанабэрыстасці і боскай недасягальнасці, затое былі шчырасць, непасрэднасць і праўдзівасць.

Аўтар работ Даян Макдональд — не прафесійны фатограф, а аташэ па пытаннях інфармацыі, адукацыі і культуры Пасольства ЗША ў Беларусі. Мэта яе праекта — не дасягненне нейкіх вышынь у тэхніцы фатаграфіі[a], а адлюстраванне цудоўных, мімалётных імгненняў жыцця людзей.

Даян адзначае, што фатаграфія ў профіль можа вельмі шмат расказаць пра чалавека, нават больш, чым здымак у анфас[л]. <...> Такія розныя — дарослыя і юныя, сумныя і вясёлыя, сур'ёзныя і камічныя, рашучыя і цярплівыя, але такія аднолькава простыя ў сваёй сапраўднасці героі праекта «Профілі Беларусі».

Не пакідае раўнадушным трыпціх «Змена настрою» — тры здымкі Валерыя Анісенкі (мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі), якія адпавядаюць яго зусім розным настроям. Адухоўленасцю павявае ад фотаработы «Мастачка», дзе паказана дзяўчына, захопленая сваёй работай.

Увогуле, гэта толькі некаторыя фрагменты аднаго вялікага палатна, якім уяўляецца выстава, таму што цудоўных работ — дзясяткі[а]. Як і шмат людзей, вартых стаць героямі падобных праектаў! Цудоўна, што знайшоўся чалавек, які здолеў нам гэта паказаць *(В. Пруднікава)*.

● Паспрабуйце запісаць гэты тэкст у форме інфармацыйнай нататкі. Што для гэтага трэба зрабіць?

**199.** Прагледзьце 2—3 нумары любой газеты, знайдзіце рэпартажы. Пра якія падзеі ў іх апавядаецца? Назавіце тэмы. Якія дэталі апісання дапамагаюць вам «убачыць» падзеі? Знайдзіце ацэначныя словы і выразы, у якіх выяўляюцца адносіны рэпарцёра да падзеі.

**200.** Складзіце памятку для таго, хто будзе пісаць рэпартаж. Якія пункты вы ў яе ўключыце?

Адзіных, абавязковых для ўсіх выпадкаў правіл пабудовы рэпартажу няма: кожны піша па-свойму.

Аднак выдзяляюць **зачын** — пачатак рэпартажу. Гэта можа быць апісанне месца дзеяння, навакольнага стану і іншае — усё залежыць ад аўтарскай задумы.

Зачын павінен быць дынамічны. Дынамічным яго робіць выкарыстанне разнастайных аднасастаўных сказаў, бяздзеяслоўных канструкцый. Рэпартаж можа пачынацца з непасрэднага звароту да чытачоў. Напрыклад:

1. *Давайце пройдземся паміж радамі ганчароў і паназіраем за іх працай. Спачатку падыдзем...*

2. *Восем гадзін раніцы. Пахне мятай. Ужо пад'язджаюць пчаляры...*

3. *Поўдзень. Мы на самым высокім пагорку ў вёсцы. Добра відаць...*

**201.** З папярэдніх тэкстаў практ. 197, 198 прывядзіце прыклады, якія ілюструюць тэарэтычныя палажэнні параграфа.

**202.** Адрэдагуйце пачатак рэпартажу. Перабудуйце, дзе гэта магчыма і дарэчы, двухсастаўныя сказы ў аднасастаўныя. Вызначце іх стылістычную функцыю. Завяршыце зачын двухсастаўным сказам, у якім намячаецца тэма рэпартажу і раскрываюцца адносіны аўтара да архітэктурнага помніка.

Мы знаходзімся ў Мінску. Мы знаходзімся на галоўнай плошчы горада — плошчы Незалежнасці. Мы падышлі да Чырвонага касцёла. Мы знаёмімся з архітэктурай і гісторыяй помніка.



**Цэнтральная частка** рэпартажу — паведамленне пра падзею — звычайна ўяўляе сабой апавяданне.

Як вядома, галоўнымі словамі ў апавядальным тэксце з'яўляюцца дзеясловы. Часцей за ўсё яны ўжываюцца ў цяперашнім часе. Гэта стварае ўражанне «імгненнасці», «маментальнасці» падзеі.

**Канцоўка** рэпартажу ўтрымлівае ацэнку падзеі, кароткі вывад, да якога прыходзіць аўтар і да якога ён падводзіць чытача.

У рэпартажы заўсёды прысутнічае асоба аўтара, раскрываюцца яго адносіны да апісваемай падзеі (радасць, гонар, спачуванне і інш.). Выказаць гэтыя пачуцці дазваляюць розныя сінтаксічныя канструкцыі: пытальныя сказы ці цэлы ланцужок іх, клічныя сказы, звароткі, пабочныя словы і сказы і інш.

**203.** Уявіце сабе, што вам даручылі весці рэпартаж на адну з тэм: «Хакейны (футбольны) матч», «На ўроку роднай мовы», «Свята нашай вёскі (горада)». Запішыце 5—7 сказаў. Падкрэсліце дзеясловы. Не забудзьцеся пра галоўнае: вы не проста апавядаеце пра падзею, а паказваеце, як гэта адбывалася («цяперашні час» рэпартажу).

Пасля напісання рэпартажу вусна пракаменціруйце, як вам удалося (з дапамогай якіх моўных сродкаў) перадаць адносіны да падзеі, пра якую апавядаецца.

## Праверце сябе

1. Чым адрозніваюцца двухсастаўныя сказы ад аднасастаўных?
2. Назавіце віды аднасастаўных сказаў.
3. Чым можа выражацца галоўны член у: а) пэўна-асабовых, б) няпэўна-асабовых, в) безасабовых сказах?
4. Чым можа выражацца галоўны член у абагульнена-асабовых сказах? Чаму яны часцей сустракаюцца ў прыказках, прымаўках?
5. Якія сказы адносяцца да назыўных? Што яны абазначаюць?
6. Раскажыце аб ужыванні аднасастаўных сказаў у маўленні.

## НЯПОЎНЫЯ СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

### § 35. Няпоўныя сказы



Паводле будовы і значэння сказы могуць быць поўныя і няпоўныя.

**Поўнымі** называюцца сказы, у якіх ёсць усе члены сказа, неабходныя для поўнага разумення сэнсу выказвання: *Сын чытае цікавую кнігу.* Выказнік *чытае* дапасуецца да дзейніка *сын* і кіруе дапаўненнем (чытае што?) *кнігу,* азначэнне *цікавую* дапасуецца да дапаўнення *кнігу.* У выніку ўтвараецца непарыўны ланцужок сувязей паміж словамі. Змест такіх сказаў зразумелы сам па сабе, ён не патрабуе папярэдняга кантэксту: *Салавейка летняй ночкай разлівае сваю трэль* (А. Русак). *Світае. Кружыцца снег* (З. Бядуля). *Восеньская ноч. Туман. Вецер. Дождж* (В. Быкаў).



У маўленні часта ўжываюцца і **няпоўныя** сказы, у якіх адсутнічаюць якія-небудзь члены сказа, а гэта значыць ланцужок сувязей парушаецца:

— *Які фільм глядзіш?*

— *Цікавы.*

Адказ на пытанне з'яўляецца няпоўным сказам, паколькі ў ім прысутнічаюць не ўсе звёны ланцужка слоў, хоць адказ зразумелы з кантэксту: прыметнік *цікавы* патрабуе назоўніка *фільм*, назоўнік *фільм* патрабуе дзеяслова *гляджу*, а дзеяслоў сваім асабовым канчаткам падказвае на займеннік *я*.

Няпоўныя сказы, узятыя самі па сабе, асобна ад іншых, становяцца незразумелымі. Так, напрыклад, незразумелы ўзяты асобна сказ: *Ідзе хутка.* Невядома, хто ідзе (ён, яна, яно, Алесь і г. д.). Аднак у кантэксце *Ірына спяшаецца. Ідзе хутка* нам вядома, што ідзе *Ірына*, а не хто іншы. Гэтым няпоўныя сказы адрозніваюцца ад аднасастаўных, сэнс якіх зразумелы, хоць у іх можа адсутнічаць дзейнік ці выказнік: *Іду хутка.* Зразумела, што іду *я* — *моўца* (той, хто гаворыць).

**204.** Разгледзьце табліцу і адкажыце, якія члены сказа могуць апускацца ў няпоўным сказе. Што садзейнічае гэтаму? Ці з'яўляецца адсутнасць членаў сказа перашкодай для разумення сэнсу выказвання?

| Апушчаныя члены сказа | Прыклады |
|---|---|
| 1. Дзейнік | *Пад столлю вялізнай залы гучыць мяккая, як ручаіна, пявучая, як голас птушкі, гнуткая і цвёрдая адначасова, лаканічная мова.* ***Гучыць упершыню за шмат год*** (У. Караткевіч). |
| 2. Выказнік | *З аднаго боку дарогі стаяў хвойнік,* ***з другога — кусты ядлоўцу, а далей — алешнік*** (Я. Колас). |
| 3. Абодва галоўныя члены сказа | *Гадзіны тры прайшло, а потым дождж закáпаў.* ***Спачатку рэдка, а потым усё часцей ды часцей*** (А. Чарнышэвіч). |

| Апушчаныя члены сказа | Прыклады |
|---|---|
| 4. Дадданыя і галоўныя члены сказа | *— Ты ела сёння, Таня? —* ***Ела, — прашаптала дзяўчына*** (І. Шамякін). |

**Няпоўнымі** называюцца сказы з апушчанымі галоўнымі ці дадзенымі членамі сказа: *Хлеб заўсёды ляжаў на стале, пакрыты настольнікам, а* ***побач нож*** (Я. Брыль).



Апушчаныя члены сказа могуць быць як у простым сказе, так і ў складаным. Як правіла, няпоўную форму мае апошняя частка складанага сказа: *Спяшаецца ў далёкі рэйс пілот,* ***прараб — на будаўнічую пляцоўку*** (С. Грахоўскі). Зрэдку ў складаных сказах можа апускацца цэлая граматычная (прэдыкатыўная) частка: *«Я за тралейбусам пабег, а ты за мной не пабегла!..» —* ***«Бо вуліцу перабягаць няможна!»*** (Я. Брыль).

Няпоўныя сказы могуць быць утвораны і ў выніку парцэляцыі, ці адчлянення асобных слоў, з мэтай узмацнення іх сэнсу: *Жыць трэба новым жыццём.* ***Непадобным. Другім*** (А. Куляшоў).

**205.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып. Абгрунтуйце сваю думку. Выпішыце няпоўныя сказы. У складзе якіх сказаў яны ўжыты? Якія члены сказа ў іх апушчаны?

У «Зале сарака» — сорак вялікіх[а] партрэтаў слаўных з найслаўнейшых. Сярод іх другі ад покуці — Францыск Скарына.

За тысячы кіламетраў ад Беларусі, у далёкай Італіі, ушаноўваецца памяць[а] аб нашым першадрукару[сл] Францыску Скарыне *(Паводле А. Клышкі)*.

● Выпішыце прыметнікі, якія маюць ступень параўнання. У якой форме яны ўжыты і як утвораны? Якая іх стылістычная роля ў тэксце?

**206.** Запішыце адказы на пытанні ў форме няпоўных сказаў. Якія члены сказа вы апусцілі?

1. Хто напісаў аповесць «Міколка-паравоз»?
2. Каго сустракаеш?
3. Снег ідзе?
4. Аб чым паведамілі па радыё?

● Вызначце будову сказаў-пытанняў.

**207.** Прачытайце тэксты і дакажыце, што яны адносяцца да мастацкага стылю. Назавіце няпоўныя сказы і аднавіце апушчаныя ў іх члены сказа. Зрабіце сінтаксічны разбор няпоўнага сказа з першага тэксту і растлумачце пастаноўку ў ім знакаў прыпынку.

I. Вось з-за[а] лесу ўстала сонца. Рассыпае[а] каснікі, залатыя ручаінкі, і цалуе праз аконца збітых кудзер валаконцы *(Я. Колас)*.

II. ...Я ўбачыў[с], што ўжо не толькі светла, але вось-вось[а] узыдзе сонца. За намі быў блакітны туманны[а] Дняпро. Перад намі — роў, невялікае, ледзь узгорыстае[м] поле, а далей — лясістыя ўзгоркі[сл], і сярод іх — ружавеючая[с] роўнядзь[а] Святога возера.

Сонца ўжо выкінула з-за лесу тысячы[а] чырвоных дзід[л], заліло расплаўленым золатам маленькія воблачкі ля далягляду *(У. Караткевіч)*.

● Ці даводзілася вам назіраць узыход сонца? Вусна апішыце яго.

● Растлумачце значэнне слова *дзіда*. У якім значэнні (прамым ці пераносным) яно ўжыта?

● Выпішыце ўрыўкі з апісаннем узыходу сонца іншымі пісьменнікамі.

**208.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Знайдзіце ў тэксце простую мову, на аснове яе складзіце дыялог суразмоўцаў, каб у ім ужываліся няпоўныя сказы. Запішыце дыялог. Якія члены сказа ў ім апушчаны?

...Эразм не спяшаўся падыходзіць: аднекуль у яго свядомасці з'явілася вострае адчуванне[ф] значнасці гэтай хвіліны.

«Хто гэта?» — спытаўся ён у суседа-шляхціца[а], і той адказаў: «Сын баярскі Мікола. З Гусава родам».

Калі Вітэліус[а] нарэшце[ф] наблізіўся, лоўчага ўжо атачылі да́мы. Яны нешта ўзахапы шчабяталі свайму ратавальніку, і Эразм пачуў, як той смела адказаў камусьці[а] на добрай лаціне: «Aut Caesar aut nihil»[1].

Такое было іхняе знаёмства...

● Ці ведаеце вы, пра якіх людзей ідзе гаворка ў прыведзеным урыўку з аповесці У. Арлова «Час чумы»? Раскажыце пра іх.

● Растлумачце сэнс фразеалагізма «Aut Caesar aut nihil». Якія яшчэ лацінскія фразеалагізмы вы ведаеце?

● Як вы разумееце значэнне слова *атачылі*? Падбярыце да яго сінонімы.

## Паслухайце мовазнаўцу!

Няпоўныя сказы суадносяцца з адпаведнымі поўнымі сказамі, бо не маюць уласнай структурнай схемы і абапіраюцца на схему поўнага сказа ці на пазамоўную сітуацыю. Як і поўныя сказы, яны могуць быць аднасастаўнымі і двухсастаўнымі, неразвітымі і развітымі, простымі і складанымі, і г. д. *(Л. Бурак).*



Адсутны член няпоўнага сказа можа:

1) узнаўляцца з кантэксту:

— *Хто сёння будзе прыбіраць клас?*

— *Міхась.*

У другім сказе апушчаны выказнік *будзе прыбіраць,* дапаўненне *клас* і акалічнасць часу *сёння.* Гэтыя члены сказа ўзнаўляюцца з папярэдняга сказа (параўн. з адпаведным поўным сказам: *Сёння Міхась будзе прыбіраць клас*);

2) падказвацца маўленчай сітуацыяй:

*Бач, круглыя, цвёрдыя. Як капыткі. А чыстыя, як сырок* (Ф. Янкоўскі). Дзейнік *грыбы* адсутнічае, бо прадмет гутаркі ўспрымаецца зрокава: суразмоўца глядзіць у ко-

[1] Беларускі адпаведнік «Ці пан ці прапаў».

шык з грыбамі і выказвае думку няпоўнымі сказамі (параўн.: *Бач, грыбы, круглыя, цвёрдыя. Грыбы як капыткі. А грыбы чыстыя, як сырок*). Калі ў няпоўны сказ уставіць апушчаныя словы, выявіцца ненатуральнасць, штучнасць у яго будове, парушыцца стылістычнае афармленне.



**209.** I. Прачытайце жарт.

Настаўнік спытаў у вучня:
— Скажы, якое дрэва самае нізкае?
— Пень, — адказаў вучань.

II. Адгадайце загадку.

Вясна яе хавае, лета — ажыўляе, восень — дастае, зіма — падае.

- Зрабіце сінтаксічны разбор сказаў. Назавіце няпоўныя сказы.
- Растлумачце, чаму адсутныя члены сказа лёгка ўзнаўляюцца.



У вусным маўленні на месцы пропуску члена сказа робіцца невялікая паўза, а на пісьме ставіцца працяжнік: *Рана загоіцца, а злое слова — ніколі* (Прыказка). *Хто пра што думаў у гэтыя дні, а стары — найбольш пра пчол* (Г. Далідовіч). Пры адсутнасці паўзы працяжнік не ставіцца: *За вёскамі палі* (У. Караткевіч).

**210.** Запішыце прыказкі, крылатыя выразы, афарызмы (кароткія трапныя выслоўі) аб слове, у якіх прапушчаны члены сказа. Прачытайце іх услых, захоўваючы патрэбную інтанацыю, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Д а в е д к а. Можна выкарыстаць наступную літаратуру:

1. *Ліцьвінка, В. Д.* Слова міма не ляціць : В. Д. Ліцьвінка, Л. А. Царанкоў / Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. — Мінск, 1985.

2. *Міхневіч, А. Я.* Якуб Колас разважае, радзіць, смяецца... (Выбраныя выслоўі народнага песняра) / А. Я. Міхневіч. — Мінск, 2002.

3. Мудрыя дарадцы / склад. А. У. Янголь. — Мінск, 1983.

4. *Санько, З.* Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак, фразем / З. Санько. — Мінск, 1991.

5. *Шкраба, І.* Крынічнае слова : Беларускія прыказкі і прымаўкі / І. Шкраба, Р. Шкраба. — Мінск, 1993.

6. *Янкоўскі, Ф. М.* Крылатыя словы і афарызмы / Ф. М. Янкоўскі. — Мінск, 1960.

**211.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Выпішыце сказы, у якіх апушчаны пэўныя члены сказа. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку.

На свеце шмат розных рэчак. Адны шырокія, як мора. Другія вірлівыя і бруістыя[ф]. Трэція вузкія і выгінастыя. І ёсць адна незвычайная рака: яна цячэ... пад зямлёю. Гэта Няміга.

Цяжка нават уявіць, што калісьці[а] Мінск быў падобны на Венецыю[а] — горад на вадзе. Толькі замест мораў і каналаў праз яго працякала рака. Гэта была адзіная ў Беларусі рака-вуліца[а].

У межах горада цераз Нямігу былі пракладзены шматлікія масткі, а ў некаторых месцах суцэльныя драўляныя насцілы. Па іх людзі хадзілі і ездзілі, а пад насцiламі мог праплысці човен. Чым толькі не гандлявалі на гэтых мастках! Але найбольш[м] славіўся рыбны кірмаш. Рыбу прадавалі вэнджаную, салёную, вяленую і, вядома[с], свежую, жывую. Кажуць, калі гандляры не паспявалі за дзень прадаць усю жывую рыбу, то ўвечары яе выпускалі ў Нямігу. Прасцей было налавіць зноў, чым трымаць да раніцы наступнага дня *(Паводле К. Тарасава)*.

● Што яшчэ вы ведаеце пра раку Нямігу? Што вам вядома пра раку (возера) у вашай мясцовасці? Адказы запішыце.

## § 36. Ужыванне няпоўных сказаў

**212.** Прачытайце тэкст, назавіце вядомае і новае ў кожным сказе.

Колька Лецечка быў самым звычайным хлопцам. Вельмі ўжо прыгожым ён сябе не лічыў[с] і крыху нават шкадаваў аб гэтым, калі цішком разглядваў у люстэрку свой звычайны твар. Хацелася яму крыху больш пунсовасці[сл] на твары, больш прывабнасці, носа іншага, вастрэйшага[м], точанага, рымскага, а не бульбачкай. Да рымскага носа патрэбны і вочы іншыя, цыганскія, а ў яго паляшуцкія[а] вочы. Да чорных вачэй пасавалі б і валасы кучаравыя, чорныя з бляскам. А ў яго не такія *(Паводле В. Казько).*

**213.** Запішыце па памяці верш. Назавіце новае ў трох апошніх сказах.

Кахаю —
Людзі закрычалі.
Каго?
Паэт сказаў:
Айчыну!
Жаўнер[*]:
Дзяўчыну!
Хтось: сябе!

*А. Сыс.*

● Па аналогіі з тэкстам прыдумайце пытанне; адкажыце на яго сказам, які ўяўляе сабой толькі новае.



Агульнай асаблівасцю граматычнага саставу няпоўных сказаў з'яўляецца тое, што ў іх захоўваюцца, як правіла, тыя члены сказа, якія ўваходзяць у новае выказванне, і, наадварот, звычайна апускаюцца (поўнасцю ці часткова) тыя, якія выражаюць вядомае. Прапушчаныя члены сказа дазваляюць актуалізаваць наяўныя (непрапушчаныя). Звычайна захоўваюцца тыя члены сказа, якія дадаюць новае паведамленне да таго, што ўжо вядома. Пры гэтым узмацняецца іх сэнсавая значнасць. Напрыклад:

*— А хто там ідзе, а хто там ідзе*
*У агромністай такой грамадзе?*
***— Беларусы.***
<...>
*— А чаго ж, чаго захацелася ім,*
*Пагарджаным век,*
*ім, сляпым, глухім?*
***— Людзьмі звацца.***

Я. Купала.

Апушчаныя выказнікі ў няпоўных сказах дазваляюць засяродзіць увагу на змесце новага паведамлення: *Хто ідзе? —* ***Беларусы.*** *— Чаго ім захацелася? —* ***Людзьмі звацца.***

**214.** Запішыце прыведзеныя вышэй радкі з верша Я. Купалы «А хто там ідзе?» па памяці.

**215.** Прачытайце пытанні, паслядоўна выдзеліце лагічным націскам кожны член сказа. На пастаўленае пытанне адказвайце няпоўным развітым сказам. Як змяняецца сэнс выказвання ў залежнасці ад пастаўленага пытання?

1. Алеся пайшла ў бібліятэку?
2. Вінцук збірае новыя паштоўкі?
3. Табе весела?
4. Валя любіць чытаць казкі?
5. Турысты вяртаюцца з паходу?



Асноўная сфера ўжывання няпоўных сказаў — вуснае маўленне, паколькі будова сказа ў ім вызначаецца ў пэўнай ступені сітуацыяй зносін, агульным вопытам тых, хто гаворыць, інтанацыяй, мімікай, якія дапаўняюць выказванне. Гэта і дазваляе апускаць тыя члены сказа, адсутнасць якіх не перашкаджае разуменню думкі.

У кніжных стылях мовы, асабліва ў афіцыйным і навуковым, няпоўныя сказы ўжываюцца вельмі абмежавана.

У творах мастацкай і публіцыстычнай літаратуры яны шырока ўжываюцца пры перадачы дыялогу і ў апавядальных аўтарскіх тэкстах.

Д ы я л о г:
— *Дзе ты спынілася?*
— *У сваякоў. Станцыя па Яраслаўскай дарозе.*
— *Ведала, што я тут?*
— *Нядаўна даведалася.*
— *Здзівілася?*
— *Не вельмі* (У. Караткевіч).

А п а в я д а л ь н ы  т э к с т:
*Адразу за сядзібай пачынаўся беластволы бярэзнічак. Бярозкі адна ў адну, стройныя, высокія. Крыху далей, на самым санцапёку, раслі маладыя сосны, за імі — зараснікі арэшніку, яшчэ праз некалькі крокаў — густы асіннік* (З. Бандарына).

Няпоўныя сказы надаюць мове лёгкасць, лаканічнасць, жывасць і эмацыянальнасць.

Няпоўныя сказы з'яўляюцца адным са сродкаў сінтаксічнай сувязі сказаў у тэксце.

**216.** Прачытайце першы абзац тэксту. Ці вядома, пра каго ідзе размова? Чаму? Прачытайце тэкст цалкам. Вызначце яго тып і будову. Якую стылістычную ролю выконваюць няпоўныя сказы?

Спрадвеку цякла за сялом і аддавала[с] сябе ўсяму свету. Нябёсам — каб заўсёды былі блакітнымі[м]. Жаваранку — каб ягоная песня звінела званчэй. Сонцу — каб свяціла ярка і доўга[м].

Аднойчы запыталіся[с] ў крыніцы:

— А што нябёсы, жаваранак ды сонца далі табе?

У адказ пачулі:

— Сонца — сваю цеплыню[а]. Жаваранак — сваю галасістасць. Нябёсы — блакіт свой.

Так бы кожнаму з нас *(Я. Пархута)*.

● Дайце тэксту загаловак.

● Сфармулюйце асноўную думку тэксту. Прасачыце, як развівае яе аўтар. Падумайце, чым абумоўлены менавіта такі парадак сказаў у тэксце. Паслядоўная ці паралельная сувязь сказаў у тэксце?

● Каму прызначаецца тэкст? Назавіце адрасата.

**217.** Уявіце сабе сітуацыю: па тэлебачанні ідзе спектакль, пастаўлены па аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». Раптам экран гасне. Вы пачулі наступны дыялог:

— Рыгор, дарагі, чаму не прыйшоў развітацца?
— Гэта вам, Надзея Раманаўна… Можа, паставіць дзе… успамінаць будзеце…
— Будучай жонцы тваёй.
— Бывайце вы… Жадаю вам найлепшага, самага добрага на зямлі.

● Выканайце ролю аўтара-сцэнарыста, устаўце аўтарскія рэмаркі: *Палез рукою ў кішэнь і, пачырванеўшы, дастаў гліняную ляльку. Надзея ўзяла яго за скроні і пацалавала ў лоб. Пасля дастала з вушэй завушніцы і паклала іх у шырокую чорную далонь паляўнічага. Рыгор крэкнуў, пакруціў галавою.*

● Запішыце адноўлены тэкст. Якую ролю выконваюць аўтарскія рэмаркі?

**218.** Складзіце свой дыялог з няпоўнымі сказамі (або выпішыце з мастацкага твора) у гутарковым стылі, выкарыстоўваючы для стварэння маўленчай сітуацыі рэмаркі*, рэплікі аўтара ці апавядальніка.

| | |
|---|---|
| звыш**і**мклі́вы [ы]<br>контр**і**гра́ [ы]<br>сан**і**нстру́ктар [ы] | на даро́**жцы** [сц]<br>нарэ́**шце** [с’ц’]<br>нарэ́**жце** [с’ц’] |

**219.** Прачытайце тэкст, захоўваючы правільную інтанацыю. Назавіце ў дыялогу няпоўныя сказы. Ахарактарызуйце іх, карыстаючыся падказкай.

П а д к а з к а. Разважайце наступным чынам: калі ў сказе граматычная аснова прадстаўлена двума членамі сказа, то гэты сказ двухсастаўны; калі граматычная аснова прадстаўлена адным галоўным членам сказа, дзейнікам ці выказнікам, неабходна вызначыць: а) ці патрэбны другі галоўны член сказа для разумення сэнсу сказа; б) ці ёсць у сказе члены сказа, якія паказваюць на неабходнасць другога галоўнага члена сказа. Калі другі галоўны член сказа патрэбны для разумення сэнсу сказа і ёсць члены сказа, якія паказваюць на яго неабходнасць, то такі сказ двухсастаўны няпоўны.

— З кійком для арыгінальнасці ходзіш? Як дэндзі лонданскі?

— Кіну. Скора кіну... Але нага яшчэ баліць, як наступаеш... Во тут, у лытцы[ф], пераломом быў. Абедзве[а] костачкі — хрэп!

— Пад машыну падлез? І гэты «стоп-сігнал»[а] на ранцы не памог?

— З каня зляцеў. І так няўдала!

— У школе на фізкультуры? У нас хлопцы лёгка «каня» пераскокваюць[с].

— У вёсцы летам быў, у бабулі. І з сапраўднага каня на поўным галопе — шмяк! Конь неаб'езджаны[м] быў *(П. Місько)*.

- Вызначце сэнсава-стылістычную ролю няпоўных сказаў.
- Чаму зручней ужываць няпоўныя сказы ў дыялогу?

**220.** Складзіце дыялог на адну з тэм: «Знаёмства», «Абмеркаванне выхаду новай кнігі любімага пісьменніка (тэлепрэм'еры, кінафільма і інш.)».

**221.** Адкажыце на пытанні. Выберыце з прапанаваных варыянтаў адказу правільны і аргументуйце свой адказ.

1. Якім з'яўляецца сказ *Калі ты вернешся з паходу?*

а) поўным

б) няпоўным

2. Якім з'яўляецца сказ у рэпліцы-адказе наступнага дыялогу?

— *Калі вернецца добрае надвор'е?*

— *Хутка.*

а) поўным

б) няпоўным

3. Якім з'яўляецца сказ у рэпліцы-адказе наступнага дыялогу?

— *Калі вернецца добрае надвор'е?*

— *Яшчэ не перадавалі метэаралагічны прагноз.*

а) поўным

б) няпоўным

4. Ці правільна думаць: непаўната і аднасастаўнасць сказаў — гэта адно і тое ж?

а) так
б) не

5. Ці ёсць прыклады няпоўных сказаў у вершы Антона Янкоўскага?

Першы дзень вясны.
За акном адліга.
Нёманам плылі
І знікалі крыгі.

а) так
б) не

## Сінтаксічны разбор няпоўнага сказа

### *Пісьмовы разбор*

*На даляглядзе* — *горы* (В. Быкаў).

### *Вусны разбор*

Сказ просты, двухсастаўны, развіты, няпоўны, з апушчаным выказнікам.

(Ш т о?) *горы* — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме Н. скл., мн. л.;

(д з е?) *на даляглядзе* — акалічнасць месца, выражана назоўнікам у спалучэнні з прыназоўнікам ***на*** ў форме М. скл., адз. л. На месцы апушчанага выказніка ставіцца працяжнік.

Сказ апавядальны, няклічны.

## Праверце сябе

1. Якія сказы называюцца няпоўнымі?
2. Якія члены сказа могуць апускацца ў няпоўных сказах? Ад чаго гэта залежыць?
3. Якія ўмовы садзейнічаюць узнаўленню прапушчаных членаў сказа?
4. Як абазначаецца на пісьме адсутнасць членаў сказа?
5. У якіх стылях маўлення часцей ужываюцца няпоўныя сказы?

# УСКЛАДНЕНЫ СКАЗ

**Ускладненымі** называюцца простыя сказы, якія змяшчаюць дадатковае паведамленне аб прадметах і фактах рэчаіснасці. Ускладненымі з'яўляюцца сказы з аднароднымі і адасобленымі членамі, пабочнымі і ўстаўнымі словамі і сказамі, звароткамі, параўнальнымі зваротамі. Напрыклад: *Ціхі вецер* ***вее*** *і траву* ***варушыць*** (А. Астрэйка). *Сонца тчэ свае праменні,* ***ахапіўшы цэлы свет*** (М. Хведаровіч). ***Сапраўды****, у лесе было вельмі хараша* (Я. Колас). *Дзень добры,* ***скульптар****, як жывеш,* ***дружа?*** (А. Звонак). *Апранае луг сарочку,* ***шоўкам вышытую ў кветкі*** (М. Хведаровіч). *Асеннія сады,* ***як вогнішчы****, палаюць* (П. Панчанка).

## СКАЗЫ З АДНАРОДНЫМІ ЧЛЕНАМІ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

### § 37. Сказы з аднароднымі членамі

**222.** Выразна прачытайце тэкст услых, захоўваючы патрэбную інтанацыю.

У ПРЫПАР

Прыпарыла,
Нахмурыла
І ўдарыла!
— Святы Ілля…[1]

[1] *Ілля (Ілья)* — у беларускай міфалогіі і фальклоры распарадчык дажджоў і навальніц.

Маланка ўраз з’явілася,
Мільгнула і звалілася,
І дожджыкам аблілася
Гарачая зямля.
Кроплі разам, згодна, жвава,
Пояць ўсё, што хоча піць:
Збожжа, дрэвы, кветкі, травы,
Вулкі хочуць затапіць,
Б’юць у стрэхі, мыюць шыбы,
Мыюць хаты, мочаць сад,
Ў рэчцы спожыў маюць рыбы…
— Хто ў прыпар дажджу не рад?
Сцішаецца,
Змяншаецца,
Ўнімаецца.
— Няма!
І слонка паказалася,
Маўляў, само купалася,
Прыемна усміхаецца,
Блішчыць, пераліваецца,
Яскрава адбіваецца
На траўцы, на лісточку,
У рэчцы, ў раўчачочку[сл],
На вулачцы, ў садочку,
Зямля ўздыхае поўнымі,
Шчаслівымі, чароўнымі
Грудзямі усіма.

*А. Гарун.*

● Назавіце сказы, у якіх ёсць аднародныя члены. Якімі членамі сказа яны з’яўляюцца? Як яны звязаны паміж сабой? Чым выражаны? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах.

● Ці ўтвараюць аднародныя члены сказа паміж сабой словазлучэнні? Якая сувязь паміж імі — падпарадкавальная ці злучальная? Чаму?

● Словы якой часціны мовы найбольш яскрава перадаюць названую ў вершы з’яву прыроды? Чаму яны пераважаюць у вершы?

● Назавіце словы і формы слоў, якія сёння з’яўляюцца ўстарэлымі.

**Аднароднымі** называюцца члены сказа, якія выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю, адносяцца да аднаго і таго ж слова ў сказе і звязаны паміж сабой злучальнай сувяззю (злучнікамі ці інтанацыяй пералічэння):



*Трэці дзень нехта невідочны і агромністы раз'ятрана ляпаў аканіцамі і шпурляў ва ўзорыстыя шыбы прыгаршчы каляных круп* (У. Арлоў).



Аднародныя члены сказа ўтвараюць злучальныя па сваім саставе спалучэнні слоў, а гэта значыць, нельга паставіць пытанне ад аднаго слова да другога *(невідочны і агромністы, ляпаў і шпурляў)*.

**223.** Прачытайце сказы. Дакажыце, што аднароднымі могуць быць як галоўныя, так і даданыя члены сказа.

1. Высока над зямлёю прыгожымі шнурамі ляцелі жураўлі і гусі *(Я. Колас)*.
2. Байцы высока цанілі, бераглі шчырае слова пісьменнікаў-франтавікоў *(А. Вялюгін)*.
3. Бярыце з роднага парога і хлеб, і песню ў шлях з сабой *(П. Прыходзька)*.
4. Над Прыпяццю зіхаціць ясная, сонечная раніца *(В. Вольскі)*.
5. Вясёлых елачак прысады то ўніз бягуць, то на гару *(А. Бачыла)*.



Аднародныя члены сказа могуць быць р а з в і т ы я (маюць пры сабе залежныя словы) і н е р а з в і т ы я (залежных слоў пры сабе не маюць): *Лістападу радуйся, і снежню, і вятрам асеннім, і снягам* (П. Панчанка).

Аднародныя члены сказа выражаюцца не толькі словамі адной часціны мовы, але і словамі розных часцін мовы: *Пахне мёдам, кветкамі* (А. Асіпенка). *Цімошка пільна і з трывогаю пазіраў на кожную новую асобу* (Я. Колас).

У рад аднародных членаў могуць уваходзіць непадзельныя словазлучэнні і фразеалагізмы: *Пад раніцу Аляксей і двое танкістаў былі ў горадзе* (І. Новікаў). *Праз хвілін дзесяць бор аглушыўся грымотным выбухам. Гнеды навастрыў вушы, зафыркаў* (А. Якімовіч). (*Навастрыў вушы* — ‘насцярожыўся’.)

У сказе можа быць некалькі радоў аднародных членаў: *Дарослыя і дзеці бяруць садовыя і лясныя дрэўцы і клапатліва высаджваюць іх на калгасных сядзібах, паабапал дарог, на вуліцах і пляцоўках* (К. Кірэенка).

Тут чатыры рады аднародных членаў сказа: адзін рад утвараюць дзейнікі *(дарослыя і дзеці)*, другі — выказнікі *(бяруць і высаджваюць)*, трэці — азначэнні *(садовыя і лясныя)*, чацвёрты — акалічнасці месца *(на сядзібах, паабапал дарог, на вуліцах і пляцоўках)*.

Пры чытанні на кожны аднародны член сказа падае лагічны націск ( ॥ ), а перад ім робіцца невялікая паўза (/):

*Дзічэюць агароды, / дрэвы, / хаты*

*Без чалавечай ласкі / і рукі.*

С. Законнікаў.

Аднародныя члены сказа дапамагаюць больш поўна і ярка перадаць змест падзей і фактаў рэчаіснасці. Гэта кароткі і выразны прыём маўлення.

З а ў в а г а. Аднародныя члены сказа графічна будзем абазначаць знакам ◯.

Напрыклад: [⊜ і ⊜, ⊜ і ⊜] — у схеме адзначаны аднародныя выказнікі.

**224.** Удумліва прачытайце лінгвістычны матэрыял § 37. Падрыхтуйце звязнае выказванне на тэму «Сказы з аднароднымі членамі». Падмацоўвайце тэарэтычныя палажэнні вашага адказу прыкладамі з наступных тэкстаў.

I. Усе сыны усіх народаў
На памяць помняць родны верш
І ганарацца песняй роднай,
З якой з калыскі ты жывеш.

*П. Панчанка.*

II. У нас сваіх хапае слоў,
Крамяных,
росных,
васільковых,
Ад мурагоў і ад лясоў,
Ад светлых высяў жаўруковых.

*Ю. Свірка.*

III. Закаханы ў жыццё і ў кожную мушку,
Я іду каля хат і росных садоў.
І са мной размаўляюць звяры і птушкі
На дзясятках і тысячах розных моў.

*У. Караткевіч.*


Не з'яўляюцца аднароднымі членамі сказа:
а) словы, якія паўтараюцца з мэтай узмацнення сэнсу: ***Лятуць*** *ды* ***лятуць*** *кволыя сняжынкі* (З. Бядуля);

б) устойлівыя спалучэнні слоў тыпу *ні свет ні зара, то бокам то скокам, ні жывы ні мёртвы, ні слова ні паўслова.* Яны з'яўляюцца адным членам сказа: *Коні стаялі* ***ні жывыя ні мёртвыя****, форскалі толькі...* (І. Пташнікаў). *(Ні жывы ні мёртвы — 'страшэнна напалоханы'.)*;

в) словы, якія ўдакладняюць, канкрэтызуюць сэнс папярэдніх слоў: *Дзесьці высока-высока,* ***за самымі хмарамі****, курлыкалі журавы* (М. Лынькоў).

**225.** Прачытайце верш. Вызначце ў ім сказы з аднароднымі членамі. Якія гэта члены сказа? Чым яны звязаны? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Напішыце водгук на гэты твор або верш «Здрада» (гл. практ. 84).

Да вас звяртаюся, нашчадкі,
Да суайчыннікаў сваіх,
Пакіньце злосць і зайздрасць, звадкі, —
Мы нацярпеліся ад іх.
Любіце травы, дрэвы, рэкі,
Прастор палёў, блакіт нябёс,
Цаніце Працу, Чалавека, —
І Бог вам дасць спагадны лёс.
А каб цанілі вас у свеце
(Я лепшых слоў не падбяру),
Шануйце дзіва на планеце —
Святую нашу Беларусь.
І мову Коласа, Купалы
Вы беражыце з роду ў род,
Каб наша воля не прапала,
Каб не загінуў наш народ.

*А. Ставер.*

**226.** Прачытайце. Назавіце рады аднародных членаў у кожнай частцы складанага сказа. Чым выражаны аднародныя члены сказа і як яны звязаны паміж сабой? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Разам з роднаю моваю, нацыянальнымі, духоўнымі, культурнымі традыцыямі чалавек страчвае вельмі многае, мяняюцца ягоныя псіхіка, характар, натура, паводзіны, прытупляецца, а потым і знікае пачуццё **самапавагі**[л], **годнасці**[л], **адказнасці**[л] за сваю зямлю, яе будучыню, за лёс нашчадкаў у гэтым свеце *(С. Законнікаў)*.

● Ці згодныя вы з думкай С. Законнікава? Прывядзіце прыклады з мастацкай літаратуры, з вашага жыццёвага вопыту, якія пацвярджаюць (ці не пацвярджаюць) гэтую думку.

● Складзіце сказы з выдзеленымі словамі так, каб яны выступалі ў ролі аднародных членаў сказа.

**227.** Прачытайце сказы. У кожным сказе лагічным націскам выдзеліце апошнія словы.

Вазьмі ў сваё сэрца на схову родную мову.
Вазьмі ў сваё сэрца на схову поле.
Вазьмі ў сваё сэрца на схову луг каляровы.
Вазьмі ў сваё сэрца на схову родны блакіт.

● Ці можна змест некалькіх сказаў перадаць адным сказам?

● Прачытайце частку, агульную для ўсіх сказаў, далучаючы да яе словы, якімі сказы адрозніваюцца. Які рад утварылі такія словы? Колькі паведамленняў выражана ў сказе пры адной граматычнай аснове?

● Запішыце атрыманы сказ, раздзяляючы коскамі і вертыкальнымі лініямі аднародныя члены сказа. Падкрэсліце іх як члены сказа.

**228.** Прачытайце. Спішыце тэкст, расстаўляючы, дзе трэба, знакі прыпынку. Падкрэсліце аднародныя члены адпаведна іх сінтаксічнай ролі.

...Я збочыў з дарогі і амаль адразу трапіў у нейкую твань перапэцкаў боты пасля выбіўся на сухі верас пасля зноў трапіў у гразь упёрся ў доўгае і вузкае балота. Потым я ўзяў налева, бліжэй да зараснікаў па беразе ракі, выбіўся хутка на тую самую сцежку, па якой ішоў да Дубатоўка, і, апынуўшыся ў палове вярсты ад яго хаты, пайшоў ля зараснікаў у напрамку Балотных Ялін *(Паводле У. Караткевіча)*.

● Падумайце, выкарыстанне якіх моўных сродкаў узбагаціла тэкст інфармацыяй і надало яму лаканічнасць.

● Выпішыце з першага сказа па адным словазлучэнні, у якіх словы звязаны сувяззю дапасавання, кіравання і прымыкання. Пабудуйце іх схемы.

● Растлумачце значэнне словазлучэння *ўзяў налева*. Падбярыце да яго сінонімы.

**229.** Запішыце тэкст, расстаўляючы знакі прыпынку.

Поўны месяц залівае тарфяныя[сл] балоты пусткі парк Балотных Ялін блакітным срэбрам і далёка-далёка блішчаў у акенцы нейкай самотнай хаты. Ноччу пахаладзела, і зараз балоты пацелі нараджаючы[с] ў ямінках касмылі белых рухлівых туманаў *(У. Караткевіч)*.

**230.** Прачытайце загадкі, захоўваючы патрэбную інтанацыю пры аднародных членах сказа. Вызначце, якімі членамі сказа з'яўляюцца аднародныя члены і чым яны выражаны.

1. Сядзіць дзіця і гаворыць: «У мяне ёсць бацька, маці, а я ім не сын». 2. Крыкнуў вол на сто азёр, на сто міль, на ўвесь мір. 3. Сівая кабыла па лесе хадзіла, да нас прыйшла, на руках пайшла. 4. Хто ходзіць зранку на чатырох, днём — на дзвюх, а вечарам — на трох нагах? 5. Стары і малы падыме, а цераз плот не перакіне. 6. Чатыры нагі маю, але не звер, пух і пер'е маю, але не птах, душу і цела маю, ды не чалавек.

*З народнага.*

С л о в ы д л я д а в е д к і: *гром, хмары і дождж, дачка*, *ложак, пух, чалавек у розным узросце*.

● Вывучыце загадкі, якія вам больш спадабаліся. Загадайце іх сваім сябрам, бацькам, знаёмым.

● Якія зборнікі беларускіх загадак вы ведаеце? Выпішыце з іх некалькі загадак, у якіх ёсць аднародныя члены сказа.

Д а в е д к а. Можна выкарыстаць наступныя літаратурныя зборнікі:

1. Беларускія загадкі / уклад. Я. Саламевіч. — Мінск, 1989.

2. *Гілевіч, Н.* Сіні домік, сіні дом... Загадкі / Н. Гілевіч. — Мінск, 1961.

3. Загадкі / склад. М. Я. Грынблат, А. І. Гурскі. — Мінск, 1972.

## § 38. Злучнікі пры аднародных членах сказа



**231.** Адкажыце на пытанні:

1. З якімі відамі сувязі аднародных членаў сказа вы знаёмыя?
2. Якія злучнікі выкарыстоўваюцца для сувязі аднародных членаў сказа?
3. Якія бываюць віды злучальных злучнікаў паводле значэння? паводле спосабу ўжывання?

**232.** Прачытайце беларускія прыказкі і прымаўкі. Назавіце аднародныя члены сказаў, вызначце, якімі сродкамі сувязі яны звязаны. Выпішыце паасобку сказы са спалучальнымі, супраціўнымі і размеркавальнымі злучнікамі. Растлумачце знакі прыпынку ў сказах.

1. Чужому навучайся, ды свайго не цурайся[сн]. 2. Хутчэй, але не спяшайся. 3. Бяда хоць мучыць, але жыць вучыць. 4. Языком у Вільні, а галавой за печчу. 5. Плётку ў адно вуха ўпусці, а ў другое выпусці. 6. І шыла, і мыла, і прала, і ткала — і ўсё языком. 7. Ні млеў, ні пацеў, а рот разявіў. 8. Верабей не сее, не жне, а зярняткі клюе. 9. Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць. 10. У людзей пытай, а свой розум май. 11. Думай звечара, а рабі зранку. 12. Многа робіць языком, ды мала рукамі.

● Прыдумайце сітуацыі, у якіх можна было б выкарыстаць тыя ці іншыя прыказкі. Складзіце з дзвюма прыказкамі мініяцюры, запішыце іх.

**233.** Прачытайце ўрывак з паэмы Я. Коласа «Сымон-музыка». Вызначце рады аднародных членаў сказа, растлумачце знакі прыпынку пры іх. Якія злучнікі выкарыстоўваюцца для сувязі аднародных членаў сказа?

На прыволлі, сеўшы ў полі,
Смутна стане хлопчык граць;
Льюцца, таюць зыкі болю,
Аж калоцяцца, дрыжаць,
Ды заплачуць, затрасуцца,
Капнуць дробнымі слязьмі,
То ўгару яны памкнуцца,
То зноў нікнуць па зямлі.

● Ці з'яўляецца мастацкім апісанне гукаў музыкі? Абгрунтуйце сваю думку.

**234.** Разгледзьце табліцу. Якія злучнікі ўжываюцца для сувязі аднародных членаў сказа?

| Злучнікі | Прыклады |
|---|---|
| 1. Спалучальныя:<br><br>***і, ды (= і)*** | *Каласяцца на палетках жыта* ***ды*** *пшаніца* (К. Крапіва).<br>◯ ***ды*** ◯ |
| | *Мікола спыніў машыну* ***і*** *выйшаў з кабіны* (У. Краўчанка).<br>◯ ***і*** ◯ |
| ***і — і*** | ***І*** *ў полі,* ***і*** *ў лесе чуецца вясна* (Я. Колас).<br>***і*** ◯, ***і*** ◯ |
| ***ні — ні***<br>*(паўторны)* | *У вёсцы не было* ***ні*** *рэчкі,* ***ні*** *возера* (Я. Сіпакоў).<br>***ні*** ◯, ***ні*** ◯ |
| ***як — так і***<br>*(парны)* | *Для выдзялення адасобленых прыдаткаў ужываюцца* ***як*** *коскі,* ***так і*** *працяжнікі* (Л. Бурак).<br>***як*** ◯, ***так і*** ◯ |
| 2. Размеркавальныя:<br>***ці, або*** | *Любоў да сябе трэба заслужыць* ***або*** *заваяваць* (В. Вітка).<br>◯ ***або*** ◯ |
| ***то — то***<br>*(паўторны)* | ***То*** *знікне,* ***то*** *выблісне сонца ўгары* (Н. Гілевіч).<br>***то*** ◯, ***то*** ◯ |
| ***ці то — ці то;***<br>***не то — не то***<br>*(паўторныя)* | *Неба на гарызонце зрабілася* ***не то*** *сінім,* ***не то*** *зусім белым* (К. Чорны).<br>***не то*** ◯, ***не то*** ◯ |
| 3. Супраціўныя:<br>***а, але, ды (=але)*** | *Жыццё вымяраецца не гадамі,* ***а*** *тымі справамі, якія зрабіў чалавек* (А. Асіпенка).<br>◯, ***а*** ◯ |
| ***не толькі — але і;***<br>***хоць і — але*** *(парныя)* | *Лес наш* ***хоць і*** *не дужа вялікі,* ***але*** *прыгожы* (М. Ваданосаў).<br>***хоць і*** ◯, ***але*** ◯ |



Для сувязі аднародных членаў сказа ўжываюцца з л у ч а л ь н ы я злучнікі: **спалучальныя** (***і, ды*** ў значэнні ***і, ні — ні, як — так і***); паказваюць на адносіны адначасовасці, сумеснасці, паслядоўнасці і інш.; **размеркавальныя *(ці, або, то — то, ці то — ці то, не то — не то)*;** выражаюць адносіны магчымасці выбару, чаргавання ці няпэўнасці прадметаў, з'яў, дзеянняў; **супраціўныя** (***а, але і, ды*** ў значэнні ***але, аднак, затое, не толькі — але, хоць і — але***); паказваюць на адрозненне або супастаўленне прадметаў, з'яў, дзеянняў.

**235.** Прачытайце. Перабудуйце сказы з аднароднымі членамі так, каб у іх выражаліся тыя значэнні, што ўказаны ў дужках. Запішыце сказы.

1. Мы не вожыка, зайца бачылі *('супастаўленне')*. 2. З-за хмар на небе зусім не было відаць месяца, зор *('узмацненне адмоўя пры пералічэнні')*. 3. У доме чулася гаворка, смех *('адначасовасць'; 'чаргаванне з'яў'; 'няпэўнасць')*. 4. На кірмашы можна купіць вырабы народных промыслаў, каляровыя тэлевізары, сучаснае адзенне, абутак[сн] *('аб'яднанне пар аднародных членаў сказа'; 'узмацненне кожнага з аднародных членаў сказа')*.

**236.** Прачытайце тэкст услых, захоўваючы патрэбную інтанацыю. Вызначце яго стыль і тып.

...І тут пачалося. За акном як бач сцямнела. Шалёны віхор праляцеў дваром, задзёр шынель на галаву вартавому, нахіліў на страху стайні* чорную вольху, і тая затрашчала, сагнуўшыся ў дугу.

Шаленства пераднавальнічнага ветру не скончылася на гэтым. Ён надумаў, відаць, наведацца ў госці да людзей у хаце. Раптоўна грукнулі дзверы, страшэнная пройма пацягнула да печы, дзьмухнула ў чаляснікі[л], задзерла па дарозе абрус, ледзь не сарвала яго са стала разам з наедкам і вылецела ў комін, сказаўшы выразным фальцэтам[л]:

— Аоў.

Гораў бачыў у акно, як гэты парыў проймы выкінуў з напаўразбуранага коміна галчына гняздо і пагнаў яго, як кола, па пыльнай дарозе.

— Сымон, чортаў сын, — крыкнуў Гораў, — каглу́* забыў зачыніць!

І сам кінуўся да печы, зачыніў каглу, падторкнуў яе анучаю.

Сымон скочыў у дзверы як апантаны, зачыніў іх, паправіў абрус, шуснуў у бакоўку і борздзенька выскачыў адтуль з запаленай свечкай *(У. Караткевіч)*.

● Якую ролю выконваюць аднародныя выказнікі пры стварэнні малюнка буры? Як выражана значэнне адначасовасці ў першых двух абзацах?

● Пабудуйце схемы двух апошніх сказаў. Чым яны адрозніваюцца? Якую ролю выконвае злучнік ***і***?

● Вызначце з кантэксту значэнне слова *кагла́* і падбярыце да яго літаратурны адпаведнік.

● Назавіце сінонімы ў апошнім сказе. Вызначце іх ролю.

● Ці даводзілася вам назіраць буру, ліўні? Апішыце свае ўражанні або прывядзіце прыклады з мастацкай літаратуры (гл., напрыклад, практ. 222).

***ло́пух***
***по́цемкі***
***фо́рзац***
***фо́льга***
***фено́мен***

**237.** Разгледзьце табліцу. Якія спосабы аб'яднання аднародных членаў сказа паказаны ў прыкладах табліцы? Як яны звязаны з пастаноўкай знакаў прыпынку?

## Спосабы аб'яднання аднародных членаў у сказе і знакі прыпынку пры іх

| Лагічная і граматычная арганізацыя аднародных членаў сказа | Прыклады |
|---|---|
| Паслядоўны рад аднародных членаў сказа | *У векавечнай бацькаўшчыне клёны*<br>*Нячутна пачынаюць аблятаць*<br>***На** рыжую **траву, на мох** зялёны,*<br>***На веснiцы, на** цiхi **стаў*, на гаць***.<br>У. Караткевіч. |

| Лагічная і граматычная арганізацыя аднародных членаў сказа | Прыклады |
|---|---|
| Папарна аб'яднаныя аднародныя члены сказа | *Колькі кветак ля ракі!*<br>*Сінія, як вочкі,*<br>***Незабудкі і браткі,***<br>***Смолкі і званочкі.***<br>Н. Гілевіч. |
| Рад аднародных членаў сказа з абагульняльным словам | *Павінны мы сваім нашчадкам*<br>***Усё*** *пакінуць, чым жылі:*<br>*І белы* ***луг,*** *і* ***рэчку*** *з кладкай,*<br>*І* ***лес*** *паўз жытнія палі.*<br>В. Гардзей. |

**238.** Прачытайце тэксты. Вызначце сказы, у якіх аднародныя члены звязаны: а) інтанацыяй і адным злучнікам ***і*** перад апошнім аднародным членам; б) парамі пры дапамозе злучніка ***і***; в) паўторным злучнікам ***і***; г) адзіночным злучнікам ***і***.

I. Слова наша роднае, хапала
На стагоддзі доўгія цябе.
Багдановіч, Колас і Купала
Прыпадалі да цябе ў журбе...
*Г. Бураўкін.*

II. Усё размерана на свеце:
Радзіны і хаўтурны звон,
Святы[с] пакой і ліхалеццe,
Пяшчоты слодыч і праклён.
*В. Зуёнак.*

III. Пад гоманы бору, куванне зязюлі
Злажыў Багдановіч тут яркі вянок...
І поле, і пушчы, і рэкі тут чулі,
Як Цётка спявала, як марыў Бядуля,
Як слёзы рассыпаў Мацей Бурачок.
*М. Хведаровіч.*

IV. Раскінула ночка асеннія чары
Над рэчкаю казачнай, ціхаю Шчарай,
Заснулі навокал лясы і імшары,
І месяц укрыўся у шэрыя хмары.
*С. Шушкевіч.*

- У якіх сказах пералічэнне можна прадоўжыць, а ў якіх нельга?
- Растлумачце знакі прыпынку пры аднародных членах сказа.
- Пабудуйце схемы сказаў з аднароднымі членамі.

## § 39. Аднародныя і неаднародныя азначэнні

**239.** Правядзіце даследаванне: а) знайдзіце ў сказах азначэнні; б) вызначце, якія з іх вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння, а якія не; в) вызначце, паміж якімі азначэннямі можна паставіць злучнік ***і***.

1. Чырвоныя, сінія, жоўтыя агеньчыкі мільгалі паміж соснамі *(С. Грахоўскі)*. 2. У лесе буяла мноства злой, калючай лясной крапівы *(І. Мележ)*. 3. Цёпламу, яснаму дню радуецца кожная жывая істота *(І. Навуменка)*. 4. Ціха брыла па абшарах у снежнай спадніцы марозная сіняя ноч *(З. Бядуля)*. 5. Адам Міцкевіч — адзін з найгеніяльнейшых славянскіх паэтаў *(Я. Колас)*. 6. Так соладка пахне будучымі мядовымі грушкамі вясковая белая квецень *(В. Казько)*.



Дапасаваныя азначэнні, звязаныя паміж сабой толькі інтанацыяй, могуць быць а д н а р о д н ы я і н е а д н а р о д н ы я.

**Аднародныя азначэнні** аднолькава адносяцца да паяснёнага слова. У такім выпадку яны вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння і паміж імі можна паставіць злучнік ***і***. На пісьме яны раздзяляюцца коскай.

Параўн.: ***Буйное, густое*** *зарадзіла жыта* (П. Броўка).
***Буйное*** *і* ***густое*** *зарадзіла жыта.*

Аднародныя азначэнні часцей выражаюцца якаснымі прыметнікамі: *Расцвіў прыгожы, буйны сад* (П. Броўка).

**Неаднародныя азначэнні** адносяцца да паяснёнага слова па-рознаму: непасрэдна да назоўніка адносіцца толькі першае, тое, што стаіць бліжэй да яго. А другое азначэнне адносіцца да ўсяго словазлучэння «назоўнік + першае азначэнне». У гэтым выпадку азначэнні вымаўляюцца без інтанацыі пералічэння, паміж імі нельга ўставіць злучнік ***і***, яны на пісьме не раздзяляюцца коскай. Часцей неаднародныя азначэнні выражаюцца спалучэннем якасных і адносных прыметнікаў:

*Падзімаў, дыхаў **лёгкі летні** ветрык* (Б. Сачанка).

З а ў в а г а. Пасля паяснёнага слова неаднародныя азначэнні заўсёды вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння і паміж імі ставіцца коска: *Дымок **танюткі, белаваты** ўжо павіваецца над хатай* (Я. Колас).

**240.** Прачытайце сказы. Якія з азначэнняў вымаўляюцца з пералічальнай інтанацыяй і, адпаведна, з’яўляюцца аднароднымі? Спішыце. Падкрэсліце аднародныя азначэнні. Ад паяснёных слоў пастаўце пытанні да азначэнняў.

1. Лёгкі, лагодны вецер гнаў па дарозе сухое лісце маладых бяроз *(А. Асіпенка)*. 2. Многа новых, шчаслівых дарог рассцілае[с] жыццё прад табою! *(Я. Колас)*. 3. Чыстая[м], глыбокая рэчка ў люстраной паверхні сваёй адбівае блакітнасць[с] неба *(П. Галавач)*. 4. Харошая, памяркоўная, несварлівая трапілася мне жонка. Ды і я сам такі. Так што жылі добра, па-божаму[а] *(У. Караткевіч)*. 5. Худзенькая[сл], танюткая жанчына паглядала на мяне. Рысы твару былі выразныя, рэзка акрэсленыя[сн] *(У. Караткевіч)*. 6. У канцы чэрвеня прайшлі шчодрыя летнія дажджы *(Я. Колас)*.

● Ці можна паставіць спалучальны злучнік ***і*** паміж аднароднымі азначэннямі?

● Прыметнікамі якіх разрадаў выражаны аднародныя азначэнні?

**241.** Прачытайце сказы. Ці можна паміж неаднароднымі азначэннямі ўставіць спалучальны злучнік *і*?

1. Старыя дрэвы танулі ў густым балотным разнатраўі[а] *(І. Мележ)*. 2. Раўнюткі пясчаны[ф] бераг быў утульным пляжам *(М. Лынькоў)*. 3. Замоўклі белыя прасторы, змарыў[с] іх ціхі зімні сон... *(М. Хведаровіч)*. 4. Адшумелі[а] свой час неспакойныя восеньскія[а] вятры *(Я. Колас)*. 5. На месцы руін узняліся прыгожыя шматпавярховыя[сл] дамы *(А. Якімовіч)*. 6. Вакол раскінуліся пуховыя снежныя пярыны[а], на вокнах з'явіліся тонкія ледзяныя ўзоры, ад якіх не адвесці вачэй *(А. Чарнышэвіч)*. 7. Над шырокім прыцьмелым[а] прасторам драмала доўгая зімовая ноч *(В. Быкаў)*.

● Запішыце сказы пад дыктоўку. Сачыце за тым, як вымаўляюцца неаднародныя азначэнні.

● Прыметнікамі якіх разрадаў выражаны неаднародныя азначэнні?



Заўсёды аднароднымі з'яўляюцца:

1) мастацкія азначэнні: *Па небе гуляла **вясёлае, ласкавае** сонца* (А. Пысін);

2) азначэнні, адно з якіх выражана прыметнікам, а другое — дзеепрыметнікам: *У поцемку лесу нізкія елачкі трымалі **празрыстыя, заледзянелыя** пацеркі расы...* (В. Адамчык).

**242.** Спішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку. Дапоўніце сказы аднароднымі (частка І) і неаднароднымі (частка ІІ) азначэннямі.

І. 1. З поўначы дзьмуў моцны ... вецер. 2. На праглядзе былі паказаны французскія, іспанскія ... фільмы. 3. Прамысловасць рэспублікі выпускае шарсцяныя ... тканіны. 4. У небе свяціліся ... сінія агеньчыкі салюту. 5. Удосталь хочацца напіцца ... свежай вадзіцы.

ІІ. 1. У мікрараёне «Захад» пабудавалі ... тэлефонную станцыю. 2. ... цагляны будынак выходзіць фасадам* на магістраль. 3. Вера апранула новае ... паліто. 4. Наступіла ... восеньскае ранне. 5. ... пясчаныя фантанчыкі выкідвала з глыбіні лясная крынічка.

**243.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Выпішыце словазлучэнні з азначэннямі. Вызначце, аднародныя яны ці не. Пакажыце гэта на схемах.

І зноў пацягнула госця [немца] на параўнанне, на пошукі выслоўяў у іншых мовах[сн]. Просіць падаць яму з паліцы багатую рускую кніжку «Фразеологический словарь русского языка»[сн] і шукае фразеалагізм са словам «журавіны» — клюква. Там ёсць: *вот так клюква.* Яркі, выразны самабытны фразеалагізм; сэнс — выказванне расчаравання[ф], здзіўлення (як і беларускія *восьтабе і гацаца! восьтабе і маеш! на табе!*). І зноў загадкі, і зноў пошукі ўразумення: рэаліі адны, фразеалагізмы розныя *(Ф. Янкоўскі).*

● Якія беларускія фразеалагічныя слоўнікі вы ведаеце? Хто іх аўтары?

● Запішыце некалькі прыкладаў беларускіх фразеалагізмаў з адпаведнікамі ў іншых мовах.

***Мазы́р***
***Капы́ль***

**244.** Прачытайце тэкст. Пабудуйце схемы 2—3 сказаў, у якіх ёсць аднародныя члены сказа. Выпішыце словазлучэнні з неаднароднымі азначэннямі, укажыце, чым яны выражаны.

Выснова напрошваецца сама: трэба наш родны дом зрабіць утульным. Каб душы чалавечай было ў ім хораша, цёпла, светла. Толькі і ўсяго. Але наш дом адно тады стане гэтакім, калі ў ім будзе ўсё тое, што ў родным доме павінна быць, менавіта:

калі ў ім будзе свабодна і натуральна, з ранку і да ночы, з вуснаў і старых і малых гучаць роднае слова;

калі ў ім будуць чуцца пяшчотныя матчыны песні і мілагучныя бацькавы цымбалы, мудрыя дзедавы казкі і прыказкі, легенды і паданні;

калі ў ім будзе чуцён незаменны водар страў, які ты ўдыхаў ад калыскі, — водар найлепшых дароў нашай любай, самаахвярнай і мнагацэрпнай зямлі-карміцелькі;

калі ў ім будзе вабіць твой зрок, і зачароўваць, і глядзець у душу табе — з пакрывалаў і посцілак, з паясоў і сурвэтак — «цвяток радзімы васілька»;

калі ў ім на стале, на белым абрусе, побач з боханам хлеба надзённага будуць ляжаць кнігі бібліі Францыска Скарыны, кнігі Кастуся Каліноўскага і Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Максіма Гарэцкага, і многія іншыя кнігі свяшчэннага пісання нашага;

калі ў ім на самым пачэсным месцы, на покуці, пад ручнікамі, будуць абразы найвялікшых, найслынных сыноў і дачок Бацькаўшчыны — абразы святых і прасвятых зямлі нашай Беларускай.

А будзе ўсё гэта ў нашым родным доме толькі тады, калі мы захочам, каб было *(Н. Гілевіч)*.

● Пра які дом ідзе гаворка? Ці згодныя вы з аўтарам? Што, на вашу думку, неабходна рабіць, каб наш дом-Радзіма стаў утульным? Запішыце свае разважанні, ужываючы аднародныя члены сказа.

● Чаму ў перадапошнім абзацы слова *Беларускай* пішацца з вялікай літары?

## § 40. Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа

1. Аднародныя члены сказа на пісьме, як правіла, раздзяляюцца коскай.

2. Паміж аднароднымі членамі сказа не ставіцца коска, калі яны звязаны адзіночнымі злучнікамі ***і, ды (= і), ці, або***. Напрыклад: *Ляцяць у вырай **жураўлі** і **гусі*** (С. Грахоўскі).

З а ў в а г а. Не з’яўляюцца аднароднымі членамі сказа і не раздзяляюцца коскамі словы ў складзе ўстойлівых спалучэнняў, звязаныя паўторнымі злучнікамі ***і — і; ні — ні; ці — ці:*** *і так і сяк; ні кала ні двара; то там то сям; ці блізка ці далёка* і інш.: *Іван ёй **ні сват ні брат*** (М. Машара). *Тады **ні адтуль ні адсюль** чуўся часамі стогн і енк* (К. Чорны).

**245.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

1. Дзень быў цёплы, ціхі *(І. Навуменка)*. 2. Драбнюткі, але спорны дождж церушыў цэлыя суткі *(П. Пестрак)*. 3. Мне заўсёды падабаліся як вясёлыя, так і сумныя песні роднага краю *(У. Караткевіч)*. 4. Вясёлае, ласкавае сонейка цешыла і расліну, і птушку, і ваду, і нашых хлопцаў *(Я. Маўр)*. 5. Абоз імчыцца па завулку, грыміць, і трубіць, і звініць *(К. Крапіва)*. 6. Нас пакараюць моры і рэкі, горы і нетры зямлі *(Я. Колас)*.

**246.** Падрыхтуйце выказванне на тэму «Коска паміж аднароднымі членамі сказа», карыстаючыся наступнай табліцай. Складзіце або выпішыце з твораў мастацкай літаратуры сказы, якія ілюструюць вашы сцверджанні.

<table>
<tr><th colspan="4">Коска паміж аднароднымі членамі сказа</th></tr>
<tr><td colspan="4">с т а в і ц ц а, калі яны спалучаны</td></tr>
<tr><td rowspan="2">інтанацыяй (без злучнікаў)<br>[◯, ◯]</td><td colspan="3">злучальнымі злучнікамі</td></tr>
<tr><td>супраціўнымі адзіночнымі<br>[◯, але ◯]<br>[◯, ды ◯]<br>[◯, а ◯]</td><td>паўторнымі спалучальнымі і размеркавальнымі<br>[і ◯, і ◯]<br>[ці ◯, ці ◯]</td><td>парнымі<br>[як ◯, так і ◯]<br>[калі не ◯, то ◯]</td></tr>
<tr><td colspan="4">н е с т а в і ц ц а, калі яны</td></tr>
<tr><td colspan="2">спалучаны адзіночнымі спалучальнымі і размеркавальнымі злучнікамі<br>[◯ і ◯]<br>[◯ ды (= і) ◯]<br>[◯ ці ◯]<br>[◯ або ◯]</td><td colspan="2">утвараюць непадзельныя спалучэнні<br>[і так і сяк]<br>[ні пуху ні пер’я]</td></tr>
</table>

**247.** Прачытайце тэкст. Што новага вы даведаліся аб пастаноўцы знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа?

Коскай раздзяляюцца ўсе аднародныя члены сказа, калі папярэднія з іх звязаны паміж сабой без злучнікаў, а наступныя — пры дапамозе паўторнага злучніка ***і***.

Напрыклад:

*Жыццё чулася ў траве, у гаёчку, і лясочку, на палях, і на лугах, і ў зялёненькім лужочку, і ў крынічных берагах* (Я. Колас).

*Дзень іграе на жалейцы, на трубе, і на ражку, і на сінім трысьнягу* (М. Танк).

*З правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.*

- Сказы запішыце, зрабіце іх сінтаксічны разбор. Пабудуйце схемы аднародных членаў сказа.
- Параўнайце схемы.
  1) ◯, ***і*** ◯, ***і*** ◯
  2) ... ***і*** ◯, ***і*** ◯, ***і*** ◯, ***і*** ◯
- Адкажыце, чаму ў 2-й схеме перад першым злучнікам ***і*** коска не ставіцца?
- Прыдумайце і запішыце сказы ў адпаведнасці з дадзенымі схемамі.

**248.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

1. Павольна і ціха але шырока расчыняюцца[с] дзверы, і парог[а] пераступае тата *(Ф. Янкоўскі)*. 2. Раніца, сапраўды, была выдатная сонечная але *(не/ня)* яркая а мяккая ціхая пяшчотная[а] *(А. Асіпенка)*. 3. На Беларусі шмат вялікіх і малых рэк і азёр, багатых на рыбу *(В. Вольскі)*. 4. У хаце цесна затое весела[сн] *(І. Мележ)*. 5. Жыў сабе год чатырыста назад у беларускім горадзе Рагачове *(не/ня)* багаты але добрага роду дваранін па прозвішчы Гервасій Выліваха *(У. Караткевіч)*. 6. Удзень[а] і ўноч[а] над палямі і лясамі чуліся выбухі снарадаў і аўтаматная страляніна[а] *(І. Мележ)*.

**249.** Устаўце патрэбныя па сэнсе злучнікі. Запішыце сказы, расстаўляючы коскі.

1. На ранняй раллiцы родзiць жыта ... пшанiца ... на позняй раллiцы родзiць куколь* ... мятлiца. 2. Адзiн дасуж ... не дуж. 3. Шалы ... балы да дабра не давядуць. 4. Сушыць не работа ... турбота. 5. Мужыка не кажух грэе ... сякера.

**250.** Устаўце замест кропак аднародныя члены сказа разам з супрацiўнымi злучнiкамi. Запiшыце сказы, расстаўляючы знакi прыпынку.

1. Я доўга пiсала сачыненне ... . 2. Гэта была не рэчка ... . 3. Вартавы прыгледзеўся ... . 4. Ранiца была бязветраная ... . 5. Грыб вырас вялiкi ... . 6. Чаравiкi новыя ... . 7. Лес стары ... .

**251.** Запiшыце сказы, замяняючы злучнiк ***цi — цi*** злучнiкам ***цi то — цi то***. Якое дадатковае адценне надаюць сказу гэтыя злучнiкi? Пастаўце знакi прыпынку.

1. Песнi жанчын чулiся цi ў лесе цi за рэчкай. 2. Вузкая сцяжынка цi хавалася ў жыце цi рэзка выбягала на прастор. 3. Няўмеламу цi цэп цi малатарня — усё страты. 4. Стары лес шумеў цi на гром цi на вецер.

**252.** Складзiце сказы з устойлiвымi спалучэннямi слоў *нi свет нi зара, нi кала нi двара, нi слыху нi дыху, цi пан цi прапаў.*

**253.** Разгледзьце таблiцу i сфармулюйце правiла пастаноўкi коскi памiж аднароднымi членамi сказа, звязанымi парнымi злучнiкамi. Прывядзiце прыклады.

Якiя гэта злучнiкi паводле значэння?

| | |
|---|---|
| ***як ○, так i ○*** | ***не толькi — але (але i),***<br>***не столькi — колькi,***<br>***хоць (хоць i) — але,***<br>***калi не — то*** |

**254.** Запішыце сказы, устаўляючы патрэбныя па сэнсе злучнікі. Пастаўце знакі прыпынку і растлумачце іх.

1. ... хлопцы ... дзяўчаты могуць атрымаць прафесію юрыста. 2. ... суніцы ... чарніцы паспелі ў бары. 3. ... хочацца тых ягад ... пабыць у лесе падыхаць водарам лясных палян. 4. ... праз тыдзень ... крыху пазней я здам экзамен. 5. Гульня была настолькі цікавая, што захапіла ... дзяцей ... дарослых. 6. ... пакой невялікі ... чысты.

**255.** Спішыце сказы, пастаўце коскі. Растлумачце іх пастаноўку.

1. Думкі пра сад супакойвалі[с] душу Францыска Скарыны настройвалі на філасофію[сн] *(А. Лойка)*. 2. Хоць стомленая[м] але вясёлая вярнулася Фрося дадому[сн] *(З. Бядуля)*. 3. Пра яго гаварылі не столькі добрага колькі смешнага *(Я. Колас)*. 4. Пра Мінск пра Беларусь ведаюць людзі за самымі далёкімі марамі. Беларусь для іх не толькі мірная і добрая краіна але і цягавіты[а] трактар і вынослівы самазвал[сл] і элегантны гадзіннік *(М. Танк)*.

● Выпішыце з 1-га сказа словазлучэнні «наз. + наз.», «дзеясл. + наз.». Вызначце ў іх від сінтаксічнай сувязі.

**256.** Складзіце сказы з развітымі і неразвітымі аднароднымі членамі па наступных схемах:

1) [○, ***але*** ○],
2) [***і*** ○, ***і*** ○, ***і*** ○],
3) [○, ○ ***ці*** ○],
4) [○, ○, ***і*** ○, ***і*** ○].

**257.** Графічны дыктант.

1. З маленства люблю я лясы, іх сцішаны голас і шум патаемны *(Я. Колас)*. 2. Я закаханы ў нёманскія плёсы, у старыцы і ў светлыя лясы, у шумныя асеннія бярозы і ў кропелькі сцюдзёнае расы *(С. Грахоўскі)*. 3. Вось ён спатыкнуўся ці то аб камень, ці то аб корч *(М. Лынькоў)*.

**258.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з аднароднымі членамі, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

У часы барока* лічылася, што ежа павінна не толькі насыціць, але і ўразіць гасцей сваім смакам, колерам, формай, сумяшчэннем несумяшчальнага. Спалучалі салодкае і кіслае, салодкае і горкае, кіслае і салёнае. У торт саджалі жывых птушак, якія ўзляталі ў час «івату»[1]. На стол падавалі цэлых дзікоў, напоўненых унутры каўбасамі, індыкамі, курапаткамі, або доўгіх шчупакоў, «засмажаных у галаве, звараных у сярэдзіне і печаных у хвасце».

Традыцыйнай сенсацыяй застолля быў «цэлы» каплун[л], засаджаны ў «бутлік» (для гэтага з каплуна здымалі скуру, запіхвалі ў бутэльку, напаўнялі праз лейку малаком і яечнымі жаўткамі, а потым усё разам варылі ў кіпені). Рыбу фаршыравалі свінінай, свіней — індычацінай, індыкоў — рыбай. Птаству, піша Кітовіч, «выкрыўлялі дзівачна ногі, крылы, галовы, рабілі фігуры, да стварэння Божага непадобныя, і такія стравы лічыліся самымі моднымі і густоўнымі» *(А. Мальдзіс. «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя»).*

● Падзяліцеся сакрэтамі ўпрыгожвання святочнага стала ў вашай сям'і. Ці карысталіся вы парадамі рубрыкі «Гаспадыня» з часопіса «Бярозка» або парадамі з іншых часопісаў?

● Растлумачце, чаму ў тэксце некаторыя словы, словазлучэнні і часткі сказа ўзяты ў двукоссе.

**259.** Прачытайце тэкст. Спішыце, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

«Не ўрадлівасцю ніў не адрозненнем адзення не прыроднай прыгажосцю краіны не моцай гарадоў і замкаў квітнеюць[с] народы а больш за ўсё тым, што берагуць і ўжываюць сваю мову, якая згуртоўвае[с] грамадства[сл] ўмацоўвае дружбу і брацтва. Мова гэта вузы ўсеагульнай[а] любові маці адзінства

---

[1] Час «івату» — час віншавання, здравіца.

бацька грамадства абаронца дзяржавы. Ліквідаваць мову ўсё роўна што патушыць сонца парушыць сусветны парадак пазбавіць свет[ф] жыцця і славы» — з такімі словамі звяртаўся да сваіх суродзічаў[сл]-літоўцаў гуманіст[с] і дзеяч эпохі Адраджэння[а] Мікалоюс Даўкша (1538—1613).

● Падумайце, што меў на ўвазе М. Даўкша, сцвярджаючы, што «ліквідаваць мову — усё роўна што... парушыць сусветны парадак».

**260.** Прачытайце ўслых, захоўваючы патрэбную інтанацыю, два вельмі блізкія па сэнсе сказы. Які з іх вы лічыце больш выразным? Пры дапамозе чаго гэта выразнасць дасягаецца?

Кожны чалавек па-свойму перажывае радасць, смутак, бадзёрасць, стомленасць, захапленне, адчай, любоў, нянавісць.

Кожны чалавек па-свойму перажывае радасць і смутак, бадзёрасць і стомленасць, захапленне і адчай, любоў і нянавісць.



Адзін з сінтаксічных сродкаў выразнасці маўлення — парнае спалучэнне аднародных членаў сказа.

У ролі аднародных членаў сказа, аб’яднаных папарна, нярэдка ўжываюцца антонімы: *Мова дае каларыт твору, робіць яго* ***баявым*** *або* ***спакойным, паэтычным*** *або* ***нудным, лірычным*** *або* ***суровым****...* (Я. Скрыган).

**261.** Прачытайце тэксты, захоўваючы патрэбную інтанацыю.

I.

Я жыву на граніцы —
На граніцы вёскі і горада,
Травы і бетону,
Цішы і грому.

*П. Макаль.*

II. ...Гэтыя кнігі карысна чытаць усякаму чалавеку: мудраму і неразумнаму, багатаму і беднаму, маладому і старому. А найперш тым, хто мае намер засвоіць добрыя норавы,

спасцігнуць сапраўдную мудрасць і навуку *(Ф. Скарына. Прадмова да кнігі «Прытчы Саламона»)*.

● Якія сінтаксічныя сродкі выразнасці выкарыстаны ў тэкстах? Складзіце сказы, ужываючы падобныя канструкцыі.

**262.** Спішыце тэкст, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку. Пабудуйце схемы сказаў з аднароднымі членамі.

Гэты мой знаёмы шчыры чалавек — немец. Яшчэ ў свае ўніверсітэцкія[сл] гады ён пачаў займацца славянскімі мовамі іх сродкамі экспрэсіі* выразнасці. Калі ён, ужо сталы і сур'ёзны[а] чалавек, завітаў[м] у Мінск, то чытаў і ведаў «Чаго вам хочацца, панове?» і «Вобразы родныя» «Ты не згаснеш, ясная заранaчка» і «Судзі мне, доля, мужнаму памерці» «Новую зямлю» і «Курган» «Жменю сонечных промняў» і «Галю» «Нёманаў дар» і «Аленяў»... Чытаў[с] і ведаў багата[с] што *(Ф. Янкоўскі)*.

● Ці чыталі вы пералічаныя творы? Хто іх аўтары?

**263.** Удумліва прачытайце тэкст. Ці згодныя вы з думкай аўтара? Ці можаце прывесці прыклады страчаных слоў? Як вы разумееце сэнс апошняга абзаца?

Наша жывая мова страціла безліч слоў. Слоў, створаных па ўнутраных законах развіцця мовы, слоў, якія неслі колер і водар самой беларускай зямлі, беларускай прыроды. Мову пачалі адрываць ад зямлі, на якой яна ўзнікла, складвалася, набіралася моцы і сілы, а зямлю — пазбаўляць мовы, рабіць бязмоўнай і безыменнай. І не бачна канца гэтаму разрыву адвечнага адзінства зямлі і мовы. Але ў мове не толькі аблічча, фарбы і гукі зямлі, а філасофія і мараль народа, працоўнага чалавека. І гэта ўсё таксама разам з мовай нявечыцца і забіваецца!

Так наступае ўсеагульнае абядненне і апусташэнне душы чалавечай *(Н. Гілевіч)*.

● Пабудуйце схемы сказаў з аднароднымі членамі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Вызначце, якую ролю выконваюць аднародныя члены сказа, звязаныя папарна.

**264.** Прывядзіце прыклады, якія ілюструюць, як філасофія і мараль народа, яго светапогляд адлюстроўваюцца ў мове. Паразважайце, напрыклад, чаму ў рускай мове кажуць «жениться на Марье», а пабеларуску — «ажаніцца з Мар'яй», «смеяться над ним» — «смяяцца з яго», «пойти за водой» — «пайсці па ваду» і інш.

Што адбывалася, калі з нашай мовы былі выкінуты словы *Радаўніца, Дзяды, Каляды*?

**265.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку. Ці сугучная яна з думкай Н. Гілевіча, выказанай у тэксце практ. 263.

Як лепш пісаць: на Беларусі ці ў Беларусі? Скажаце, можна і так, і так. Але калі мяняюцца словы — мяняецца і сэнс. Паспрабуем яшчэ раз: можна сказаць «на Беларусі», «на Літве» і «на Украіне», але ўжо «на Францыі» ці «на Аўстрыі» не скажам. Толькі гэтыя тры краіны ва ўсім свеце можна ўжыць з прыназоўнікам «на». А каб зразумець, чаму так, трэба трошкі ўспомніць гісторыю. Якія тэрыторыі ўваходзілі ў склад старабеларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага? Сучасныя Беларусь, Літва і Украіна. Многія пра гэта забыліся ці ўвогуле не ведалі, а мова памятае *(М. Клімковіч)*.

● Пабудуйце схемы сказаў з аднароднымі членамі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

***здаўна́***
***за́даўна***

**266.** Прачытайце тэкст. Спішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

У шматлікія і разнастайныя[сл] слоўнікі мы амаль не заглядваем, а калі і разгортваем[с] пры неабходнасці перакласці нейкае слова — дык хапаем першае[м] па чарзе яго значэнне (трэба ж хутчэй!), хаця ёсць і другое і трэцяе а то і чацвёртае і пятае. Вось адкуль гэтыя бясконцыя «паставіць у вядомасць» і іншыя падобныя фразы-пачвары *(Н. Гілевіч)*.

● Вызначце тэму тэксту, яго асноўную думку.



Пры спалучэнні аднародных членаў у сказе неабходна кіравацца наступным:

а) у рад аднародных членаў уключаюцца словы з сумяшчальнымі паняццямі, г. зн. такія, якія адпавядаюць адной прымеце;

б) спалучаюцца словы, якія адказваюць на адно пытанне;

в) нельга ўключаць у склад аднародных членаў сказа дадзеную частку складанага сказа.

**267.** Прачытайце сказы, вызначце, у якіх з іх: а) у рад аднародных членаў уключаны несумяшчальныя паняцці; б) аднародныя члены адказваюць на розныя пытанні; в) спалучаны аднародныя члены і дадзеная частка складанага сказа.

Запішыце сказы ў выпраўленым выглядзе.

1. Уся суша раздзелена на шэсць частак свету: Еўропу, Азію, Афрыку, Амерыку, Аўстралію, Антарктыду, Японію і Францыю. 2. У садзе раслі яблыні, слівы, грушы, бярозы, дубы. 3. Міхась быў адважны і смелым. 4. Ежа павінна быць смачнай, каларыйнай і прыгожа аформлена. 5. Вучні любілі спевы, фізкультуру і маляваць. 6. Сяброўка спытала аб уроках і як маё здароўе. 7. Віншую вас ад усёй душы і асабіста ад сябе.

**268.** Прачытайце сказы, знайдзіце памылкі ва ўжыванні азначэнняў. У чым сутнасць дапушчаных памылак? Запішыце сказы ў выпраўленым выглядзе.

1. У магазіне на Чырвонай вуліцы вялікі выбар мужчынскага, жаночага і гумавага абутку. 2. У праграме вечара планаваліся беларускія і эстрадныя песні. 3. Лісцевыя і вільготныя лясы распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі. 4. Лексіку сучаснай беларускай мовы складаюць спрадвечныя беларускія і кніжныя словы. 5. На сустрэчу былі запрошаны беларускія, польскія і народныя пісьменнікі.

## § 41. Абагульняльныя словы пры аднародных членах сказа

**269.** Прачытайце сказы. Падбярыце да аднародных членаў сказа слова або словазлучэнне з больш шырокім, абагульняльным значэннем — абагульняльнае слова.

1. Восенню каля вашага дома будуць трымацца дразды, амялушкі, снегіры. 2. Сонца ярка асвятляла палі, вёску, рэчку і луг. 3. Побач са старажытнымі дубамі ў парку можна ўбачыць вязы, клёны, грабы, ясені. 4. На падаконніках у класе стаялі кактус, альяс і герань. 5. У лесе дзеці шмат набралі сыраежак, лісічак, баравікоў і падасінавікаў. 6. Сонца зайшло. Птушкі змоўклі і ў лесе, і ў полі.

**270.** Прачытайце верш, захоўваючы патрэбную інтанацыю. Вызначце яго асноўную думку.

Усё было мне міла тут:
Над Нёманам зялёны кут,
Палі шырокія, узгоркі,
І смоль сасны, і ў небе зоркі,
І пах асіны гаркаваты,
Сады зялёныя ля хаты,
І гучны перазвон крыніц,
І сполах вечарам зарніц,
І Нёман мой, як шкло, празрысты,
І маладзік у небе чыстым,
І шумны за ракой начлег,
Дзяўчат-красунь вясёлы смех,
І кроплі жнівеньскай расы,
На лузе першы звон касы,
І кожнае жывое слова
Прыветнай беларускай мовы...

*А. Астрэйка.*

● Назавіце слова, якое паясняецца аднароднымі членамі сказа. Якое яго значэнне? Чым яно выражана і як размяшчаецца адносна рада аднародных членаў сказа? Якія гэта аднародныя члены сказа?

**Абагульняльнае слова** пры аднародных членах сказа — гэта слова, якое выражае больш шырокае значэнне, чым аднародныя члены, і суадносіцца з імі як радавое і відавое паняцці.



Абагульняльнае слова з'яўляецца тым жа членам сказа, што і аднародныя члены: *Паэтам сваёй працы павінен быць* ***кожны:*** *каваль і інжынер, матэматык і гісторык, географ і выкладчык літаратуры* (В. Вітка). *Чутно вясны дыханне* ***ўсюды:*** *на сініх далях, на лясах, на дрэвах, што вартуюць шлях* (Я. Колас).

У ролі абагульняльных слоў часцей за ўсё ўжываюцца займеннікі *(**усё, усе, кожны, ніхто, нішто**)*, прыслоўі *(**усюды, заўсёды, ніколі, нідзе**)*, назоўнікі *(**дрэвы:** дубы, бярозы, клёны; **кветкі:** васількі, званочкі, незабудкі)*.

Абагульняльнае слова можа стаяць перад аднароднымі членамі сказа і пасля іх; ад гэтага залежыць пастаноўка знакаў прыпынку і інтанацыя вымаўлення.

Калі абагульняльнае слова стаіць перад аднароднымі членамі сказа, то пасля яго ставіцца двукроп'е. Пры чытанні абагульняльнае слова вымаўляецца з лагічным націскам і папераджальнай паўзай перад аднароднымі членамі, якія чытаюцца некалькі паніжаным тонам са звычайнай пералічальнай інтанацыяй.

*А на рабочым варштаце* ***прылады:*** || ***клешчы,*** | ***жалеза,*** | ***балты*** | *і* ***ключы...*** (М. Танк).

[◎: ○, ○, ○ *і* ○].

Калі абагульняльнае слова стаіць пасля аднародных членаў сказа, то перад ім ставіцца працяжнік. Пры чытанні аднародныя члены сказа вымаўляюцца павышаным тонам, перад абагульняльным словам робіцца значная паўза, а само слова вымаўляецца са значным узмацненнем голасу.

***Акадэмікі*** *і* ***хірургі, паэты*** *і* ***маршалы*** — || ***усе*** *былі вучнямі, іх талент разбудзіў просты вясковы настаўнік* (С. Грахоўскі).

[○ *і* ○, ○ *і* ○ — ◎].

Калі абагульняльнае слова стаіць перад аднароднымі членамі, але сказ імі не заканчваецца, то перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е, а пасля іх — працяжнік.

***Усё:** і хмурнае **неба**, і мёрзлая чорная **зямля** — было ахоплена нечым сумным, халодным і грозным* (К. Чорны).

[◎: *і* ○, *і* ○ — ... ].

**271.** Разгледзьце табліцу, раскажыце аб знаках прыпынку ў сказах з абагульняльным словам пры аднародных членах сказа. Падмацуйце адказ уласнымі прыкладамі.

| | |
|---|---|
| [◎: ○, ○, ○]. | *1.* ***Усюды*** *панавала цішыня:* ***у полі, на лузе, у гаі.*** |
| [○, ○, ○ — ◎]. | ***2. У полі, на лузе, у гаі*** *—* ***усюды*** *панавала цішыня.* |
| [◎: ○, ○, ○ — ...]. | *3.* ***Усюды:*** ***у полі, на лузе, у гаі*** *— панавала цішыня.* |

**272.** Прачытайце тэксты, выпішыце сказы з абагульняльным словам пры аднародных членах сказа. Растлумачце ў іх пастаноўку знакаў прыпынку, спосабы выражэння абагульняльных слоў. Пабудуйце схемы гэтых сказаў.

I.
Няма дзяцей бяздарных,
Мы з талентамі ўсе:
І лекар, і пажарнік,
І слуцкі хлебасей,
Каваль, даяр, ліцейшчык,
І кожны чалавек —
У геніяльнай[а] дзежцы[ф]
Замешаны навек.

*П. Панчанка.*

II.
Як першае прызнанне і ахвяра,
Так нечакана жыта загучала.
І шчасце горкае, і страх, і кара —
Усё злучылася ў адным харале*.

*В. Вітка.*

**273.** Прачытайце сказы. Разбярыце іх па членах сказа, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Чым адрозніваюцца сказы ў парах?

1. Дабрыня, розум, справядлівасць — самыя лепшыя якасці чалавека. Дабрыня, розум, справядлівасць — усе самыя лепшыя якасці спалучаліся ў гэтым чалавеку.

2. Мы збіралі апалыя лісты клёна, ясеня, бярозы і асіны. Мы збіралі апалыя лісты розных дрэў: клёна, ясеня, бярозы і асіны.

**274.** Падбярыце абагульняльныя словы да аднародных членаў сказа і перабудуйце сказы так, каб аднародныя члены сказа знаходзіліся ва ўсіх трох пазіцыях (гл. узор у практ. 271).

1. Наша літаратурная мова стваралася Скарынам, Коласам, Купалам, Багдановічам і іншымі майстрамі слова. 2. Бэз пах у садзе, на вуліцы, у хаце. 3. І дрэвы, і хмызнякі, і лясны подсціл набрынялі вільгаццю.

**275.** Спішыце, расстаўце, дзе трэба, знакі прыпынку і растлумачце іх пастаноўку. Пабудуйце схему 3-га сказа.

1. Разуменне дакладнасці слова ўменне карыстацца ім культура мовы і нават пісьменнасць усё залежыць ад таго, як загучала для вас слова, пачутае ў маленстве *(В. Вітка)*. 2. Колькі ў кроплю фарбаў назаткана, быццам свет увесь у ёй сабраны поле луг сады ўсяго пасёлка і рака і неба і вясёлка! *(П. Броўка)*. 3. У багатае і дажджом і сонцам лета грыбы ідуць усюды па бары па бярэзніку па верасе *(І. Навуменка)*. 4. Пайсці ў грыбы ці ў тую ж рыбу або паехаць на сялібу ці ў млын малоць на хлеб збажыну ўсё гэта вабіла хлапчыну[сн] *(Я. Колас)*.

**276.** Увядзіце ў сказы абагульняльныя словы. Запішыце. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Зрабіце сінтаксічны разбор сказаў.

Чаму выдзеленыя ў сказах словы не з'яўляюцца абагульняльнымі?

1. Ні ў паветры ні на вадзе ні пад зямлёй **ніколі** не павінна быць ядзерных выбухаў. 2. Літаратура музыка мастацтва **заўсёды** цікавілі чалавека. 3. У холад і спёку раніцай і днём вечарам і ноччу пагранічнікі **бесперапынна** нясуць варту.

## § 42. Паглыбленне паняцця пра апісанне як тып маўлення

**277.** Прачытайце тэксты практ. 2, 12, 212. Вызначце тып кожнага тэксту, сваю думку абгрунтуйце.



У залежнасці ад спосабу перадачы зместу паведамлення адрозніваюць такія тыпы маўлення, як а п і с а н н е (хто? які?); а п а в я д а н н е (што гэта? як адбываецца?); р а з в а ж а н н е (чаму гэтыя прадметы, з'явы такія? чаму гэта так адбываецца? і інш.).

Пад **тыпам маўлення** разумеецца тэкст (ці фрагмент тэксту) з пэўным абагульненым значэннем (прадмет і яго прыметы; прадмет і яго дзеянне; прычынна-выніковыя адносіны і інш.), якое выражаецца пэўнымі моўнымі сродкамі.

**Апісанне** — гэта сэнсавы тып тэксту, у якім апісваюцца ўласцівыя прыметы прадметаў, з'яў, жывёл, людзей. У тэкстах апісальнага тыпу даецца адказ на пытанне *які прадмет?*

Для *пейзажу* гэта будзе знешні выгляд дрэў, травы, неба, ракі; для *партрэта* — рост, узрост, паходка, пастава, выраз вачэй, усмешка, унутраны стан чалавека; пры апісанні *прадмета* — гэта паведамленне пра яго прызначэнне, выкарыстанне, знешні выгляд, часткі і інш. Усё гэта можна ўбачыць разам, адначасова (напрыклад, на адным фотаздымку, малюнку). Апісанне характарызуецца статычнасцю.

**278.** Выберыце з мастацкага твора (твораў) невялікія ўрыўкі, у якіх ёсць апісанне стану чалавека, апісанне месца і інш. Дакажыце, што гэтыя тэксты з'яўляюцца апісаннямі.

***стату́т***
***ста́туя***

**279.** Уважліва разгледзьце рэпрадукцыі мастацкіх твораў С. Лагуновіча-Чарапко, У. Васюка «Ефрасіння Полацкая», У. Сулкоўскага «Альбуць, інтэр'ер». Апішыце твор, які вас найбольш зацікавіў. Якія тыповыя фрагменты тэксту вы ўключыце ў сваё сачыненне (апісанне месца, апісанне прадмета, апісанне стану навакольнага асяроддзя, апісанне знешнасці)?



Пералічваць прыметы можна ў рознай паслядоўнасці ў залежнасці ад мэты выказвання, таму кампазіцыя і, як вынік, планы тэкстаў-апісанняў могуць быць розныя.

**Кампазіцыя** (ад лац. *compositio* — сачыненне, складанне, спалучэнне) — будова, размяшчэнне і суадносіны састаўных частак тэксту.

Характэрнымі элементамі кампазіцыі апісання з'яўляюцца:

1) агульнае ўяўленне аб прадмеце;

2) асобныя прыметы прадмета;

3) аўтарская ацэнка прадмета маўлення, вывад, заключэнне.

**280.** Прачытайце тэксты, вызначце іх тып і стыль. Якую ролю выконваюць аднародныя члены сказа ў пабудове тэксту?

I. Васька пакуль што не зусім добра ведае лугавыя лекавыя расліны, аднак падбел сярод іх лёгка адрозніць па роўных і булаватых сцяблінках, па жоўтых кветках, сабраных у вузкія і дробныя вяночкі. Падбел, надзвычай карысны ад кашлю, спачатку цвіце, а потым ужо абрастае чырванавата-бурым лісцем. Цікавы ён і тым, што, як ганарлівы шляхціц, мае яшчэ дзве запасныя назвы: маташнік, маці-мачыха. Слова «маташнік», зрэшты, нічога не гаворыць, другую ж назву расліны займальна тлумачыць баба Марка. Аказваецца, сэрцападобны, з вострымі зубчыкамі па краях, зялёны ліст падбелу спадыспаду мяккі ад пуху і цёплы на дотык — адсюль «маці», зверху той жа ліст гладкі і халодны — адсюль «мачыха». Як вядома, маці ў Ваські няма, а бурклівая мачыха, напэўна, і забыла, што непадалёк у дзедавай хаце жыве і гадуецца яе непаслухмяны, наравісты пасынак. Іменна вось таму ён не любіць гэтую дзіўную лекавую траву *(В. Гардзей)*.

II. Падбел звычайны — Tussilago farfara — Сям'я складанакветкавыя — Compositae.

Шматгадовая травяністая расліна да 20 см вышынёй, з паўзучым карэнішчам. Сцябло прамастойнае, укрыта луска-

падобным лісцем, з'яўляецца ранняй вясной і мае па адным кветкавым кошыку. Як язычковыя крайнія кветкі, так і трубчастыя сярэдзінныя залаціста-жоўтага колеру. Пасля адцвітання ў расліны развіваецца разетка прыкаранёвых доўгачаранковых лістоў. Пласцінка ліста акруглая або шырокая, яйкападобная, нераўнаямная, зверху цёмна-зялёная, амаль голая, знізу белавата-лямцавая. Плод — сямянка з чубком *(Я. Шмярко, І. Мазан)*.

**281.** Прааналізуйце тэксты з папярэдняга практыкавання. Ахарактарызуйце іх кампазіцыю, складзіце план кожнага тэксту, выкарыстоўваючы аўтарскія словы. Вусна перакажыце змест аднаго з тэкстаў.

**282.** Прачытайце тэкст (І), вызначце яго тып і стыль. Параўнайце тэкст з запісам, які змешчаны ніжэй (ІІ). Пераканайцеся, што ён складаецца з апорных словазлучэнняў, якія ўяўляюць сабой **мікратэмы** тэксту.

І. Восень. У лесе агледзіны: хто прыгажэйшы? Каляровыя чаромхі, лімонна-жоўтыя ці агніста-барвовыя. А вунь клён красуецца ў аранжава-чырвоных уборах. На асіны не наглядзецца, такія яны святочныя ў сваёй рознакаляровасці. А вярба? А каліна? Аднак усё роўна рабіна ні адной з лясных прыгажунь не саступіць. Жар-птушка, ды і толькі.

ІІ. Агледзіны ў лесе; лімонна-жоўтыя ці агніста-барвовыя чаромхі; аранжава-чырвоныя ўборы клёнаў; лясныя прыгажуні; жар-птушка рабіна.

● Як у тэксце называецца рабіна? Якія асацыяцыі выклікае гэта слова? Вымавіце яго некалькі разоў, улавіце дэталі, вобразы, якія ўзнікаюць у вашым уяўленні. Выкажыце іх словамі, запішыце ў форме словазлучэнняў.

● У тэксце не апісаны вярба і каліна. Паспрабуйце апісаць, як яны выглядаюць восенню.

● Выпішыце з тэксту складаныя прыметнікі, растлумачце іх правапіс. Зрабіце сінтаксічны разбор 2 словазлучэнняў, у склад якіх яны ўваходзяць.



**У апісанні перавагу маюць словы, якія абазначаюць якасці, уласцівасці прадметаў: прыметнікі, дзеепрыметнікі, прыслоўі, назоўнікі.**

Дзеясловы выступаюць, як правіла, у формах незакончанага трывання, часта ў прошлым часе, а для асаблівай нагляднасці — у форме цяперашняга часу. Важна, што ў апісанні формы дзеяслоўнага часу абазначаюць не паслядоўную змену дэталей, а іх размяшчэнне на адной плоскасці, як бы на адным палатне. У мастацкім і навуковым стылях падыход да выдзялення ў прадмеце тых бакоў, якія апісваюцца, розны. У навуковым стылі характарыстыка прадмета і яго прымет павінна быць як мага больш поўнай і дакладнай. У мастацкім стылі акцэнт робіцца на тых дэталях, якія звязаны з аўтарскім бачаннем прадмета, дзе часта ёсць і вялікая доля аўтарскага вымыслу. У мастацкім стылі моўныя сродкі для абазначэння прымет значна больш разнастайныя, чым у навуковым. Калі ў навуковым апісанні прыметы выражаюцца пераважна прыметнікамі і назоўнікамі, прычым з прамым, часта адцягненым значэннем, то ў мастацкім выкарыстоўваюцца прыметнікі з больш канкрэтным значэннем, назоўнікі, дзеясловы, прыслоўі; вельмі часта выкарыстоўваюцца параўнанні, прамыя і пераносныя значэнні слоў і інш.

Якасць апісання ў многім залежыць ад удалага выбару гэтых слоў.

**283.** Параўнайце апісанні кветкі (падбел, ці маці-мачыха) у першым і другім тэкстах з практ. 280. Чым адрозніваюцца гэтыя апісанні? Словамі якіх часцін мовы перадаецца апісанне? Якая іх стылістычная роля ў тэкстах?

● Якая ваша любімая кветка? Пісьмова апішыце яе ў розных стылях.

**284.** Падумайце, чым карысныя наступныя парады. Пастарайцеся часцей выконваць іх.

1. а) Уважліва на працягу 30 секунд разглядвайце якінебудзь прадмет (вазу з кветкамі, статуэтку, чайны сервіз і інш.);

б) схавайце прадмет, апішыце яго па памяці;

в) зноў паглядзіце на прадмет, параўнайце з ім сваё апісанне: ці дастаткова яно поўнае?

2. Зрабіце тое ж самае, што і ў заданні 1, выкарыстоўваючы ўклейку *(У. Хадаровіч «З думай аб Радзіме»)*.

З а ў в а г а. Заданні можна выконваць як у вуснай, так і ў пісьмовай форме, аднаму ці разам з сябрамі, бацькамі.

**285.** Прачытайце тэкст, захоўваючы патрэбную інтанацыю. Вызначце яго тып, абгрунтуйце сваю думку. Якога кампазіцыйнага элемента не хапае ў тэксце? Паспрабуйце дапісаць яго.

Відаць, мы ў цемры ўзбіліся на бакавы ганак, бо проста направа ад мяне быў парадны ўваход: шырокія, таксама стральчатыя, дзверы, падзеленыя драўлянымі калонкамі на тры часткі. На калонках была трохі пашчапаная часам разьба: кветкі, пялёсткі і плады. За дзвярыма, у глыбіні вестыбюля, — уваходныя дзверы, масіўныя, дубовыя, акутыя пацямнелымі цвікамі з квадратнымі галоўкамі. А над дзвярыма — вялізнае цёмнае акно ў ноч і цемру[сн]. На акне — мастацкай работы выгінастыя кра́ты[сн] *(У. Караткевіч)*.

● Выпішыце сказы з абагульняльным словам і аднароднымі членамі.

● Якую ролю ў тэксце выконваюць аднародныя члены сказа і няпоўныя сказы?

● Паспрабуйце апісаць дзверы дома, у якім вы жывяце, або дзверы таго дома, які б вы хацелі пабудаваць.

**286.** Прачытайце тэкст. З якіх частак ён складаецца? Ахарактарызуйце іх паводле тыпу маўлення. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту, падбярыце загаловак.

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа ў структурнай частцы «апісанне». Якую ролю ў пабудове гэтай часткі выконваюць аднародныя члены сказа?

Над пераможанай імперыяй Гітлера грымелі апошнія залпы. Лілася кроў, абрушваліся будынкі, падалі і паміралі людзі, грозна гулі ў небе эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў.

Горад Дрэздэн, які называлі «сталіцай мастацтваў», ляжаў у руінах. Знакамітая мастацкая галерэя, якая захоўвала сотні лепшых твораў сусветных мастакоў, знікла. Па словах уцалелых жыхароў, карціны былі вывезены яшчэ да бамбёжкі, але ніхто не мог сказаць, дзе тая часовая схованка, якая паглынула скарбы сусветнага мастацтва.

Салдаты нашай арміі аглядалі пустыя склепы. Падсвечваючы кішэннымі ліхтарыкамі, яны абстуквалі сцены ў пошуках гэтага сховішча. Спускаліся ў глыбокія шчыліны закінутых, залітых вадою каменяломень. Расчышчалі груды друзу*. Абясшкодзілі сотні мін. І яны атрымалі яшчэ адну перамогу.

Калі адчынілі адну са скрынь, вынесеную з глыбіні залітай вадой каменяломні, уражаныя салдаты ўбачылі карціну незвычайнай прыгажосці і выразнасці. Маладая жанчына з немаўлём на руках... Босыя ногі лёгка ступаюць па воблаках. Шырока расплюшчаныя, удумлівыя і крыху сумныя вочы глядзяць кудысьці ўдалячынь. Уся яе пастава, простая і адначасова ўрачыстая, адухоўленая, поўная пяшчоты, рамантычнасці, узнёсласці, любві і строгай велічы, скарыла прысутных пры гэтым відовішчы.

У кампазіцыі карціны не было нічога выпадковага, нічога нязначнага. Маці з дзіцём у цэнтры і ўкленчаныя* фігуры святых, размешчаныя трохкутнікам, ствараюць сваёй геаметрычнай пабудовай уражанне ўраўнаважанасці і спакою. Складкі вопраткі, як на антычных ста́туях, звязваюць усё ў адно цэлае. Адгорнуты край мантыі святога паўтарае лініі плашча маладой жанчыны, нават абрысы яе злёгку сагнутай у калене нагі. Усе тры фігуры былі зусім простымі, рэальнымі і зямнымі, хоць вакол іх клубіліся воблакі.

А ў самай ніжняй частцы карціны выглядаюць з-за простага драўлянага плоту двое цудоўных дзяцей. У іх крыльцы за плячыма, у знак таго, што яны жыхары нябёсаў. Адзін з іх, старэйшы, падпірае шчаку рукой і зручна абапіраецца на плот. Другі яшчэ не дарос. Яму ўдалося толькі пакласці свае пухлыя ручкі і ўтыкнуцца ў іх падбародкам.

У карціне пераважаюць яркія колеры. Жоўтая, сіняя і зялёная фарбы падкрэсліваюць ярка-чырвоную падкладку

мантыі святога і барвовую сукенку жанчыны. Сукенка полымем гарыць на фоне бела-блакітных аблокаў. Ніякіх знешніх эфектаў салдаты не ўбачылі ў гэтай карціне, але ўсе адчулі, што яна незвычайная, яна ўражвае. Карціна захапляе, пакарае і падпарадкоўвае сабе кожнага. Гэта была сусветна вядомая «Сіксцінская мадонна» Рафаэля *(М. Андрэеў)*.

● В а р ы я н т 1. Падрабязна перакажыце змест тэксту, захоўваючы яго тып і стыль.

● В а р ы я н т 2. Раскажыце пра сюжэт, кампазіцыю і мастацкую выразнасць карціны Рафаэля «Сіксцінская мадонна» (гл. уклейку). Выкарыстайце для гэтага як матэрыял тэксту, так і іншыя знойдзеныя вамі крыніцы.

**287.** Па аналогіі з тэкстам практ. 286 раскажыце пра лёс якоганебудзь выдатнага твора мастацтва (помнік беларускай культуры, гістарычны дакумент, рэч, якая належала вядомай асобе). Пажадана, каб гэта было апавяданне пра экскурсію ў музей (па вашым горадзе ці населеным пункце) з апісаннем асобных прадметаў.

**288.** Спішыце сказы, пастаўце, дзе трэба, прапушчаныя знакі прыпынку. Зрабіце пісьмовы і вусны сінтаксічны разбор сказаў з аднароднымі членамі. Пабудуйце схемы пастаноўкі ці адсутнасці знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа.

1. На бляклым небасхіле ўдалечыні ўжо запалілася і ціха гарэла адзінокая[сл] самотная зорка *(В. Быкаў)*. 2. Тонкія серабрыстыя[м] валаконцы асядаюць на зямлю чапляюцца[с] за кусты платы быльнёг *(Р. Ігнаценка)*. 3. Чувацьці то птушыны шчэбет ці то веснавое бульканне[сл] ручаін *(Я. Брыль)*. 4. Сяброў бяда не дзеліць а зближае! *(Н. Гілевіч)*. 5. Вецер хутка гнаў цёмна-сінія[а] дымчатыя хмары... *(І. Мележ)*. 6. Стары хлявец без падваротні гумно са стрэшкай, пасівелай[с], абросшай мохам, абапрэлай, прыгрэбнік хата ўсё дачыста казала ясна галасіста аб непарадку запусценні аб гаспадарскім нерадзенні[*] *(Я. Колас)*. 7. Кароткія змрочныя восеньскія[а] дні наводзілі паныласць і смутак прыгняталі добры настрой і адчуванне[ф] *(Я. Колас)*.

## Сінтаксічны разбор сказа з аднароднымі членамі

### *Пісьмовы разбор*

*Спакойна, развažна цячэ размова* (К. Чорны).

### *Вусны разбор*

Сказ просты, двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі членамі сказа, поўны.

(Ш т о?) *размова* — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме Н. скл., адз. л.;

*размова* (ш т о р о б і ц ь?) *цячэ* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны дзеясловам у форме абв. ладу, цяп. ч., 3-й ас., адз. л.;

*цячэ* (я к?) *спакойна, развažна* — аднародныя акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя прыслоўямі, спалучаюцца паміж сабой інтанацыяй, на пісьме раздзяляюцца коскай.

Сказ апавядальны, няклічны.

## Праверце сябе

1. Якія члены сказа называюцца аднароднымі? Якія члены сказа могуць быць аднароднымі?
2. Як вызначаюцца аднародныя і неаднародныя дапасаваныя азначэнні?
3. Якія злучнікі пры аднародных членах заўсёды з'яўляюцца адзіночнымі? Якія — адзіночнымі і паўторнымі?
4. Калі паміж аднароднымі членамі сказа коска ставіцца, а калі не ставіцца?
5. Якія знакі прыпынку ставяцца ў сказах з аднароднымі членамі і абагульняльнымі словамі пры іх?
6. Якую ролю выконваюць аднародныя члены сказа ў стварэнні тэксту?

## СКАЗЫ СА ЗВАРОТКАМІ, ПАБОЧНЫМІ СЛОВАМІ. СЛОВЫ-СКАЗЫ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

### § 43. Зваротак

**289.** Прачытайце сказы парамі. Параўнайце іх інтанацыю. У якіх сказах ёсць словы і спалучэнні слоў, якія вымаўляюцца з асобай, клічнай, інтанацыяй?

1. Гурткоўцы, пагаворым пра гумар і сатыру ў творах маладых паэтаў!
2. Алесь Жывень, запішыся ў гурток «Роднае слова»!

1. Гурткоўцы пагаварылі пра гумар і сатыру ў творах маладых паэтаў.
2. Алесь Жывень запісаўся ў гурток «Роднае слова».

● Паназірайце за інтанацыяй сказа са звароткам: асобае павышэнне голасу на слове-звароту, паўза пасля яго. Якія сказы адпавядаюць першай схеме, якія — другой?

1. [―↗― /═↘═ …].       2. [З↗, //═↗═ ↘…]!

● Разбярыце сказы па членах сказа. Якія словы і спалучэнні слоў у сказах не з'яўляюцца членамі сказа? Чаму?

● Якой часцінай мовы і ў якой форме выражаецца зваротак? дзейнік? Як іх адрозніць?

> **Зваротак** — гэта слова ці спалучэнне слоў, якія абазначаюць таго, да каго звяртаюцца з мовай: ***Таварыш камандзір***, *Карнілаў цяжка паранены* (В. Быкаў). *Зашумі ты, **лес**, па-вясноваму!* (П. Трус).



Звароткі часцей за ўсё выражаюцца назоўнікамі ў форме назоўнага склону, а таксама прыметнікамі ці дзеепрыметнікамі ў тым жа склоне, калі яны ўжываюцца ў ролі назоўнікаў: ***Дняпро і Сож, Дзвіна і Прыпяць**, нясіце радасць нашу ўдаль* (М. Чарот). *Ідзіце, **сінявокія**, у поле лён палоць* (У. Хадыка). *Не плач, **забытая**, прыеду на пасёлак пазней ці ў травені, як зацвітуць сады* (П. Трус).

З а ў в а г а. Сустракаюцца выпадкі, калі зваротак выражаецца формай былога клічнага склону назоўніка: *І будзе, **дружа**, у доме шчасце, пакуль ёсць добры свет сяброў!* (К. Кірэенка). *Дзень добры, **суседзе**, у новую хату* (М. Танк).

Зваротак можа быць неразвіты (не мае пры сабе залежных слоў) і развіты (мае пры сабе залежныя словы): *Я люблю цябе, **лес**, за тваю чалавечую шчодрасць* (Я. Сіпакоў). *Гуляйце, вейце, **снежныя вятры**, ад ранняй да вячэрняе зары!* (М. Танк). Пры звароткy могуць быць прыдаткі: *Беларусь, **мая Радзіма**, любы сэрцу твой прастор* (М. Калачынскі).

Звароткі не з'яўляюцца членамі сказа.

**290.** Прачытайце наступныя тэксты. Выпішыце сказы са звароткамі. Ахарактарызуйце звароткі паводле: а) спосабу выражэння; б) структуры (развітыя ці неразвітыя); в) ужывання (адзіночныя ці аднародныя). Паназірайце за інтанацыяй вымаўлення звароткa і пастаноўкай знакаў прыпынку пры ім. Якое месца займае зваротак у сказе?

I.

Адчыніце дзверы, людцы,
Адусюль хай далятае:
Словы родныя куюцца…
Кросны родныя снуюцца…
Песні родныя пяюцца…

*В. Куртаніч.*

II.

Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог,
Улажылі спаць мяне вы на зямлі.

*М. Багдановіч.*

III.

Бывай, журба!
Хоць многа страчана,
Хоць многіх блізкіх нестае,
Са мной душа і мова матчына
І песні вечныя мае.

*А. Пысін.*

IV. Эх, сябры-браткі!
Самі знаеце:
Агню палкага
Іскры маеце.
Не тушыце ж вы
Той агонь святы.
Асвятляйце ім
Родны край, куты...
*Я. Колас.*

**Цікава ведаць!**

Зваротак — самы яркі этыкетны знак. Бо слова «этыкет» у першапачатковым французскім значэнні — «этыкетка», «ярлык». Называючы суразмоўцу, мы як бы выбіраем яму найбольш прыдатны ярлык.

Здавалася б, гэта так проста — назваць таго, з кім я хачу гаварыць! Асноўныя прыметы суразмоўцы лёгка распазнаць: пол, узрост (малады чалавек), а калі неабходна — прафесійную прыналежнасць (таварыш міліцыянер); калі неабходна — узровень адукаванасці і нават жыхарства ў горадзе ці ў вёсцы (не кожнай незнаёмай жанчыне можна сказаць «бабуля») *(Н. Фарманоўская).*

**291.** Прачытайце верш з захаваннем патрэбнай інтанацыі. Выпішыце сказы са звароткамі, вызначце, па якой прымеце звяртаюцца да асобы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры звароткам.

АД'ЕЗД МАЛАДОЙ

Бубны! Бубны!
Грукачыце, бубны!
Расступайцеся, дзяўчаты,
Расступайцеся, дзяды!
У шаўровых* чаравіках,
У адзенні шлюбным
Пад руку вядзе нявесту малады.
Заспявайце, маладзіцы,
Дружна!

Рассыпайце, маладзіцы,
Ружы!
Расчыняйце ўсе вароты
Насцеж!
Пажадайце на дарогу
Шчасця!
Дугі ў красках,
Ў стужках коні.
Шоры* бразгаюць
І звоняць.
«Ну, дачушка, — бацька кажа, —
У шчаслівы пуць!
Не саром сямейку нашу,
Добрай жонкай будзь».
Маці ж той не да гаворкі, —
На расстанні плача горка.
А падружкі раззлаваліся:
«Ты, Марылька, здрадніца.
Лепш бы ты не мілавалася
З Міхасём да раніцы.
Мы ж, — клянуцца, — самі
Век не выйдзем замуж».
— Но, пайшлі, стаеннікі!
— Бывайце здаровы! — Ля варот затор.
Хлопцы сталі ў рад суровы —
Непраходны бор.
«Гэй, жаніх, гані нам выкуп
І багаты, і вялікі
За кужэльныя косы,
За блакітныя вочы, за вішнёвыя вусны!»
І паехалі ўдалеч, каля рэчкі, каля лоз.
Нашу слаўную дзяўчыну брыгадзір суседні звёз...

*П. Панчанка.*

● Ці даводзілася вам прысутнічаць на вяселлі? Якія традыцыйныя вясельныя абрады вам спадабаліся?

Звароткі могуць знаходзіцца ў пачатку, у сярэдзіне або ў канцы сказа. Калі зваротак стаіць у пачатку сказа, то пры звычайнай інтанацыі на пісьме аддзяляецца коскай: ***Радзіма**, голас твой мяне спяваць вучыў, і ты мне аддала ад родных слоў ключы* (Я. Пушча). Калі ж зваротак суправаджаецца ўзмоцненай інтанацыяй, то пасля яго ставіцца клічнік: ***Дарагія дзеці!** Любіце кнігу, яна навучыць вас разумець жыццё, яна дасць вам розум і сілу* (С. Александровіч).

Зваротак, які знаходзіцца ў сярэдзіне сказа, выдзяляецца невялікімі паўзамі, а на пісьме — коскамі: *Адгукніся, **вясна**, мне зязюляй з-за рэчкі* (А. Куляшоў).

Калі зваротак стаіць у канцы сказа і выдзяляецца ўзмоцненай інтанацыяй або калі ўвесь сказ клічны, то ў канцы яго ставіцца клічнік, а перад звароткам — коска: *Дзень добры вам, **лясы і гоні**!* (Я. Колас).

Пасля звароткa ў канцы апавядальнага сказа ставіцца кропка, а ў пытальным сказе — пытальнік: *Было спрадвеку, **слова**, ты крыніцай цудадзейнай сілы* (Р. Барадулін). *Што з табою, **хлопча**? Што з табой, **смуглявы**?* (А. Звонак).

Калі аднародныя або развітыя звароткі разрываюцца на часткі членамі сказа, то кожны з іх выдзяляецца коскамі: *Ты красуй, **наш сад**, красуй і шумі, **зялёны**!* (Я. Пушча).

З а ў в а г і.

1. Выклічнікі, што стаяць пры звaротках, аддзяляюцца ад іх коскамі: ***Эх**, луг шырокі! Як жывы ты, праменнем сонейка заліты...* (Я. Колас).

2. Калі перад звароткам стаіць выклічнік і займеннік ***ты*** або ***вы***, які з'яўляецца дзейнікам, то выдзяляецца коскамі толькі зваротак: *Ой ты, **маё сонца**, як жа свеціш ясна!* (Я. Купала). Гэтыя займеннікі ў гутарковым стылі могуць выступаць і ў ролі звароткаў. У такіх выпадках яны выдзяляюцца коскамі: *Эй, **ты**, падыдзі сюды!* (В. Хомчанка).

3. Часціца ***о*** ад звароткa коскай не аддзяляецца: ***О Нёман, о бацька мой Нёман**, як сонца, як дзень дарагі!* (А. Астрэйка).

**292.** Прачытайце верш. Выпішыце сказы са зваროткамі, пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.

Бярозка мая белакрылая
Якая ж ты сонейка мілая
Спускаеш пушыстыя вецці
І сінімі іскрамі свеціш.
Глядзіць маладзік усміхаецца,
К галоўцы курчавай схіляецца
І вісне бліскучай каронай
Над беллю тваёй заручонай.
А вецці ўніз паспусканыя,
Сярэбранай рызай убраныя,
Нязвычна і ціха сягоння
Шклянымі званочкамі звоняць.
Бярозка[ф] мая белакрылая
Стаіш[с] як нявеста ты мілая.
Прыгожа[с] снягі і марозы
Да шлюбу прыбралі бярозу...

*К. Буйло.*

● Ці ёсць у вас любімае дрэва? Раскажыце пра яго (аповед запішыце).

**293.** Прачытайце сказы, захоўваючы клічную інтанацыю. Спішыце, выдзяляючы звароткі з дапамогай знакаў прыпынку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. О лес густы о лес хваёвы! Зачарован я тваім жыццём *(А. Гурло)*. 2. Сцяной высокай падымайся[с] бор[сн] *(М. Танк)*. 3. Ой дзяўчаткі бяжыце сюды! *(Т. Хадкевіч)*. 4. Ах валошка валошка сястрыца рамонка Зноў вы побач на ўцеху душы зацвілі *(Н. Гілевіч)*. 5. О мора люблю я тваё сваволле, люблю тваю буру і ціхую гладзь! *(А. Гурло)*. 6. Не шуміце клёны маладыя ў цяністым парку над ракой[сн] *(А. Русак)*. 7. Забудзь трывогу вечную сваю, прыляж мая натомленая мама, як некалі ты мне, табе спяю *(Н. Мацяш)*.

● Назавіце развітыя і неразвітыя звароткі. Укажыце, чым яны выражаны.



Зваротак надае мове выразнасць, робіць яе больш эмацыянальнай. Выразнасць зваротка ўзмацняецца, калі ён паўтараецца або калі пры ім ёсць выклічнік: ***Хмаркі, хмаркі дарагія****, напаіце дожджыкам зямлю* (Я. Колас). *Эх,* ***досвітак маленства, лета****! Табой навек душа сагрэта!* (Я. Колас).

Звароткі шырока ўжываюцца ў размове для таго, каб прыцягнуць ці падтрымаць увагу суразмоўцы, у мастацкіх творах, пры перадачы дыялогу, у публіцыстычных жанрах літаратуры, прамовах, закліках, адозвах, аб'явах, у перапісцы і г. д. У паэтычнай мове многа зваротkaў не толькі да асоб, але і да неадушаўлёных прадметаў. У такім выпадку зваротак выкарыстоўваецца як прыём увасаблення: *Ты ляці,* ***маё слова****, праз палі і лясы, прывітайся з краінай маёй дарагою* (П. Панчанка). *Кланяйся,* ***громе****, роднаму полю, родны вітай ты мой кут* (Я. Колас).

У пісьмах да родных, блізкіх і сяброў зваротkі з паясняльнымі словамі выкарыстоўваюцца для выражэння ветлівасці, павагі і іншых адносін аўтара да адрасата: ***Мілая, дарагая і слаўная мамачка!*** *Мне дужа сумна без цябе...* ***Дарагая і любая дачушка Настачка!*** *Як тваё здароўе? Як вучоба?*

У пісьмах і зваротах афіцыйнага характару назва асобы суправаджаецца азначэннямі *паважаны, шаноўны, глыбокапаважаны* і інш.: ***Паважаны Іван Андрэевіч!*** *Звярнуцца да Вас з гэтым пісьмом вымусілі пэўныя абставіны.*

У вусным маўленні могуць выкарыстоўвацца зваротkі з аслабленым лексічным значэннем: *дарагі, галубка, дружа, брат, добрыя людзі* і інш. Пры іх дапамозе выражаецца душэўная спагада, пяшчота, сардэчнасць, ласка і г. д.: *Ты не гніся,* ***брат****, ніколі траўкаю пахілай* (Я. Колас). *Увайшла гэта я,* ***мае вы людцы****, у цёмны лес* (З народнага).

**Запомніце!** Выбар пэўнай формы зваротка амаль заўсёды прама ці ўскосна адлюстроўвае адносіны да суразмоўцы, абумоўленыя самымі рознымі фактарамі, пачынаючы ад адносін (узроставых ці сацыяльных), якія звязваюць суразмоўцаў, і канчаючы асабістымі адносінамі паміж імі, эмацыянальным станам суразмоўцы, узроўнем яго этычнай культуры.

**294.** Запішыце варыянты свайго ўласнага імя. Якімі з гэтых слоў вас звычайна называюць бацькі, сваякі, знаёмыя, сябры? Які зваротак вам падабаецца больш за астатнія і чаму?

***буйны́ (завод)***
***бу́йны (нораў)***

**295.** Прачытайце некалькі ўрыўкаў з лістоў Я. Коласа да сваіх родных і блізкіх. Назавіце ў іх звароткі. У якіх формах яны ўжыты? Якія адносіны выражае аўтар да сваіх адрасатаў? Па чым вы гэта вызначылі?

1. Мой дарагі Данілачка! Мне надта хочацца ведаць, як ты жывеш дома, што робіш, як тваё здароўе. Напішы мне пра ўсё гэта. 2. Мае дарагія сябры-прыяцелі, мае былыя вучні і суседзі-люсінцы! Радасна было мне атрымаць ад вас пісьмо. 3. Дарагі Міхаіл Васільевіч! Атрымаў я, браток, тваё пісьмо. Я вельмі рад прыгадаць былое, свае маладыя гады, сваю першую школу, дзе я быў настаўнікам, і сваіх вучняў, у тым ліку і цябе, мой дарагі Міхалка.

**296.** Запішыце сказы, зрабіўшы звароткі развітымі. Выкарыстайце пры гэтым азначэнні *дарагі, мілы, шаноўны, любы, паважаны, мой родны* і інш. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку, растлумачце іх пастаноўку.

1. ... дзядуля ... дзядулечка ... раскажы мне казку. 2. Ой ты ... дачушка спі. 3. Давайце ... сябры пагутарым аб шчасці. 4. ... мамачка даруй мне, што не патэлефанаваў учора. 5. ... Рыгор Васільевіч у адказ на Ваш ліст ад 15.04.2009 г. паведамляю, што Вы пастаўлены на чаргу на атрыманне кватэры. 6. ... жанчыны сяброўкі нашы віншуем Вас са святам 8 Сакавіка.

● Напішыце віншаванне ці ліст сябру (сяброўцы) з выкарыстаннем развітых звароткаў.

**297.** Прачытайце тэкст, знайдзіце звароткі, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Як звароткі характарызуюць Цуда-Юду?

У поўнач удовін сын выйшаў на мост праверыць, ці стаіць яго таварыш. Паглядзеў туды-сюды — няма! Аж раптам

бачыць: уз'язджае на калінавы мост трохгаловы Цуда-Юда. На сярэдняй галаве ў яго быстравокі сокал сядзіць, збоку быстраногі хорт* бяжыць. Конь, як ступіў на мост, адразу заржаў, хорт забрахаў, а сокал зашчабятаў.

Ударыў Цуда-Юда каня між вушэй:

— Ты чаго, травяны мех, заржаў? А ты, псінае мяса, чаго забрахаў? А ты, ястрабінае пер'е, чаго зашчабятаў? Калі супраціўніка майго чуеце...

● Дапішыце працяг фрагмента казкі, выкарыстоўваючы ў дыялогах звароткі. Не забудзьце пра асаблівасці мастацкага стылю. Захавайце структуру тэксту-апавядання.

**298.** Перабудуйце сказы, увёўшы ў іх простую мову і зваротак.

Узор. *Я спытаў у хлопцаў, як ім удалося злавіць такога шчупака. — Я спытаў: «Хлопцы, як вам удалося злавіць такога шчупака?»*

1. Журналіст задаў пытанне Ядвізе Паплаўскай і Аляксандру Ціхановічу пра іх творчыя планы. 2. На сустрэчы спыталі ў Івана Ціхана, ці будзе ён удзельнічаць у спаборніцтвах. 3. Гаспадыня запрасіла хлопцаў і дзяўчат зайсці ў хату. 4. Маці сказала сыну, што ад працы чалавек ніколі не робіцца горшым.

**299.** З вашай любімай казкі выпішыце звароткі. Прааналізуйце запісы і раскажыце, як толькі па зваротках можна здагадацца аб узаемаадносінах герояў казкі, іх настроі, выхаванасці.

**300.** Спішыце сказы, расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце звароткі. Чым яны выражаны? Як называецца паэтычны прыём, выкарыстаны ў гэтых сказах?

1. Па сцежках роднай Беларусі з табой я ночка паплыву[сн] *(М. Машара)*. 2. О рэкі Беларусі сярод лугоў сярод лясоў! Калі я гімн саткаць збяруся з блакітных вашых паясоў? *(Г. Бураўкін)*. 3. Сонца ўмыйся расою на світальнай зары[сн] *(А. Бялевіч)*. 4. Адкажы мне вербачка мілая, чаму ты ўсё смуцішся, журышся пахілая? *(Я. Колас)*. 5. Пара ўжо сонца ўстаць з-за гаю паспелага жыта, жніво чакае *(М. Танк)*.

**301.** Складзіце сказы са звароткамі з выкарыстаннем прапанаваных сітуацый.

1. Спытайце ў маленькага дзіцяці, як яго завуць.
2. Удакладніце ў групы дзяцей на вуліцы, дзе знаходзіцца бібліятэка.
3. Звярніцеся да юнака з просьбай паказаць, дзе знаходзіцца ўваход у метро.
4. Запытайце ў мужчыны, як праехаць у цэнтр горада.
5. Папрасіце міліцыянера падказаць, як прайсці на вуліцу Францыска Скарыны.
6. Запрасіце настаўніка на ўрачыстае мерапрыемства.

**302.** Прачытайце, запішыце тэкст па-беларуску.

Проявляйте искренний интерес к людям. Человек, который не интересуется другими, приносит людям вред.

Помните имена людей. Один из простых способов завоевать доброе отношение к себе — помнить имена людей. Техника запоминания имён проста. Если вы особенно не надеетесь на свою память, скажите собеседнику: «Извините, я плохо расслышал Ваше имя. Как оно пишется?» Повторите во время разговора имя собеседника несколько раз про себя, стараясь связать его с внешним видом человека. Незаметно запишите его.

Улыбайтесь людям *(Р. Немов, А. Новиков)*.

● Запомніце парады псіхолагаў. Яны дапамогуць вам у зносінах з іншымі людзьмі. З якімі камунікатыўнымі ўменнямі звязаны гэтыя парады?

**303.** Прачытайце тэкст. Вызначце ролю звароткa.

З хат хутчэй выходзьце, людзі...
Сад цвіце.
Ён кліча вас.

*С. Законнікаў.*

**згі́**нуць [зг’]
**скі́**нуць [ск’]
**схе́**ма [сх’]

● Апішыце квітнеючы сад ці якую-небудзь іншую прыгожую з’яву прыроды. Запрасіце (паклічце, пераканайце) палюбавацца ёй іншых.

**304.** Складзіце невялікі тэкст, пачаўшы яго звароткам, які называе адрасата выказвання. Падумайце, да каго ці да чаго вам лепш звярнуцца. Да сваякоў ці да героя кнігі, кінафільма? Да роднага краю, вёскі, горада ці да ракі, саду? Да любімай жывёлы, расліны ці да прадмета?

**305.** Прачытайце тэкст польскага пісьменніка Г. Сянкевіча.

БАЙКА

За гарамі, за морамі, у далёкай краіне чараў, ля калыскі малой прынцэсы сабраліся добрыя варажбіткі на чале са сваёй каралевай.

Абступіўшы прынцэсу, глядзелі яны на сонны тварык дзіцятка. І тады каралева варажбітак сказала:

— Няхай кожная з вас адорыць гэтае дзіця каштоўным дарам. Такім, якім кожная з вас валодае і якім вы хацелі б адарыць прынцэсу!

Тады першая варажбітка, нахіліўшыся над калыскай, сказала наступныя словы:

— Я даю табе чары прыгажосці і з дапамогай моцы сваёй зраблю так, што кожны, хто ўбачыць твар твой, адразу падумае, што ўбачыў цудоўную веснавую кветку.

— Я, — сказала другая, — дам табе вочы светлыя і глыбокія, як віры.

— Я дам табе гнуткі і танюткі стан маладой пальмы, — адклікнулася трэцяя.

— А я, — сказала чацвёртая, — дам вялікі скарб залаты, што дагэтуль быў схаваны ў зямлі.

Задумалася каралева, а потым звярнулася да сваіх варажбітак:

— Прыгажосць людзей і кветак вяне. Чароўныя вочы гаснуць разам з маладосцю, ды і ў маладосці часта слязьмі заліваюцца. Віхор можа зламаць пальмы, а вецер схіляе ўсё гнуткае. Хто не дзеліць золата між людзьмі, таго яны ненавідзяць, а хто золата падзеліць, таму ў скрыні пуста застанецца. Вось чаму нетрывалыя вашы дары.

— Што ж тады трывалае ў чалавеку? Чым жа ты адорыш малечу, о каралева наша? — запыталі варажбіткі.

А каралева адказала:

— Я дам ёй дабрыню. Сонца — цудоўнае і яснае, але было б яно толькі мёртвым кавалкам, які свеціцца, калі б не сагравала зямлю. Дабрыня сэрца — тое ж самае, што цеплыня сонца: яна дае жыццё… Прыгажосць без дабрыні — як кветка без паху ці як храм без Бога. Багацце без дабрыні толькі песціць самалюбства. Нават любоў без дабрыні — гэта толькі агонь, які паліць і знішчае. Ведайце ж, што вашы дары знікнуць з часам, а дабрыня застанецца, бо яна — як крыніца, з якой чым больш вады возьмеш, тым больш табе зноў прыбудзе. Гэтак жа і дабрыня — адзіны скарб невычэрпны.

Пасля гэтых слоў каралева варажбітак нахілілася над соннай прынцэсай і, дакрануўшыся рукой да яе сэрца, сказала:

— Будзь добрай.

*Пераклаў з польскай мовы А. Айна.*

● Падрыхтуйцеся да творчага пераказу апавядальнага тэксту з элементамі разважання: вызначце яго кампазіцыю і складзіце план, выкарыстоўваючы цытаты з тэксту. Пры перадачы зместу захоўвайце аўтарскі стыль. Устаўце ў дыялогі звароткі, сачыце за тым, каб яны не былі аднастайныя.

● Ці згодныя вы з каралевай? Абгрунтуйце сваю думку і запішыце яе як працяг тэксту.

## Сінтаксічны разбор сказа са звароткам

### *Пісьмовы разбор*

*Давайце, добрыя сябры, пагутарым аб шчасці* (П. Глебка).

### *Вусны разбор*

Сказ просты, аднасастаўны, з галоўным членам выказнікам, пэўна-асабовы, развіты, ускладнены звароткам, поўны.

(Ш т о  з р о б і м?) *давайце пагутарым* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны дзеясловам у форме заг. ладу, 1-й ас., мн. л.;

*давайце пагутарым* (а б ч ы м?) *аб шчасці* — ускоснае дапаўненне, выражана назоўнікам з прыназоўнікам ***аб*** у форме М. скл., адз. л.

Зваротак *добрыя сябры* развіты, не з'яўляецца членам сказа, стаіць у сярэдзіне сказа, з двух бакоў выдзяляецца коскамі.

Сказ апавядальны, няклічны.

## Праверце сябе

1. Што называецца звароткам? Якую ролю зваротак выконвае ў сказе і тэксце?
2. Якімі часцінамі мовы можа выражацца зваротак? Прывядзіце прыклады.
3. Якімі знакамі прыпынку выдзяляецца зваротак на пісьме?
4. Як ставяцца знакі прыпынку, калі пры звароку ёсць часціцы і выклічнікі?

## § 44. Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы. Устаўныя канструкцыі

**306**. Прачытайце сказы. Якое значэнне надаюць сказам выдзеленыя словы (спалучэнні слоў)? Ці можна іх апусціць?

1. Заўтра, **мабыць**, будзе дождж. 2. Заўтра, **на жаль**, будзе дождж. 3. Заўтра, **безумоўна**, будзе дождж. 4. Заўтра, **канечне**, будзе дождж. 5. Заўтра, **па словах сіноптыкаў**, будзе дождж.

**Пабочнымі** называюцца словы, словазлучэнні і сказы, пры дапамозе якіх моўца выражае свае адносіны да таго, пра што ён паведамляе: *Сёння, **мабыць**, вельмі холадна на двары* (А. Кулакоўскі). ***На шчасце***, *увечары дождж перастаў* (Ц. Гартны).



У першым сказе з дапамогай слова *мабыць* перадаецца меркаванне моўцы адносна асноўнага выказвання, у другім сказе пры дапамозе слоў *на шчасце* перадаецца яго пачуццё.

Адносіны да выказвання можна выразіць таксама пры дапамозе пабочных сказаў. Значэнне пабочных сказаў адпавядае значэнню пабочных слоў. У сказе *Рэчка, **як нам здавалася**, пачынала мялець* пабочны сказ *як нам здавалася* выражае меркаванне моўцы да зместу выказвання.

Пабочныя словы, словазлучэнні, сказы выдзяляюцца невялікімі інтанацыйнымі паўзамі, паніжаным тонам (без лагічнага націску) і больш хуткім тэмпам вымаўлення, а на пісьме — коскамі: ***Здаецца**, увесь поплаў звініць, спявае* (А. Асіпенка). *У пушчы, **вядома**, стаяў вечны змрок* (З. Бядуля). *Прыйшла самая гарачая пара, калі, **як кажуць хлебаробы**, дзень год корміць* (І. Гурскі). Яны не з'яўляюцца членамі сказа.

**307.** Прачытайце тэкст. Ці могуць пабочныя словы, словазлучэнні і сказы самастойна ўжывацца ў мове?

Пабочныя катэгорыі, як і службовыя словы, самастойна ў мове не ўжываюцца. Яны заўсёды выступаюць у саставе таго ці іншага сказа ў якасці ацэначных заўваг адносна асноўнага значэння сказа. Іх сэнс заўсёды адпавядае зместу асноўнай часткі сказа, а таму ў кожным канкрэтным выпадку яны ўносяць тое адценне, якое патрабуецца агульным зместам сказа. З гэтай прычыны пабочныя элементы цесна звязаны з усім сказам у першую чаргу сэнсавымі адносінамі. Такая сувязь робіць немагчымай вольную замену адных пабочных элементаў другімі, далёкімі па сэнсе. Пры такой замене можа парушыцца агульная сэнсавая накіраванасць сказа. Параўн.: *Ну, **вядома**, седзячы тут, многа чаго ведаць не будзеш* (Я. Колас). *Ну, **мабыць**, седзячы тут, многа чаго ведаць не будзеш* (А. Базыленка).

- У якім сказе з пабочным словам выражаецца ўпэўненасць у тым, аб чым паведамляецца ў сказе? У якім сказе выражаецца няўпэўненасць у сваім выказванні?
- Як выдзяляюцца пабочныя словы ў вусным і пісьмовым маўленні?

**308.** Прачытайце сказы. Назавіце той сказ, у якім змяшчаецца адно паведамленне. Колькі паведамленняў змяшчаецца ў кожным з наступных сказаў?

1. Я буду займацца ў гуртку юных тэхнікаў. 2. Я, відаць, буду займацца ў гуртку юных тэхнікаў. 3. Я, бясспрэчна, буду займацца ў гуртку юных тэхнікаў. 4. Я, канечне, буду займацца ў гуртку юных тэхнікаў. 5. Я, па словах кіраўніка, буду займацца ў гуртку юных тэхнікаў.

● Дакажыце, што ў сказах з пабочнымі словамі перадаецца два паведамленні: асноўнае, якое адпавядае рэчаіснасці, і пабочнае, якое перадае адносіны моўцы да свайго выказвання.

**309.** Разгледзьце табліцу. Раскажыце аб значэннях пабочных слоў.

| Значэнні | Прыклады |
|---|---|
| 1. **Розная ступень упэўненасці:**<br>а) большая ступень упэўненасці: *безумоўна, бясспрэчна, сапраўды, канешне, зразумела, вядома, несумненна* і інш.;<br>б) меншая ступень упэўненасці, меркаванне: *магчыма, мабыць, здаецца, мусіць, відаць, як відаць, відавочна, можа, можа быць, напэўна (пэўна)* і інш. | *Вясна, **сапраўды**, была ранняя* (П. Кавалёў).<br>*Мікола, **канешне**, схаваўся ў гушчары лесу* (Р. Сабаленка).<br><br>***Відаць**, сама прырода нараджае музыку роднай зямлі* (І. Навуменка).<br>*Пушчы, **здавалася**, не было канца-краю* (Т. Хадкевіч). |
| 2. **Розныя пачуцці (эмоцыі):** задавальненне, радасць, захапленне, здзіўленне, жаль, засмучэнне: *калі ласка, на шчасце, на радасць, на маё здзіўленне, на жаль, на бяду, на дзіва, шчыра кажучы* і інш. | *Цяпер, **калі ласка**, чытайце пісьмо* (М. Гарэцкі).<br>*Лісіца, **на сваю бяду**, папала з берага ў ваду* (В. Вітка). |
| 3. **Крыніца паведамлення (каму належыць паведамленне):** *кажуць, як кажуць, як паведамляе, паводле звестак, па-мойму, па-вашаму, на маю (нашу) думку, на мой погляд, з пункта гледжання* і інш. | *Сарамлівасць, **на маю думку**, сведчыць пра сціпласць* (А. Асіпенка).<br>***Па-мойму**, ураджай сёлета што трэба* (М. Паслядовіч). |

| Значэнні | Прыклады |
|---|---|
| 4. **Парадак думак і іх сувязь, паслядоўнасць выкладання:** *па-першае, па-другое, нарэшце, напрыклад, так, у прыватнасці, такім чынам, значыць, наогул, наадварот, дарэчы, гэта значыць, між іншым, менавіта, скажам, апрача таго* і інш. | *Не месяца ўпрыгожвае чалавека, а, **наадварот**, чалавек упрыгожвае месяца* (Я. Брыль).<br>*Я, **напрыклад**, лічу, што прапанова Толі заслугоўвае ўвагі* (П. Рунец). |
| 5. **Заўвагі аб спосабах афармлення думак:** *адным словам, інакш кажучы, можна сказаць, ва ўсякім выпадку, трэба думаць* і інш. | ***Адным словам**, выгляд у нас быў сапраўдных паляўнічых* (І. Гурскі).<br>*Чалавек ён быў, **можна сказаць**, культурны* (К. Чорны). |

● Запішыце сказы з пабочнымі словамі. Пабочныя словы і знакі прыпынку пры іх падкрэсліце.



З а ў в а г а. Злучнікі ***а, і*** не аддзяляюцца коскай ад наступнага пабочнага слова (словазлучэння), калі яны ўтвараюць з ім адно сэнсавае цэлае. У такім выпадку пабочнае слова (словазлучэнне) апусціць ці пераставіць у іншае месца ў сказе немагчыма. Параўн.: *Змрочнай, **а галоўнае**, пустыннай здалася Андрэю свая хата* (П. Пестрак). — *Змрочнай, **а** ... ? пустыннай здалася Андрэю свая хата. На дварэ, **і праўда**, было ўжо холадна* (У. Караткевіч). — *На дварэ **і** ... ? было ўжо холадна.*
Калі пабочнае слова (словазлучэнне), пры якім стаяць злучнікі, можна апусціць ці пераставіць у іншае месца ў сказе, то коска паміж злучнікам і пабочным словам (словазлучэннем) ставіцца абавязкова. Параўн.: *Буслы стаялі на вільчаку **і, здавалася**, прыслухоўваліся да людское спагады* (А. Пальчэўскі). — *Буслы стаялі на вільчаку **і** ... прыслухоўваліся да людское спагады. Буслы стаялі на вільчаку і прыслухоўваліся, **здавалася**, да людское спагады. Не гадзіну, **а, магчыма**, дзве ці тры чакаў хлопец поезда* (Я. Сіпакоў). — *Не гадзіну, **а** ... дзве ці тры чакаў хлопец поезда. **Магчыма**, не гадзіну, а дзве ці тры чакаў хлопец поезда.*

**310.** Выпішыце сказы ў наступным парадку: з пабочнымі словамі і словазлучэннямі, якія абазначаюць: а) упэўненасць; б) няўпэўненасць, меркаванне; в) розныя пачуцці. Расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

1. Хлеб чорны хлеб жытні я шчыра ўслаўляю[с] — смачнейшае[м] ежы па праўдзе не знаю *(П. Броўка)*. 2. Але на шчасце ад гэтага звера хлопцам ніякай небяспекі не пагражала *(Я. Маўр)*. 3. Можа свет і любім мы за тое, што ў стрыечнай[с] блізкасці[ф] жывём *(А. Пысін)*. 4. У птушак свой закон вядома і свой адлёт і свой прылёт *(П. Прыходзька)*. 5. А лес здаецца закружыўся ў вальсе *(П. Панчанка)*. 6. Ён на здзіўленне ўсяму сялу пачынаў купацца[с] ў красавіку *(І. Шамякін)*.



Некаторыя словы могуць выступаць як у ролі члена сказа ці сродка сувязі ў сказе, так і ў ролі пабочнага слова.

| Слова ў сказе | Пабочнае слова | Член сказа ці сродак сувязі ў сказе |
|---|---|---|
| ***аднак*** | Калі стаіць звычайна ў сярэдзіне сказа: *Чаму ж,* ***аднак****, Алесю сёння не спіцца?* | Як злучнік, калі стаіць у пачатку сказа (ці часткі складанага сказа): *Восеньскае сонца свяціла ярка,* ***аднак*** *ужо так не грэла, як улетку.* |
| ***напэўна, пэўна*** | Са значэннем ‘відаць’, ‘мусіць’, ‘магчыма’: *У бібліятэку я,* ***напэўна****, пайду заўтра. Маці,* ***пэўна****, ужо пайшла на працу?* | Са значэннем ‘беспамылкова’, ‘дакладна’: *Хлопец паспеў бы* ***напэўна****, калі б не паслізнуўся. Дзед рабіў усё* ***пэўна*** *і хутка.* |
| ***канешне, канечне*** | Са значэннем ‘без сумнення’, ‘само сабой зразумела’: *У тэатр я пайшоў,* ***канечне****, са сваім лепшым сябрам.* | Са значэннем ‘абавязкова’: *Ваш сын* ***канечне*** *паступіць ва ўніверсітэт.* |

| Слова ў сказе | Пабочнае слова | Член сказа ці сродак сувязі ў сказе |
|---|---|---|
| ***бадай*** | Са значэннем магчымасці, схільнасці згадзіцца з чым-небудзь: ***Бадай***, *ніхто не пячэ такія смачныя пірагі, як мая бабуля. (Бадай = згадзіцеся, пагадзіцеся.)* | Са значэннем ‘амаль’: ***Бадай*** *кожны дзень я займаюся спортам.* |
| ***нарэшце*** | Калі паказвае на завяршэнне дзеяння, працэсу, з’явы: *Ехалі, ехалі і, нарэшце, прыехалі.* | Са значэннем ‘пасля ўсяго’, ‘напаследак’: *Здагадацца вам трэба нарэшце.* |

Ніколі не бываюць пабочнымі і не выдзяляюцца коскамі словы *быццам, як быццам, наўрад ці, амаль, нават, іменна, толькі, вось, якраз, акурат, абавязкова, раптам* і інш. Напрыклад: *Наўрад ці вясна будзе ранняй. Вясна як быццам будзе раняй. Вясна абавязкова будзе ранняй.*

**311.** Параўнайце сказы ў парах. Вызначце, у якіх сказах выдзеленыя словы з’яўляюцца членамі сказа, а ў якіх не. Спішыце сказы, пастаўце, дзе трэба, коскі.

1. Садок быў **праўда** невялікі *(Я. Колас)*. — **Праўда** вачэй не засмуціць *(Прыказка)*. 2. На схіле[ф] лясістага ўзгорка **відаць** растуць суніцы *(В. Вольскі)*. — На возеры нікога не было **відаць** і толькі шумелі і набягалі на бераг хвалі *(С. Грахоўскі)*. 3. У журботную восень[м] **здаецца** зямля ўся галосіць *(П. Панчанка)*. — Пугач **здаецца** тлустым з выгляду *(В. Вольскі)*. 4. Людзі працавалі з ранку да ночы **аднак** на жыццё сваё ніколі не скардзіліся[сн] *(К. Кірэенка)*. — Капітан **аднак** не спыняўся настойліва[сл] вёў роту на нямецкія пазіцыі[сн] *(І. Мележ)*. 5. А пойдзеш у Ліпава лясамі **напэўна** стрэнешся[с] з ласямі *(Я. Колас)*. — Дзяўчына паспешліва і **напэўна** моцна хвалюючыся, узышла на сцэну

*(У. Краўчанка)*. 6. Няма **бадай** па багацці ўбораў прыгажэйшай пары года, чым восень *(Р. Ігнаценка)*. — **Бадай** праз кожны пройдзены[с] кіламетр людзі прасілі адпачынку *(І. Навуменка)*. 7. **Нарэшце** мы выбраліся на сухі бераг з жоўтым пясочкам *(В. Вольскі)*. — І радасць **нарэшце** прыйшла. Ласяня стала на ногі паправілася *(В. Карамазаў)*.

● Устанавіце, якіх сэнсавых адценняў будуць пазбаўлены сказы без пабочных слоў.

**312.** Выпішыце сказы, у якіх ёсць пабочныя словы, і дакажыце, што ў астатніх сказах іх няма. Расстаўце знакі прыпынку.

1. Ваша прапанова здаецца мне непрымальнай. Мы здаецца многага не зразумелі. 2. Словам «дзяды» называліся продкі[ф] ўвогуле. Словам мы згадзіліся дапамагчы[с] суседу. 3. Мне стала вядома, што паедзем на экскурсію ў суботу. Вядома мы радуемся, што даведаемся[с] многа новага.

**313.** Прачытайце верш. Вызначце ў ім пабочныя словы. Што яны выражаюць? Як выдзяляюцца на пісьме?

Так ужо заведзена спрадвеку[с] —
Можа, прымха[л],
Можа, Божы знак —
Толькі на Радзіме чалавеку
Ходзіцца і дыхаецца ўсмак[с].
І заўжды здаецца нават зверу
Найцяплейшай[м] **родная зямля**.
Гэта ўсё я на сабе праверыў,
Даўшы па планеце кругаля[л].

*Г. Бураўкін.*

● Ці згодныя вы з аўтарам? Творы якіх пісьменнікаў на гэту тэму вы ведаеце?

● Запішыце 3—4 прыказкі, якія б адлюстроўвалі ідэю гэтага верша.

● Зрабіце сінтаксічны разбор выдзеленага словазлучэння.

**314.** Уявіце сабе, што вы сустрэлі свайго сябра (сяброўку). Паведаміце яму (ёй), што: а) не паспееце вывучыць ролю да прэм'еры школьнага спектакля; б) на вясенніх канікулах паедзеце ў вёску (у Англію, у Мінск ці інш.); в) вясна ў гэтым годзе будзе цёплая. (Пры выкананні задання можна карыстацца табліцай з практыкавання 309.)

1. Вы не ўпэўненыя ў тым, што гаворыце.

Узор. *Я, **відаць (магчыма, здаецца, хутчэй за ўсё)**, не паспею вывучыць ролю да прэм'еры спектакля.*

2. Паведаміце тое ж самае, указаўшы крыніцу інфармацыі (адкуль узята ваша паведамленне).

Узор. ***Па-мойму**, я не паспею вывучыць ролю... **Як сказаў мой партнёр**, я не паспею...*

3. Вы хочаце сказаць свайму таварышу тое ж самае, але на гэты раз вы ўпэўненыя ў тым, што паведамляеце.

Узор. ***Безумоўна (бясспрэчна)**, я не паспею вывучыць ролю да...*

4. Паведаміце тое ж самае, перадаўшы адчуванні, якія выклікае ў вас гэта паведамленне (радасць, здзіўленне, шкадаванне і г. д.). Растлумачце, чаму гэта іменна так, зрабіўшы сваё паведамленне больш разгорнутым.

Узор. ***На вялікі жаль**, я не паспею падрыхтаваць ролю да прэм'еры школьнага спектакля, бо засталося вельмі мала часу. А мне яшчэ неабходна здаць экзамен на курсах па замежнай мове.*

**315.** Абмяняйцеся інфармацыяй аб падрыхтоўцы да кантрольнай работы па мове (гісторыі, біялогіі ці іншых прадметах) ці аб планах на канікулы са сваім аднакласнікам або сябрам з паралельнага класа. Запішыце гэты дыялог, выкарыстоўваючы пабочныя словы.



Пабочныя словы, словазлучэнні і сказы надаюць мове выразнасць, эмацыянальнасць і дакладнасць. Яны выкарыстоўваюцца і ў кніжных, і ў гутарковым стылях. У мастацкай мове пабочныя словы і сказы з'яўляюцца важным сродкам стварэння моўных характарыстык герояў.

Напрыклад, пры ўжыванні пабочных словазлучэнняў *будзь (будзьце) ласкавы (ласкавыя), зрабі (зрабіце) ласку, калі ласка* і іншых выражаецца далікатнасць, ветлівасць і выхаванасць моўцы: *Адкажыце, **зрабіце ласку**, на тое, аб чым вас пытаюць* (Я. Колас). ***Калі ласка**, заходзьце да нас часцей. Мы заўсёды будзем рады бачыць вас* (В. Хомчанка).
Пабочныя словы ў маўленні асобных людзей становяцца «словамі-паразітамі», бо іх пачынаюць ужываць без патрэбы і вельмі часта. Найчасцей гэта адбываецца са словамі *значыць, так сказаць, само сабой, як гаворыцца* і інш.: *«Будзем, **гэта значыць**, лячыцца ці адпачываць?», «На што, **так сказаць**, скардзіцеся?»*. Такога тыпу ўжыванне пабочных слоў выяўляе не толькі нізкую маўленчую культуру моўцы, але і недастатковы ўзровень яго агульнай культуры.

капа́ **і** стог [й]
стог **і** капа́ [і]
стол **і** столь [ы]



У вусным і пісьмовым маўленні часта ў асноўны сказ устаўляюцца дадатковыя паведамленні, заўвагі, тлумачэнні, якія называюцца **ўстаўнымі**.

Устаўнымі могуць быць словы, словазлучэнні і сказы. На пісьме яны выдзяляюцца працяжнікамі ці бяруцца ў дужкі: *У летні поўдзень — была спёка — выходзіць рой, сную высока* (Я. Колас). *Партызанскі лагер! Дзеці былі ў захапленні ад такога адкрыцця (ім здавалася, што натрапілі яны на лагер выпадкова)* (І. Шамякін).

Устаўныя канструкцыі, ў адрозненне ад пабочных, па сэнсе не звязаны з асноўным зместам выказвання.

**316.** Прачытайце тэкст. Назавіце ўстаўныя канструкцыі. Якая іх роля ў тэксце? Звярніце ўвагу на збег знакаў прыпынку ў апошнім сказе першай часткі тэксту.

Аздоблен квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;

Цыбуля, перчык, ліст бабковы —
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй — цішком скажу між намі, —
Каб і язык не ўцёк часамі.
<...>
На першы дзень святых Калядак —
Такі ўжо быў стары парадак —
Збіралі сена са стала,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, ў драбнюткім сене —
Здавён-даўна вялося й гэта —
Уважна зернетак шукалі
І па тых зернетках гадалі,
Які зародзіць хлеб налета.

*Я. Колас.*

● Пра традыцыі якога свята ідзе размова ва ўрыўку з паэмы «Новая зямля»? Ці адзначаюць яго ў вашай сям'і? Раскажыце, як гэта робіцца ў вашай мясцовасці.

**317.** Спішыце, пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры пабочных і ўстаўных словах, словазлучэннях, сказах.

1. На купінах каля пнёў, дзе каса не кранула травы яе цяжка[с] касіць ля дрэва застылі мусіць мокрыя ад расы балотныя званочкі *(І. Пташнікаў)*. 2. У слоўных баталіях з хлопцамі Ірына любіла не пакінуць ад апанента[л] а сярод іх былі дасціпныя і сапраўды разумныя[м] людзі каменя на камені[сн] *(У. Караткевіч)*. 3. Пад вечар Наталля Пятроўна бегла яна развучылася хадзіць звычайнай хадою да хворых у суседнія вёскі[ф] *(І. Шамякін)*. 4. Колісь тут як расказваюць[с] старыя людзі праўда самі яны не помняць быў мост[п] *(Я. Колас)*. 5. Міхал навошта ўжо таіцца любіў-такі[а] павесяліцца[сн] *(Я. Колас)*.

● Растлумачце значэнне выразу *не пакінуць каменя на камені,* падбярыце да яго словы-сінонімы.

**318.** Спішыце сказы, дапоўніўшы іх устаўнымі і пабочнымі канструкцыямі, што адказваюць на пытанні, пададзеныя ў дужках.

У з о р. *Век пражыць (ці гэта ведае кожны? ) без дум і турбот нельга. — Век пражыць — гэта ведае кожны — без дум і турбот нельга.*

1. Алесь Іванавіч быў ужо тады (калі вы з ім пазнаёміліся?) чалавекам сталага ўзросту.

2. Настрой у людзей (хто заўважыў?) быў прыгнечаны, усіх непакоіла няўдача.

3. Рэчка (каму здавалася?) пачынала мялець.

4. Адсюль, з Любеча (пра гэта сведчаць быліны?), родам быў і сябра Ільі Мурамца Дабрыня Нікіціч.

- Якое значэнне выказванням надалі ўстаўныя і пабочныя сказы?
- Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў запісаным вамі 4-м сказе.

***ні́бы***
***то́ўсты***
***шы́рркі***

**319.** Уявіце, што вам неабходна пераканаць суразмоўцу ў карысці спартыўных заняткаў (чытання кніг, умення карыстацца камп'ютарам, вывучэння роднай мовы). Выкарыстайце пры гэтым пабочныя словы, словазлучэнні, сказы, якія ўказваюць на паслядоўнасць думак і сувязь паміж імі. Тэкст запішыце.

У з о р. *Заняткі спортам вельмі карысныя.* ***Па-першае,*** *яны ўмацоўваюць здароўе,* ***па-другое,*** *павялічваюць працаздольнасць. І,* ***нарэшце,*** *развіваюць валявыя якасці чалавека.*

**320.** Прачытайце. Вызначце, да якога стылю належыць тэкст. Дакажыце гэта, выкарыстоўваючы пабочныя словы. Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

Для кожнага стала звыклым, прывычным, што чырвоны колер св..тлафора папярэдж*(?)*вае: «Спыніцеся!» *(На)* жаль бываючы на прыродзе *(не)* заўсёды людзі спыняюцца перад рас*(?)*лінамі, якія прыгожа ц*(?)*вітуць а як правіла імкнуцца сарваць іх для букета.

Часам дзеля цікавас*(?)*ці сарвуць пакруцяць у руках і кінуць цудоўнае тварэнне прыроды. Няма слоў: прырода бя..-концая р..знастайная прыгожая і шчодрая але згадзіцеся нельга дазваляць, каб шчодрас*(?)*ць прыроды ператваралася ў яе з*(?)*нішчэнне *(З «Кнігі для чытання па батаніцы»)*.

У з о р р а з в а ж а н н я. Тэкст належыць да публіцыстычнага стылю. Па-першае, тэма гэтага тэксту — бяздумныя адносіны да прыроды — актуальная праблема сучаснасці. Па-другое, мэта выказвання — пераканаць чытача ў неабходнасці беражлівых адносін да прыроды, заклікаць яго да абароны яе прыгажосці і багацця. А ўздзеянне на чытача, пабуджэнне да дзеяння — асноўная задача публіцыстычнага стылю. І, нарэшце, у тэксце ярка выражаны такія рысы публіцыстычнага стылю, як экспрэсіўнасць, эмацыянальнасць, аўтарскія адносіны да выказвання.

**321.** Складзіце сказы па наступных схемах.

1. [Пабочн. сл., ...]. [..., пабочн. сл., ...]. [..., пабочн. сл.].
2. [..., пабочн. ск., ...]. [... — пабочн. ск. — ...]. [... (пабочн. ск.) ...].
3. [... (уст. к.) ...]. [... — уст. к. — ...].

● Падрыхтуйце невялікія паведамленні пра: а) знакі прыпынку пры пабочных словах і сказах; б) адрозненне пабочных слоў і сказаў; в) групы пабочных слоў і знакі прыпынку, якія залежаць ад іх значэння; г) знакі прыпынку пры ўстаўных канструкцыях; д) адрозненне пабочных канструкцый ад устаўных.

**322.** Спішыце тэкст, пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

На акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі ў лістападзе 1926 года Язэп Лёсік слушна на мой погляд гаварыў[п]: «Правапіс гэта законы дысцыпліна і як кожны закон правапіс што-небудзь[а] абмяжоўвае[м] чаго-небудзь не дазваляе. Словам правапіс гэта тое самае, што парадак законнасць і дысцыпліна ў грамадскім[а] жыцці[п]» *(Н. Гілевіч)*.

● Як вы разумееце думку, выказаную Я. Лёсікам?

**323.** Прачытайце тэкст. На матэрыяле тэксту напішыце інструкцыю ў афіцыйным стылі «Як уберагчыся ад удару маланкі». Самастойна выберыце ступень катэгарычнасці фармулёвак, выкарыстоўваючы для гэтага дзеясловы ці ў форме загаднага ладу, ці ў неазначальнай форме, а таксама словы *лепш, пажадана, можна, нельга, неабходна, патрэбна.*

Свет, у якім мы жывём, невычарпальны, бязмежны ў сваім праяўленні. З кожным днём і кожным стагоддзем мы даведваемся пра нешта новае, невядомае раней. Але заўсёды ёсць і загадкі. Вось і тут перад намі адна з самых цікавых загадак прыроды, якую яшчэ неабходна раскрыць навуцы. І хто ведае, можа, сярод вас расце той чалавек, які прысвеціць сваё жыццё вывучэнню маланкі, у якой нашы продкі бачылі страшную зброю багоў.

А цяпер некаторыя парады. Вядома, што атмасферныя разрады часцей за ўсё трапляюць у высокія дрэвы, што стаяць асобна. Шукаць пад імі схованку ад навальніцы — значыць падвяргаць сябе небяспецы. Яшчэ больш легкадумна робіць той, хто ў час навальніцы купаецца: галава плыўца над воднай гладдзю ўяўляе для маланкі самую высокую кропку.

А ці ведаеце вы, што некаторыя пароды дрэў проста-такі прыцягваюць да сябе маланку?

Аказваецца, што са 100 выпадкаў маланка часцей за ўсё трапляе ў дуб — 54 разы, у таполю яна трапляе 24 разы, у елку — 10, у сасну — 6, у грушу і вішню — 4. У бярозу і клён маланка зусім не трапляе (канечне, калі яны знаходзяцца ў змешаным лесе, а не растуць асобна на прасторы). Чаму? Дастаткова пераканальнага адказу яшчэ няма. Магчыма, гэта звязана з каранёвай сістэмай дрэў.

На лузе нельга хавацца ў стозе сена. Увогуле на любой адкрытай і роўнай мясцовасці чалавек можа апынуцца ў небяспецы.

У час навальніцы пажадана знаходзіцца далей ад печаў. Атмасферныя разрады часта пападаюць у пячныя коміны. Былі выпадкі, калі маланка пападала ў людзей на адлегласці два-тры метры ад правадоў. Які механізм тут дзейнічае? Невядома *(Газета «Звязда»).*

## Сінтаксічны разбор сказа з пабочным словам (словазлучэннем і сказам)

### *Пісьмовы разбор*

*На шчасце, увечары дождж перастаў* (Ц. Гартны).

### *Вусны разбор*

Сказ просты, двухсастаўны, развіты, ускладнены пабочным словам, поўны.

(Ш т о?) *дождж* — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме Н. скл., адз. л.;

*дождж* (ш т о з р а б і ў?) *перастаў* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны дзеясловам у форме абв. ладу, пр. ч., адз. л., м. р.;

*перастаў* (к а л і?) *увечары* — акалічнасць часу, выражана прыслоўем.

Пабочнае слова *на шчасце* не з'яўляецца членам сказа, стаіць у пачатку сказа, аддзяляецца коскай, перадае пачуццё задавальнення моўцы.

Сказ апавядальны, няклічны.

## Праверце сябе

1. Якія словы, словазлучэнні і сказы называюцца пабочнымі? Чым адрозніваюцца ад іх устаўныя канструкцыі?
2. Якія словы могуць выконваць і ролю пабочных слоў, і ролю даданых членаў сказа? Прывядзіце прыклады.
3. Якія групы пабочных слоў па значэнні вы ведаеце?
4. Як інтануюцца пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, устаўныя канструкцыі ў вусным маўленні? Як яны выдзяляюцца на пісьме?
5. Якая роля пабочных слоў, словазлучэнняў і сказаў, устаўных канструкцый у тэксце?

## § 45. Словы-сказы

Сказы, выражаныя адным словам, якія даюць станоўчы ці адмоўны адказ на чыё-небудзь выказванне, перадаюць розныя пачуцці або пабуджэнні, называюцца **словамі-сказамі**.



Словы-сказы не маюць ні галоўных, ні даданых членаў сказа, не могуць быць развіты іншымі словамі: *Ты прачытаў кнігу?* — ***Так.*** *(= Я прачытаў кнігу.) Андрэй не заблудзіцца ў лесе?* — ***Не.*** *(= Андрэй не заблудзіцца ў лесе.)* Слова-сказ *Так* выражае станоўчы адказ на пытанне, слова-сказ *Не* выражае адмоўны адказ на пытанне.

Ролю слоў-сказаў выконваюць таксама пабочныя словы *вядома, канешне (канечне), безумоўна, зразумела, магчыма* і інш. Яны не толькі выражаюць сцвярджэнне ці адмаўленне, але і перадаюць розныя пачуцці (упэўненасць, няўпэўненасць, меркаванне і інш.): *«Лёгка ісці па асфальце?»* — ***«Вядома»*** (А. Чарнышэвіч). *«У лясным азярцы шмат рыбы?»* — ***«Магчыма»*** (Я. Маўр).

У якасці слоў-сказаў могуць ужывацца выклічнікі, якія выражаюць розныя пачуцці або пабуджэнні: ***Ого!*** *Я ніколі не бачыў такой бульбы* (М. Парахневіч). ***Го!*** *Я сеў бы на каня і паказаў бы яшчэ, чаго варты стары Талаш!* (Я. Колас).

Да слоў-сказаў адносяцца і такія, што выражаюць падзяку, прывітанне, просьбу. Вельмі часта тут пры словах *дзякуй, здароў, бывай, выбачайце* і іншых ужываецца зваротак: ***Дзякуй****, Аленка!* ***Выбачайце****, хлопцы!*

Калі словы-сказы і выклічнікі стаяць у пачатку сказа і вымаўляюцца з няўзмоцненай інтанацыяй, то яны аддзяляюцца ад сказа коскай: ***Так****, падарожжа было цікавае* (Я. Маўр). ***Не****, не забывае Алёша сваіх сяброў* (І. Грамовіч). ***Эх****, як прывольна ў лесе летам* (Я. Колас). Пры ўзмоцненай інтанацыі ставіцца клічнік: ***Не!*** *Няправільна! Я так не пайду!* (І. Шамякін). *«****Ага!*** *Папаўся-такі. Не мінуў маіх рук!»* — *крычаў дзед* (М. Лынькоў).

Словы-сказы надзвычай экспрэсіўныя, яны актыўна ўжываюцца ў гутарковым маўленні і мове мастацкай літаратуры, асабліва ў дыялогах.

**324**. Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып, асноўную думку. Знайдзіце словы-сказы, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры іх.

— Вы любіце музыку? — спытала яна ў мяне.

— Не, — шчыра адказаў я.

— Чаму? — здзівілася яна. — Вы былі так уражаны канцэртам!

«Я быў уражаны Вамі[а] і атмасферай гасціннага[а] дома», — так захацеў сказаць я, але прамовіў:

— Я люблю паэзію.

— Так?! А хто з паэтаў вам найбольш падабаецца?

— Поль Верлен.

Я прачытаў яго вершы пасля таго, як Максім лёгка цытаваў караля паэтаў у музеі.

— Вы ведаеце вершы Верлена на памяць[а]?

— Канечне! — узрадаваўся я, бо паспеў вывучыць. — Толькі не ў арыгінале, а ў перакладзе. У яго, дарэчы, ёсць цудоўныя вершы пра музыку. Паслухайце:

Раяль цалуе тонкая рука
У час вячэрні, шэра-ружаваты[а],
І на крылах, цішэй ад вецярка,
Ў паветры мяккім, пекным паплыла ты
Пужліва, песня, і срэдзь комнат хаты
Шчэ доўга веяў пах, як ад цвятка.

Верлен — самы музычны паэт, — дадаў я.

— І я адчула цудоўную музыку верша, — вочы былі шырока раскрытыя і глядзелі на мяне з асаблівай увагай.

Вось тады я і адкрыў для сябе новы закон: веданне паэзіі дапамагае ў жыцці *(П. Качаткова)*.

● Ці згодныя вы, што «веданне паэзіі дапамагае ў жыцці»? Прывядзіце свае доказы.

● Выпішыце з мастацкіх твораў дыялогі, у якіх ёсць словы-сказы: а) са сцвярджальным адказам; б) адмоўным адказам; в) эмацыянальна-ацэначным адказам. Растлумачце пунктуацыйнае афармленне слоў-сказаў.

**Паслухайце мовазнаўцу!**

У друку гаварылася пра такую моўную загану: адказваючы на пытанне ці пацвярджаючы тое, што сказаў суразмоўнік, ужываюць звычайна слова *так:* «Ты хадзіў у кіно?» — «Так». «Спадабаўся фільм?» — «Так». У адпаведнасці з традыцыяй і спецыфікай беларускай мовы Я. Скрыган найчасцей ужывае слова ***але*** — адзіночнае ці паўторнае.

— Ты мяне звала, Ганна?

— Але. Вазьмі чалавека на пастой *(«Месячная ноч»).*

Дарэчы выкарыстоўваецца і часціца ***ага****.*

— А помніш клуб Крэйнаса? Мы там ставілі «Паўлінку», і ты іграў Якіма Сароку.

— Ага. За Паўлінку была Гэля *(«У старым доме»).*

*А. Каўрус.*

- Ці згодны вы з парадамі мовазнаўцы?

**325.** Падрыхтуйцеся да паведамлення пра асаблівасці слоў-сказаў. У свой адказ уключыце прыклады з твораў вашых любімых пісьменнікаў-класікаў.

**326.** Складзіце і запішыце дыялог на самастойна абраную тэму, ужываючы ў ролі сказаў словы *так, не, канечне, магчыма, відаць, верагодна, выбачайце, даруйце.*

## Праверце сябе

1. Якая роля слоў-сказаў у маўленні? Што яны могуць абазначаць? Чым выражаюцца?
2. Ці з’яўляюцца словы-сказы членамі сказа?
3. Як словы-сказы пунктуацыйна афармляюцца на пісьме?
4. У якіх стылях маўлення часцей ужываюцца словы-сказы?

## СКАЗЫ З АДАСОБЛЕНЫМІ ЧЛЕНАМІ: БУДОВА, ЗНАЧЭННЕ, УЖЫВАННЕ

### § 46. Паняцце пра адасабленне

**Адасабленне** — гэта сэнсавае і інтанацыйнае выдзяленне даданых членаў сказа, якія змяшчаюць дадатковыя паведамленні: ***Пакрытыя тоўстым пластом снегу***, *галіны дрэў гнуліся да самай зямлі* (Я. Колас). *Кіламетраў за трыццаць пяць на поўдзень ад Мазыра,* ***на правым беразе Прыпяці***, *раскінулася па-над ракой невялікае мястэчка Нароўля* (У. Краўчанка).



Сродкамі адасаблення з'яўляюцца: парадак слоў, інтанацыя (у вусным маўленні), знакі прыпынку (у пісьмовым маўленні).

Адасобленыя члены сказа дзеляцца на дзве групы:

1) адасобленыя даданыя члены сказа са значэннем дадатковага выказвання (іх можна замяніць сказам);

2) адасобленыя члены сказа са значэннем удакладнення (адзін член сказа ўдакладняе другі).

З а ў в а г а. Адасобленыя члены сказа не ўтвараюць словазлучэнняў са словам, ад якога залежаць граматычна: *луг, акроплены расой; стол, пакрыты льняным абрусам; жылі, адчуваючы небяспеку.*

**327.** Параўнайце пары сказаў з адасобленымі і неадасобленымі членамі сказа. У якіх сказах азначэнне выдзелена па сэнсе? Якімі сродкамі гэта дасягаецца?

1. Сонца, маладое і яркае, плыло над зямлёю *(В. Хомчанка).* — Маладое і яркае сонца плыло над зямлёю. 2. Зіма, устрывожаная, ратунку не знойдзе *(М. Танк).* — Устрывожаная зіма ратунку не знойдзе. 3. Пад вечар пачаўся дождж, вялікі, доўгі *(Я. Маўр).* — Вялікі, доўгі дождж пачаўся пад вечар. 4. З лодкі выскачыў мужчына, рослы, шырокі ў плячах *(С. Грахоўскі).* — З лодкі выскачыў рослы, шырокі ў плячах мужчына.

**328.** Параўнайце сказы ў правым і левым слупках. За кошт чаго ўдалося перадаць два паведамленні ў адным сказе? Якое паведамленне з'яўляецца асноўным, а якое дадатковым?

| | |
|---|---|
| 1. Паветра было напоена густымі пахамі хвоі. Яно навісла шызаватай смугой. | 1. Паветра, напоенае густымі пахамі хвоі, навісла шызаватай смугой *(М. Лужанін)*. |
| 2. Сена змачыў дождж. Яно запахла яшчэ мацней. | 2. Сена, змочанае дажджом, запахла яшчэ мацней *(К. Кірэенка)*. |

● У сказах якога слупка ўдалося больш лаканічна перадаць два паведамленні?

## § 47. Адасобленыя дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні



Вялікую групу адасобленых членаў сказа складаюць адасобленыя азначэнні.

Адрозніваюць адасобленыя дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні.

**Адасобленыя дапасаваныя азначэнні** выражаюцца адзіночнымі прыметнікамі ці дзеепрыметнікамі, а таксама прыметнікавымі і дзеепрыметнікавымі зваротамі. Яны могуць стаяць перад назоўнікам, які паясняюць, або пасля яго: *Над зялёным лугам,* ***усыпаным рознымі кветкамі****, гулі пчолы* (А. Якімовіч).

**Адасобленыя недапасаваныя азначэнні** часцей выражаюцца назоўнікамі ва ўскосных склонах або спалучэннем назоўнікаў і колькасных лічэбнікаў. Яны могуць стаяць перад паяснёным назоўнікам або пасля яго: ***Без шапкі, у адной гімнасцёрцы****, Васіль з усяе сілы працаваў вёсламі* (І. Шамякін). *Жанчына,* ***гадоў на сорак пяць****, прыязна паглядзела на мяне* (П. Пестрак).

Сказы з адасобленымі азначэннямі маюць свае інтанацыйныя асаблівасці: павышэнне тону на паяснёным слове, выдзяленне адасобленага азначэння паўзамі, павышэнне

голасу і запаволенне тэмпу на адасобленым азначэнні, якое стаіць у пачатку ці сярэдзіне сказа, і паніжэнне голасу, калі ім заканчваецца сказ:

*У вячэрнім паветры, // **крыху вільготным ад блізкай ракі**, // прыемна пахне шыпшынай* (В. Вольскі).

***Працяты марозам**, // снег хрустка скрыпеў пад нагамі дзеда Талаша* (Я. Колас).

*Вёска стаяла паміж балота, // **парослага густою лазою і алешнікам*** (М. Чарот).

**329.** Прачытайце сказы, захоўваючы патрэбную інтанацыю пры адасобленых азначэннях. Растлумачце, ад чаго залежыць іх вымаўленне. Чым выражаны адасобленыя азначэнні?

1. Нёман ляніва і пахмурна нёс цёмна-зялёную[а] ваду. Вада, мутная, цяжкая, ціха білася аб бераг, калыхала прыбярэжныя[сл] кусты *(В. Іпатава)*. 2. Холад быў разліты па лесе, павуціна, мокрая ад ранішняга туману, абчапляла[а] ўсе кусты і дрэвы, перапляла ўсе сцяжынкі *(Л. Дайнека)*. 3. Стаяла вясна, дружная, цёплая, з дажджамі і навальніцамі *(А. Асіпенка)*. 4. Ходзячы па моху, Васіль пачаў натрапляць на баравікі. Яны былі відаць здалёк, з бурымі каптурыкамі, моцнымі, цвёрдымі ножкамі *(І. Навуменка)*.



Ад месца адасобленых азначэнняў у сказе залежыць іх выдзяленне знакамі прыпынку на пісьме.

Заўсёды выдзяляюцца коскамі:

1) адасобленыя азначэнні (дапасаваныя і недапасаваныя), калі яны стаяць пасля паяснёнага назоўніка: *На паляне, **пакрытай буйнымі кроплямі расы**, стаялі дзве казулі* (Я. Маўр). *Вечар, **ціхі, цёплы**, ахутваў змрокам зямлю* (А. Пальчэўскі). *Высокі дом, **з цагляным падмуркам, з чарапічным дахам**, быў адным з самых прыкметных у вёсцы* (М. Ткачоў);

2) дапасаваныя і недапасаваныя адасобленыя азначэнні, якія адносяцца да асабовага займенніка (незалежна ад месца ў сказе): *Я спыніўся, **асляплены сонцам,** толькі на ўзлеску, перад полем* (Б. Сачанка). ***Захопленыя сваім заняткам,*** *мы і не заўважылі, як сонца схілілася да самага лесу* (В. Вольскі).

Дапасаваныя азначэнні, якія стаяць перад паяснёным назоўнікам, адасабляюцца ў наступных выпадках:

1) калі маюць дадатковае акалічнаснае значэнне прычыны ці ўступкі: ***Мокрыя ад дажджу,*** *пліты настыла блішчэлі пад нізкім вераснёўскім сонцам* (Л. Левановіч). Параўн.: *Пліты настыла блішчэлі пад нізкім вераснёўскім сонцам* (ч а м у?), *бо былі мокрыя ад дажджу*;

2) калі аддзелены ад паяснёных назоўнікаў выказнікам: ***Ахінутыя інеем,*** *прыгіналіся да самай зямлі кусты малінніку і парэчак* (П. Броўка).

**330.** Спішыце, расстаўляючы коскі. Падкрэсліце адасобленыя азначэнні і растлумачце ўмовы іх адасаблення.

1. Пасеяныя[а] маладзіком цеплалюбныя[сл] памідоры растуць як на дражджах *(В. Гардзей)*. 2. На палянцы суніц было многа. Сакавітыя з мядовым пахам яны самі прасіліся ў рот *(М. Гамолка)*. 3. Сучком прыціснуты[м] масляк з травы не вылезе ніяк *(В. Зуёнак)*. 4. На доўгіх століках, уроссып[а], як карапузы-хлапчукі[а], нядаўна вымытыя ў росах на сонцы спяць баравікі *(Н. Гілевіч)*. 5. Асветлены бяссоннымі[сл] ліхтарамі горада блішчыць гранітнай чырванню абеліск[а] на брацкай магіле воінаў і партызан[сн] *(Я. Брыль)*.

**331.** Прачытайце сказы. Неадасобленыя азначэнні ў іх зрабіце адасобленымі, а адасобленыя — неадасобленымі. Адкажыце, як пры гэтым змяняецца інтанацыя і сэнс сказаў. Запішыце новы варыянт сказаў.

1. Над сталом, прываблены пахам мёду, звінелі пчолы. 2. Дарога тым часам перайшла ў алею, абсаджаную высокімі

густымі ліпамі. 3. Рака, спакойная ўчора, уночы выйшла з берагоў. 4. Здалёку віднелася школа, зусім новая, свежабелая, нядаўна ўведзеная ў строй. 5. Трава, рослая, густая, валілася на бок тугім валам. 6. Цёмны і ціхі вечар апусціўся на зямлю.

**332.** Правядзіце каменціраванае чытанне тэксту: растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Я глядзеў на танцы, калі раптам адчуў нечы позірк. **Непадалёк** ад мяне стаяў **танклявы**, але, відаць, моцны малады чалавек, белавалосы, з вельмі прыемным і шчырым тварам, апрануты сціпла, але з падкрэсленай[м] акуратнасцю.

Я не бачыў, адкуль ён з'явіўся, але ён адразу спадабаўся мне, спадабалася нават мяккая аскетычнасць[л] у прыгожым вялікім роце і разумных[м] карых вачах. Я ўсміхнуўся яму, і ён, як быццам толькі і чакаў гэтага, падышоў да мяне вялікімі і плаўнымі крокамі, працягнуў[с] мне руку:

— Прабачце, я без цырымоній, Андрэй Свеціловіч. Даўно жадаў пазнаёміцца[с] з вамі. Я студэнт... былы студэнт Кіеўскага ўніверсітэта. Зараз мяне выключылі... за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях.

Я таксама **адрэкамендаваўся**. Ён усміхнуўся шырокай белазубай усмешкай, такой яснай і добрай, што твар адразу зрабіўся гожым... *(У. Караткевіч)*.

● Звярніце ўвагу на адпаведнасць знешнасці і рыс характару героя. Зрабіце выбарачны пераказ тэксту з апісаннем знешнасці Андрэя Свеціловіча.

● На вуліцы (у школе) паназірайце за незнаёмым чалавекам. Паспрабуйце на аснове назіранняў за знешнасцю і паводзінамі гэтага незнаёмага апісаць яго характар.

● Падбярыце сінонімы да выдзеленых слоў.

***вýзіць***
***цяжáр***
***ця́жкі*** і ***цяжкí***

**333.** Перабудуйце і запішыце сказы такім чынам, каб іменная частка выказніка стала адасобленым азначэннем. Растлумачце ўмовы пастаноўкі знакаў прыпынку.

У з о р. *Смуга тонкая, сіняватая. Смуга, тонкая, сіняватая, песціла лясы і лугі.*

1. Вясна была дружная і ранняя. 2. Сёння ранак ціхі, ясны. 3. Возера было глыбокае, вялікае. 4. Гэта дрэва высокае, галінастае.



Адасобленыя азначэнні даюць больш нагляднае ўяўленне аб прадмеце гутаркі, падкрэсліваюць яго прымету. Прымета, выражаная адасобленым азначэннем, больш прыцягвае ўвагу. Параўн.:

| | |
|---|---|
| *Неба, **зацягнутае шэрымі хмарамі,** нізка навісла над лесам* (У. Карпаў). | *Зацягнутае шэрымі хмарамі неба нізка навісла над лесам.* |
| *Маці, **маўклівая і паслухмяная,** пайшла ўслед за імі* (К. Чорны). | *Маўклівая і паслухмяная маці пайшла ўслед за імі.* |

Адасобленыя азначэнні надаюць маўленню выразнасць, эмацыянальнасць. Яны часцей ужываюцца ў мастацкім і публіцыстычным стылях, радзей — у навуковым: *У зборніку М. Багдановіча «Вянок» заплецены найпрыгажэйшыя краскі душы, **успоеныя сокамі родных беларускіх долаў*** (Н. Гілевіч).

**334.** Прачытайце тэкст. Ахарактарызуйце яго, адказаўшы на наступныя пытанні: х т о, к а м у, п р а ш т о, н а в о ш т а, ч а м у і д з е п і ш а? Якую ролю выконваюць адасобленыя азначэнні ў тэксце? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з адасобленымі азначэннямі.

Надзея Яноўская стаяла і слухала нас. Але гэта была не яна, гэта была мара, лясны дух, казачная здань. Яна была ў сярэдневяковай жаночай вопратцы: сукня, на якую пай-

шло пяцьдзясят локцяў[л] залацістага аршанскага атласу, паверх яе — другая, белая з блакітнымі, адліваючымі срэбрам разводамі і шматлікімі разрэзамі на рукавах і падоле. Стан, сціснуты ў снуроўку, быў перавіты тонкім залацістым шнурам, які падаў амаль да зямлі двума кутасамі. <...> Валасы былі ўзяты ў сетку і ўпрыгожаны жаночым уборам, які трохі нагадваў караблік, зроблены са срэбных ніцей. З абодвух рагоў гэтага карабліка звісаў да зямлі тонкі белы вэлюм *(У. Караткевіч)*.

● Уявіце сябе: а) вядучым (вядучай) на паказе «Мадэлі сезона» і апішыце 1—2 мадэлі сучаснай вопраткі; б) кліентам атэлье па пашыве вопраткі і апішыце майстру мадэль, якую вы хочаце пашыць.

**335.** Выпішыце сказы з адасобленымі азначэннямі, зрабіце іх сінтаксічны разбор (узор разбору гл. на с. 260).

І дзяўчынцы ўбачылася цёмная ноч... Шчарбаты месяц хаваецца ў аблокі... Крык савы... Прыглушаныя[с] галасы, гучны трэск галінкі пад нагою... Стук рыдлёўкі аб штосьці... Гаршчок, аплецены[с] паржавелым медным дротам, заліты[с] зверху воскам... Бляск залатых манет, залітых слабым месячным святлом... *(А. Федарэнка)*.

● Чаму ў канцы кожнага сказа стаіць шматкроп'е? Што перадае ім аўтар?

● Уявіце сябе ў ролі шукальнікаў скарбаў. Апішыце свае прыгоды.

## § 48. Сказы з адасобленымі прыдаткамі, знакі прыпынку



**336.** Успомніце, што называецца прыдаткам. Назавіце ў сказах адзіночныя прыдаткі разам з паяснёнымі словамі, звярніце ўвагу на афармленне іх на пісьме.

1. На сінім небе-акіяне павіслі хмаркі-астраўкі *(А. Астрэйка)*. 2. Рупны Мінск-гаспадар працай славіцца плённай *(Р. Барадулін)*. 3. Лятуць журавы на гару Арарат *(П. Панчанка)*. 4. Нішчымны колас-сіраціна ў зацішку лёгенька гайдаўся *(Я. Колас)*.



Адасобленыя прыдаткі выражаюцца адзіночнымі назоўнікамі і назоўнікамі з паяснялЬнымі словамі.

Прыдатак, які мае пры сабе паясняльныя словы, з'яўляецца **развітым**: *Бывалі дзеці ў Белавежы, **зубрыным царстве на зямлі*** (А. Астрэйка).

У вусным маўленні адасобленыя прыдаткі аддзяляюцца паўзамі, а на пісьме — коскамі.

Заўсёды а д а с а б л я ю ц ц а развітыя і адзіночныя прыдаткі:

1) якія адносяцца да асабовага займенніка незалежна ад месца ў сказе: *Яна, **Валя**, таксама любіла чытаць кнігі* (А. Васілевіч). ***Былы выпускнік школы**, ён добра помніў, як будаваўся яе будынак* (Я. Брыль);

2) якія адносяцца да агульнага ці ўласнага назоўніка і стаяць пасля яго: *Касцы, **ваякі мірнай працы**, выходзяць з косамі на пляцы* (Я. Колас). *Ганна, **маці Лабановіча**, была жанчына добрая, працавітая, руплівая* (Я. Колас).

**Запомніце!**

1. Перад уласным і агульным назоўнікам прыдатак а д а с а б л я е ц ц а, калі ён мае дадатковае акалічнаснае значэнне ўступкі або прычыны: ***Вядомы майстар**, Васіль Макаравіч застаўся сціплым чалавекам* (В. Хомчанка). — *Васіль Макаравіч застаўся сціплым чалавекам, хоць і быў вядомы майстар.*

2. Прыдатак а д а с а б л я е ц ц а, калі ён звязваецца з паяснёным назоўнікам словамі ***па прозвішчы*** (***мянушцы, клічцы*** і інш.): *Міхась, **па мянушцы Барадаты**, сядзеў на лаўцы свайго дзеда* (Г. Далідовіч).

**337.** Прачытайце сказы. Назавіце прыдаткі і ўмовы іх адасаблення.

1. Малайцы бабры, нашых рэк гаспадары, вартавыя крыніц і куніц, і суніц, і лясоў, і ласёў, і птушыных галасоў *(В. Вітка)*. 2. Яно, ласяня, нечакана прачнуўшыся, пачула, што нехта сюды ідзе *(Г. Далідовіч)*. 3. Яны ўдваіх, сынок і маці, з двара ідуць у бок ракі *(Я. Колас)*. 4. Ці ж яму, **гарэзе**,

усядзець на месцы? *(Я. Брыль)*. 5. На возеры ў лодцы сядзеў каваль, па мянушцы Мамай *(Я. Колас)*.

- Да выдзеленага слова падбярыце сінонімы.
- Вызначце адрозненне ў значэннях слоў *пісьменны* і *пісьмовы*. Спалучыце гэтыя словы з адпаведнымі назоўнікамі.



Прыдатак можа звязвацца з назоўнікам ці займеннікам, да якога адносіцца, злучнікамі ***як, ці, або***.

А д а с а б л я ю ц ц а прыдаткі:

1) са злучнікам ***як,*** калі яны маюць дадатковае адценне прычыны: *Сцяпана, **як смелага салдата**, часта пасылалі ў разведку* (М. Паслядовіч). Параўн.: *Сцяпана часта пасылалі ў разведку, бо ён быў смелы салдат.*

З а ў в а г а. Калі злучнік ***як*** мае значэнне ‘ў якасці’, то прыдатак коскамі не выдзяляецца: *У наш час шырока выкарыстоўваецца камень як будаўнічы матэрыял* (Газета «Звязда»). — Камень — гэта і ёсць будаўнічы матэрыял;

2) са злучнікамі ***ці, або***, калі прыдатак мае ўдакладняльнае значэнне: *Чорны бусел, **ці інакш бацян**, любіць глуш і векавыя нетры* (В. Гардзей).

На пісьме адасобленыя прыдаткі могуць выдзяляцца працяжнікамі, калі ім надаецца асаблівае значэнне і пры вымаўленні яны аддзяляюцца ад паяснёнага слова больш доўгай паўзай: *Светлыя хмаркі — **дзеткі прастору** — ціха па небе плывуць* (Я. Колас). *Дадому з зімоўкі далёкай ляцяць нашы госці — **шпакі*** (М. Хведаровіч).

**338.** Спішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары, расстаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Падкрэсліце прыдаткі хвалістай лініяй.

1. Зялёнаю хвал..й ракі гайдаецца жыта краса Беларусі калоссем цалуе блакіт[п] *(П. Глебка)*. 2. Я думаю, што ўсе мы людзі беларускай[с] з..млі не сказалі яшчэ таго слова ўдзячнасці такім волатам айчы..ай літаратуры, як Пімен Панчанка, Максім Танк, Васіль Быкаў, Янка Брыль, якога яны заслугоўваюць *(С. Законнікаў)*. 3. Васька Жукаў

чатырнаццацігадовы[а] хлопчык аддадзены[с] тры мес..цы таму назад у рameснае абутковае вучылішча, вярнуўшыся з работы, сеў у куток і пачаў пісаць *(Я. Маўр)*. 4. Непадалёк ад лясных рэчак выводзіць свае чароўныя трэлі сціплы начны спявак салавей *(В. Вольскі)*. 5. У гэтым жа годзе папаўняецца сям'я Ельскіх: нараджаецца любіміца бацькоў дачка Ал..ксандра або, як яе ласкава называюць, Алеся *(В. Кушнер)*.

**339.** Спішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Абгрунтуйце неабходнасць іх пастаноўкі.

1. Скарына доктар лекарскіх[м] навук у доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры *(М. Багдановіч)*. 2. Усё сваё жыццё жаўна ці чорны дзяцел праводзіць на ствалах дрэў і ў дупле[п] *(В. Вольскі)*. 3. Ён прыгожы наш Мінск і ў звычайныя будзённыя[с] дні і вечары, але цяпер, пад Новы год, ён прыхарошаны яшчэ больш *(Т. Хадкевіч)*. 4. Стары каваль па прозвішчы Дубовік гартаваў сякеру[п] *(П. Пестрак)*. 5. Міхал з Антосем як старыя займалі месцы канцавыя[п] *(Я. Колас)*. 6. Яна прырода натуральна ўпрыгожыла столь і сцены падземнага[сл] палаца сваімі скарбамі[сн] *(В. Вольскі)*. 7. Як правінцыяла ён пракаціў мяне са сталічным фасонам і на фаэтоне — ад вакзала да гасцініцы «Бельгія» *(Я. Скрыган)*.

**340.** Прачытайце ўзор даверанасці, знайдзіце прыдаткі, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Даверанасць

Я, Красоўская Алеся Барысаўна (пашпартныя даныя), давяраю Дубко Вінцуку Іванавічу (пашпартныя даныя) атрымаць у паштовым аддзяленні № 134 г. Мінска адрасаваную мне бандэроль (паведамленне № 5).

13 сакавіка 2015 г. А. Б. Красоўская

Подпіс А. Б. Красоўскай сведчу.
Дырэктар ДУА «СШ № 4 г. Мінска»
П. А. Некрашэвіч.

● Запомніце форму напісання даверанасці і напішыце свой варыянт.

**341.** З двух простых сказаў складзіце адзін, зрабіўшы выказнік другога сказа прыдаткам да дзейніка першага сказа.

Узор. *Марфалогія вывучае формы слоў. Марфалогія — раздзел навукі аб мове. — Марфалогія, раздзел навукі аб мове, вывучае формы слоў.*

1. Азначэнне можа быць адасобленым. Азначэнне — дададзены член сказа.

2. Адасобленыя азначэнні могуць быць выражаны прыметнікамі, дзеепрыметнікамі, назоўнікамі. Адасобленыя азначэнні — гэта члены сказа, якія выдзяляюцца па сэнсе з дапамогай інтанацыі.

3. Прыдатак таксама можа быць адасобленым. Прыдатак — гэта разнавіднасць азначэння, якое выражана назоўнікам і дае другую назву прадмету.

**342.** Вызначце, у якіх выпадках прыдатак са злучнікам ***як*** мае значэнне прычыны і выдзяляецца коскамі (у гэтым выпадку злучнік можна апусціць). Чым можна замяніць злучнік ***як*** у тым выпадку, калі спалучэнне з ім не адасабляецца?

ду́**жк**а [шк]
жані́**цьб**а [дз’б]

1. Мой брат як лепшы фізік у класе будзе ўдзельнічаць у раённай алімпіядзе. 2. Мой брат вядомы як лепшы фізік восьмага класа. 3. Яго залічылі ў брыгаду як слесара-наладчыка. 4. Як вайсковец ён разумеў, што так рабіць нельга. 5. Такі гатунак бульбы як самы скараспелы высаджваюць яшчэ ў маі.

● Запішыце тры сказы, падкрэсліваючы прыдаткі са злучнікам ***як*** і выдзяляючы іх, дзе трэба, коскамі.

**343.** Прачытайце сказы. Колькі варыянтаў пастаноўкі знакаў прыпынку яны дапускаюць? Запішыце гэтыя сказы і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

1. Інжынер ён добра ведаў сваю справу. 2. Гэта быў Мікола гімназіст. 3. У машыну сеў Алесь наш аграном і ветурач. 4. Іван Фёдаравіч як чалавек асцярожны заўсёды імкнуўся не карыстацца прывілеямі. 5. Андрэй сямнаццацігадовы юнак сядзеў у альтанцы.



Адасобленыя прыдаткі падкрэсліваюць прымету, вылучаюць яе на першы план.
Параўн.:

| | |
|---|---|
| — *Саханюк, **тутэйшы педагог**. Будзьце ласкавы знiмiце палiто, сядайце* (Я. Колас). | — Тутэйшы педагог Саханюк. Будзьце ласкавы, знiмiце палiто, сядайце. |
| *На сходзе выступiў Мiкалай Фёдаравiч, **малады iнжынер**.* | На сходзе выступiў малады iнжынер Мiкалай Фёдаравiч. |

Асаблiва экспрэсiўнымi з'яўляюцца адасобленыя прыдаткi, што адносяцца да асабовых займеннiкаў: ***Сын лесніка**, я сам з маленства любiў палiць касцёр, пасядзець ля вогнiшча* (І. Шамякін). *І вось перад iм стала яна, **Марына*** (К. Чорны).

У творах мастацкай лiтаратуры шырока ўжываюцца развiтыя прыдаткi з мэтай характарыстыкi персанажаў, апiсання мясцовасцi, пейзажу: *Вобраз мамы, **добрай, ненаглядная мамы**, не адступаўся ад Юркi* (Я. Колас). *Гудуць вячэрняю парой дубы — **старыя бандурысты*** * (М. Танк).

**344.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Выпiшыце сказы з адасобленымi прыдаткамi. Растлумачце ўмовы iх адасаблення.

Уладзiмiр Дубоўка — вядомы грамадскi[а] дзеяч, выдатны беларускi пiсьменнiк i перакладчык[сн]. Паводле яго ўяўленняў, жыццё мае сэнс i прывабнасць толькi тады, калi чалавек стварае нейкiя матэрыяльныя i духоўныя каштоўнасцi, робiць карыснае людзям.

З выгляду Уладзiмiр Мiкалаевiч нагадваў чалавека суровага i непрыступнага. Але гэта толькi з першага погляду[сл]. Гэты высокi, мажны волат з вялiкай сiвой[м] барадой i на схiле сваiх дзён застаўся такiм жа паэтам-рамантыкам[а] i летуценнiкам, якiм быў у юнацкiя гады. На павагу людзей заўсёды адказваў яшчэ большай павагай, на дружбу — дружбай, на паслугу — бязмежнай чалавечай удзячнасцю. Дубоўка з вялiкай пашанай ставiўся да сумленнай працы людзей i падтрымлiваў iх добрыя намаганнi[с]. Кожнаму чалавеку стараўся сказаць

прыемнае слова, падбадзёрыць, выклікаць упэўненасць у сваіх сілах.

У Дубоўку-чалавеку з асаблівай сілай і нагляднасцю раскрыўся Дубоўка — грамадзянін і патрыёт[п]. Праз усё жыццё пранёс ён, нястомны працаўнік на ніве беларускага мастацкага слова, вялікую і непагасную любоў да роднай Айчыны[а], Бацькаўшчыны[а] *(Паводле Ю. Пшыркова)*.

● З якой мэтай прыдаткі выкарыстоўваюцца ў гэтым тэксце?

## § 49. Сказы з адасобленымі дапаўненнямі, іх інтанаванне, знакі прыпынку



Дапаўненні, выражаныя назоўнікамі або займеннікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі ***акрамя, апрача, замест, за выключэннем*** маюць удакладняльнае значэнне і заўсёды адасабляюцца. Такія дапаўненні паказваюць на ўключэнне ў лік ці выключэнне прадмета ці з'явы з ліку іншых або на замяшчэнне яго: *На свеце ўсё знойдзеш,* ***апрача бацькі і маці*** (Прыказка). *На голых дрэвах,* ***замест лісця****, паклалі шэрань маразы* (Я. Колас).

Пры вымаўленні адасобленыя дапаўненні выдзяляюцца паўзай і паніжэннем голасу.

Заўвага. Дапаўненне з прыназоўнікам ***замест*** не адасабляецца, калі прыназоўнік мае значэнне 'за'. Параўн.: *Сёння Міхась дзяжурыў замест сябра* і *Сёння Міхась дзяжурыў за сябра.*

Адасабляюцца ўдакладняльныя спалучэнні, якія пачынаюцца словамі ***асабліва, нават, пераважна, у тым ліку, у прыватнасці, напрыклад*** і інш. Яны надаюць удакладненню сэнсавае адценне выдзяляльнасці, узмацняльнасці: *Многія,* ***асабліва мужчыны****, так і не вярнуліся з вайны* (А. Асіпенка). *Ніхто,* ***нават вецер****, не кранае галін яблынь і груш у белай квецені* (П. Пестрак). *Уперадзе каля самай дарогі стаяў лясок,* ***пераважна бярозавы*** (Я. Колас).

З а ў в а г а. Калі словы *асабліва, нават, пераважна* не маюць удакладняльнага значэння, перад імі коска не ставіцца: *Лес быў пераважна хваёвы* (І. Шамякін). *Паветра было такое чыстае, што не мігацелі нават далёкія агні* (У. Караткевіч). *Дзень быў асабліва цёплы* (А. Якімовіч).

**345.** Прачытайце сказы. Знайдзіце ў іх адасобленыя дапаўненні з удакладняльным значэннем. З якімі прыназоўнікамі яны ўжыты? Спішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары і падкрэсліце адасобленыя ўдакладняльныя дапаўненні.

1. Не, у Марынкі, акрамя яе вонкавай прыгажосці, было нешта сваё *(Т. Хадкевіч)*. 2. Акрамя кучаравых б..розак, на ўзгорку расла высокая сухаверхая[с, сл] хвоя *(З. Бядуля)*. 3. Увесь дзень, за выключэннем перапынк.. на абед і снеданне, быў прызначан агляд.. калгаснай гаспадаркі[п] *(Я. Колас)*. 4. Раней існавала памылковае ўяўленне аб тым, быццам на Беларусі няма нічога, апрача торф.. *(В. Вольскі)*.

● Назавіце ў слове *кучаравы* няпарныя зычныя гукі. Паводле якіх прымет яны няпарныя?

**346.** Спішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары, расстаўце, дзе трэба, знакі прыпынку і растлумачце іх пастаноўку.

1. Мы адліць усё патрапім апроч звон.. векавога таго звон.., які ўсе мы роднай моваю зав..м *(М. Танк)*. 2. Над Беларус..ю ноч была, пажар гуляў[с] замест заранкі *(П. Броўка)*. 3. У той вечар для Косціка апрача кніг нічога не было даражэйшага на свеце[сн] *(С. Александровіч)*. 4. Ад зямлі награваецца[с] паветра асабліва яго ніжнія[сл] слаі[сн] *(А. Звонак)*. 5. Глуха[сл], непрытульна ў лесе зімой асабліва ў снежную зам..ць[сн] *(М. Лынькоў)*. 6. Даўно ўжо не было такога непастаяннага надвор..я, як сёлета: апошнія часы за выключэннем некалькіх марозных[с] дзён неба хмурнае і часта ідуць[м] дажджы *(У. Караткевіч)*.

**347.** Запішыце сказы, устаўляючы замест кропак патрэбныя па сэнсе ўдакладняльныя дапаўненні. Аформіце сказы ў адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі.

1. Увесь месяц ... ішлі халодныя дажджы. 2. Мая старэйшая сястра ... захапляецца бальнымі танцамі. 3. З бакоў ... вуліца абсаджана ліпамі. 4. Увесь дзень ... мы працавалі ў бібліятэцы. 5. У лесе ... многа суніц. 6. Усё іншае ... доктар высвятляў пасля агляду хворага.

Словы для даведкі: *акрамя аэробікі; у тым ліку і прозвішча; апрача чарніц; за выключэннем перапынку на абед; апрача садоў і кветнікаў; за выключэннем сямі-васьмі дзён.*

**348.** Складзіце і запішыце сказы з адасобленымі дапаўненнямі, якія ўводзяцца ў сказ пры дапамозе спалучэнняў слоў *за выключэннем адсутных, замест запланаванай экскурсіі ў Мірскі замак, апрача футбола.* Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў складзеных вамі сказах.

## § 50. Сказы з адасобленымі акалічнасцямі, іх інтанаванне, знакі прыпынку

**349.** Назавіце ў сказах дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты. Скажыце, якія словы яны паясняюць. Якое дзеянне — галоўнае ці дадатковае — яны выражаюць? Якімі членамі сказа з'яўляюцца? Паназірайце за знакамі прыпынку пры іх.

1. Нельга не зачаравацца, гледзячы на высокі і стройны дуб. Каля трыццаці метраў увысь цягнецца гонкі ствол без адзінага сучка і дупла, а потым раскідваецца пяццю вялікімі сукамі, ствараючы пышную зялёную шапку *(Т. Хадкевіч)*. 2. Сонца ідзе на схіл павольна, не спяшаючыся, як бы шкадуючы развітвацца з бязмежнасцю зямлі і неба *(І. Навуменка)*. 3. Плывуць над Волгай хмары нізка, маланкі тушачы ў вадзе *(С. Грахоўскі)*. 4. Раскінуўшы крылы, чайка плануе ў паветры, выглядаючы ў вадзе сабе здабычу *(В. Вольскі)*. 5. То скачучы з купіны на купіну, то павольна ідучы па вузкіх дрыгвяністых сцежках, доўга хадзіў Мікола па балоце *(К. Крапіва)*.

**350.** Перабудуйце сказы так, каб выдзеленыя дзеясловы-выказнікі сталі дзеепрыслоўямі. Ці будуць гэтыя дзеепрыслоўі захоўваць значэнне дадатковага дзеяння? Чаму? У якіх сказах — з асабовай формай дзеяслова ці з дзеепрыслоўямі — перадаецца больш хуткае і напружанае дзеянне?

Узор. Кіраўнікі дзяржаў **падпісалі** дагавор і правялі прэс-канферэнцыю[а]. — Кіраўнікі дзяржаў, **падпісаўшы** дагавор, правялі прэс-канферэнцыю.

1. Чырвона-сіняе полымя гуло ў печы і **аблізвала** тоўстыя галавешкі. 2. Дрэвы застылі ў цішыні і вершалінамі **паказвалі** на яркія начныя зоркі. 3. **Прымасціўся** на елачцы[ф] дрозд[а] і высвіствае свае песні. 4. Ліса **выбегла** з нары, агледзела наваколле і памчалася[а] ў сасоннік. 5. Самалёт **адарваўся** ад зямлі і хутка схаваўся ў цемені[а] ночы.



**Адасобленыя акалічнасці** абазначаюць дадатковае дзеянне ў адносінах да другога (асноўнага) дзеяння, якое выражана дзеясловам-выказнікам, і адказваюць на пытанні як? якім чынам? у якой ступені? калі? і інш.: ***Рана ўстаўшы***, *многа зробіш* (Прыказка). *Бабка стаяла,* ***падпёршы рукою шчаку****, і назірала за выразам твару настаўніка* (Я. Колас).

Адасобленыя акалічнасці часцей выражаюцца адзіночнымі дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўямі ў спалучэнні з залежнымі словамі. У сказе адасобленыя акалічнасці выконваюць ролю акалічнасцей са значэннем:

- способу дзеяння: ***Не змаўкаючы***, *моцна гула завіруха* (І. Мележ);
- часу: *Добра ў садзе хадзіць,* ***сустракаючы сонечны ранак*** (П. Панчанка);
- прычыны: ***Пагойдваючыся ад ветру***, *дрэвы скрыпелі* (П. Галавач);
- мэты: *Каля хат,* ***чакаючы бацькоў з працы***, *стаялі дзеці* (І. Мележ);
- умовы: ***Набраўшыся смеласці***, *можна лёгка выканаць нават складаную работу* (С. Баранавых);
- уступкі: ***Не зважаючы на дождж***, *мы шпарка крочылі па лясной дарозе* (З. Бядуля).

Адасобленыя акалічнасці ў вусным маўленні выдзяляюцца інтанацыйнымі паўзамі: павышаным тонам, калі стаяць у пачатку ці сярэдзіне сказа, і паніжаным тонам, калі імі заканчваецца сказ:

***Паабедаўшы***, *// касцы паселі ў цень пад разложыстым дубам* (М. Машара). *Наўкол пляменнікі сядзелі, на дзядзьку пільна ўсе глядзелі, як ён, //* ***рукавы закасаўшы***, *// па тарцы шоргаў, //* ***шапку зняўшы*** (Я. Колас).

На пісьме адасобленыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі зваротамі ці адзіночнымі дзеепрыслоўямі, як правіла, выдзяляюцца коскамі: *Бяроза зламалася, але не ўпала,* ***затрымаўшыся на суседніх дрэвах*** (У. Караткевіч). ***Нагаварыўшыся***, *жанчыны разышліся па сваіх дварах* (Я. Скрыган).

**351.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і тып. Чаму ён не падзелены на абзацы? Назавіце адасобленыя дзеепрыслоўныя звароты і дзеясловы-выказнікі, з якімі яны звязаны. Якімі членамі сказа з’яўляюцца дзеепрыслоўныя звароты? Растлумачце знакі прыпынку пры іх.

У расчыненыя[ф] дзверы плыла вільготная свежасць. На двары бушаваў дождж. Пакой раз-пораз[а] заліваўся мігатлівым водбліскам маланкі... Але навальніцы ўлетку імклівыя і кароткія. Хутка хмара, аддаўшы зямлі належнае, пасвятлела, разарвалася на шматкі, якія пастунова раставалі ў небе. Дождж парадзеў, неўзабаве з блакітнага прасвету выглянула сонца, і над Дзвіной, злучаючы яе берагі, паўстала казачна яркай дугой у сваіх сямі колерах вясёлка. Знізу яна прасвечвалася, і круча на тым баку з кустамі і маладым[м] сасняком на схіле была быццам падфарбаваная[с] лёгкімі, паўпразрыстымі **мазкамі** мастака *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

- Скажыце, ці можна ўсе дзеепрыслоўі ў гэтым тэксце замяніць адпаведнымі дзеясловамі-выказнікамі. У якіх сказах гэта магчыма зрабіць, а ў якіх — нельга?
- Вызначце значэнні слоў *на дварэ, на двары.* Складзіце з імі сказы.
- Падбярыце сінонімы да выдзеленага слова.


Заўсёды адасабляецца акалічнасць са значэннем уступкі, калі яна выражана назоўнікам з прыназоўнікам ***нягледзячы на: Нягледзячы на трывожны час****, рынак жыў сваім звычайным жыццём* (А. Якімовіч).

Заўвага. Зварот з прыназоўнікам ***нягледзячы на*** можа не адасабляцца толькі ў тым выпадку, калі ён стаіць пасля дзеяслова-выказніка: *Вучні пайшлі ў паход* ***нягледзячы на дрэннае надвор'е****. Гэта ён зрабіў* ***нягледзячы на забарону бацькоў****.*

Не адасабляюцца:

а) адзіночныя дзеепрыслоўі, якія стаяць пасля дзеяслова-выказніка і сваім значэннем набліжаюцца да прыслоўяў спосабу дзеяння, а гэта значыць адказваюць на пытанне як? Такія дзеепрыслоўі звычайна стаяць у канцы сказа: *Воўк авечку бярэ* (як?) *не выбіраючы* (Прыказка). *Песні салаўіныя льюцца* (як?) *не сціхаючы* (П. Глебка);

б) фразеалагізмы, у складзе якіх ёсць дзеепрыслоўі: *Трэба быць аптымістам і жыць* ***не апускаючы рук*** (М. Хведаровіч). *Не прывыкла мая бабуля сядзець* ***склаўшы рукі*** (А. Васілевіч).

Заўвагі.

1. Калі дзеепрыслоўны зварот адносіцца да аднаго з аднародных выказнікаў, звязаных адзіночнымі злучнікамі ***і, ды (= і), ці, або***, то коска перад гэтымі злучнікамі не ставіцца: *Уварваўшыся ў пакой, вецер смела зашалясцеў на стале паперамі, скінуў некалькі лістоў на падлогу* ***і****, забіўшыся пад шпалеры, захадзіў там, зашастаў* (А. Савіцкі). *Возьме наш хлопец жалеза кавалак* ***ды****, кінуўшы ў горан, нагрэе ўдала* (П. Броўка).

2. Перад злучнікам ***і***, які звязвае два дзеепрыслоўныя звароты ці адзіночныя дзеепрыслоўі, коска не ставіцца: *Сонца падымалася вышэй, руплiва аглядаючы зямлю* ***і*** *рассыпаючы над ёй святло і цеплыню* (Т. Хадкевіч).

**352.** Прачытайце, знайдзіце акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі з залежнымі словамі.

Прыбралася[с] страчаючы[м] восень маладая рабінка змяніўшы свой сінявата-зялёны[а] ўбор на ружавата-ліловы[а]. І над ёю светлым надвячоркам[сл] дробна кішаць сабраўшыся[с] ў прадаўгаваты эліпсавы круг рудаватыя камары *(В. Адамчык)*.

● Спішыце тэкст, расстаўце знакі прыпынку. Зрабіце сінтаксічны разбор гэтых сказаў.



Сказы з дзеепрыслоўнымі зваротамі ўжываюцца ва ўсіх кніжных стылях.

**353.** Запішыце верш Васіля Віткі па памяці.

Назаўсёды[сл] зразумей,
Слова — не верабей.
Перад людзьмі[а] сябе не плямячы[а],
Не гавары, не цямячы[а]
Таго, што ты гаворыш:
Выпусціш — не зловіш[а].

● Раскажыце пра пастаноўку знакаў прыпынку пры адасобленых акалічнасцях спосабу дзеяння.

**354.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі і расстаўляючы, дзе трэба, знакі прыпынку. Падкрэсліце дзеепрыслоўныя звароты як члены сказа.

1. Я вярнуўся ў пакой і *(не)* запальваючы свечкі сеў на ложак[сн] *(У. Караткевіч)*. 2. Чалавек аднойчы[м] прайшоўшы праз пажар вайны будзе помніць яе да скону год і да апошняга **дня** зычыць дзецям сваім *(не)* бачыць яе *(А. Асіпенка)*. 3. Падсунуўшыся[м] бліжэй да акенца Наста цяпер добра бачыла ўсё, што робіцца ля **пераезда** *(А. Савіцкі)*. 4. Сады распускаюць лісткі маладыя загледзеўшыся[м] ў ціхія люстры азёр[сн] *(П. Прыходзька)*. 5. Зверына[а] пахаваўшыся ў бярлогі

і норы спіць чакаючы **вечара**, каб змрокам прачнуцца і ісці на пажыву *(А. Чарнышэвіч)*.

● Растлумачце напісанне канчаткаў у выдзеленых словах.

**355.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце, чаму ў адных выпадках акалічнасці адасабляюцца, у другіх — не адасабляюцца.

1. Іван Васільевіч ішоў *(не)* спяшаючыся *(І. Шамякін)*. 2. Мікалай і Алімпіяда[а] рассунулі верхняе жэрдзе ад логу ў плоце і пералезшы праз яго **ішлі** мяжой **адно за адным** *(І. Пташнікаў)*. 3. *(Ня/не)* гледзячы на *(не)* далёкую восень лес жыў тым актыўным, **багатым жыццём**, якое заўсёды бывае ў канцы лета *(Б. Сачанка)*. 4. *(Не)* каторы час яна сядзіць склаўшы рукі на каленях *(І. Капыловіч)*. 5. Я *(не)* пярэчыў, *(не)* прывык сядзець склаўшы рукі *(В. Шырко)*. 6. Дзед Гарох замоўк як мыла з'еўшы *(В. Карамазаў)*. 7. Жылі сабе там людзі на лес гледзячы, *(ні)* хто іх *(не)* чапаў, *(ні)* хто ім *(ні)* якае бяды *(не)* рабіў *(З народнага)*.

● Вызначце агульныя марфалагічныя прыметы слоў *з'есці — з'еўшы, пазіраць — пазіраючы.*

● Зрабіце сінтаксічны разбор выдзеленых словазлучэнняў.

**356.** Складзіце сказы, у якіх акалічнасці выражаліся б наступнымі фразеалагізмамі. Вызначце віды гэтых акалічнасцей. Вусна растлумачце значэнне фразеалагічных выразаў.

Не пакладаючы рук, паклаўшы руку на сэрца, заплюшчыўшы вочы, вушы развесіўшы.

балóт**ца** [цц]
на дý**дцы** [цц]
у бó**чцы** [цц]



Каб вызначыць адасобленыя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, неабходна:

1) бачыць сувязь дзеепрыслоўя з дзеясловам-выказнікам (дзеепрыслоўе, як правіла, падпарадкоўваецца выказніку);

2) знаходзіць словы, якія залежаць ад дзеепрыслоўя і адпаведна ўваходзяць у склад дзеепрыслоўнага звароту.

**357.** Прачытайце сказы. Вызначце межы дзеепрыслоўных зваротаў. Растлумачце, якія варыянты пастаноўкі знакаў прыпынку магчымыя ў гэтых сказах. Як пры гэтым змяняецца сэнс выказвання?

1. Спартсмен бег прыгожа хутка абганяючы сапернікаў. 2. Гаварыў Віктар павольна расцягваючы словы. 3. Хлопчык спыніўся ў здзіўленні азірнуўшыся назад.

● Запішыце сказы парамі з улікам варыянтаў пастаноўкі знакаў прыпынку. Дзеепрыслоўныя звароты падкрэсліце. Якімі членамі сказа з'яўляюцца ў гэтых прыкладах дзеепрыслоўныя звароты? На якія пытанні яны адказваюць?

**358.** Прачытайце сказы. Знайдзіце ў іх акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі, і развіце іх.

1. Абуўшыся[с] заклапочаны[с] Васіль выйшаў з хаты. 2. Ззяючы[с] асыпаўся іней з верхавін елак. 3. Хвалі набягаючы з шумам адкатваліся назад. 4. Падсілкаваўшыся[с] Пятро рушыў далей і яшчэ дацямна мінуў балота. 5. Пачырванеўшы ён не мог вымавіць ні слова.

● Запішыце сказы парамі. Пастаўце знакі прыпынку і растлумачце іх пастаноўку.



Пры замене аднародных дзеяслоўных выказнікаў канструкцыяй «дзеяслоў-выказнік + дзеепрыслоўнае словазлучэнне» (і наадварот) неабходна памятаць асаблівасці гэтых блізкіх, але не зусім аднолькавых па сэнсе канструкцый. Гэта магчымасць вылучэння асноўнага і дадатковага дзеяння, а таксама выражэнне акалічнасных значэнняў у сказах з дзеепрыслоўным словазлучэннем і выражэнне раўнапраўнасці і незалежнасці дзеянняў у аднародных выказніках. Імкненнем вылучыць галоўнае дзеянне, падкрэсліць яго дэталі і зрабіць усю фразу больш цэласнай і сціслай тлумачыцца, напрыклад, праўка наступнага сказа з першай рэдакцыі рамана І. Мележа «Мінскі напрамак»: *Ён глядзеў на яе валасы, што выбіліся з-пад хусткі, на шыю, на бесклапотны, даверлівы ў сне твар і тут упершыню адчуў,*

*што шчасце яму без яе немагчыма.* У другой рэдакцыі сказ мае такую форму: *Гледзячы на яе валасы, што выбіліся з-пад хусткі, на шыю, на бесклапотны, даверлівы ў сне твар, ён адчуў, што шчасце без яе немагчыма.*

**359.** Перабудуйце сказы, зрабіўшы адзін з дзеясловаў-выказнікаў дзеепрыслоўем-акалічнасцю.

Узор. *Касец стаміўся і прысеў на валок духмянага сена. — Касец, стаміўшыся, прысеў на валок духмянага сена.*

1. Чароўны пах язміну ўрываецца праз расчыненыя вокны і запаўняе актавую залу. 2. Калі памыляешся, не бойся прызнаць сваю памылку. 3. Калі рана ўстанеш, многае паспееш зрабіць.

**360.** У сказах замяніце дзеепрыслоўем спачатку першы дзеяслоў, затым — другі. Як змяняецца сэнс сказа? Ці заўсёды магчымая такая замена? Чаму?

1. Павел схапіў плашч-накідку і выбег пад дождж. 2. Дзеці з нецярпеннем чакалі бацьку і прыслухоўваліся да кожнага кроку ў двары. 3. Пятрусь Рыбка зацікавіўся біялогіяй і стаў наведваць батанічны сад.

## § 51. Сказы з адасобленымі ўдакладняльнымі членамі сказа, іх інтанаванне, знакі прыпынку

**361.** Прачытайце сказы. Вызначце, у якіх сказах акалічнасці з'яўляюцца аднароднымі, а ў якіх — удакладняюць змест іншых акалічнасцей. Якое значэнне ўдакладняецца ў сказах?

1. Над зямлёй, над жоўтымі пяскамі сонца разгараецца[с] ярчэй *(А. Звонак)*. 2. І ў садзе, і на рацэ стаяла дзівосная цішыня *(Л. Кулакоўскі)*. 3. На ўзгорку[сл], між ліпавага парку, бялеў двухпавярховы[сл] будынак *(П. Броўка)*. 4. Там, за поплавам, на пагорку, купалася ў сонечным святле вёска

*(А. Асіпенка)*. 5. Увесь гэты дзень, цэлы вечар і ноч не меў Максім супакою *(Я. Колас)*. 6. Учора, пад вечар, сыпануў дробны і халодны дождж *(І. Шамякін)*. 7. У маі, на Міколу, помню я, дарыла аднакласніку Міколу тры[м] гронкі бэзу вучаніца школы, Анюта — сямікласніцы імя *(М. Аўрамчык)*.

**362.** Да падкрэсленых членаў сказа падбярыце па сэнсе ўдакладняльныя акалічнасці месца і часу. Запішыце, выдзяляючы ўдакладняльныя акалічнасці коскамі.

1. Недалёка ад Мінска (д з е  і м е н н а?) нарадзіўся класік беларускай літаратуры Янка Купала. 2. Раніцай (к а л і  і м е н н а?  у  к о л ь к і  г а д з і н?) па радыё перадавалася фізічная зарадка для школьнікаў. 3. Тут (д з е  і м е н н а?) захаваўся маленькі пакойчык-келля, дзе святая Ефрасіння Полацкая пражыла свае апошнія гады.



У сказе можа быць дзве і нават тры акалічнасці, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне, але не з'яўляюцца аднароднымі; яны лічацца ўдакладняльнымі, паколькі кожная наступная акалічнасць канкрэтызуе змест папярэдняй, абмяжоўвае і звужае яе значэнне: ***Дзесьці высока-высока, за самымі хмарамі,*** *курлыкалі журавы* (М. Лынькоў). ***Там, удалечыні, каля лесу,*** *раскінулася прырэчная лагчына* (Ц. Гартны).

Адасобленыя ўдакладняльныя акалічнасці выражаюцца назоўнікамі з залежнымі словамі ці без іх і прыслоўямі: *А было гэта тыдзень таму,* ***у нядзелю, пад вечар*** (Я. Брыль). *Там,* ***за дуброваю,*** *жнейкі-красуні звоняць сярпамі сталёвымі* (П. Трус). *Воддаль,* ***пад стромкімі бярозамі,*** *цэлымі сямейкамі растуць мухаморы* (З. Бядуля). *Будынак упрыгожылі хораша,* ***па-святочнаму*** (Т. Хадкевіч).

Удакладняльнымі членамі сказа часцей выступаюць акалічнасці месца, часу, радзей — спосабу дзеяння: *Тут,* ***за рэчкай,*** *адразу пачыналася поле* (К. Чорны). *Учора,* ***раніцай,*** *дзеці хадзілі ў грыбы* (Б. Мікуліч). *Алена гаварыла хутка,* ***слова за словам*** (П. Пестрак).

Удакладняльныя акалічнасці ў вусным маўленні выдзяляюцца паўзамі і вымаўляюцца павышаным тонам. На пісьме яны выдзяляюцца коскамі:

*Тут,* ***на палянцы,*** *//* ***сярод цёмнага лесу****, панавала незвычайная цішыня* (З. Бядуля).

З а ў в а г а. Калі другая акалічнасць мае больш шырокае значэнне, чым першая, то адасабленне не адбываецца: *Зусім інакш ішло жыццё ў сасняку* ***за горадам****, дзе быў штаб фронту* (І. Мележ).



Адасобленыя ўдакладняльныя акалічнасці часцей ужываюцца ў мастацкім і публіцыстычным стылях, радзей — у гутарковым.

**363.** Прачытайце тэкст. Вызначце, ці ёсць у ім удакладняльныя акалічнасці. Чым яны адрозніваюцца ад аднародных акалічнасцей?

Поле ўрадлівае працы не шмат патрабуе,
Толькі ў жніво ды ў касьбу і на ніве, і ў лузе
Бела ад хустак, намітак*, кашуль і бравэрак*.
Па сенажацях, гаях і па ялавых* гонях
Коні пасуцца, а скрозь на прыволлі, на ўзлессі,
Статак скарбовы амаль што купаецца ў травах.

*М. Гусоўскі.*

**364.** Прачытайце. Выпішыце сказы з удакладняльнымі акалічнасцямі. Вызначце, чым яны выражаны, што абазначаюць.

1. Тут, у вас, я штовечар[а] хаджу ў кавярню *(Г. Багданава)*. 2. Са мною там, у цырку, адбылося нешта дзіўнае *(Г. Багданава)*. 3. Горка, узахлёб, плакаў над нябожчыкам стары добры Дубатоўк *(У. Караткевіч)*. 4. Перада мною на стале, сярод іншых кніжак, пяць аднолькава аформленых важкіх тамоў, быццам пяць самавітых[м], напакаваных[с] незвычайным скарбам куфраў. Я часта, як цяпер во, бяру адзін з іх у рукі, адкрываю вокладку-вечка[а] і... папраўдзе, не папракайце таго ў гультайстве, у чыіх руках убачыце кнігу, напісаную Янкам Брылём *(У. Ягоўдзік)*.

**365.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і расстаўляючы знакі прыпынку. Назавіце ўдакладняльныя акалічнасці. Чым яны выражаны?

1. У тую ноч за возерам[а] па сухой ..мшары[а] затрубіў лось б'ючы капытом прымоклую зямлю[сн] *(І. Чыгрынаў)*. 2. Міхал ідзе туды на поле, дзе Нёман выгнуўшыся[с] дужкай абводзіць лес прыгожай сту..кай *(Я. Колас)*. 3. Недзе тут у лесе між негустых таўшчэзных хваін павінна была трапіцца яму старая[м] даро..ка[сн] *(В. Быкаў)*. 4. Там за вёскай у полі дзве[м] стаялі таполі *(Я. Купала)*. 5. У кутку двара каля веснічак быў ні..кі калодзеж з калаўротам[сн] *(А. Федарэнка)*.

**366.** Развіце сказы ўдакладняльнымі акалічнасцямі месца і часу. Запішыце новыя сказы, расстаўляючы знакі прыпынку.

1. У пачатку чвэрці ... у наш клас прыйшла новая вучаніца. 2. Тут ... змрок здаваўся яшчэ гусцейшым. 3. За паваротам ... паказаўся купал царквы. 4. Возера робіцца асабліва прыгожым на світанні ... .

**367.** Складзіце і запішыце сказы, выкарыстоўваючы ў якасці ўдакладняльных акалічнасцей наступныя спалучэнні слоў.

Позна вечарам, каля адзінаццаці гадзін; у скверыку, ля тэатра імя Янкі Купалы; на наступны дзень, гадзін каля дзвюх; каля клуба, на клумбах; сёння, 25 сакавіка.

**368.** Разгледзьце схемы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з рознымі відамі акалічнасцей — аднароднымі і ўдакладняльнымі акалічнасцямі часу і месца. Растлумачце, у чым цяжкасць адрознення гэтых акалічнасцей.

1. (К а л і?) Ранняй вясной (д з е?) у гаі расцвітаюць пралескі.

2. (А д к у л ь?) Здалёк, (а д к у л ь  і м е н н а?) з цішы заснежаных дрэў, з сіняй цішы, пачалі далятаць ціхія галасы.

3. (Я к?) Праз пушчы, (я к?) праз лугі вяртаецца хлопец дадому.

O, O ... O, O, ...

**369.** Прачытайце тэкст. Спішыце, расстаўляючы, дзе трэба, знакі прыпынку. Пабудуйце схемы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з рознымі відамі акалічнасцей.

Пахаджае рупліва
па скверы па снезе
Грак штаны падкасаўшы: турбуе вясна;
Ад Херсона[а] на поўнач
праз стэпы й Палессе[а]
Пяцьдзясят[а] кіламетраў штодня[а]
праходзіць яна.

*А. Русецкі.*

**370.** Прачытайце тэкст, знайдзіце сказы з удакладняльнымі акалічнасцямі. Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку.

З першымі тактамі «Ветрыка» ён [Дубатоўк] стукнуў абцасамі і пайшоў[а] крокам, то з правай, то з левай нагі[сн]. І яго туша рухалася нечакана лёгка спачатку прыстукваючы абцасамі пасля кожных трох крокаў а пасля проста так, на цыпках. А поруч з ім плыла яна [Надзея] проста плыла ў паветры залацістая белая блакітная як райская птушка і вэлюм яе віўся ў паветры.

Пасля яны круціліся плылі то зміжаючыся то аддаляючыся то перасякаючы адзін аднаму шлях[п].

Гэта быў сапраўдны «Ветрык», які паступова пераходзіў у буру, і вось толькі круціўся ў паветры вэлюм мільгацелі ногі...

І тут туша памчалася[а] наперад загрукала абцасамі па-казячы мякка пачала заносіцца ў паветра стукаючы ў ім нагой аб нагу[п]. А поруч плыла яна лёгкая[а] ўсмешлівая вялікасная[п].

Гэта было сапраўднае дзіва, нябачаны цуд: два чалавекі ў старажытных вопратках стваралі перад намі гэту казку[а] *(Паводле У. Караткевіча).*

● Якія танцы любіце вы? Паспрабуйце апісаць адзін з іх.

**371.** Устаўце ў тэкст на месцы пропускаў адасобленыя члены сказа.

Рака шалела. Нізавыя парывы вятрыскі раскалыхалі вялікія ... хвалі. Яны каціліся супраць плыні ... . Хвалі ішлі адна за адной, і процілеглы бераг губляўся ў чарнільнай навальнічнай цемры. Але і адтуль ... далятаў усхваляваны, нізкі гук вады. Рака таўклася ў берагі ... . Праз пляму святла на вадзе слізгануў на хвалях дзіравы кошык, потым — цэлае дрэва ..., ... . Дзіўна было бачыць на яе ... галінах, якія круціліся ... два ці тры яблыкі *(Паводле У. Караткевіча)*.

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *шоргаючы белымі грабянцамі; са змроку; у рост чалавека; апырсканых пенай; то знікаючы пад вадой, то зноў выплываючы; хочучы вырвацца з іх; яблыня, вымытая з каранямі.*

● Параўнайце зыходны тэкст і тэкст, запісаны вамі. Якую сэнсава-стылістычную ролю выконваюць адасобленыя члены сказа ў мастацкім тэксце?

ад **ч**аго́ [чч]
дара**дч**ык [чч]
во́**тч**ына [чч]
пры́**тч**а [чч]

**372.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тып і стыль. Выпішыце сказы ўскладненай будовы, графічна абазначце, якімі членамі сказа яны ўскладнены.

Толькі тут, на мокрай сцежцы[ф], я змог добра разгледзець гэты дом-палац[а]. Уначы ён здаўся мне меншым, бо абодва яго крылы надзейна хаваліся ў паркавым гушчары і ўвесь першы паверх цалкам зарос здзічэлым, вялізным, як дрэва, бэзам. А пад бэзам раслі высокія, вышэйшыя за чалавека, жоўтыя вяргіні, мясісты дзядоўнік, глухая крапіва. Высоўваў там-сям[а], як ва ўсіх вільготных мясцінах, свае лапчастыя сцяблiны падтыннік, буялі мядзведжая дуда, шыпшына, ліснік. І на чорнай ад вільгаці зямлі сярод гэтага разнатраўя ляжалі белыя ад цвілі, абламаныя ветрам, каржакаватыя сукі дрэў.

І дом выглядаў змрочна і холадна. Быў ён двухпавярховы[сл], з вялізным бельведэрам[л] і невялікімі вежкамі[а] па краях. <...> Тоўстыя яліны — дваім не абхапіць — падступалі да самых муроў палаца, заглядалі лапамі ў вокны, узвышаліся

сіне-зялёнымі конусамі над дахам. Стаўбуры іх зацягнула сівая барада імхоў і лішайнікаў, ніжнія галіны звісалі да зямлі, як шатры, і алея нагадвала вузкае міжгор'е[a].

Толькі ля самага дома бачны былі там-сям пахмурныя, чорныя ад дажджу, амаль голыя волаты-ліпы[a] і адзін каржакаваты дуб *(Паводле У. Караткевіча)*.

● Складзіце план тэксту, перакажыце яго, па магчымасці выкарыстоўваючы сказы ўскладненай будовы.

**373.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Падбярыце да тэксту загаловак. Ахарактарызуйце форму тэксту: стыль, тып, кампазіцыю. Складзіце яго план.

● Назавіце сукупнасць прыёмаў, выяўленчых (лексічных і стылістычных) сродкаў, выкарыстаных аўтарам:

вызначце: а) метафары і ўвасабленні (II, IV абзацы); б) параўнанні (II, III абзацы); в) градацыю (VIII абзац); г) іншыя сродкі;

знайдзіце: а) антонімы (II, IX абзацы); б) фразеалагізмы (VI, VIII абзацы); в) сінонімы.

● Ахарактарызуйце сінтаксічны лад тэксту:

вызначце спосабы і сродкі сувязі сказаў у тэксце (I, II абзацы; V, VI абзацы);

вызначце ролю аднасастаўных сказаў (I абзац); няпоўных сказаў (II абзац); простых ускладненых сказаў з адасобленымі членамі; клічных сказаў (IX, XI абзацы) і інш.;

знайдзіце сказы з адваротным парадкам слоў і вызначце іх сэнсавую ролю (VI абзац).

● Якія яшчэ моўна-выяўленчыя сродкі, выкарыстаныя аўтарам, ёсць у тэксце? Адзначце іх.

СЛАВА ПРОДКАЎ НЕ ЗГАСЛА

I. 1410 год. 15 ліпеня. Самая сярэдзіна лета.

II. Сонца, адпачыўшы за ноч, шчодра ліло свае залатыя прамяні на даліну, што шырока раскінулася каля вёсак Грунвальд і Таненберг. Заходні край даліны павольна ўзнімаўся ўгору, пераходзячы ва ўзвышша. Усходні хаваўся ў лесе, які нагадваў наднёманскія пушчы. Сама даліна як вымерла. Пустынная. Бязлюдная.

III. У высокім малочна-блакітным небе плылі бялявыя аблачынкі. Яны то запавольвалі свой бег, то быццам намагаліся дагнаць адна другую, каб злучыцца ў хмару і праліцца дажджом на засмяглую траву, на спакутаваную гарачынёй лістоту.

IV. «Зусім як нашы харугвы[л], — падумаў вялікі князь Вітаўт, — што з усяго Літоўскага княства, з усяе Польшчы сабраліся ў адзінае войска. Быццам тыя аблачыны — у хмару. На чыім жа баку будзе вецер перамогі?»

V. Нямецкае войска павольна спускалася з узвышшаў. Вось яно прамінула Грунвальд і спынілася пасярод даліны. У поўным баявым парадку. Крыжаносцы бачылі ў даліне толькі некалькі варожых харугваў. Ім не было вядома, якія сілы крыюцца ў сховах лесу. Перакананы ў непераможнасці рыцарскага войска, вялікі магістр Ульрых паслаў рашучы выклік.

VI. Неўзабаве загучалі баявыя трубы. Першымі прынялі на сябе націск крыжакоў вялікалітоўскія ваяры. Саступаючы нямецкім рыцарам узбраеннем, яны ніколечкі не саступалі ім у смеласці і сіле. Дарма што ліцвіны, як звалі тады сябе беларусы, і жмудзіны-летувісы былі ў большасці ў звярыных шкурах, з лёгкімі мячамі ў руках. Яны з месца пусціліся наўскач на сваіх нізкарослых, але вёрткіх коніках. Насустрач цяжкаўзброеным, закутым у латы рыцарам. Чатырнаццаць крыжацкіх харугваў на рослых конях кінуў Ульрых супраць вялікалітоўскага войска. Іскры сыпаліся з мячоў і шчытоў. Ламаліся коп'і. Падалі людзі пад капыты коней. Бой ішоў не на жыццё, а на смерць. Доўга ніводзін з бакоў не меў перавагі. Але радзела Вітаўтава войска, усё меней заставалася ваяроў. І загадаў вялікі князь аслабелым харугвам з боем адыходзіць да ўзлеску, адцягваючы за сабой сілы крыжакоў.

VII. І вось тут кідае на поле бою свае галоўныя сілы польскі кароль Ягайла. Віхура смерці забушавала з новай сілай. Шалі шчасця вагаліся бесперапынна. Крыжацкія харугвы, якія цяснілі ліцвінаў і жмудзінаў да лесу, ужо радаваліся перамозе. Вярнуўшыся ад лесу ў даліну, убачылі,

што тут бой у самым разгары, і ўрэзаліся ў фланг польскага войска.

VIII. І тут на дапамогу польскаму каралю прыйшло нечаканае падмацаванне: гэта князь Вітаўт, сабраўшы ў кулак свае харугвы, зноў павёў іх у бой. Крыжакі не вытрымалі, пачалі адыходзіць. А неўзабаве і проста пабеглі з поля бою, ратуючыся ад пагібелі і палону.

IX. О колькі палегла ў той дзень і з таго і з другога боку! Больш як палова ваяроў, прыведзеных Вітаўтам, не вярнулася дамоў з-пад Грунвальда. Яшчэ больш загінула крыжакоў. Знайшоў тут сваю смерць і вялікі магістр Ульрых.

X. Ніхто не заўважыў, як і калі бялявыя аблачынкі згрувасціліся ў цёмна-сінюю хмару, што спынілася раптам над полем бою. Першыя кроплі дажджу пачалі змываць пыл і кроў з пасечаных шаломаў, з працятых жалезам шчытоў і латаў, з рук і твараў мёртвых і жывых. Адных яны ашчадна абмывалі перад пахаваннем, другім давалі палёгку і надзею. Засмяглая трава і спакутаванае лісце прагна пацягнуліся насустрач жыццядайнай вільгаці.

XI. Шмат гадоў прамінула з таго часу. Але слава продкаў не згасла. Слава продкаў жыве!

*Паводле А. Вольскага.*

● Правядзіце каменціраванае чытанне тэксту па ланцужку: растлумачце найбольш складаныя (на ваш погляд) арфаграмы і пунктаграмы па тэме «Знакі прыпынку ў простым ускладненым сказе».

● Пісьмова перакажыце тэкст, захоўваючы стыль аўтара, каб атрымалася яскравае апісанне гістарычнай падзеі (дадаткова гл. уклейку ў вучэбным дапаможніку: М. Басалыга «Грунвальдская бітва. 1410»).

**374.** Прачытайце тэкст. Падбярыце да яго загалоўкі, якія б адлюстроўвалі: а) тэму тэксту; б) асноўную думку. Адзін загаловак запішыце. Вызначце тып і стыль тэксту, сваю думку абгрунтуйце.

На Грунвальдскае поле ў свой час я трапіў позняй восенню. Турысцкі сезон скончыўся, нішто не замінала спакойна агледзецца засяродзіцца. Было даволі золка, на гары, дзе месціцца мемарыял, дзьмулі вятры ганяючы хмары па

небе. Мажліва якраз гэты несупынны рух цёмных хмар і даваў адчуванне надчасавасці далучанасці да вялікай падзеі мінуўшчыны. Само поле бітвы. Курганы Ягайлы і Вітаўта, адкуль яны кіравалі сваімі шыхтамі[л].

Пад Дуброўна — такая славянская назва Грунвальда — зніклі слава і магутнасць Тэўтонскага ордэна, самага небяспечнага ворага славян на працягу двух стагоддзяў. Біліся з крыжакамі аб'яднаныя войскі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. З 91 харугвы 40 было з беларускага боку. Вёў іх у бой слаўны Вітаўт. У паветры гучаў баявы кліч вояў Вялікага Княства Літоўскага — «Вільня!». Нашы продкі фактычна вырашылі і канец бітвы, калі пасля ўдалых манеўраў нанеслі апошні ўдар. Варта памятаць слаўную дату — 15 ліпеня 1410 года. Грунвальдская бітва, адна з найвялікшых бітваў еўрапейскага сярэднявечча, — самая важная падзея ў нашай гісторыі з далёкага XV стагоддзя. Вялікую дапамогу ў перамозе аказалі смаленцы і татарская конніца *(У. Мароз)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў простых ускладненых сказах другога абзаца.

● Запішыце першы абзац тэксту, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку.

● Якім вам уяўляецца мемарыял на Грунвальдскім полі? Вусна апішыце яго.

**375.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку.

### АРХІТЭКТУРНЫЯ ПОМНІКІ БЕЛАРУСІ

Архітэктура — мастацтва, але мастацтва незвычайнае. Яе мова не мае слоў, але ў перадачы духоўных эмоцый яна дасягае такіх вышыняў, як ніводнае іншае мастацтва.

Вялікі пісьменнік і філосаф Ёган Вольфганг Гётэ сказаў: «Архітэктура — застылая музыка». **У гэтых словах адлюстраваны ўзвышаныя эстэтычныя эмоцыі, выкліканыя ў нас творам дойлідства.**

Так, помнікі архітэктуры — гэта ўзоры майстэрства нашых продкаў.

Ёсць яшчэ адно вядомае вызначэнне архітэктуры як мураванага летапісу гісторыі. У ёй адлюстраваны прыродна-

кліматычныя асаблівасці кожнага рэгіёна, узровень навукова-тэхнічнага прагрэсу на пэўным этапе, мастацкія пошукі і традыцыі. **Усё роўна ў чым — у камені ці цэгле, у дрэве ці метале, у шкле ці бетоне — дойлідства заўсёды дакладна ўвасабляе сваю эпоху. Помнікі дойлідства з'яўляюцца, па сутнасці, захавальнікамі часу, канцэнтрацыяй духоўнасці народа, накіраванай з мінулага ў будучыню.**

Твор архітэктуры, у адрозненне ад твораў іншых відаў мастацтва, непарыўна звязаны з зямлёю, на якой ён узведзены. Архітэктура замацоўвае гісторыю кожнага народа на яго зямлі, з'яўляецца найважнейшым нацыянальным набыткам *(Паводле Н. Снагоўскай)*.

● Запішыце выдзеленыя сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх. Якая моўная з'ява ў іх найбольш часта паўтараецца? З якой мэтай?

**376.** Перакладзіце тэкст з рускай мовы на беларускую. Падкрэсліце ў ім лексічныя і граматычныя сродкі сувязі паміж часткамі тэксту. Лексічныя сродкі пазначце літарай **л**, а граматычныя — літарай **г**.

***азбе́ст***
***варсяны́***

ПАМЯТНИКИ АРХИТЕКТУРЫ БЕЛАРУСИ

Культура народа... Это сокровищница духовных его ценностей, из которых высочайший карат принадлежит языку. Но наряду с языком излучает свою исключительную красоту зодчество, истоки которого уходят в глубину столетий.

Если бы можно было взглянуть с заоблачных высот на родную землю, то лучшее от каждого памятника слилось бы в одну зарницу. К сожалению, остаётся только гадать, насколько были бы ярче рассвет и день нашей культуры, если бы уцелели до сегодняшних дней все памятники зодчества Беларуси.

Путешествия по стране, и прежде всего встречи с «музыкой в камне», не оставляли меня в покое.

Можно ли пройти мимо Сынковичского храма и не отозваться на его таинственную прелесть или разве можно найти

языковые и изобразительные средства, чтобы воспеть его величественную красоту?..

Серия «Памятники зодчества Беларуси» — мой скромный вклад в прославление дела белорусских зодчих.

Всё наше зодчество спаяно связями с европейской архитектурой, но по-своему переосмысленной и поэтому не менее ценной.

Каменецкая башня и Коложская церковь в Гродно, Спасо-Евфросиньевская церковь в Полоцке — свидетели нашей славной истории со времён Киевской Руси. Их не пощадило время, но они стоят, и будем надеяться, что их удастся сохранить на долгие века.

Как не остановиться перед образцами белорусской готики и не восславить их, если дорога привела тебя к стенам башен Мирского замка или ко входу в костёл в Ишкольди.

Черты ренессанса* в башне замка в Любче, в Спасо-Преображенской церкви в Заславле или в замковой башне в Несвиже восхищают чистотой формы и решением обьёмов.

А на какой высокой ноте наши зодчие пропели свои барочные песни! Достаточно один раз взглянуть на Софию в Полоцке, францисканские* костёлы в Гродно и Пинске или на иезуитский* костёл в Несвиже, чтобы понять, что это великое искусство, которое обогащает души людей.

Сокровищница нашего зодчества заставляет двигаться дальше, остановиться уже невозможно, и, видимо, так суждено мне на всю жизнь слиться в своём творчестве с этой красотой *(По В. Басалыге)*.

● Ці супадаюць вашы погляды на архітэктурныя помнікі з поглядамі аўтара?

**377.** Правядзіце каменціраванае чытанне тэксту: растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў першым і другім абзацах.

У старым Полацку шчыравала на ніве асветніцтва Ефрасіння Полацкая, унучка легендарнага Усяслава Чарадзея. Яна не пакінула нам уласных твораў, але справамі была не менш слаўная. Ефрасіння дзяўчом (свецкае імя яе было Прадслава) пастрыглася ў манахіні і ўсё жыццё аддала

служэнню Богу, людзям і краю. Яна сама перапісвала кнігі ў келлі Сафійскага сабора. Кідала зерне асветы, якое з часам дало ўраджай. Вялікая палачанка заснавала два жаночыя манастыры, а пры іх — школы. Спаскі існуе ў Полацку і сёння. А ў манастыры гэтым белаю свечкаю ўзнёсся Спаса-Праабражэнскі храм, падобнага якому не было яшчэ ні ў Полацкай зямлі, ні ва ўсёй старажытнай Русі. Пабудаваў яго на замову Ефрасінні дойлід Іаан.

Спаса-Ефрасіннеўская царква амаль у першапачатковым выглядзе (у XIX стагоддзі толькі перабудаваны дах) захавалася да нашых дзён. Уваходзіш у сярэдзіну — і быццам трапляеш у тыя далёкія часы. Чатыры масіўныя, але стромкія калоны ў цэнтры трымаюць барабан купала. На іх гранях, а таксама на сценках — унікальныя фрэскі. Мяркуюць, што на адной з фрэсак выяўлены лік самой Ефрасінні. За ўваходам направа — вузкая цёмная лесвіца, што вядзе, як у іншасвет, на хоры і да келлі-галубніцы*. Тут найпадобнейшая аддавалася духоўнай працы. Толькі адзінае вузкае акенца злучала яе з навакольным светам. Магчыма, малілася яна на абраз Эфескай Маці Божай, напісаны, паводле падання, евангелістам Лукой. Гэты абраз прыслалі ў Полацк па яе просьбе візантыйскі імператар і патрыярх.

З імем Ефрасінні звязана і найгалоўнейшая святыня зямлі беларускай — напрастольны Крыж. Створаны ён быў полацкім ювелірам Лазарам Богшам з найвялікшым майстэрствам. Але каштоўнасць Крыжа найперш не мастацкая, хоць гэта непаўторны шэдэўр, а духоўная, бо ў ім знаходзіліся хрысціянскія рэліквіі: кроплі крыві Ісуса Хрыста, кавалачак Крыжа Гасподняга, каменьчыкі ад дамавіны* Багародзіцы... Няпросты лёс святыні праз вякі — знік з Беларусі канчаткова Крыж у апошнюю вайну.

На схіле свайго жыцця Ефрасіння зрабіла паломніцтва на Святую Зямлю, дзе і скончыўся яе зямны шлях. Першая сярод жанчын далучана яна была да ліку святых. І сёння нябесная апякунка з тымі, хто кладзе свае сілы на адраджэнне Бацькаўшчыны *(У. Мароз)*.

● Колькі частак мае тэкст? Якія тыпы тэкстаў яны сабой уяўляюць? Падбярыце да іх загалоўкі.

● Падрыхтуйцеся да творчага выбарачнага пераказу па варыянтах:
*Варыянт 1.* Асветніца Ефрасіння Полацкая.
*Варыянт 2.* Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку.
*Варыянт 3.* Напрастольны Крыж Ефрасінні Полацкай.

● Хто такі Лазар Богша? Чаму яго імя звязана з дзейнасцю Ефрасінні Полацкай і Спаса-Ефрасіннеўскай царквой?

● Зрабіце вуснае паведамленне на тэму «Нябесная заступніца Беларусі».

● Дапоўніце свае тэксты ўражаннямі ад разгляду адпаведных ілюстрацый, змешчаных у вучэбным дапаможніку (С. Лагуновіч-Чарапко. «Ефрасіння Полацкая»; Я. Кулік. Трыпціх «Ефрасіння Полацкая»; У. Васюк. «Ефрасіння Полацкая»).

**дождж** [шч]
**дрозд** [ст]
**едзь** [ц’]

**378.** Разгледзьце схему.




● Якія члены сказа могуць адасабляцца?
● На якія віды падзяляюцца адасобленыя азначэнні?
● Чым выражаюцца адасобленыя члены сказа?

**379.** Знайдзіце сказы, якія ілюструюць кожны від адасаблення, прадстаўлены ў схеме з практыкавання 378.

1. Узыходзіла, прабіваючыся праз імглу, сонца *(Я. Сіпакоў)*. 2. У багатым палацы, абкружаным мноствам лёкаяў і лісліўцаў, жыве Сын Шчасця[сн] *(Я. Баршчэўскі)*. 3. Я — Сын бацькоў, гнаных Бураю і Неспакоем[сн] *(Я. Баршчэўскі)*. 4. Сонная, яна хістанулася на нагах і шпарка пайшла ў хату *(К. Чорны)*. 5. На станцыю павёз Архіпа той жа сват, сівы дзед Яхім *(М. Гарэцкі)*. 6. Прабег прамень, ад сонца ясны веснік, і абвясціў людзям: вясна ідзе! *(Я. Пушча)*. 7. Летам, асабліва ў ліпені і ў жніўні, двор пусцеў, зарастаў травою *(М. Калачынскі)*. 8. Над кубкам возера, глыбокім і шкляным, у тонкай просіні між кросен багавіння*, лілеі плакалі ў хвалях сініх...[сн] *(П. Трус)*.

## Сінтаксічны разбор сказа з адасобленымі членамі

### *Пісьмовы разбор*

*Над горадам, прыбраная ў зоры, апускаецца ноч* (Э. Самуйлёнак).

### *Вусны разбор*

Сказ просты, двухсастаўны, развіты, ускладнены адасобленым азначэннем, поўны.

(Ш т о?) *ноч* — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме Н. скл., адз. л.;

*ноч* (ш т о  р о б і ц ь?) *апускаецца* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны дзеясловам у форме абв. ладу, цяп. ч., 3-й ас., адз. л.;

*ноч* (я к а я?) *прыбраная ў зоры* — адасобленае азначэнне, выражана дзеепрыметнікавым зваротам;

*апускаецца* (д з е?) *над горадам* — акалічнасць месца, выражана назоўнікам у спалучэнні з прыназоўнікам *над* у форме Т. скл., адз. л.

Адасобленае азначэнне стаіць у сярэдзіне сказа і аддзелена ад паяснёнага словам выказнікам, таму з двух бакоў выдзяляецца коскамі.

Сказ апавядальны, няклічны.

## Праверце сябе

1. Што называецца адасабленнем?
2. Якія члены сказа могуць адасабляцца?
3. Як інтануюцца адасобленыя члены сказа?
4. Якія знакі прыпынку ўжываюцца для выдзялення адасобленых членаў сказа на пісьме?
5. Якую сінтаксічную ролю пры адасобленых прыдатках могуць выконваць канструкцыі са злучнікам ***як***? Ці заўсёды яны выдзяляюцца коскамі?
6. Для чаго служаць удакладняльныя члены сказа?

## СКАЗЫ З ПАРАЎНАЛЬНЫМІ ЗВАРОТАМІ

### § 52. Параўнальны зварот



**380.** Прачытайце ўрывак з паэмы Я. Купалы «Бандароўна».

У слаўным месце
Берастэчку —
Слаўны Бандарэнка,
Ў яго дочка —
Бандароўна,
Пашукаць — паненка.

<...>

Як маліны, яе губкі,
А твар, як лілея,
Як дзве зоркі, яе вочы,
Гляне — свет яснее.
З плеч сплываюць яе косы,
Як бы сонца косы,
І іскрацца, як на сонцы,
Брыльянцісты росы.
Рост высокі, стан павабны,
Ўся, як цень, павеўна,
Як ідзе яна, бывала, —
Набок каралеўна!
А сягоння ж выглядае
Лепей, як заўсёды, —
У карчомцы з казакамі
Цешыцца з свабоды.
У гульні сама рэй водзіць,
Весела міргае,
Задзіўляе ўсіх чыста,
Як зара якая.

● Які вобразна-выяўленчы сродак, выкарыстаны аўтарам, дазволіў вам убачыць прыгажосць Бандароўны?

● Успомніце з урокаў беларускай літаратуры, што вы ведаеце пра параўнанне.



**Параўнанне** — гэта супастаўленне прадметаў і з’яў па якіх-небудзь агульных рысах.

У параўнанні звычайна выдзяляюць тры элементы:

1) тое, што параўноўваецца, п р а д м е т;

2) тое, з чым нешта параўноўваецца, в о б р а з;

3) тое, па падабенстве чаго адно параўноўваецца з іншым, п р ы м е т а.

**381.** Прачытайце радкі з верша А. Ставера. Назавіце параўнанні і іх элементы.

Мы радуемся слову,
Адкрытаму ў народных сховах,
Незацяганаму,
Крамянаму,
Як раніцай трава, непатаптанаму,
Як жарабок, брыкліваму,
Як ястрабок, узлётнаму,
Яшчэ і не крыкліваму,
Яшчэ і не грымотнаму,
Не знаўшаму авацый,
Ні мору,
Ні інфляцый,
Як дар,
Як памятка вякоў,
Яно не хоча быць прыспаным,
Забытым скарбам,
Закапаным.



Моўныя сродкі параўнанняў неаднародныя. Сярод іх адрозніваюць лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя.



**382.** Спішыце, падкрэсліце параўнанні і вызначце, чым яны выражаны.

1. Па камянях, бы тая змейка, вілася шумная Вілейка... 2. Па-над парканам пышным валам стаяў вішняк густы, прыўдалы. 3. Кажух на лаву дзед скідае і бубен-рэшата хватае. 4. Не хатка — проста катушок, няма дзе нават павярнуцца, як у сабачай цеснай будцы. 5. Кабеты тварамі самкнуліcь і так прыемна ўсміхнулісь, як бы злучыліся дзве рэчкі, гарохам сыплюцца славечкі *(Я. Колас)*.

**не** ся́ду [н'а]
**без** пе́сні [б'ас']

**383.** У беларускай мове ёсць шмат фразеалагічных параўнанняў. Напрыклад, *як Піліп з канапель; як у полі вецер; як уюн на гарачай патэльні* і інш.

Прадоўжыце спіс прыкладаў фразеалагічных параўнанняў.

Складзіце невялікі тэкст з адным з фразеалагічных зваротаў.



Параўнальнымі зваротамі не лічацца фразеалагізмы, якія ў сказах выконваюць функцыю акалічнасці: *Усё відаць* ***як на далоні*** (М. Лынькоў). — *Як на далоні* 'вельмі добра', а таксама словы са злучнікам **як**, што ўваходзяць у састаў выказніка: *У гэтыя хвіліны яна для яго* ***як маці*** (І. Навуменка).

**384.** Прачытайце, знайдзіце ўстойлівыя выразы (фразеалагізмы), графічна абазначце іх як члены сказа.

1. Трэба яна мне як леташні снег *(І. Мележ)*. 2. Людзі жылі як гарох пры дарозе, людзі жылі ў штодзённай[а] трывозе *(У. Дубоўка)*. 3. Каня апанавалі мухі і авадні, і ён, бедны, бараніўся ад заедзі як толькі мог *(Б. Сачанка)*. 4. Не ўправіўся[с] скончыць думку — перад ім як з зямлі вырас механік іх карабля *(У. Дамашэвіч)*. 5. Далібор як язык праглынуў *(Л. Дайнека)*.

● Падбярыце да фразеалагізма з першага сказа сінанімічныя фразеалагізмы.

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *як дзірка ў мосце; як зайцу стоп-сігнал; як пятае кола ў возе; як рыбе парасон; як у полі вецер; як пугай па вадзе; як тры грошы даў; як сабаку пятая нага.*



**Сінтаксічнымі сродкамі рэалізацыі** параўнання з'яўляюцца выказнікі з адценнем параўнання, прыдаткі, параўнальныя звароты.

**385.** Спішыце, падкрэсліце галоўныя члены сказа, вызначце іх марфалагічнае выражэнне.

1. Жытняя рунь нібы цёмна-зялёны[а] аксаміт *(Т. Хадкевіч)*. 2. Аблокі нібы воўна *(Я. Янішчыц)*. 3. Возера[а] як люстэрка *(І. Навуменка)*. 4. Снег што вата *(А. Жук)*. 5. У такую пару дрэвы што ружовыя[м] воблакі *(Я. Брыль)*. 6. Неба — як разведзенае чарніла *(В. Карамазаў)*. 7. Лебедзь[м] што цар на сінім плёсе *(У. Караткевіч)*. 8. Ноч нібы казка *(І. Навуменка)*.

● Якую функцыю выконваюць злучнікі ў сказе? Як зменіцца сэнс выказванняў, калі ў сказах апусціць злучнікі?



Перад выказнікам-параўнаннем коска не ставіцца; пры сэнсавым і інтанацыйным выдзяленні зрэдку дапускаецца пастаноўка працяжніка: *Хмары — быццам кусты беласнежных руж* (У. Караткевіч). *Дзяўчына — бы ягадка тая* (М. Танк).

Вобразныя выказнікі-параўнанні часта можна замяніць прыдаткам: *Сляза як горкі палын* і *сляза-**палын***.

Сказам, у якім ёсць выказнік з адценнем параўнання, можа пачынацца тэкст.

**386.** Складзіце і запішыце сказы, замяніўшы прыдаткі выказнікамі-параўнаннямі.

Узор. *Валасы-кужаль — Валасы ў маёй сяброўкі быццам белы кужаль.*

Палотны-туманы, неба-акіян, месячык-сярпок, іней-срэбра.

**387.** Разгарніце адзін з наступных сказаў у тэкст публіцыстычнага стылю.

Наш двор як кветнік. Наш школьны двор як стадыён.

**Параўнальнымі зваротамі** называюцца словы ці словазлучэнні, якія ўказваюць на падабенства адных прадметаў ці з'яў да другіх (шляхам параўнання) і ўводзяцца ў сказ пры дапамозе злучнікаў ***як, што, быццам, нібы (бы), нібыта, як бы, як быццам, чым***: *Дзяўчаты, **нібы русалкі**, карагоды водзяць* (П. Панчанка). *Сняжком, **як пухам лебядзіным**, дарогі злёгку занясло* (А. Бялевіч).



Асабліва выразна характар параўнання праяўляецца тады, калі параўнальныя звароты адносяцца да ўказальных слоў *так, такі, такая*: ***Як у аратага плуг, у жняі серп**, так у пісьменніка слова* (Б. Сачанка). *Такая, **як Алёнка**, нідзе не прападзе* (Р. Сабаленка).

Параўнальныя звароты могуць быць н е р а з в і т ы м і: *Квяцістыя зоры, **бы дыяменты**, усыпаюць усё неба* (Я. Колас) і р а з в і т ы м і: *Тут сыр, **як першы снег**, бялюткі* (Я. Колас).

У сказе параўнальныя звароты могуць паясняць і ўдакладняць любы член сказа — галоўны або даданы. Так, у сказе ***Як чорны парасон**, вісела цемра над зямлёй* параўнальны зварот паясняе дзейнік (гэта значыць цемра падобная на чорны парасон), а ў сказе *На пажоўклай траве ліст кляновы ляжыць, чырвоны, **як гусіная лапка*** — азначэнне (такі чырвоны, як гусіная лапка). Найбольш пашыраныя ў маўленні параўнальныя звароты, якія паясняюць дзеяслоў-выказнік і сваёй функцыяй нагадваюць акалічнасць (часцей — спосабу дзеяння): *Ачнецца лес, звіняць прагалы, **як мнагаструнныя цымбалы*** (звіняць я к? — *як мнагаструнныя цымбалы*).

З а ў в а г а. Параўнальныя звароты неабходна адрозніваць ад даданых параўнальных няпоўных частак складаназалежнага сказа, у якіх няма выказніка, але ёсць даданыя члены сказа з саставу выказніка. Так, у сказе *Стаяла яблыня ля вёскі, **як падарожнік між дарог*** у даданай частцы выказнік адсутнічае, але ёсць даданы член сказа з саставу выказніка — акалічнасць месца *між дарог*. У склад параўнальнага звароту

выказнік не ўваходзіць і, адпаведна, дадзеныя члены сказа з саставу выказніка ў ім адсутнічаюць: *Лісцікі на дрэвах, абсыпаныя расой, ззялі,* ***быццам зялёныя шкельцы*** (В. Хомчанка).

У вусным маўленні параўнальныя звароты выдзяляюцца паўзамі і чытаюцца, калі стаяць у пачатку і сярэдзіне сказа, больш павышаным тонам, а ў канцы сказа — паніжаным тонам. Параўн.:

*Быццам змейка, // уецца сцежка ў лесе* (А. Астрэйка).

*Уецца, // быццам змейка, // сцежка ў лесе.*

*Уецца сцежка ў лесе, // быццам змейка.*

**388.** Прачытайце, знайдзіце параўнальныя звароты і ахарактарызуйце іх па схеме:

а) пры дапамозе якога злучніка ўведзены ў сказ;
б) месца размяшчэння ў сказе;
в) развіты ці неразвіты;
г) які член сказа паясняе ці ўдакладняе.

***ка́фля***
***кафля́ны***

1. Вісела ноч, чорная, як пераараная зямля. 2. Не баючыся, ля самых ног хадзілі чорныя, бліскучыя, як аблізаныя, шпакі. 3. Цененька*, як іголкай, калола холадам у шчаку... 4. Хлопцы пасля крыху пасмялелі і ўлеглі на парэчкі, што куры. 5. Даг-даг-даг... — ляскоча ззаду на ямах кулямёт, што малатарня. 6. Гудзелі самалёты цяжка, суха. Яны паварочвалі ўлева, задзіралі ўгару крыло і падалі, як лянівыя каршуны *(І. Пташнікаў)*.

**389.** Прачытайце. Назавіце сказы: а) з параўнальнымі зваротамі; б) з дадзенымі параўнальнымі часткамі. Адказ абгрунтуйце.

1. Дзясяткі тонкіх, як сонечныя промні, струменьчыкаў ускідвалі пад сонца залатыя пясчынкі, падалі разам з імі на бліскучыя, нібы адпаліраваныя, каменьчыкі *(К. Кірэенка)*. 2. Пацешныя, як важаняты, дзве маленькія кабеты ў шэрых

шубках тэпалі побач з высозным бацькам *(Я. Брыль)*. 3. Самота выльецца слязамі, як хмара цёмная — дажджом *(Е. Лось)*. 4. Вунь, нібы маланка з хмары, мядзведзь мільгануў, як прывід у кашмары, вялізны, гнедай масці, кіжлаваты і дужы: тулава яго ў два абхваты *(А. Міцкевіч)*.

## § 53. Знакі прыпынку пры параўнальных зваротах



На пісьме параўнальныя звароты звычайна выдзяляюцца коскамі незалежна ад іх месца ў сказе: ***Як і брат****, я любіў футбол* (У. Караткевіч). *Лыжаў след,* ***як дзве струны****, пралёг праз перавал* (М. Танк). *Дні стаяць цёплыя, сонечныя,* ***як летам*** (І. Навуменка).

Коска ставіцца перад злучнікам ***як*** у спалучэннях *не хто іншы, як; не што іншае, як*: ***Не хто іншы, як*** *маці, так табе не параіць* (Я. Брыль). *На гарызонце віднееціца* ***не што іншае, як*** *горы* (Т. Хадкевіч).

Параўнальныя звароты н е  в ы д з я л я ю ц ц а  к о с к а м і:

1) калі яны ўваходзяць у склад выказніка: *Галіны як крыжы* (Я. Купала);

2) калі ўжыты ў форме фразеалагізма са злучнікам ***як***: *біцца як рыба аб лёд, як гром з яснага неба, як у ваду глядзеў* і інш.: *Учора павіншаваў* ***як тры грошы даў*** (К. Крапіва). *Дождж ліў* ***як з вядра...*** (Б. Сачанка);

3) калі зварот са злучнікам ***як*** мае значэнне ‘ў якасці’: *У мястэчку бацька быў вядомы* ***як выключны ювелірны майстар*** (бацька і быў ювелірным майстрам).

**390.** Спішыце, расстаўляючы, дзе трэба, коскі. Падкрэсліце злучнікі, якімі параўнальныя звароты звязваюцца са словамі ў сказе.

1. Да Якуба Коласа як і да яго вялікага друга і паплечніка[сл] Янкі Купалы можна аднесці словы, сказаныя[с] А. М. Горкім пра Пушкіна: «Ён у нас — пачатак усіх пачаткаў»[п] *(М. Лужанін)*. 2. Дзяўчынка была як водбліск сонейка на роснай траве[сн] *(М. Маляўка)*. 3. Спелая гронка рабіны нібы

раскошная кветка заглядвала ў акно[сн] *(У. Караткевіч)*. 4. Цыбулька гаварыў як найлепшы[м] прамоўца[м] *(М. Гарэцкі)*. 5. Твар Аўгінні расчырванеў[а] як **макаў цвет** *(Я. Колас)*. 6. На нізкай і роўнай як стол мясціне рачулка часцей[ф] **пятляе між кустоў** алешніку *(В. Гігевіч)*. 7. І толькі над пожняй **кугікае** кнігаўка як **заўсёды** жалобна[м] *(В. Гігевіч)*.

● Зрабіце сінтаксічны разбор выдзеленых словазлучэнняў.

***ла́скавы*** і ***ласка́вы***
***лі́тасцівы*** і ***літасці́вы***



Параўнальныя звароты як вобразныя сродкі шырока выкарыстоўваюцца ў мастацкай літаратуры. Яны больш выразна, экспрэсіўна адцяняюць пэўныя прыметы, якасці, уласцівасці, дзеянні шляхам непасрэднага супастаўлення з іншымі прадметамі, вобразамі, дзеяннямі.

**391.** Прачытайце тэкст. Назавіце параўнальныя звароты, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры іх і вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю ў тэксце.

У Палюшыным гародзе было поўна вады, і ў ёй мітусіўся вялікі жоўты адбітак месяца: то дрыжаў, то падскокваў, як на хвалях, то збіраўся ў гармонік, а тады расцягваўся ў палоску. Завішнюк угледзеў, што за свірнамі* выстраіліся ў два рады калёсы-разводы. На белых, як срэбра, вышараваных аб пясок шынах дрыжаў халодны, як зімовы, бляск месяца *(І. Пташнікаў)*.

● Якія вобразныя сродкі, апрача параўнальных зваротаў, дапамагаюць перадаць апісанне месячнай ночы?

нясві́**жскі** [ск’]
до́бру**жскі** [ск’]
францу́**зскі** [ск’]

**392.** Прачытайце. Удасканальце тэкст, уключыўшы параўнанні. Запішыце тэкст, расстаўляючы знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

Алесь напэўна паспеў бы лепей[с] разгледзець усё, але тут здалёк[сл] пачуўся тупат капытоў. Потым з вузкага жарала

цёмнай алеі вырваўся ... коннік[а] на белым кані і наўскапыта[*] памчаўся да іх.

Асадзіў каня ля самага кабрыялета[а] так рэзка, што конь ... у зямлю. Алесь убачыў касы́, нервовы[а] зрак каня яго раздзьмутыя[а] ноздры. Здзіўлены амаль спалоханы гэтым нечаканым з'яўленнем не разумеючы[а] яшчэ, што да чаго, ён баяўся ўзняць вочы і таму бачыў толькі белую скуру сядла і белы гарнітур для верхавой язды. Потым нясмела спадылба кінуў позірк вышэй і ўгледзеў вельмі загарэлы ... твар усмешку, што адкрывала роўныя белыя ... зубы; белакурыя хвалістыя вусы і грыву валасоў і галоўнае смяшлівыя васільковыя[м] вочы з нейкім нетутэйшым доўгім міндалевідным[сл] разрэзам тонкіх павек *(Паводле У. Караткевіча)*.

Словы для даведкі: *як ядро з гарматы; як быццам урос усімі капытамі; амаль шакаладны; як снег.*

● Якую сэнсавую і стылістычную нагрузку выконваюць параўнанні ў тэксце?

**393.** У кнізе, якую вы цяпер чытаеце, знайдзіце 5—6 сказаў з такімі параўнальнымі зваротамі, якія вам падаюцца незвычайнымі, цікавымі, арыгінальнымі. Сказы запішыце.

**394.** Напішыце сачыненне-мініяцюру на тэму, якая вас хвалюе, ужыўшы параўнанні.

## Сінтаксічны разбор сказа з параўнальным зваротам

### *Пісьмовы разбор*

*Хмары чорныя, як смуга, засланілі сонца* (М. Хведаровіч).

### *Вусны разбор*

Сказ просты, двухсастаўны, развіты, ускладнены параўнальным зваротам, поўны.

(Ш т о?) *хмары* — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме Н. скл., мн. л.;

*хмары* (ш т о з р а б і л і?) *засланілі* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны дзеясловам у форме абв. л., пр. ч., мн. л.;

*хмары* (я к і я?) *чорныя* — дапасаванае азначэнне, выражана прыметнікам у форме Н. скл., мн. л.;

*чорныя* (у я к о й м е р ы? у я к о й с т у п е н і?) *як смага* — акалічнасць меры (ступені), выражана параўнальным зваротам;

*засланілі* (ш т о?) *сонца* — прамое дапаўненне, выражана назоўнікам у форме В. скл. без прыназоўніка.

Параўнальны зварот стаіць у сярэдзіне сказа, з двух бакоў выдзяляецца коскамі.

Сказ апавядальны, няклічны.

## Праверце сябе

1. Што называецца параўнаннем? З якіх элементаў яно складаецца?
2. Якія вы ведаеце сродкі параўнанняў?
3. Што такое параўнальны зварот?
4. Калі параўнальныя звароты не выдзяляюцца коскамі?

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД

**395.** Дапішыце сказы. Падбярыце адпаведныя прыклады з твораў мастацкай літаратуры.

У канцы сказа ставяцца наступныя знакі прыпынку: ...
1) Кропка ставіцца...;
2) ...;
3) ... .

**396.** Калі ў простым сказе ставіцца коска? Да кожнага выпадку падбярыце прыклады з мастацкай літаратуры ці прыдумайце свае і запішыце.

Коска ў простым сказе ставіцца ў наступных (асноўных) выпадках:

а) пры аднародных членах, не спалучаных злучнікамі: ...;
б) пры аднародных членах, спалучаных паўторнымі злучнікамі: ...;
в) пры адасобленых азначэннях, якія адносяцца да займенніка: ...;
г) пры адасобленых дапаўненнях: ...;
д) пры адасобленых акалічнасцях: ...;
е) пры пабочных канструкцыях: ...;
ж) пры зваротках: ... .

**397.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. Пракаменціруйце выдзеленыя арфаграмы і пастаноўку знакаў прыпынку.

МАБІЛКА-СВАВОЛЬНІЦА

Yes! Я набыла мабілку. Яе корпус зіхаціць на сонцы бы луска рыбіны якую толькі што злавілі. Свой прыгожы тэлефон**чык** я таксама лічы старанна выву**дз**іла, бо бац**ь**кі далі на яго грошы **ў** якасці ўзнагароджа**нн**я за тэсты.

Першыя дні я **па-дзіцячы** радавалася новай цаццы. Праўда і прыколаў звяза**н**ых з новым сябрам было дастаткова. То забудуся, што ляжыць у маёй кішэні, і **не** здымаю трубку, пакуль **не**хта не зробіць заўвагу: «Дзяўчына выключыце свой мабільны». А я стаю і наракаю ў думках на нечую «трашчотку». М**е**лодыі ў мяне трэба адзначыць **свое**асаблівыя — сябры ра**сс**тараліся: грукат у спалучэнні з рыка́ючым вакалам. Улічыце мой крыху рамантычны знешні выгл**яд**, і вы зразуме**еце**, чаму прахожыя мяняюцца ў твары падчас маіх званкоў. Пра адключэнне гук**у**, якое зараз раблю аўтаматычна, раней заўсёды забывалася, і прыходзілася сядзець гэткім бурачком апусціўшы вочкі долу.

Націсканне пімпач**а**к — што здавалася можа быць ля**г**чэй**,** але гэт**ая** залішн**яя** лёгкасць спрацавала супраць мяне. Толькі я забылася паставіць блакіроўку, і калі ласка — 100 **ада**сланых **без** майго ведама пустых эсэмэсак.

**Не** ведаю, як леглі кнігі **ў** маёй сумцы, што здол**е**лі столькі разоў націснуць ап**е**рацыю а**д**праўлення, але кошт гэтай за́баўкі навучыў мяне больш пільна сачыць за паводзінамі майго кішэ**нн**ага зв**я**рка. Як бачыце мабілка **не** такая ўжо і **бяс**крыўдная цацка *(А. Чумакова)*.

● Колькі сказаў з пабочнымі канструкцыямі ў гэтым тэксце? Назавіце правільны адказ.

**1.** 5; **2.** 9; **3.** 7; **4.** 4.

● Вызначце, якое са сцверджанняў аб сказе правільнае.

*Праўда і прыколаў звязаных з новым сябрам было дастаткова.*

1. Сказ складаны, яго часткі звязаны злучнікам ***і***, таму пасля слова *праўда* патрэбна паставіць коску.

2. Сказ просты, ускладнены пабочным словам *праўда*, якое выдзяляецца коскай, і азначэннем *звязаных з новым сябрам*, якое стаіць пасля паяснёнага слова *прыколаў* і таксама выдзяляецца коскамі.

3. Сказ просты, аднасастаўны, безасабовы, ускладнены толькі адасобленай акалічнасцю *звязаных з новым сябрам*.

● Вызначце, якія са сцверджанняў аб сказе няправільныя.

*Яе корпус зіхаціць на сонцы бы луска рыбіны...*

1. *Бы луска рыбіны* не патрэбна выдзяляць коскамі, таму што гэта частка выказніка.

2. *Бы луска рыбіны* — гэта параўнальны зварот, у якім на першы план выступае значэнне ‘ў якасці’, таму ён не адасабляецца.

3. *Бы луска рыбіны* патрэбна выдзеліць коскамі, таму што гэта параўнальны зварот.

● Вызначце правільнае сцверджанне.

Словы *мабілка, тэлефон, трашчотка, забаўка, звярок* у тэксце А. Чумаковай з'яўляюцца:

а) сінонімамі;
б) паронімамі;
в) антонімамі.

## Парадак сінтаксічнага разбору простага сказа

1. Вызначыць, што сказ просты, выдзеліўшы яго граматычную аснову.

2. Разабраць сказ па членах сказа (спачатку вызначаюцца дзейнік і выказнік, затым дададныя члены сказа, якія ўваходзяць у склад дзейніка, затым дададныя члены сказа, што ўваходзяць у склад выказніка). Вызначыць, чым выражаны члены сказа.

3. Расказаць пра будову сказа:
   а) двухсастаўны ці аднасастаўны; калі аднасастаўны — якога віду (пэўна-асабовы, няпэўна-асабовы, абагульнена-асабовы, безасабовы, назыўны);
   б) развіты ці неразвіты;
   в) поўны ці няпоўны (калі няпоўны, указаць, які член сказа апушчаны).

4. Калі сказ ускладнены, адзначыць гэта.

5. Назваць від сказа па мэце выказвання (апавядальны, пабуджальны, пытальны).

6. Назваць від сказа па эмацыянальнай афарбоўцы — па інтанацыі (клічны ці няклічны).

7. Растлумачыць пастаноўку знакаў прыпынку.

**398.** Прачытайце верш. Вызначце яго асноўную думку.

УРОК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Вымаўленне,
Як да нябёсаў маленне
Дубровы,
Адкрытае.
З адкрытай душой
Наш люд несуровы,
Мы злосць не трымаем
У прытаі.
У пашане кожная
Літара выбуховая,
Яна адразу
Ад абразы
Сябе ахоўвае.
Радасці цесна ў шыбах —
Выбух!
Вірам глуха ў глыбах —
Выбух!
Поўнагалоссе,
Як тое поўнакалоссе
На ніве веры.
Гаспадары, прымайце дары,
Застоліцы ў гонар міласці
Агалашайце,
Усіх запрашайце ў госці.
У нас шырокія дзверы!
Мы гакаем,
Як і прашчуры нашыя
хакалі,
Калі ляды* здрады
Бязлітасна карчавалі
І, небам зорным
акрыўшыся,
Начавалі.
Каб чужымі ўрокамі
Душу нашую не ўракалі,
Беларускія словы высокія
Звіняць
Недасяжнымі жаўрукамі.

*Р. Барадулін.*

● Выканайце сінтаксічны разбор простых сказаў.

## Спіс выкарыстанай літаратуры


1. *Агняцвет, Э.* Роднае слова : кн. для чытання ў 3-м кл. / Э. Агняцвет, Я. М. Івашуціч, А. П. Шышонак. Мінск : Народная асвета, 1971.

2. *Адамчык, В.* Раяль з адламаным вечкам : апавяданні / В. Адамчык. Мінск : Юнацтва, 1990.

3. *Адамчык, В.* Чужая бацькаўшчына : раман / В. Адамчык. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

4. *Александровіч, С. Х.* Далёкія зарніцы / С. Х. Александровіч. Мінск : Беларусь, 1967.

5. *Александровіч, С. Х.* Крыжавыя дарогі : аповесць пра Я. Коласа / С. Х. Александровіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1985.

6. *Арлоў, У.* Час чумы : гіст. аповесці, апавяданні / У. Арлоў. Мінск : Логвінаў, 2005.

7. *Асіпенка, А.* Збор твораў : у 3 т. / А. Асіпенка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1989—1990.

8. *Астрэйка, А.* Выбраныя творы : у 2 т. / А. Астрэйка. Мінск : Беларусь, 1970.

9. *Аўрамчык, М.* Выбраныя творы : у 2 т. / М. Аўрамчык. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.

10. *Багданава, Г. Б.* Чароўны абрус : для дашк. узросту / Г. Б. Багданава. Мінск : Юнацтва, 1999.

11. *Багдановіч, М.* Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. Мінск : Навука і тэхніка, 1992—1995.

12. *Бажко, А.* Выбраныя творы : паэмы, вершы / А. Бажко. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987.

13. *Базыленка, А. М.* Пабочныя і ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове / А. М. Базыленка. Мінск : Вышэйшая школа, 1964.

14. *Бандарына, З.* Ой, рана на Івана... аповесць аб дзіцячых і юнацкіх гадах Я. Купалы : для сярэд. шк. узросту / З. Бандарына. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979.

15. *Баравікова, Р.* Слухаю сэрца : вершы і паэмы / Р. Баравікова. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

16. *Барадулін, Р. І.* Выбраныя творы / Р. І. Барадулін. Мінск : Кнігазбор, 2008.

17. *Баранавых, С.* Новая дарога: апавяданні, аповесці, раман, лісты / С. Баранавых. Мінск : Мастацкая літаратура, 1989.

18. *Баршчэўскі, Я.* Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях / Я. Баршчэўскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1990.

19. *Басалыга, В.* Серия открыток «Памятники зодчества Белоруссии» (1977).
20. *Бачыла, А.* Збор твораў : у 3 т. / А. Бачыла. Мінск : Мастацкая літаратура, 1986—1987.
21. Беларуская граматыка : у 2 ч. / Акад. навук Беларус. ССР, Ін-т мовазнаўства; рэд. : М. В. Бірыла, П. П. Шуба. Мінск : Навука і тэхніка, 1985—1986.
22. *Бензярук, А. Р.* Свята для сэрца : невялікія гісторыі для юных беларусаў / А. Р. Бензярук. Мінск : Літаратура і мастацтва, 2009.
23. *Броўка, П.* Збор твораў : у 9 т. / П. Броўка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987—1992.
24. *Буйло, К.* Выбраныя творы : у 2 т. / К. Буйло. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.
25. *Бурак, Л. І.* Сучасная беларуская мова : Сінтаксіс. Пунктуацыя : вучэб. дапам. для філал. фак. ун-таў / Л. І. Бурак. Мінск : Універсітэцкае, 1987.
26. *Бураўкін, Г.* Выбранае, 1955—1995 : Вершы. Паэмы. Казкі. Песні / Г. Бураўкін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1998.
27. *Бураўкін, Г.* Жураўліная пара : вершы канца стагоддзя / Г. Бураўкін. Мінск : Беларус. кнігазбор, 2004.
28. *Бутэвіч, А.* У гасцях у вечнасці : для мал. і сярэд. шк. узросту / А. Бутэвіч. Мінск : Кавалер Паблішэрс, 2001.
29. *Быкаў, В.* Поўны збор твораў : у 14 т. / В. Быкаў; прадм. А. Пашкевіча. Мінск : Саюз беларус. пісьменнікаў; М. : Время, 2005—2014. Т. 9 : Кінасцэнарыі / рэдкал. : І. М. Быкава [і інш.]. 2012.
30. *Бяганская, Я.* Сонцу і ветру насустрач : аповесці і апавяданні / Я. Бяганская. Мінск : Юнацтва, 1988.
31. *Бядуля, З.* Збор твораў : у 5 т. / З. Бядуля. Мінск : Мастацкая літаратура, 1985—1989.
32. *Бялевіч, А.* Выбраныя творы : у 2 т. / А. Бялевіч. Мінск : Беларусь, 1968—1969.
33. *Ваданосаў, М.* Выбраныя творы : у 2 т. / М. Ваданосаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1983.
34. *Васілевіч, А.* Выбраныя творы : у 3 т. / А. Васілевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982—1983.
35. *Вітка, В.* Дзецям : выбр. творы : у 2 кн. / В. Вітка. Мінск : Юнацтва, 1986.
36. *Вольскі, А.* Адэльчыны ручнікі : аповесць, апавяданні, казкі, п’еса : для мал. шк. узросту / А. Вольскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 2002.
37. *Вялюгін, А.* Выбраныя творы : у 2 т. / А. Вялюгін. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984.
38. *Вярцінскі, А.* Святло зямное : выбр. вершы і паэмы / А. Вярцінскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.
39. *Галавач, П.* Збор твораў : у 3 т. / П. Галавач. Мінск : Дзярж. выд-ва Беларус. ССР, рэд. Мастацкая літаратура, 1958.
40. *Галубовіч, Л.* Апошнія вершы Леаніда Галубовіча / Л. Галу-

бовіч. Полацк : Полацкае ляда, 2000. 75 с. (Бібліятэка часопіса «Калоссе»; кн. 5).

41. *Гамолка, М.* Выбраныя творы : у 2 т. / М. Гамолка. Мінск : Юнацтва, 1982—1983.

42. *Гальпяровіч, Н.* Шляхі і вяртанні : кн. эсэ / Н. Гальпяровіч. Мінск : Часоп. «Маладосць», 2001. 64 с. (Бібліятэка часопіса «Маладосць»; вып. 4).

43. *Гардзей, В. К.* З мінулага не вяртаюцца : аповесці, апавяданні / В. К. Гардзей. Мінск : Мастацкая літаратура, 2013.

44. *Гартны, Ц.* Выбраныя творы / Ц. Гартны. Мінск : Беларус. навука, 2012.

45. *Гарун, А.* Сэрцам пачуты звон : паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка / А. Гарун. Мінск : Мастацкая літаратура, 1990.

46. *Гарэцкі, М.* Збор твораў: у 4 т. / М. Гарэцкі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984—1986.

47. *Геніюш, Л.* Выбраныя творы / Л. Геніюш. Мінск : Беларус. кнігазбор, 2000.

48. *Гігевіч, В.* Мелодыі забытых песень : аповесці, раман, апавяданне / В. Гігевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

49. *Гілевіч, Н.* Сон у бяссонніцу / Н. Гілевіч // Зб. тв. : у 23 т. Т. 6. Мінск, 2003.

50. *Глебка, П.* Збор твораў : у 4 т. / П. Глебка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984—1986.

51. *Головин, Б. Н.* Как говорить правильно : заметки о культуре русской речи / Б. Н. Головин. М. : Вышэйшая школа, 1988.

52. *Грамовіч, І.* Выбраныя творы : у 2 т. / І. Грамовіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1978.

53. *Грахоўскі, С.* Выбраныя творы / С. Грахоўскі. Мінск : Кнігазбор, 2007.

54. *Грачанікаў, А.* Выбранае : вершы і паэмы / А. Грачанікаў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

55. *Гурло, А.* Вершы / А. Гурло. Мінск : Мастацкая літаратура, 1972.

56. *Гурскі, І.* У вялікай дарозе : апавяданні / І. Гурскі. Мінск : Белдзяржвыд, 1958.

57. *Гусоўскі, М.* Песня пра зубра : на лацін., беларус., рус. мовах / М. Гусоўскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.

58. *Дайнека, Л.* Меч князя Вячкі : раман: для ст. шк. узросту / Л. Дайнека. Мінск : Юнацтва, 1987.

59. *Дайнека, Л.* След ваўкалака : раман / Л. Дайнека. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

60. *Далідовіч, Г.* Міг маладосці : апавяданні, аповесці / Г. Далідовіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987.

61. *Дамашэвіч, У.* Выбраныя творы : аповесці, апавяданні / У. Дамашэвіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1988.

62. *Дранько-Майсюк, Л.* Кніга для спадарыні Эл : проза, вершы, п’еса / Л. Дранько-Майсюк. Мінск : Кнігазбор, 2012. 198 с.

63. *Дранько-Майсюк, Л.* Тут : вершы, паэмы, эсэ / Л. Дранько-Майсюк. Мінск : Мастацкая літаратура, 1990.
64. *Дубоўка, У.* Выбраныя творы : у 2 т. / У. Дубоўка. Мінск : Беларусь, 1965.
65. *Дудзюк, З.* Кола Сварога : раман-рэканструкцыя / З. Дудзюк. Мінск : Беларусь, 2006.
66. *Дукса, М.* Світаюць сосны : вершы : для мал. шк. узросту / М. Дукса. Мінск : Юнацтва, 1986.
67. *Дзяргай, С.* Выбранае : вершы / С. Дзяргай. Мінск : Беларусь, 1967.
68. *Жук, А.* Выбраныя творы : у 2 т / А. Жук. Мінск : Мастацкая літаратура, 1993—1994.
69. *Журба, Я.* Мая песня : вершы : для ст. шк. узросту / Я. Журба. Мінск : Юнацтва, 1984.
70. *Жычка, Хв.* Сонца скача па траве : вершы : для дашк. узросту / Хв. Жычка. Мінск : Юнацтва, 1989.
71. *Загорская, Н.* Мне добра з вамі : вершы і паэмы / Н. Загорская. Мінск : Мастацкая літаратура, 1989.
72. *Законнікаў, С.* Насустрач : публіцыстыка, эсэ / С. Законнікаў. Мінск : З. Колас, 2008.
73. *Звонак, А.* Сябрына : выбр. творы : вершы, паэмы, 1925—1985 / А. Звонак. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987.
74. *Зуёнак, В.* Выбраныя творы / В. Зуёнак. Мінск : Кнігазбор, 2010.
75. *Ермаловіч, М.* Выбранае / М. Ермаловіч. Мінск : Кнігазбор, 2010.
76. *Ігнаценка, Р.* Карабель вясны : эцюды аб прыродзе : для сярэд. шк. узросту / Р. Ігнаценка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.
77. *Іпатава, В.* За морам Хвалынскім : аповесці і апавяданні / В. Іпатава. Мінск : Мастацкая літаратура, 1989.
78. *Кавалёў, П.* Выбранае : аповесці, апавяданні : для сярэд. шк. узросту / П. Кавалёў. Мінск : Юнацтва, 1987.
79. *Казлоў, А.* Той, хто абганяе сны : аповесці / А. Казлоў. Мінск : Мастацкая літаратура, 2014.
80. *Казько, В.* Выбраныя творы : у 2 т. / В. Казько. Мінск : Мастацкая літаратура, 1990.
81. *Калачынскі, М.* Выбраныя творы : у 2 т. / М. Калачынскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.
82. *Капыловіч, І.* Імянны гадзіннік : апавяданні, аповесці : для сярэд. і ст. шк. узросту / І. Капыловіч. Мінск : Юнацтва, 1991.
83. *Карамазаў, В.* З вясною ў адным вагоне : аповесці, эсэ, дзённік : для сярэд. і ст. шк. узросту / В. Карамазаў. Мінск : Юнацтва, 2002.
84. *Караткевіч, У.* Збор твораў : у 8 т. / У. Караткевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987—1991.
85. *Катерли, Н.* Рукою мастера : повесть и рассказы / Н. Катерли. СПб. : Изд-во журн. «Звезда», 2001.
86. *Качаткова, П.* Матылі : навелы / П. Качаткова. Мінск : Кнігазбор, 2012. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 29).

87. *Каўрус, А. А.* Стылістыка беларускай мовы / А. А. Каўрус. Мінск : Народная асвета, 1992.

88. *Кірэенка, К.* Збор твораў : у 3 т. / К. Кірэенка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1986—1988.

89. *Кісялёў, У. М.* Наднёманскімі пуцявінамі / У. М. Кісялёў. Мінск : В. П. Ільін, 2009.

90. *Клышка, А.* Вярэнька загадак : адкажы, чаму загадкі маюць гэткія адгадкі : для дашк. узросту / А. Клышка. Мінск : Юнацтва, 1982.

91. *Клышка, А.* Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга : для мал. і сярэд. шк. узросту / А. Клышка. Мінск : Юнацтва, 1983.

92. *Колас, Я.* Збор твораў : у 20 т. / Я. Колас. Мінск : Беларус. навука, 2007—2012. Т. 16 : Публіцыстыка, 1906—1950 / рэд. Т. С. Голуб, М. І. Мушынскі. 2011.

93. *Крапіва, К.* Збор твораў : у 5 т. / К. Крапіва. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974—1976.

94. *Краўчанка, У.* Таямніца вугла альфа : выбранае : для сярэд. шк. узросту / У. Краўчанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1973.

95. *Кулакоўскі, А.* Выбраныя творы : у 2 т. / А. Кулакоўскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1984.

96. *Куляшоў, А.* Збор твораў : у 5 т. / А. Куляшоў. Мінск : Мастацкая літаратура, 1974—1975.

97. *Купала, Я.* Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. Мінск : Мастацкая літаратура, 1995—2003. Т. 8 : Артыкулы, нататкі, выступленні, калектыўныя творы / рэд. : М. І. Мушынскі, В. У. Скалабан. 2002.

98. *Купалова, А. Ю.* Реализация деятельностного подхода к изучению пунктуации / А. Ю. Купалова // Рус. яз. в шк. 1999. № 5.

99. *Куртаніч, В.* Начное сонца : вершы / В. Куртаніч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1994.

100. *Лехановіч, Л.* Валанцёр свабоды : аповесць і апавяданні / Л. Леваноўіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1983.

101. *Левановіч, Л.* Хлеб і мужнасць : нарысы / Л. Левановіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987.

102. *Лепешаў, І. Я.* Культура маўлення : дапам. па курсу «Стылістыка і культура мовы» для студэнтаў спецыяльнасці 1-21 05 01 Беларус. філалогія / І. Я. Лепешаў. Гродна : Гродзен. дзярж. ун-т, 2007.

103. *Ліпскі, У.* Усе мы — радня : аповесць, апавяданні / У. Ліпскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 2010.

104. *Лісіцкі, А.* Вершы / А. Лісіцкі // Полымя. 2008. № 6.

105. *Лойка, А. А.* Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае : раман-эсэ : для сярэд. і ст. шк. узросту / А. А. Лойка. Мінск : Мастацкая літаратура, 2009.

106. *Лось, Е.* Выбраныя творы : у 2 т. / Е. Лось. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979.

107. *Лужанін, М.* Збор твораў : у 3 т. / М. Лужанін. Мінск : Беларусь, 1968—1969.

108. *Лынькоў, М.* Выбраныя творы / М. Лынькоў. Мінск : Беларус. навука, 2013.

109. *Ляпёшкін, У.* Званкі-званочкі : для дзяцей мал. шк. узросту / У. Ляпёшкін. Мінск : Беларусь, 1972.

110. *Макаёнак, А.* Збор твораў : у 5 т. / А. Макаёнак. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987—1990.

111. *Макаль, П.* Твар і душа : кн. паэзіі / П. Макаль. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1995.

112. *Мальдзіс, А. І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя : нарысы быту і звычаяў / А. І. Мальдзіс. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.

113. *Маляўка, М.* Коласаў абярэг : дзецям пра Я. Коласа / М. Маляўка. Мінск : Мастацкая літаратура, 2011.

114. *Мароз, У.* За брамай забытых мелодый : эсэ, вершы, мініяцюры / У. Мароз. Мінск : Мастацкая літаратура, 2004.

115. *Маўр, Я.* Збор твораў : у 4 т. / Я. Маўр. Мінск : Мастацкая літаратура, 1975—1976.

116. *Машара, М.* Вершы / М. Машара. Мінск : Беларусь, 1971.

117. *Мележ, І.* Збор твораў : у 10 т. / І. Мележ. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979—1985.

118. *Мікуліч, Б.* Аповесці / Б. Мікуліч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1985.

119. *Місько, П.* Здрада [Электронны рэсурс] / П. Місько // Жизнь, где полно дождливых дней. Рэжым доступу : http://nightrainisad. beon. ru/0-276-zdrada-metro-padzemny-perahod-kalja-padsobk-neichy-kot-ne. zhtml. Дата доступу : 10. 09. 2008.

120. *Мітрапаліт Філарэт.* Мітрапаліт Філарэт заахвочвае святароў прапаведаваць па-беларуску [Электронны рэсурс] // Партал Царква. Рэжым доступу : http://churchby. info/bel/news/2009/09/16-2/. Дата доступу : 15. 09. 2009.

121. *Міхневіч, А.* Выбраныя працы / А. Міхневіч. Мінск : Права і эканоміка, 2006.

122. *Міцкевіч, А.* Выбраныя творы / А. Міцкевіч; пер. з пол. Мінск : Беларус. кнігазбор, 2003.

123. *Мятліцкі, М.* Цяпло буслінага крыла : палескія вершы / М. Мятліцкі. Мінск : Літаратура і мастацтва, 2010.

124. *Наварыч, А.* Ноч пацалункаў незалежнасці : апавяданні / А. Наварыч. Мінск : Часоп. «Маладосць», 1989.

125. *Никитина, Е. И.* Русская речь : Развитие речи. 8 кл. : учеб. для общеобразоват. учреждений / Е. И. Никитина. 6-е изд., стереотип. М. : Дрофа, 2001.

126. *Навуменка, І.* Збор твораў : у 6 т. / І. Навуменка. Мінск : Беларусь, 1969—1971.

127. *Новікава, А.* Натхнёны водарам Радзімы / А. Новікава // Пераходны ўзрост.

128. *Новікаў, І.* Параненая памяць : аповесць, апавяданні : для ст. шк. узросту / І. Новікаў. Мінск : Юнацтва, 1990.

